# АНАТОЛЬ ДЗЯЛЕНДЗІК

# П'ЕСЫ

ВЫКЛІК БАГАМ

ГРЭШНАЯ ЛЮБОЎ

НАЧНОЕ ДЗЯЖУРСТВА

АПЕРАЦЫЯ „МНАГАЖЭНЕЦ"

АМАЗОНКІ

ГІПАПАТАМ

Мінск «Мастацкая літаратура» 1985

Дзялендзік А.

Д 43 П'есы.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 344 с., іл.

У пер.: 1 р. 60 к.

Анатоль Дзялендзік ужо даўно і плённа працуе ў жанры драматургіі. Яго лепшыя п'есы шырока ставіліся на шматлікіх сцэнах краіны. Сабраныя ў гэтай кнізе, яны прапануюцца цяпер увазе чытачоў.

Д $\frac{4702120200-048}{М\ 302(05)-85}$

ББК 84Бел7
Бел2






Драма ў трох дзеях

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Інга, Святлана, Галіна — студэнткі медыцынскага інстытута.
Аскольд — вучоны, 32 гады.
Вадзім — інжынер-канструктар, 28 гадоў.
Максім — эканаміст, 26 гадоў.
Лапкіна — урач, 25 гадоў.
Медсястра — 35 гадоў.
Капарыха — пажылая жанчына.
Студэнткі, буравікі.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## Карціна першая

Вечар. Вестыбюль клінікі. На адных дзвярах таблічка: «Эксперыментальная лабараторыя». З'яўляецца група дзяўчат-студэнтак. Яны здымаюць халаты, прыводзяць сябе ў парадак, размаўляюць.

— Яшчэ паўгадзіны — і я не вытрымала б.

— Няўжо ён будзе пытацца пра генетычныя рэкамбінацыі?

— Радыёміметычныя рэчывы — цёмны лес.

— Гэта ж зусім проста. Алкіруючыя агенты ўздзейнічаюць на біялагічныя аб'екты і індуцыруюць развіццё пашкоджанняў, аналагічных пашкоджанням, што ўзнікаюць пры ўздзеянні іянізуючай радыяцыі...

З дзвярэй з таблічкаю «Эксперыментальная лабараторыя» выходзіць Аскольд, малады мужчына ў белым халаце, стомлены, няголены. Дзяўчаты змаўкаюць. Ён вітаецца і ідзе далей.

— ...З прычыны чаго гэтыя рэчывы атрымалі назву «радыёміметычных».

— Зойка, дай трошкі яшчэ пажыць!

— Дзяўчаты, перад філармоніяй паспею паабедаць?

— Хто пазычыць рубель?

— Перад стыпендыяй?!

— Рубель? А што гэта такое?

З'яўляецца Галіна.

Галіна *(абурана, адной з дзяўчат)*. Ты апранула мой халат. *(Падыходзіць да дзвярэй, адкуль выйшаў Аскольд. Стаўшы спіною да дзяўчат, піша запіску, адносіць яе ў лабараторыю і вяртаецца.)*

— Я ўчора першы раз скокнула з парашутам.

— Ну і, мусіць, аж вішчала.

— Хто ў чытальню? Мне там пакінулі новыя часопісы.

— Інтэлектуалка!

— Галка, ідзеш у спортзалу?

Г а л і н а. Пачакаю Інгу і Свету.

— А, неразлучная тройца.

— Быццё вызначае свядомасць — п'юць з аднаго чайніка.

Г а л і н а. Добра, давай-давай...

Вясёлай чародкаю д з я ў ч а т ы знікаюць з вестыбюля. Галіна папраўляе валасы. З'яўляецца С в я т л а н а, кволая, стомленая. Падыходзіць да гардэроба, сядае на лаўку, пачынае развязваць тасёмкі халата.

Ну і дзяжурства ў мяне было! То шок, то колапс. А потым пункцыю давялося рабіць. Не ідзе іголка — хоць лопні.

С в я т л а н а. Ведаеш, Галка, відаць, я ніколі не змагу прывыкнуць да пакут людзей. Амаль фізічна адчуваю той жа боль, што і яны.

Г а л і н а. Ну і дарэмна. Хочаш есці?

Святлана круціць галавой.

Любая, калі б урач паміраў з кожным сваім хворым, медыкаў не засталося б.

С в я т л а н а. Такі слаўны хлапчук, разумныя вочы... Тэмпература трыццаць дзевяць і шэсць, ведаю, што яму балюча, але ніводнага стогну. Затое маці... дапякла ўсім.

Г а л і н а *(закурвае)*. О, ты яшчэ не ведаеш, што ўрачы нажываюць інфаркт толькі ад сваякоў сваіх пацыентаў. У нас у аддзяленні самы цяжкі дзень — чацвер, дзень спатканняў.

С в я т л а н а. Чаму ты выбрала псіхіятрыю?

Г а л і н а. У мяне шмат сяброў, якія маюць патрэбу ў лячэнні.

С в я т л а н а. Напэўна, псіхіятры ўсіх лічаць ненармальнымі.

Г а л і н а. Усіх не ўсіх, а, вер майму слову, калі-небудзь будуць лячыць тых, хто сёння яшчэ ўяўляе сябе здаровым: паклёпнікаў, скандалістаў. Ну, а людзей з дрэнным настроем — у першую чаргу.

С в я т л а н а. Гала, а чаму ты разышлася з мужам?

Г а л і н а *(уважліва глядзіць).* Навошта гэта табе?

С в я т л а н а. Ён жа цябе кахаў. І ты яго. *(Падыходзіць да акна.)*

Г а л і н а *(пасля паўзы, горка).* І гэтага дастаткова?

С в я т л а н а *(са здзіўленнем).* А хіба не?

Г а л і н а *(абыякава).* Светка, не забівай сабе галаву ўсялякім глупствам.

С в я т л а н а. Я проста хачу разабрацца, чаму людзі разыходзяцца. Калі б я каго-небудзь пакахала...

Г а л і н а. Няўжо ў твае гады я была такая ж? І як цябе татуля пусціў адну з дому — незразумела.

С в я т л а н а. А ён не пускаў. Хацеў, каб я паступала ў яго інстытут. Я адмовілася. Прыехала ў Мінск і паступіла сама. Паглядзі ў акно. Учора ўвечары, калі мы выходзілі з клінікі, ён стаяў на тым жа месцы.

Г а л і н а *(падыходзіць).* Відаць, дружыннік. Ну і што?

С в я т л а н а. Ён глядзеў у наш бок, а потым ішоў назіркам.

Г а л і н а *(рашуча).* Светка, каб я так жыла! Гэта сваяк аднаго з нашых хворых. Вось убачыш, пазнаёміцца, а потым *(з нудой у голасе):* «А як вы яго лечыце, а чаму даяце парашкі, калі нашага суседа лячылі таблеткамі...»

С в я т л а н а. Чаму табе так весела?

Г а л і н а *(уздыхае, глядзіць на дзверы, у якія намервалася ўвайсці).* Чаму так доўга няма Інгі?

С в я т л а н а. Аперацыйны дзень.

Г а л і н а. Ты ўпэўнена, што яна на аперацыі?

С в я т л а н а. Калі я праходзіла міма, яна была там.

Г а л і н а *(старaючыся не паказаць цікаўнасці).* Як ты думаеш — што ў іх з Аскольдам?

С в я т л а н а. Адкуль я ведаю? Па-мойму, нічога.

Г а л і н а. Праўда?

С в я т л а н а *(пасля паўзы).* Няўжо ён можа падабацца? *(Паціскае плячыма.)* Сухар. Падвопытная малпа для яго даражэй за любую жанчыну.

Г а л і н а. Ах, Светка! Што ты разумееш у мужчынах!..

Вяртаецца А с к о л ь д. Убачыўшы Галіну, на момант спыняецца, вітаецца з ёю кіўком галавы і ідзе да сябе.

С в я т л а н а. Ты сапраўды...

Г а л і н а. Сапраўды. І гора таму, хто стане на маёй дарозе.

С в я т л а н а *(пасля паўзы).* Іншы раз мне здаецца, што ты можаш забіць чалавека.

Г а л і н а. Калі ён гэтага заслугоўвае.

С в я т л а н а *(складвае халат).* Халат больш ірвецца ад мыцця.

Г а л і н а *(смяецца).* Нам з табою дзяліць няма чаго.

С в я т л а н а. Сёння разгляджу яго лепш. Пойдзем разам у басейн?

Г а л і н а *(глядзіць на гадзіннік).* Пакуль што ў мяне ёсць час.

З'яўляецца І н г а, стройная, прыгожая. На ёй белы халат. У руцэ трымае сумку і шапачку.

Г а л і н а. Нарэшце...

І н г а. А мяне не чакайце. Я да Аскольда.

Г а л і н а. Што, што?

С в я т л а н а. Галка, хадзем, хадзем...

С в я т л а н а бярэ Г а л і н у за руку, і абедзве выходзяць.

## Карціна другая

Эксперыментальная лабараторыя. Сучасная апаратура. А с к о л ь д адыходзіць ад прыбораў, уключае радыё. Гучыць музыка — першая частка Пятай сімфоніі Бетховена.

А с к о л ь д. Чалавек і чалавецтва... Дылема. Электронная машына рашыла б імгненна...

З'яўляецца І н г а.

І н г а. Забылася, што тут рэпрадуктар. Хацела ў ардынатарскай паслухаць. *(Цёпла.)* Бон суар, месье... Так, здаецца?

А с к о л ь д *(падыходзіць да мікраскопа, сядае).* Бон суар...

І н г а. Чалавек перамагае лёс... Шэф гаворыць, што такую музыку мог напісаць або геній або вар'ят.

А с к о л ь д. Гэта амаль тое ж самае. Шкада толькі, што легенда створана, каб суцешыць.

І н г а *(весела).* Калі так гаворыць вялікі вучоны, атрымліваецца камічна. Аскольд, ну што?

А с к о л ь д. Ты пра што?

Інга. Які аналіз?

Аскольд. Аналіз?.. А, твой... Вядома, адмоўны. З вас, сіньярына, шэсць долараў.

Інга *(смяецца)*. Ого! На Захадзе ты быў бы мільянерам!.. Ты не памыліўся?

Аскольд. Не, не памыліўся. *(Дастае з кішэні бібліяграфічныя карткі.)* Памажы раскласці карткі. Санітарка пераблытала.

Інга *(бярэ палавіну картачак, пачынае няспешна раскладваць)*. Уяўляеш, стаю за аперацыйным сталом, і раптам у вачах усё паплыло... Калі б не падтрымалі, павалілася б.

Аскольд *(бесклапотна)*. Яшчэ не прывыкла.

Інга *(дакорліва)*. Я аперырую з чацвёртага курса... Колькі драматызму ў музыцы...

Аскольд *(падыходзіць, выключае радыё)*. Тыператамілася.

Інга. Навошта выключыў?

Аскольд. Галава трашчыць.

Інга *(праводзіць рукой па яго шчацэ)*. Зноў начаваў у лабараторыі?

Аскольд. Хто-небудзь павінен наглядаць за апаратурай.

Інга *(уздыхае)*. Абедаў?

Аскольд. На рагу прадавалі піражкі з павідлам.

Інга. Аскольд, колькі можна так пражыць?

Аскольд. Вашы ўжо разышліся?

Інга. Напэўна. Аскольд, ты верыш у сны?

Аскольд. Дзіўна, студэнтка шостага курса... Без пяці мінут урач...

Інга. Са снамі не ўсё ясна. Шэсць гадоў вывучаеш тэорыю разлітага тармажэння, а потым чытаеш у газеце, што ёсць чалавек, які дваццаць год абыходзіўся без сну... Значыць, не верыш?

Аскольд. Я прынцыпова супраць псіхааналізу.

Інга. Увечары я доўга чытала, а потым мне прысніўся дзіўны сон. Нібыта я ішла над глыбокай прорвай і раптам сарвалася. Жах! Лячу ўніз і вось-вось разаб'юся аб каменне, але тут падхапілі мяне дужыя рукі.... У цябе ёсць скураная куртка?

Аскольд. Пры чым тут куртка?

Інга. Ён быў у куртцы.

Аскольд. Трэба спаць з адчыненай форткай. А вячэра павінна быць лёгкай.

Інга. Божа, які рацыяналізм...

Аскольд. З кім ты аперыравала?

Інга. З шэфам. Як ён працуе! Бог! *(Паказвае картку.)* Гэту куды?

Аскольд. Сюды.

Інга. Ведаеш, ён мяне пахваліў.

Аскольд. У вочы?

Інга. Яшчэ чаго захацеў! Стаю за дзвярыма, а ён гаворыць: «Малайчына дзеўка. Вы пра яе яшчэ пачуеце».

Аскольд. Нішто сабе.

Інга. Заўтра паляціш?

Аскольд. Ага, заўтра.

Інга *(задуменна)*. Белград... Адрыятыка... А я ж ні разу не бачыла мора... Дзіўна, людзі з'яўляюцца і знікаюць, і мора... *(Весела.)* Прывязеш мне вялікага краба?

Аскольд. Думаеш, будзе час на забавы? Памыляешся.

Інга. Аскольд, там збяруцца вучоныя з усяго свету?

Аскольд. Бадай што.

Інга. Вось гэта здорава... *(Урачыста.)* Лэдзі энд джэнтльмены, панове! Распрацаваны намі метад ранняга выяўлення... *(Спыняецца, потым пацягваецца.)* А ведаеш, я таксама стамілася. Схадзіць паплаваць, ці што?

Аскольд. Табе трэба часцей бываць на свежым паветры, спажываць вітаміны...

Інга *(весела)*. Дыялог пенсіянераў. *(Перадражніваючы старых, прыкладае руку да паясніцы.)* Скажыце, а вы крапіву прыкладалі?.. *(Паказвае картку.)* Гэта па-італьянску?

Аскольд. Па-іспанску. Напружаная праца патрабуе актыўнага адпачынку.

Інга *(жвава)*. Ведаеш, што мы думаем зрабіць?

Аскольд *(з дакорам)*. Новая авантура... Калі ты перастанеш быць дзіцем?

Інга. Дамовіліся з дзяўчатамі — толькі нікому ні слова,— паедзем уночы электрычкай на дачу дацэнта Мельнікава — ён у Светы і Галкі стыпендыю зняў — і выкрадзем у яго сабаку...

Аскольд *(заклапочана)*. Інга, у яго вялізны ваўкадаў!

Інга. Утрох не справімся з адным ваўкадавам?

Аскольд. Але ж ён можа пакусаць!..

І н г а. Яшчэ невядома — хто каго... Дык вось, прывязём у горад і прададзім яму ж на кафедру.

А с к о л ь д *(смяецца)*. Мельнікаў гэтага не перажыве.

І н г а *(весела)*. Так што зусім магчыма, пакуль ты будзеш падарожнічаць, мне давядзецца адседжваць пятнаццаць сутак. *(Сур'ёзна.)* Аскольд, табе трэба развеяцца. Прыедзеш назад, я пазнаёмлю цябе з нашымі. Ёсць нішто студэнткі.

А с к о л ь д. Ведаеш, я старамодны — флірт да чагосьці абавязвае.

І н г а. Ну і што?

А с к о л ь д *(пасля паўзы)*. Каб чаго-небудзь дасягнуць у навуцы, трэба васемнаццаць, дваццаць гадзін. А то ўсё жыццё будзеш друкаваць артыкульчыкі «Яшчэ раз да пытання аб...», «Некаторыя дадзеныя пра...». Я доўга думаў і прыйшоў да вываду — няхай мяне лічаць ідыётам,— мне не трэба заводзіць сям'ю.

І н г а. Што ты сказаў?

А с к о л ь д. Жанчыны патрабуюць увагі. А я дні і ночы павінен праводзіць у лабараторыі.

І н г а *(усміхаючыся)*. І гэта ўсё?

А с к о л ь д. Мала?

І н г а. Пра такіх, як ты, псіхіятры гавораць: «Гэта наш таварыш».

А с к о л ь д. Буду прыходзіць дадому позна, раніцай зноў на працу. Размаўляючы з жонкай ці забаўляючы дзіця, буду думаць аб марскіх свінках, храмаграмах, хворых... Гэта не так смешна, як здаецца. Задаволіць каго-небудзь такі лёс?

І н г а. Божа, як дрэнна мужчыны думаюць пра жанчын. *(Нервова цярэбіць картку.)*

А с к о л ь д. Мы — урачы.

І н г а. Я недзе чытала: юная актрыса выйшла замуж за шасцідзесяцігадовага Рэмарка. Калі гэта праўда, яе можна зразумець. *(Сярод картак знаходзіць запіску.)* «Чакаю цябе ў дзесяць за горадам». Ого! Без подпісу. Але почырк знаёмы.

А с к о л ь д. Дай сюды. *(Забірае.)* Ты ведаеш, хто гэта?

І н г а. Не.

А с к о л ь д. Адна настойлівая асоба.

І н г а. Мабыць, ёсць падставы.

А с к о л ь д *(уздыхнуў)*. Майскае свята. Даволі банальна: складчына, кампанія на дачы... Дорага мне

абышлася тая ноч — у лабараторыі перагарэў трансфарматар.

І н г а *(пасля паўзы).* Ідзі, яна чакае.

А с к о л ь д *(збірае карткі).* Прызначыўшы спатканне, яна зрабіла адну памылку. Ехаць туды сорак мінут... *(Рве запіску.)*

І н г а. Ну і мужчыны цяпер!

А с к о л ь д *(пасля паўзы).* Толькі нікому не расказвай. Мяне захапіла адна ідэя. Каб яна спраўдзілася, трэба патраціць два-тры гады. А то і ўсё жыццё. І не толькі маё. Але калі пашанцуе, чалавецтва ўздыхне з палёгкай.

І н г а. Калі ж няўдача?

А с к о л ь д. Даб'юцца другія.

І н г а. Аскольд, тое, што ты задумаў... І калі лічыш, што нехта можа перашкодзіць... Толькі фанатыкі і дабіваюцца сапраўднага поспеху.

А с к о л ь д *(пасля паўзы, пазіраючы ўбок).* Інга, калі б мне можна было ўзяць жонку...

І н г а *(таксама не глядзіць на Аскольда, гэта хутчэй думкі ўголас).* Я ведаю, Аскольд...

А с к о л ь д *(глянуўшы на гадзіннік).* Спачатку размінка, потым трошкі папрацую.

І н г а *(весела).* Па сістэме ёгаў?

А с к о л ь д. Мудрыя людзі, ёгі.

І н г а. Аскольд, заўтра можна цябе праводзіць?

А с к о л ь д. Ну вядома.

І н г а. У нас шмат агульнага. Ты адмаўляешся ад кахання па сваёй волі. А я... А я не магу кахаць. Ну што ж, бывай.

А с к о л ь д. Усяго добрага.

І н г а бярэ чамаданчык і выходзіць.

*(Задумаўся.)* Усяго добрага... *(З горыччу ківае галавой. Глядзіць на тэлефон і, пераканаўшыся, што Інга пайшла, набірае нумар.)* Вера Сяргееўна? Пакідаю ўключанымі трэці, сёмы і дваццаць чацвёрты... Так, кантрольная група... Навошта выклікалі ў міністэрства?.. Прапанавалі... Не, не здагадаецеся. Прапанавалі ўзначаліць навукова-даследчы інстытут... У Зялёным Гаі. Не спяшайцеся віншаваць. Я адмовіўся... Разумееце, у мяне толькі двое штаноў. І калі прашмарую адны ў крэсле дырэктара... Але я згадзіўся ўзяць лабараторыю... Вельмі ж добрае абсталяванне... Ну навошта так? Вы — мая правая рука... Вазьму яшчэ Антона,

Дзіму, Мацвея Барысавіча... І Фамічова, вядома, калі ён згодзіцца... *(Праводзіць рукой па твары, глуха.)* Вера Сяргееўна... Я толькі што гаварыў з Інгай... Не, ні аб чым не здагадваецца... Пайшла ў басейн...

## Карціна трэцяя

Вечар. Басейн. Аблакаціўшыся на парапет, стаіць Вадзім. Гэта зграбны, упэўнены ў сабе малады чалавек. Ён настройвае радыёпрыёмнік. Чуецца жыццярадасная музыка. Побач ходзіць Максім, нервова папраўляе акуляры.

Максім. Яны! Пайшлі ў раздзявалку!

Вадзім *(не рэагуе)*. Якое неба! Вось бы сюды Сар'яна.

Максім. Ты павінен мяне пазнаёміць.

Вадзім *(рэгулюючы гучнасць)*. Калі пайду на пенсію, падаруеш гэтую штучку.

Максім *(сам не свой)*. Музыка, горад!.. Мы на яго глядзім кожны дзень.

Вадзім *(засмучана)*. Заўсёды знойдзецца тып, які сапсуе настрой.

Максім. А калі гэта каханне?

Вадзім. Ніколі не гавары слоў, сэнсу якіх не разумееш.

Максім *(паглядае ўбок)*. Пастарайся пазнаёміцца.

Вадзім. І гэта кажа галоўны кансультант міністэрства. А прызнавацца будзеш сам?

Максім *(падыходзіць бліжэй)*. Ты цынік з галавы да пятак... Чалавек павінен быць прыгожы...

Вадзім. Перадыхні.

Максім *(махнуўшы рукой, адыходзіць)*. Цябе магіла выправіць.

Вадзім. Альбо жонка. У чым ты бачыш сэнс жыцця?

Максім. У тым, каб не задаваць недарэчных пытанняў.

Вадзім *(пасля паўзы, прыклаў да вуха прыёмнік)*. Ты хоць раз у месяц чытаеш газеты?

Максім. Не арыгінальна.

Вадзім. Уяві: заўтра — усё дагары нагамі. Што ты ўспомніш?

Максім. А калі гэтага не здарыцца?

Вадзім *(настройвае прыёмнік)*. Па Фрэйду, чала-

век — раб інстынктаў. Імкнецца да асалоды. Як бы мы ні абураліся, але, на жаль, ён кажа праўду. Жывём толькі раз.

Максім *(задуменна)*. Цікава, як яе імя?

Вадзім *(насмешліва)*. І гэтага не ведаеш? Чакай! Добра. Існуе сто спосабаў знаёмства з дзяўчатамі. Я карыстаўся сто адным. Напрыклад, з Таняй...

Максім. Да д'ябла Таню... Ідуць.

Вадзім *(выключае прыёмнік, перадае Максіму, той хавае ў кішэню)*. Назірай і вучыся.

Максім. Зняць акуляры? Як я збоку?

Вадзім *(махнуў рукой)*. Не хачу нажываць ворагаў.

Максім. Толькі не старайся выстаўляць напаказ свае заганы.

Вадзім. А наш дворнік кажа: «Мне напляваць».

Праходзяць Святлана і Галіна ў купальных касцюмах, на плечы накінуты халаты.

Вадзім. Скажыце, дзе тут рамантуюць абутак?

Галіна. Вас бабуля вучыла знаёміцца?

Дзяўчаты ідуць далей. Максім насмешліва глядзіць на Вадзіма. Вадзім хапаецца за сэрца, стогне, адварочваецца.

Святлана *(клапатліва)*. Што з вамі?

Вадзім не адказвае, асцярожна садзіцца на лаўку. Дзяўчаты паспешна падыходзяць да яго, спрабуюць расшпіліць каўнер, правераць пульс. Вадзім адводзіць іх рукі.

Вадзім. Што вам ад мяне трэба?

Галіна. Мы студэнткі медыцынскага.

Вадзім. Ёсць у вас які-небудзь дакумент?

Галіна. Вось яшчэ бюракрат!.. *(Святлане.)* Пакажы студэнцкі.

Вадзім *(разглядвае пададзены Святланай білет, чытае)*. «Святлана... Міхайлаўна... Шосты курс...» *(Максіму.)* Мне лепш. Праўда?

Максім *(злосна)*. На жаль.

Вадзім *(падымаючыся, дзяўчатам)*. Як кажуць на ўроку англійскай мовы, май фрэнд Максім, май нэйм із Вадзім.

Доўгая паўза.

Галіна. І часта вы так забаўляецеся?

Вадзім. Гэта не забава — суровая неабходнасць.

Святлана. Нішто сабе жарт.

Галіна. Гадзіну назад мы бачылі, як памірае чалавек.

Вадзім. Дакладна не падлічваў, але кажуць: на зямным шары тры мільярды людзей. І кожную секунду нехта памірае і нехта нараджаецца. На смерць трэба глядзець па-філасофску.

Галіна. А вы часам не з самадзейнасці?

Вадзім. Як на споведзі: ён — эканаміст, я — інжынер.

Максім *(паказвае на Вадзіма)*. А таксама майстар спорту па плаванню.

Вадзім *(нездаволена)*. Цяжэй за ўсё для паэта — трымаць язык за зубамі.

Галіна. Гэты нервовы малады чалавек піша вершы?

Святлана *(з цікавасцю)*. Паэт?

«Я іду і смяюся
ад шалёнае звонкае
радасці,
што хаджу па зямлі
і раптоўна
навек упаду,
не дайшоўшы да слабасці,
подласці,
дурасці,
старасці,
бо я з песняй хаджу па зямлі
у людзей на віду!» [1]

О, калі б я ўмела пісаць вершы... *(Максіму.)* Друкаваліся?

Максім робіць адмоўны жэст, потым дастае сшытак.

Вадзім. Ён піша лепш, чым патрабуе рэдактар.

Святлана *(бярэ сшытак)*. Даўно пішаце?

Вадзім. Яшчэ ў школе пачаў. Яго маці спачатку напалохалася, павяла да доктара, той выпісаў горкія пілюлі і параіў абліванцца халоднай вадой. Не памагло.

Галіна *(Вадзіму)*. Вы яго адвакат?

Вадзім. Скажыце лепш, даверaны ў справах. *(Заўважыў, што Галіна часта пазірае ўбок)*. І ён прыйдзе сюды?

---

[1] Верш І. Шклярэўскага.

С в я т л а н а. Вось і Інга.

Падыходзіць І н г а.

Так позна?

І н г а. Затрымалася ў аперацыйнай.

Г а л і н а. Няўжо былі яшчэ аперацыі?

І н г а *(задзірліва)*. Былі. А што?

Г а л і н а. Адзін шызафрэнік мне сказаў: «Калі ласка, не лічыце мяне вар'ятам». Ну, мне пара.

С в я т л а н а. Пойдзем разам?

Г а л і н а. Не, сёння мне будзе лепш адной.

І н г а. Гала...

Паўза.

Г а л і н а. Дзеці будуць заікацца. Светка, ты ў мяне пытала, чаму я разышлася з мужам... Знайшлася нахабніца — сілком хацела адабраць. І каб не быць пакінутай...

С в я т л а н а. Гала...

Г а л і н а. Хай маладыя людзі вучацца.

В а д з і м. Адчуваеш сябе так, нібы перад табой выпрабоўваюць новую зброю.

Г а л і н а. І толькі потым падумала — была дурніца. *(Пайшла.)*

В а д з і м *(Інзе)*. Дзе я мог вас бачыць?

І н г а *(глядзіць услед Галіне)*. Наўрад. Я там не бываю.

С в я т л а н а. Інга, яны могуць навучыць плаваць.

М а к с і м. Цікавае імя. А па-бацьку?

І н г а. Яўхімаўна.

В а д з і м. Камбінацыя нарвежскага з белавежскім.

І н г а. А вы, хлопчыкі, у які клас ходзіце?

В а д з і м. Адсталыя. У пяты.

С в я т л а н а. Інга, Максім піша вершы.

І н г а. Сапраўдныя вершы ўдаюцца толькі жанчынам.

В а д з і м. Шчырая праўда. Лермантаў, Блок, Максім Зюзік...

М а к с і м. Зю-зен-чык!

І н г а *(Вадзіму)*. А вы што пішаце — аповесць, раман?

В а д з і м *(гледзячы ёй у вочы)*. Я не пішу раманаў. Я іх заводжу.

І н г а. Ці не будзе дажджу? Пара дадому.

В а д з і м. А вы не бойцеся. Не думайце, што ў мяне такі дрэнны густ...

Святлана разгортвае сшытак, праглядае. Да яе падыходзіць Максім. Чытаюць разам.

**І н г а.** Дзякуй за шчырасць. А то мне часцей гавораць кампліменты.

**В а д з і м.** Натуральна. Вашы вочы заклікаюць да кахання.

**І н г а** *(злосна)*. Каханне? У век нейрахірургіі і малекулярнай біялогіі? Мой шэф пранікае скальпелем у сэрца, але кажа, што ні разу не патрапіў там на каханне.

**В а д з і м.** Вы хочаце сябе ў гэтым пераканаць?

**І н г а** *(пасля паўзы)*. Няўжо нельга прысвяціць сабе ідэі і адмовіцца ад кахання? Я ведаю такога чалавека.

**В а д з і м.** У мірны час? Глупства. Ад якога ханжы вы гэта чулі?

**І н г а.** У мірны час чалавецтва вядзе барацьбу з хваробамі, голадам, цемрашальствам.

**В а д з і м.** Не, вы нас разыгрываеце. Дарэчы, чалавек, які адмаўляе каханне, не мае права на існаванне. Паглядзіце на прыроду — пустацветы гінуць.

**І н г а** *(няўпэўнена)*. Але ж ёсць прыклады, калі людзі не ведалі кахання, а між тым іх імёны... *(Углядаецца ў Вадзіма.)* Дзіўна... Скажыце, у вас ёсць скураная куртка?

**В а д з і м.** Хочаце купіць? Якая ваша цана?

**І н г а.** Я сур'ёзна.

**М а к с і м.** Паглядзіце ўчарашнюю фізкультурную газету. Там яго здымак.

**І н г а.** Як проста...

**В а д з і м.** Я мог бы і зараз паказаць вам куртку. Яна ў мяне дома... Тут недалёка.

**І н г а** *(глядзіць на гадзіннік)*. Дзякуй за кампанію. Цікава было даведацца, што грамадства яшчэ далёкае ад дасканаласці. *(Выходзіць.)*

**В а д з і м** *(задуменна)*. Адкуль ён узяўся, не знаю, той сум, што мяне агарнуў...

**С в я т л а н а** *(адыходзячы, падымае руку)*. Да пабачэння, хлопчыкі.

**М а к с і м** *(Святлане, няўпэўнена)*. Калі першы ўрок?

**С в я т л а н а.** Паслязаўтра. На возеры ў пяць.

Святлана выходзіць.

В а д з і м. «Яшчэ ніколі дзядзька зроду
Не бачыў гэтулькі народу...»[1]

М а к с і м *(гледзячы ўслед дзяўчатам, Вадзіму).* За ёю гатоў пайсці на край свету.

В а д з і м. На край свету... Гэта вельмі далёка.

М а к с і м. Як табе Інга?

В а д з і м *(пасля паўзы).* У мяне дома бутэлечка «Бакардзі»... Хадзем?

Уздыхнуўшы, М а к с і м ідзе за В а д з і м а м.

## Карціна чацвёртая

Мінула некалькі дзён. Бераг возера. За кустамі водная роўнядзь. Пярэдні план. На перакуленай лодцы сядзіць М а к с і м і варожыць на рамонку. Глядзіць на гадзіннік, устрапянуўся. Раптам устае, робіць некалькі крокаў назад. Падыходзіць І н г а, у руках у яе лілеі і кніга.

І н г а. Света здае залік. Я хацела папярэдзіць. Як яна плавае?

М а к с і м. Стараецца. Але ў плаванні галоўнае — плывучасць. *(Захапіўшыся.)* Вада — гэта накшталт капрызнай дзяўчыны, з якой трэба ўмець абыходзіцца...

І н г а *(разумеючы, ківае галавой).* Калі вы хоць раз пакінеце іх разам, я здыму з вас галаву.

М а к с і м. Гэта вы дарэмна. Ён добры хлопец.

І н г а. У кожную эпоху ёсць свой ідэал добрага хлопца. Ваш Вадзім спазніўся гадоў на пяцьдзесят. *(Расшпільвае сукенку, здымае, кладзе на траву.)* Пойдзем паплаваем? Павучуся ў вас і я.

М а к с і м. Э... Я толькі з вады, і нешта мяне калоціць...

І н г а. Калі Вадзім яе пакрыўдзіць, будзе мець справу са мной. *(Узяўшы ручнік, пайшла.)*

Максім дастае хустачку, выцірае лоб. Раптам некага ўбачыў, махае рукой. З'яўляецца В а д з і м.

В а д з і м. Адзін? Тады хадзем. *(Парываецца ісці.)* Хлопцы знаёмяцца з прынцыпова новай схемай аўтаматычных ліній... А тут — такія дзяўчаты!

М а к с і м. Пачакай. Трэба пагаварыць.

В а д з і м *(паціснуў плячыма).* Наколькі мне вядома, «курсы па плаванню» праходзяць паспяхова, хаця настаўнік... без паплаўкоў не плавае.

---

[1] Верш Я. Коласа.

Максім. У мяне сур'ёзна.

Вадзім *(спачувальна)*. Гэта ад гарачыні. Давай лепш пакупаемся.

Максім. Бяда ў тым, што я не магу з ёю астацца сам-насам — яны заўсёды разам. Вадзім, пахадзіў бы ты каля Інгі.

Вадзім *(пасля паўзы)*. Сын мой, ты ўвагрэўся.

Максім. Няўжо ты не фліртаваў з дзяўчатамі, якія табе не падабаліся? А я ж люблю. І гэта сур'ёзна.

Вадзім. О божа! Дык жаніся. Я табе зараз каго-небудзь паклічу. *(Глядзіць па баках.)*

Максім *(адыходзячы)*. Зразумела... Арэшак гэты табе не па зубах.

Вадзім. Гледзячы ў каго якія зубы.

Максім. Галаву на адрэз! Яна цярпець цябе не можа. Гэта... Гэта пантэра.

Вадзім *(пасля роздуму)*. Што ж. Бачыць бог — я супраціўляўся. Але калі так, пайшлі ў заклад? На твой прыёмнік.

Максім. Прайграеш — аддасі альбомы імпрэсіяністаў. *(Перадае прыёмнік Вадзіму.)* Для памяці. Інга будзе праз некалькі хвілін. *(Паказвае на сукенку.)* Спужаўся?

Вадзім. Вечар заняты. Абяцаў суседу разабраць матацыкл, і яшчэ рандэву з Таняй.

Максім. Цяпер пакажы, на што ты здольны. Вось яна! *(Знікае.)*

Вадзім садзіцца на лодку, кладзе прыёмнік побач з сукенкай Інгі. Падыходзіць Інга. Нерашуча спыняецца.

Вадзім. Дзе ваш добры дзень, доктар?

Інга. Добры дзень. *(Азіраючыся.)* Тут быў Максім.

Вадзім. Пайшоў шукаць філасофскі камень. Сядайце. *(Паказвае ёй кветку.)* Хто мае кветку ў руках, той ліха не жадае.

Інга *(садзіцца на лодку)*. Мяне даўно цікавіць — чаму вашы жарты такія банальныя?

Вадзім. О, гэта доўгая гісторыя. Цяжкае дзяцінства, недахоп вітамінаў. А чаму, уласна кажучы, вы зацікавіліся мною?

Інга *(весела)*. Адкуль вы ўзялі?

Вадзім. Нехта сказаў Максіму, што хацеў бы пабачыць, як мяне ахоплівае полымя любві.

Інга. Я сказала, што ахвотна паглядзела б на вас у звычайным полымі.

Вадзім. Сур'ёзна, ненавідзіце?

Інга. Усімі фібрамі душы.

Вадзім. Важна, што ў вас ёсць да мяне моцнае пачуццё. А любіце ці ненавідзіце — не мае значэння.

Інга *(паказвае на прыёмнік)*. Ваш?

Вадзім. Пакуль што не. Інга, сустрэнемся заўтра ўвечары?

Інга *(раскрывае кнігу)*. Навошта?

Вадзім. Будзем вывучаць зоркі... па праграме міжнароднага геафізічнага года.

Інга. Няўжо спутнікі з гэтым не спраўляюцца?

Вадзім *(націскае на клавіш)*. Вы чытаеце такія тоўстыя кнігі? Пра вайну ці пра каханне?

Інга. Іншых вы не ведаеце?

Вадзім *(бярэ кнігу, перагортвае)*. Без малюнкаў? Нашто вы яе чытаеце?

Інга *(лагодна)*. Мне прыемна размаўляць з вамі.

Вадзім *(самазадаволена)*. Н-ну!

Інга. Калі слухаеш вас, здаецца, нібы прабіраешся праз дрымучы лес, дзе яшчэ не ступала нага чалавека.

Вадзім *(рэзка выключае прыёмнік)*. Калі мой сучаснік піша раман на тысячу старонак, я не хачу яго чытаць.

Інга. Вядома.

Вадзім *(ускаквае, злосна)*. Тэорыю адноснасці Эйнштэйн выклаў на адной старонцы.

Інга. Выкладзіце «Ціхі Дон» на адной старонцы.

Вадзім. Ды што з вамі гаварыць.

Інга. Хацелася б ведаць вашы прынцыпы.

Вадзім. У жыцці заўсёды ёсць месца подзвігу. Шчасце ў працы. Не май сто рублёў, а май сто сяброў. Прачытай і перадай таварышу. Прабачце, апошняе не абавязкова.

Інга. А вы злосны.

Вадзім. Танцуеце твіст?

Інга. Не выношу.

Вадзім *(жартаўлівы жэст)*. Віншую. Як рана вы пастарэлі!

Інга. А што дае вам твіст?

Вадзім. Настрой. Той самы, без якога я не магу праседзець над чарцёжнай дошкай дванаццаць гадзін. Калі трэба. А з Дэбюсі або Глюкам не праседзіш.

Інга. Калі Дэбюсі і не ўздымае настрою, дык гэта чысты ручай, які ачышчае чалавека.

**Вадзім.** Я кожны дзень плаваю ў басейне.

**Інга** *(разводзіць рукамі).* Здаюся.

**Вадзім.** Вы сапраўды не любіце твіста?

**Інга.** Нядаўна да нас прывезлі хлапчука, які ў твісце вывіхнуў нагу.

**Вадзім.** Дарагая мая, ці ведаеце вы...

**Інга** *(з агідай).* Не называйце мяне дарагой.

**Вадзім.** У эпоху касмічных хуткасцей і электронных апаратаў музыка, якую слухалі нашы продкі, залезшы на печ, мяне не задавальняе. Хочацца дынамікі. Калі чую добры джаз, кроў кіпіць, галава працуе лепш... *(Глядзіць на прыёмнік.)* Не будзем спрачацца. Проста вы блукаеце, як авечка...

**Інга.** Вас што, кормяць сырым мясам?

**Вадзім.** Той самы спосаб... Калі жанчыне хто-небудзь падабаецца...

**Інга** *(устаючы).* Вам напякло ў галаву.

**Вадзім.** Інга, можна сур'ёзна?

**Інга.** Паспрабуйце.

**Вадзім** *(водзіць пальцам па прыёмніку).* Атрымалася найвялікшае глупства. *(Паўза.)* Не ведаю, як гэта здарылася, але я... вы запаланілі мае думкі.

**Інга** *(напеўна).* «І калі надышоў вечар, Шахеразада пачала расказваць казкі». *(Садзіцца.)*

**Вадзім.** Ці ж гэта не смешна? Мне спадабалася такая дзівачка...

**Інга.** «На тысячу ладоў цягнуў пераліваўся...»

**Вадзім** *(запінаючыся).* З таго дня, калі мы «пагаварылі»... Памятаеце? На выстаўцы графікі... Я пачаў заўважаць... Мяне ўсё больш і больш вабіць... Многа думаю... Нават бачу вас у сне.

**Інга** *(усміхаючыся).* Вось як!

**Вадзім** *(сярдзіта).* Мяне гэта не цешыць. Уночы я павінен спаць.

**Інга** *(мякка).* Але, таварышы, пры чым тут я?

**Вадзім.** Памажыце мне выкінуць вас з галавы.

**Інга** *(збіраючыся пайсці).* З задавальненнем. Бывайце.

**Вадзім** *(утрымлівае).* Гэта не выйсце. У сваіх думках я намалюю вас намнога лепш... Раскажыце пра сябе. Калі буду ведаць ваш характар, густы, звычкі,— самі разумееце, ад захаплення нічога не застанецца.

**Інга** *(весела).* Чаму вам так боязна ў мяне ўлюбіцца?

В а д з і м. Гэта было б самагубства. Атамная вайна вялікіх дзяржаў.

І н г а *(з хітрынкай).* А мірнае суіснаванне?

В а д з і м. Паміж намі?

І н г а. Я пажартавала. *(Са смуткам.)* Усё гэта не для мяне.

В а д з і м. Вось-вось. Я нават не спрабую даводзіць, што вы мне падабаецеся. Вучыцеся вы на «выдатна» і таму нічога не зразумееце.

Інга дапытліва глядзіць.

*(Задуменна.)* І што мне магло... Пра фігуру і гаварыць не трэба. Ваш спосаб мыслення можа адштурхнуць мёртвага. А манера адзявацца... Мае сяброўкі і вы — неба і зямля.

І н г а. Было многа?

В а д з і м. Мне дваццаць восем год. Хочаце даведацца што такое пацалунак?

І н г а. А самба — цудоўная рэч. Вы не думаеце?

В а д з і м *(абараняючыся, падняў рукі).* Не люблю шчыкоткі... Каб вы не супраціўляліся, у мяне не было б жадання вас цалаваць. Палавіна разводаў — таму сведчаць. *(Набліжаецца.)*

Інга ў нерашучасці.

Можаце нават заплюшчыць вочы, і я не скрануся з месца.

Інга заплюшчвае вочы. Вадзім адразу ж абдымае яе і цалуе. Адышоўшыся, назірае за дзяўчынай, якая павольна падыходзіць да дрэва.

Інга...

І н г а. Не трэба. Пажартавалі — і хопіць.

В а д з і м. Глядзі, чайкі ляцяць! Інга, чаму ты выбрала медыцынскі?

І н г а. Чаму?.. Спадабалася, што ў эмблеме змейка.

В а д з і м. Кажуць, што ты едзеш на балота.

І н г а. Ёсць такая хвароба — керома. Чуў?

Вадзім круціць галавой.

Яе вытокі — балоцістыя мясціны. У мінулым годзе мне прыйшла ў галаву адчайная думка — лячыць керому ўвядзеннем... Расказала шэфу. Спачатку ён пасмяяўся, а потым... У бальніцы было двое хворых. Мы паспрабавалі, і абодва паправіліся. Такога яшчэ не здаралася. Але ж гэта толькі два факты. Трэба паехаць і папраца-

ваць там гады тры, можа нават больш. *(Захапіўшыся.)* Трэба будзе праверыць методыку, знайсці найлепшы варыянт, зрабіць тысячы аналізаў... *(Узрушана.)* Хутчэй бы, хутчэй бы здаць экзамены... Эфектыўнай жа тэрапіі пакуль што няма!..

Вадзім *(пасля паўзы)*. Інга, а не падобна гэта... на вершы Максіма?

Інга. А?.. *(Супакоена.)* Шэф перакананы, што мы трымаем у руках сінюю птушку.

Вадзім. І ты згодна жыць на балоце?

Інга. Туманы... Крык начной птушкі... Трошкі бліжэй — жабы — крум-крум... Бальнічка маленькая, размешчана ў гаі. Ад бяроз — навокал бела-бела... Нядаўна пачалі будаваць горад хімікаў. Вось толькі людзі неахвотна едуць. Праз керому.

Вадзім. Няўжо больш ніхто гэтым не займаецца?

Інга *(з прыкрасцю)*. Не, чаму? Клініка. Але... Багі супраць нас. Калісьці кіраўнік клінікі зрабіў доктарскую па кероме. І цяпер усё, што супярэчыць яго канцэпцыі, адхіляе. Значыць, выклік багам. Нахабства, праўда?

Вадзім. Люблю, калі скідаюць багоў.

Інга *(глядзіць на гадзіннік)*. О, я павінна ісці. Праўда, прыгожы гадзіннік? Плаваю, сплю з ім... Падабаецца?

Вадзім. Цябе толькі і можна або ненавідзець або любіць.

Інга. Калі правалю экзамен — праз цябе.

Вадзім. Будзем пераздаваць разам. Па адных шпаргалках.

Інга *(смяецца)*. Сустрэнемся яшчэ?

Вадзім. Не... Калі табе лепш?

Інга. Паслязаўтра. *(Выбягае.)*

Вадзім дастае папяросы, шукае запалкі, не знаходзіць. Рэзка кідае папяросу, ідзе.

Некаторы час сцэна пустая. Азіраючыся, з'яўляецца Інга. Яна не можа схаваць сваёй радасці. Падымае кнігу, якая ляжала за лодкай.

Спакуснік, практыкант-самавук... Знайшоў дурніцу. Божа, колькі чаек! Ніколі не бачыла столькі чаек...

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна пятая

Мінула два тыдні. Пакой дзяўчат. Галіна прасуе сукенку. Святлана праглядае канспект.

Святлана. Што яшчэ гаварыў Мечнікаў? Кожны чалавек можа жыць не менш як сто пяцьдзесят гадоў. Для гэтага трэба ліквідаваць хваробы і наладзіць адпаведнае харчаванне. *(Глядзіць некуды ўдалячынь.)* Чалавечае жыццё — агеньчык свечкі. Трэба баяцца пустых хвілін, пустых гадзін, пустых дзён...

Галіна *(пільна назіраючы)*. Светка, што з табой робіцца?

Святлана *(закрывае канспект)*. Надакучылі экзамены. *(Прыбірае ў пакоі.)*

Галіна. А ты не закахалася? Вось ужо два тыдні, як не знаходзіш сабе месца.

Святлана. У цябе багатая фантазія.

Галіна. Інтуіцыя. Я не выпадкова выбрала сваю спецыяльнасць.

Святлана. Хіба можа быць псіхіятрам чалавек, які не прачытаў усяго Дастаеўскага?

Галіна. Уяві, можа. *(Весела.)* Сёння прывезлі хворага, і ён сцвярджае, што вушамі ловіць хвалі шматлікіх радыёстанцый свету, і просіць адключыць яго. Дзіўна, раней хворыя больш трызнілі на рэлігійныя матывы. Цяпер — спутнікі, атамы...

Святлана. Жывём так, быццам наперадзе вечнасць. А потым настае такі момант, калі бачыш...

Галіна. Са мной таксама нешта робіцца. Іду па вуліцы, убачу якога-небудзь мужчыну, і раптам ён мне здаецца такім родным, такім блізкім, нібы ведаю яго тысячу год... Што-небудзь здарылася?

Святлана. З цябе выйдзе добры спецыяліст.

Галіна. Аднойчы ў школе выкладчык матэматыкі сказаў Эйнштэйну, што ў яго вельмі пасрэдныя здольнасці... А можа надзець цёмнае?

Святлана. Куды ты збіраешся?

Галіна. У вялікі паход.

Святлана. Што ты надумала?

Галіна. Чалавек думае адно, гаворыць другое, а робіць трэцяе.

Святлана *(з прыкрасцю).* Ды не сустракаюцца яны!

Галіна. Кажуць, за мяжой створаны дэтэктар хлусні... А дзе яна прападае вечарамі?

Святлана. Логіка!

Галіна. Ці не з Вадзімам? Не, я ведаю яе густ!

Святлана *(асцярожна).* Як бы табе сказаць... Яе цікавяць яго даследаванні. А каханне... У іх проста сяброўскія адносіны.

Галіна. Цэлыя дні тырчыць у яго лабараторыі. Я сустракаю іх у інстытуце, у клініцы — усюды. І не расказвай мне казак пра дружбу мужчыны і жанчыны.

Святлана. Гэта нейкі кашмар... Што ж рабіць?

Галіна *(іранічна).* Раскажы пра новую методыку, якой яна так цікавіцца.

Доўгая паўза.

Святлана. Добра. Але калі ты каму заікнешся...

Галіна. Нядрэнны пачатак для дэтэктыва.

Святлана. Гала, наша Інга... вельмі хворая.

Галіна. Сэрца?

Святлана. Помніш, як яна самлела ў аперацыйнай?

Галіна. Ну?

Святлана. Аскольд у той жа дзень узяў у яе кроў.

Галіна. І аналіз быў адмоўны.

Святлана падыходзіць да кніг, шукае, дастае фотаграму, кавалак фотаплёнкі.

Святлана. Вось.

Галіна *(разглядвае).* Не можа быць...

Святлана. Ты разумееш, што гэта такое?

Галіна. Ён нешта наблытаў.

Святлана. Лабарантка бачыла, ён тры разы правяраў.

Галіна. Але ці азначае гэта, што Інга...

Паўза.

Святлана. Яшчэ не было выпадку, каб Аскольд паставіў чатыры плюсы і чалавек астаўся жыць.

Галіна. Яна здагадваецца?

Святлана. Думаю, што не.

Галіна. Злаякасная форма. Год — два?

Святлана. Не болей. Але няўжо нічога нельга зрабіць? Галка, мілая?..

Г а л і н а *(разглядваючы плёнку, раптам усміхнулася).* Ці не здагадалася ты, што ў мяне з ім спатканне?..

С в я т л а н а. Ідыётка... *(Хавае фотаграму.)*

Г а л і н а *(пільна глядзіць на Святлану).* Здаровая дзяўчына, кроў [redacted] малаком... І раптам...

С в я т л а н а. Практычна яна яшчэ здаровая. Толькі апарат Аскольда ўлавіў змены ў храмасомах.

Г а л і н а. Сёння ж пагавару з Аскольдам.

С в я т л а н а. Галка, не трэба.

Г а л і н а. Вось як...

Уваходзіць І н г а. Яна вясёлая, бяспечная. У руках кветкі, кніга.

І н г а. Прывітанне зубрылам! *(Ставіць кветкі, кладзе кнігу.)*

Г а л і н а. А ты чаму не вучыш?

І н г а. Адзін мой знаёмы кажа, што студэнты падзяляюцца на выдатнікаў і здольных.

Г а л і н а. Цяпер дзяржаўныя экзамены.

І н г а. Цяпер вясна. *(Напявае.)* Дзе мая кофтачка?

С в я т л а н а. Зноў на ўвесь вечар?

І н г а. Хачу зацягнуць маладога чалавека ў філармонію. *(Смяецца.)* Для яго гэта яшчэ адзін крок у пекла.

С в я т л а н а. Ты абедала?

І н г а *(здзіўлена).* Ой, забыла!

С в я т л а н а *(клапатліва).* Але так жа нельга. Выпі хоць чаю. Зараз прынясу.

І н г а. Свецік, няма калі.

С в я т л а н а. Паспрабуй толькі ўцячы. *(Выходзіць.)*

Інга пераадзяваецца. Галіна гартае кнігу, якую прынесла Інга.

Г а л і н а *(ціха).* «Так гаварыў Заратустра...» *(Насцярожана.)* «З кніг Аскольда Паланава»?

І н г а. Ты нешта сказала?

Г а л і н а. Хацелася б ведаць, пра што гаворыць звышчалавек Заратустра... Інга, як ты сябе адчуваеш... пасля ўчарашняй гульні?

І н г а. Усе мускулы баляць. Але здорава мы гулялі, праўда?

Г а л і н а *(кладзе кнігу, падыходзіць да Інгі.)* Зборная выглядала выдатна.

І н г а. Калі мы і заўтра выйграем...

Г а л і н а *(стараецца гаварыць абыякава).* Што ў цябе на шыі?

І н г а *(захінае).* Хлапчук... шкадлівы...

Галіна. Хто гэта?

Інга. Містэр Ікс.

Галіна. Вядома, гэта няпраўда...

Інга. Чаму? Выдумалі, што вучоныя — сухары. Сярод іх ёсць і лірыкі, і рамантыкі... Ды яшчэ якія... О!

Галіна. Хлусіш!

Інга *(паціскае плячыма)*. У іх, праўда, не заўсёды ёсць час, каб ехаць на ўскраіну горада, дзе ім прызначаюць спатканне... Дома лепш, утульней.

Галіна. Не! Так не будзе!

Інга *(смяецца)*. Ну і нервы!.. Урач, спачатку вылечы сябе.

Галіна. На такіх не жэняцца! Ён сам...

Паўза.

Інга. Што ты сказала? На такіх?.. Як гэта разумець?

Галіна *(ходзіць)*. Ну... Мужчыны любяць жанчын з іншым тэмпераментам.

Інга *(нервова)*. Якое глупства... А калі я табе скажу, што ў нас усё вырашана?

Галіна. Вырашана?!

Інга. Яго ідэя. За сталом будзеш сядзець побач са мной, добра?

Галіна. Так і ёсць: фатаграма — ліпа...

Інга. Фатаграма? Якая?

Галіна. Звар'яцець можна... Куды гэта Светка пайшла?

Уваходзіць Святлана з чайнікам.

Святлана. Вось і чай. У мяне ёсць варэнне.

Інга. Пра якую фатаграму вы гаварылі?

Святлана *(пасля паўзы, спакойна)*. Пра якую фатаграму мы гаварылі? Ды так... *(Разлівае чай на падлогу.)* Гэта я, каб супакоіць яе... Яна думала, што ты з Аскольдам...

Галіна *(Святлане, са злосцю)*. Вось яна, жаночая дружба! Я ведала, што ты ашуквала... Развяла камедыю — безнадзейна хворая, злаякасная форма... Нават фатаграму паказала... Але я не такая дурніца...

Святлана. Перастань!.. Перастань... *(Да Інгі.)* Я ўсё выдумала... Я хацела...

Інга *(рашуча)*. Фатаграму.

Святлана *(знаходзіць і падае фатаграму)*. Я не ведаю... Можа тут памылка...

І н г а *(разглядвае).* Як жа гэта... Чатыры... Што ж гэта?.. Непаразуменне, напэўна...

С в я т л а н а *(жвава).* І я так думаю.

Г а л і н а. Паглядзі, там другі шыфр.

І н г а *(прагна ўзіраецца).* Другі шыфр... Праўда... *(Абмякла.)* Але я ведаю, калі Аскольд ставіць не той шыфр. Бедны... Што ён перажыў!.. Чатыры плюсы. Але ж, не трэба было забывацца... *(З прыкрасцю.)* Ну чаму зараз? *(Падбягае да акна.)* Як недарэчы...

С в я т л а н а. Інга, родная...

І н г а. Перастань, Светка! *(Галіне.)* Ты зрабіла добрую паслугу... *(Глядзіць у акно, паспешліва выходзіць.)*

С в я т л а н а. Што ты нарабіла... *(Стомлена ідзе да акна.)* Сотні гадоў пройдуць, людзі стануць іншыя, а нешта ад жывёлы застанецца... Гэта такая ж праўда, як і тое, што з мяне ўрача не выйдзе.

Уваходзіць В а д з і м.

В а д з і м *(весела).* Вы што, шаноўныя, аглухлі? Стукаю, стукаю. Скажыце, Інга дома?

Г а л і н а *(занепакоена).* Навошта яна табе?

В а д з і м. Мы спазняемся. А ведаеце, бога ўсё-такі няма. Інакш ён не дапусціў бы маіх пакут — кожны дзень: філармонія, опера, карцінная галерэя... Чаго не зробіш дзеля... мастацтва.

Г а л і н а. Няпраўда! Ты з ёю не сустракаешся.

В а д з і м. Няўжо я так сказаў?

Г а л і н а *(паспешліва).* Праўда ці не? Гавары...

В а д з і м. Ёсць пытанні, на якія нельга адказаць: праўда ці няпраўда. Напрыклад, пытаюцца — вы дурань?

С в я т л а н а. Вадзім, скажы ёй праўду.

В а д з і м. А ў вас не засумуеш.

Г а л і н а *(пакутліва).* Божа мой... Чаму мне так не шанцуе... *(Выходзіць.)*

В а д з і м. Што з ёю?

С в я т л а н а. Пройдзе. Перавучыла...

В а д з і м *(падыходзіць да падручніка, раскрывае).* «Прапедэўтыка»... Сястрыцы міласэрныя, прадаю ідэю. Адкіньце падручнікі, гарацъ яны ясным агнём... Ідзіце на вуліцу, аддайцеся сонцу, жыццю. Шаснаццаць гадоў карак гнулі. Для чаго? Ці варты людзі таго, каб іх лячыць? Нейкія дзівакі пырнуць адзін аднаго нажом, а потым вы суткамі не адыходзіце. П'яны прастудзіцца пад плотам, а вы... Думаеце, будзе ўдзячны? Яшчэ

скаргу напіша — у кішэні была чацвёрка, а ў бальніцы дапілі.

Святлана. Што табе трэба?

Вадзім. Здавайце на тройкі. Дыплом і зарплата вам гарантаваны. Ты яшчэ помніш, як узыходзіць месяц? Як выглядае раса на травінцы? Як у полі спяваюць жаўрукі? Калі ты заўтра трапіш пад машыну...

Святлана. Калі ласка, ідзі...

Вадзім. Мне патрэбна Інга.

Святлана. Інга?.. *(Выбягае з пакоя.)*

Вадзім. Адны рэбусы... *(Глядзіць на гадзіннік, выходзіць.)*

## Карціна шостая

Скверык. Інга сядзіць на лаўцы і вучыць: рыхтуецца да экзамена. Закрывае кнігу, сядзіць як акамянелая.

Інга. Свет стаў другі, а людзі не заўважаюць. Спяшаюцца на канцэрты, спрачаюцца пра футбол, сварацца з-за глупства... Змяніліся паняцці. Усё жыццё... змесціцца на далоні. Планы бліжэйшыя і перспектыўныя... Апошнія выкрэсліваюцца. Будучыня... Іншыя могуць сказаць: «У гэтым годзе махнём у Ялту, а ў наступным — вакол Еўропы». Не будзе... Нічога не будзе... А што такое жыццё? Існаванне? Барацьба? Самасцвярджэнне? Божа, як мала я ведаю... Век вучылася — і дурніца... Дзяўчаты сталі такія клапатлівыя... Нават злосць бярэ. А ноччу Светка плача ў падушку. І ўсё-такі ў мяне перавага — ведаю свой тэрмін. Колькі ж засталося? Год, паўтара? Яшчэ б гадоў дзесяць. Ну, пяць... *(Круціць галавой.)* А раптам за гэты час што-небудзь вынайдуць? Як калісьці антыбіётыкі... Не, цуда, сіньёры, не будзе... Як жыць, калі няма калі жыць? Во як загаварыла... Кінуць усё і паехаць да бабулі? Выйграю месяц-два... Кінуцца ў «салодкае жыццё»? Хутка абрыдне. Што застаецца пасля чалавека? Дзеці, справы? Першае выключаецца. А другое... Добра пісьменнікам, кампазітарам... А што пакідае пасля сябе ўрач?.. Галоўнае — не гэта. Галоўнае — астацца чалавекам.

З'яўляецца Вадзім. Інга рэзка ўстае.

*(Спалохана.)* Вадзім? Калі ласка, ідзі! Я павінна вучыць...

**В а д з і м.** Інга, што гэта азначае? Два тыдні ганяюся за табой, а ты хаваешся. На запіскі не адказваеш,— што здарылася?

**І н г а.** Экзамены.

**В а д з і м** *(падыходзіць бліжэй).* Можа я і дурань, але не настолькі...

**І н г а** *(запальчыва).* Ведаеш, колькі двоек наставілі?.. Пер'е ляціць!

**В а д з і м.** Неяк я цябе бачыў з тралейбуса. Ты ішла з хлопцам і смяялася... Гэта хто?

**І н г а** *(памаўчала).* Так сказаць, прапануецца падумаць — а што, калі так?

**В а д з і м.** Адзінае, што магло б мяне спыніць. Так засумаваў па табе... Ідзі, я нешта скажу.

Інга раздумвае, потым падыходзіць. Вадзім абдымае яе. Дзяўчына хоча запомніць гэтае імгненне.

Што з табой?

**І н г а** *(адхіляючыся).* Не трэба так моцна. Што на рабоце?

**В а д з і м.** О, можаш павіншаваць! Мне даручылі распрацоўку новай лініі. Памятаеш?

**І н г а.** Вядома. Цяпер ты задаволены.

**В а д з і м** *(стрымана).* А як жа! Я пакажу, на што здольны. Буду працаваць на ўсю сілу. Два гады ваяваў за гэтую ідэю!.. Толькі б за мяжой не апярэдзілі... Нешта такое ж робяць японцы.

**І н г а** *(весела).* Заяц захмялеў.

**В а д з і м.** Хопіць пра работу. А дзе твой гадзіннік?

**І н г а.** Зняла.

**В а д з і м.** Сапсаваўся?

**І н г а.** Не.

**В а д з і м.** Як жа так? Ты ж з ім заўсёды...

**І н г а.** За колькі ты цяпер праходзіш сотку?

**В а д з і м.** Не, праўда?

**І н г а** *(узрушана).* Чаго ты прычапіўся?! Дай мне спакой!

**В а д з і м.** Мабыць, усе прыгожыя жанчыны наравістыя. *(Бярэ яе за руку.)* Якія халодныя пальцы... Як у бабулькі.

Інга вырывае руку.

Ты што?

**І н г а** *(жвава).* Я не расказвала, што рэжысёр прапанаваў мне галоўную ролю?

В а д з і м. Сучасная п'еса? Лепшая за тую, што мы іграем?

І н г а *(усміхнулася).* Мы запыталі ў аўтара, ці можна зрабіць невялікія змены — бо ў нас самадзейнасць. Ведаеш, што ён адказаў? «Мяняйце, ну вядома, мяняйце. П'еса настолькі дрэнная, што дазваляю вам перапісаць яе нанава».

В а д з і м. А калі ты будзеш іграць?

І н г а *(глядзіць убок).* Ты... пра што?

В а д з і м. Ты ж паедзеш.

І н г а. Паеду, іграць не прыйдзецца... А на сцэне прасцей...

В а д з і м. Дзіўная ты сёння... *(Хоча прытуліць да сябе.)*

І н г а *(гуллівa).* Эй, эй! Не захапляйцеся, таварышы!

В а д з і м. Дай руку. *(Прыкладае яе руку да свайго сэрца.)* Чуеш, там нешта трапечацца?

І н г а *(весела).* Праўда! Што ты праглынуў?

В а д з і м. Цемната. Гэта ж сэрца! Усе ўдары — цераз адзін — твае.

І н г а *(зацікаўлена).* Цераз адзін? *(Раўніва.)* А каму другі?

В а д з і м. Мне. Трэба ж неяк жыць.

І н г а. Скнара. Іншы аддаў бы ўсё.

В а д з і м. Ну, ведаеш... Хутка вечар. Можна цябе благаславіць?

І н г а. Пасля тваіх благаславенняў я доўга не магу заснуць.

В а д з і м *(паказвае мезенец).* Адзін...

І н г а *(спалохана).* Не, не!.. Баюся інфляцыі.

В а д з і м. І ўсё-такі ты нейкая другая. Што з табой, дзяўчынка?

І н г а *(закінуўшы галаву, павольна матляе ёю ў бакі).* Вадзім, гэта наша апошняе спатканне.

В а д з і м. Інга, ты гаварыла, што гумарысты — людзі з агрэсіўным комплексам.

І н г а. У мяне ёсць друг. Яшчэ са школы. Андрэй. Ён не тут. Доўга не пісаў, і таму я... мы... А нядаўна прыйшло пісьмо. Я люблю яго.

В а д з і м *(няўпэўнена).* Выдумваеш. Інга, што было ў той вечар, калі мы збіраліся ісці ў філармонію?

І н г а. Па касмічных маштабах веку — нічога... Канчаць будзем адразу. Іншы раз радыкальная аперацыя — лепшы сродак.

**Вадзім.** Глянь мне ў вочы... Мы былі сапраўды шчаслівыя. Ненавіджу гэтае мяшчанскае слова, але былі, былі!.. І няўжо ўсё скончана?!.

**Інга** *(пасля роздуму, у роспачы).* А, прападзі ўсё пропадам... Вадзім, сёння наш дзень! *(Паспешна.)* Едзем у лес... Возьмем з сабою віна, музыку... І павесялюся ж я, натанцуюся... А там — хоць трава не расці... Едзем. *(Цягне Вадзіма за рукаў.)*

**Вадзім.** Не. Усё альбо нічога.

**Інга** *(стомлена).* Ідзі. Ты яшчэ сустрэнеш сваю... Андрэй прыедзе праз некалькі дзён. Чуеш?

**Вадзім.** Інга, я ж бачу, што з табой робіцца. Дык якому д'яблу патрэбна такая ахвяра?!

**Інга.** Каб жа я ведала... *(Груба.)* Чаго ты стаіш? Я ніколі не любіла цябе! Захацелася падражніцца. Ну?!

**Вадзім.** Што было, тое сплыло. *(Праводзіць рукой па твары.)* Калі я пайду...

**Інга** *(з выклікам).* Вернешся! У цябе няма ні кропелькі гонару. Хлюпік, бязвольны слімак...

**Вадзім** *(успыхнуў).* З табой каб гаварыць — трэба жалезныя нервы. *(Рашуча пайшоў.)*

**Інга** *(астаўшыся адна, паступова супакойваецца).* Ну, нічога... Самае страшнае прайшло. Кіп смайлін — захоўвайце ўсмешку. *(Закрыла кнігу і пайшла.)*

## Карціна сёмая

Вечар. Канструктарскае бюро. Над чарцёжнай дошкай схіліўся **Вадзім.** Звоніць тэлефон. Вадзім неахвотна падыходзіць, здымае трубку.

**Вадзім.** Слухаю... Я... *(Уздыхае.)* Таня... *(Апускае трубку, доўга глядзіць на дошку, потым успамінае пра тэлефон.)* Скончыла? Я нядаўна ўспомніў, што свет трымаецца на трох кітах і жанчыны тут ні пры чым... І не будзе!.. *(Рэзка кідае трубку, але, падумаўшы, здымае яе і кладзе побач. Вяртаецца да дошкі.)*

Уваходзіць **Аскольд** з партфелем.

**Аскольд.** Добры вечар. Магу бачыць Жураўлёва?

**Вадзім** *(вітае яго кіўком).* У камандзіроўцы. Месяцы на два.

**Аскольд.** Што вы кажаце! Якая непрыемнасць... *(Задумаўся.)*

Вадзім. А можа на паўтара. Мантаж установкі ў Іркуцку.

Аскольд. Шкада. І вельмі.

Вадзім. А магу запытацца, што ў вас за справа? Сядайце.

Аскольд (*прысаджваецца*). Дзякую. Бачыце, Жураўлёў быў маім пасрэднікам. У вас рабілі некаторыя вузлы да майго апарата. Дазвольце пазнаёміцца. Аскольд Паланаў.

Вадзім. Вадзім.

Аскольд. Я прапанаваў сваю методыку ранняга выяўлення некаторых захворванняў крыві. Спадзяюся, вы разумееце, што азначае задоўга да развіцця сімптомаў хваробы — прыкладна за год — паставіць дакладны дыягназ?

Вадзім. Даць у рукі медыкаў...

Аскольд. Вось іменна. І павінен сказаць, некаторыя замежныя фірмы заявілі, што хочуць набыць ліцэнзію... Так, а цяпер я думаю пра новы апарат, з большым дыяпазонам дзеяння. (*Дастае з партфеля накіды.*) Прынцып дзеяння заснаваны на розным пагльнанні святла. У гэтым месцы змяшчаецца кропля крыві...

Вадзім уважліва разглядае.

Але вось тут у мяне ніяк не атрымліваецца... Слабае звяно... Часта выходзіць са строю... Чаго толькі не прыдумваў. Дарэмна. Гэта як матацыкл: дзень ездзіш — тыдзень рамантуеш. Разбіраецеся?

Вадзім (*задумліва*). Ды ўжо ж... У вас якой маркі матацыкл?

Аскольд. У мяне «Волга».

Вадзім. Гэты блок для чаго?

Аскольд. Выраўноўвае сігнал.

Вадзім. Так... дайце падумаць...

Аскольд паціскае плячыма і адыходзіць да акна. Вадзім падлічвае, крэсліць нешта на паперы.

Ну што ж. Ёсць над чым паламаць галаву. Прыходзьце праз тры дні.

Аскольд. І што будзе праз тры дні?

Вадзім. Паглядзім. Люблю такія задачкі.

Аскольд. Мабыць, вы недаацэньваеце ўсёй складанасці...

Вадзім. Праз тры дні... (*Весела.*) Значыць, хто хутка ставіць дыягназ, той хутка вылечвае?

**А с к о л ь д** *(пасля паўзы).* Не зусім. Гаворка ідзе пра хваробы невылечныя. Хто захварэў — стопрацэнтная смяротнасць.

**В а д з і м.** І ніхто не вылечваецца?

**А с к о л ь д.** Пакуль што — ніхто. Нядаўна мы правяралі сваіх студэнтаў... Адна студэнтка безнадзейна хворая. Чатыры плюсы. Спартсменка, выдатніца, выпускніца. Калі я прапанаваў ёй абследавацца, кажу, дай кроплю крыві — будзеш ведаць свой лёс, яна засмяялася: «Таварышы, пакуль не разлічуся з керомай... І наогул, я збіраюся пражыць не менш як сто гадоў».

**В а д з і м.** Як, вы сказалі, яе завуць?

**А с к о л ь д** *(пасля паўзы).* Я назваў імя? Не можа быць. У вас там знаёмыя?

**В а д з і м.** Не. Проста цікаўлюся. Дайце закурыць.

Аскольд частуе. У Вадзіма падае цыгарэта.

**А с к о л ь д** *(жартуючы).* Піць трэба меней, таварыш канструктар.

**В а д з і м.** Выпадак цікавы... Няўжо нічога нельга зрабіць?

**А с к о л ь д** *(задуменна).* Пакуль што — абсалютна... Чалавек без заўтрашняга дня.

**В а д з і м.** Як жа так...

**А с к о л ь д.** Па сутнасці, усе мы памром.

**В а д з і м.** Але ў яе гады... Адкуль? Чаму?

**А с к о л ь д** *(падыходзіць да акна ўсміхаючыся).* Праўда, цудоўнае паветра? Свежае, чыстае. Зяляніна... А фон радыяцыі ў некалькі разоў вышэй, чым да вайны. Дазвольце запытаць, колькі разоў вы праходзілі рэнтген?

**В а д з і м.** А?.. Пятнаццаць — дваццаць.

**А с к о л ь д.** О!.. Дадайце добры дзесятак іншых шкоднасцяў, якія ўзніклі з прычыны тэхнічнага прагрэсу. Пад іх уздзеяннем у храмасомах адбываюцца мутагенныя перабудовы...

**В а д з і м.** Яна ведае?

**А с к о л ь д** *(паглядзеўшы на Вадзіма, круціць галавой).* Чалавек адыходзіць ад прыроды. У гэтым трагедыя нашага часу.

Паўза.

**В а д з і м.** Дык што ж, назад — да каменнай сякеры?

**А с к о л ь д.** Зусім не. На ўзроўні сучаснай цывілі-

зацыі вярнуцца да прыроды. А галоўнае — ліквідаваць шкоднасці. Пакуль не позна.

В а д з і м. Якія вы слабыя, медыкі. Людзі праніклі ў космас, разгадалі нейтрына...

А с к о л ь д. Навошта параўноўваць чалавечы арганізм — самае складанае ў прыродзе — з элементарнымі часцінкамі? Слабыя... Не забывайце, што для фізікаў не было ніякіх забарон, а медыкам доўгі час не дазвалялі даследаваць клетку. Рэкамендавалі займацца ўмоўнымі рэфлексамі *(пстрыкае пальцамі ў паветры)*, а ў якасці дадатковай нагрузкі — пытаннямі мовазнаўства...

В а д з і м. Калі ж чалавецтва пазбавіцца хвароб?

А с к о л ь д. Няўмольна набліжаецца час, калі сонечнае цяпло, слабеючы, не зможа растопліваць лёд, які будзе насоўвацца з палюсоў, і Зямля — мёртвы, астылы, як Месяц, шар — будзе кружыць у глыбокай цемры па ўсё больш кароткіх арбітах вакол мёртвага Сонца, на якое яна нарэшце ўпадзе.

В а д з і м. Гэта хто — Сартр, Камю?

А с к о л ь д *(пасля паўзы)*. Не. Энгельс. «Дыялектыка прыроды».

В а д з і м *(пасля роздуму)*. Чалавецтва не загіне. Яно зможа перасяліцца...

А с к о л ь д. Некалькі мільярдаў чалавек? На чым жа — на таксі?

В а д з і м. Да таго часу — гэта будзе праз мільёны гадоў — праблема транспарту вырашыцца.

А с к о л ь д. Магчыма. Але ці хопіць чалавечага жыцця, каб даляцець да другой сістэмы?

В а д з і м. Людзі запаляць новае сонца. Яно будзе лепшае за гэтае.

А с к о л ь д. Ярчэй за тысячу сонцаў... Мы не ведаем, што нас чакае заўтра.

В а д з і м. Скажыце, у гэтай дзяўчыны... белакроўе?

А с к о л ь д. Не зусім. Але канец — аднолькавы.

В а д з і м. А бывае, што ваш апарат памыляецца?

А с к о л ь д. Не, калі б ён дапусціў хоць адну памылку, я адчуваў бы сябе лепш.

В а д з і м. Ну, хоць бы адзін раз на тысячу...

А с к о л ь д. Выключаецца. За два гады — ні адной памылкі. Калі я паставіў дыягназ... *(Заўважыў, што Вадзім хвалюецца.)* Урэшце, у медыцыне ўсё магчыма. Зусім верагодна, што ўсё абыдзецца шчасліва.

В а д з і м. Не трэба!

А с к о л ь д. А праўда суровая. Адзін дасціпны калега сказаў пра маіх пацыентаў: «Аскольдавы магілы...» *(Стараецца бравіраваць.)* Іншы раз я адчуваю, што наводжу жах на людзей. *(Пільна прыглядаецца да Вадзіма.)* Штосьці мне вашы вочы не падабаюцца. Не заўважаеце стомленасці, слабасці? Хочаце, праверым вашу кроў? Гэта нядоўга... *(Смяецца.)* Я пажартаваў.

В а д з і м *(не гледзячы на Аскольда)*. Скажыце, вас калі-небудзь білі?

А с к о л ь д *(паспешліва збірае паперы ў партфель, накіроўваецца да дзвярэй, на хвіліну спыняецца)*. Калі вы знаёмы... з гэтай дзяўчынай, калі ласка, не гаварыце. Ёй гэта нічога не дасць. *(Абвяўшы.)* Паверце, каб быў хоць адзін шанц... Я люблю яе. *(Ідзе да дзвярэй.)*

В а д з і м *(рэзка паварочваецца, глядзіць.)* Стойце!

Аскольд спыняецца. Вадзім бярэ аркуш паперы, шпарка піша, падыходзіць да Аскольда, аддае.

Зойдзеце ў пятніцу. Трэці цэх.

А с к о л ь д бярэ запіску, выходзіць. Вадзім глядзіць услед, падыходзіць да тэлефона, набірае нумар.

Скажыце, басейн сёння працуе да... Дзякуй. *(Паволі кладзе трубку.)*

## Карціна восьмая

Кватэра Вадзіма. Вечар. Сучасны інтэр'ер. Гарыць настольная лямпа. Прыглушана гучыць музыка — арган. В а д з і м у купальным халаце ходзіць па пакоі. Званок. Вадзім выходзіць і вяртаецца з М а к с і м а м.

М а к с і м. Добра, што ты дома. Дождж пачынаецца. Ледзь паспеў.

В а д з і м. Сядай... Толькі што пайшлі хлопцы. Каньяку?

М а к с і м. Калі ёсць напітак...

В а д з і м. Пашукаем... *(Прыносіць бутэльку вады.)*

М а к с і м *(налівае, п'е)*. Сёння ў клубе паказвалі «Хірасіма, мая любоў». Думаў, прайду, але столькі ахвотнікаў...

В а д з і м *(задуменна)*. «Хірасіма, мая любоў»...

М а к с і м. Ты... ведаеш?

В а д з і м *(адыходзіць да акна)*. Ведаю.

Максім. Мне Света расказала. Хто б мог падумаць.

Вадзім. Пасылаюць у Новасібірск. Па дарозе назад спынюся ў Маскве, абыду ўсе інстытуты.

Максім. Я ўчора прыляцеў з Ленінграда. Быў у клініцы, якая... Гаварыў з кіраўніком. *(Разводзіць рукамі.)* Ні ў нас, ні за мяжой. Адзіная надзея — памылка ў дыягназе.

Вадзім. Гэты тып сказаў, што яго пякельная машына не памыляецца... Мефістофель, іхтыязаўр... Ледзь не надаваў яму па шыі...

Максім. Улезь у яго скуру: імкнецца рабіць дабро чалавецтву, а сёння гэта ператвараецца...

Вадзім. А калі пашукаць у народнай медыцыне?

Максім. Пра тое, як спрабавалі лячыць гэтую хваробу, напісаны сотні тамоў, але... *(Азіраецца.)* Яна... была тут?

Вадзім. Учора бачыў Святлану. На стадыёне.

Максім. Між іншым, Света згадзілася астацца.

Вадзім *(пасля паўзы)*. Што б ты сказаў, Максім, каб я... ажаніўся з ёю?

Максім *(наліваючы ў кубак вады)*. Ты часам няўдала жартуеш.

Вадзім. А ўсё-такі?

Максім. Гэта... кашчунства, Вадзім. Камедыя скончана. Цяпер мы героі драмы.

Вадзім. У жыцці ўсё пераблытана. Толькі эстэты наставілі перагародак.

Максім *(не выпіўшы, адстаўляе кубак з вадой)*. Але гэта не каханне, стары.

Вадзім. А хто мне скажа, што такое каханне?

Максім. Хочаш даць ёй трошкі радасці?

Вадзім. «Асколачак вясёлкі». Ёсць такое апавяданне.

Максім *(памаўчаўшы)*. Пір з атручанай закуссю. І госці гэта будуць ведаць.

Вадзім. Чаму так змрочна?

Максім. Ты дрэнна ўяўляеш, што такое хворая жонка, асуджаная на...

Вадзім. А калі не...

Максім *(пасля паўзы)*. Чалавек не можа ашукаць бяззубую з касой. Каханне перамагае смерць... І як гэта медыкі не дадумаліся? Ты сур'ёзна?

Вадзім *(ходзіць)*. Што ў наш час можа быць сур'ёзным?

Максім. Тваё каханне прынясе ёй толькі пакуты — вастрэй адчуе, што траціць.

Вадзім *(спыніўшыся, не зусім сур'ёзна)*. А ты мудры.

Званок.

Максім. Ты каго-небудзь чакаеш?

Вадзім. Завязаў, як кажуць паэты. *(Выходзіць.)*

Голас Вадзіма: «Плашч павесь тут». Уваходзяць Вадзім і Святлана.

Святлана. Даўно такога дажджу не было. *(Абтрэсвае рукі, заўважае Максіма.)*

Максім. У гэтым склепе толькі і хавацца, калі дрэннае надвор'е.

Святлана *(пасля кароткай замінкі, Максіму)*. І ты?..

Вадзім. Сядай. Кофе?

Святлана. Не трэба. *(Садзіцца, папраўляе валасы.)* Ішла міма, дай, думаю, зайду. *(Вадзіму.)* Цыгарэту.

Максім. Наколькі мне вядома, ты не курыш.

Вадзім дае ёй закурыць.

Святлана. Зубрылі, зубрылі з Інгай, пакуль галовы не забалелі.

Максім. Святлана, ён ведае.

Святлана *(паклала цыгарэту, Вадзіму)*. Ты не павінен сустракацца з ёю.

Вадзім *(гнеўна)*. Паспелі пахаваць! Сябры...

Святлана. Але ж... Не ведаю, што ў вас было ў скверыку, тады, толькі пасля гэтага яна... Калі ў цябе ёсць да яе хоць кропля...

Вадзім. Яна цябе паслала?

Святлана. Я лічыла цябе разумнейшым.

Вадзім *(пасля роздуму)*. Добра. Вы пасядзіце. Хачу прагуляцца па горадзе.

Святлана. У такі дождж?

Вадзім. Іншы раз дождж як на заказ. *(Выходзіць.)*

Святлана. Гаспадара выжылі.

Максім *(падыходзіць да Святланы)*. У мяне суседка выязджае. Вызваляецца пакой.

Святлана *(адхіляючыся)*. Ніколі не бачыла гэтага часопіса. *(Разглядвае.)*

Максім. Спадзяюся, табе спадабаецца.

Святлана. Няўжо ён чытае і па-французску?

Максім. Гэтак жа, як я ў тваіх вачах.

Святлана *(адкідвае часопіс)*. Максім, я еду з Інгай.

Максім *(з прыкрасцю стукае далонню па стале. Ходзіць па пакоі. Выразна)*. Навошта? Каму патрэбна, каб ты ехала?

Святлана. Хто-небудзь з нашых павінен быць побач. Нельга пакідаць яе адну.

Максім. Што гэта зменіць?

Святлана. Нічога. Але мы — людзі. *(З напружаннем.)* І не спрачайся са мной. Гэта канчаткова.

Максім. Свецік, я зусім не ідэальны герой. Я лепш за іншых бачу свае слабасці, недахопы... Паэта з мяне не будзе. Але я люблю цябе. Я ведаю сваю працу і люблю працаваць. Так, люблю. Што людзі ведаюць пра эканамістаў? Лічаць... Але ж яны часам могуць сэканоміць больш, чым некалькі заводаў за год. Нядаўна нам прывезлі электроннае абсталяванне. Надзвычайныя перспектывы!.. А на балотах я буду проста бездапаможны.

Святлана *(задуменна)*. Электроннае абсталяванне... Навошта? Ты з поспехам яго заменіш...

Максім. Калі б мне сказалі: дзесяць гадоў варочай каменне, і гэта яе выратуе... А цяпер?..

Святлана. Самае страшнае — што ты гаворыш праўду... Але я не магу так... Прыйдзецца расстацца.

Максім. Разумней за ўсіх у гэтай сітуацыі трымаецца Інга. Бо ведае — нічога не зменіш. І што азначае ў нашу эпоху жыццё аднаго чалавека?

Святлана. Мяне ўсю калоціць... Хоць бы дождж перастаў...

Максім. Табе трэба сагрэцца. *(Дастае з паліцы бутэльку, чарку, налівае.)* Святлана, але ж справа не ў Інзе... Проста ты пакідаеш мяне. Чаму?

Святлана. А Галка не знаходзіць сабе месца. Нават глядзець не хоча на Аскольда.

Максім. За цябе, доктар...

Святлана. Будзем весяліцца... Пакуль здаровыя.

Выпівае. Паўза.

І ўсё-такі калоціць. Дождж, дождж...

## Карціна дзевятая

Паліклініка. І н г а ў белым халаце сядзіць за сталом, разглядвае рэнтгенаўскі здымак і нешта запісвае ў журнал. Потым устае, падыходзіць да дзвярэй, трошкі іх прачыняе.

І н г а *(не глянуўшы)*. Заходзьце. *(Вяртаецца, садзіцца, піша.)*

Уваходзіць В а д з і м. Моўчкі стаіць ля дзвярэй.

*(Не гледзячы.)* Сядайце. Вы ў нас былі? Ці ўпершыню? *(Падымае галаву, глядзіць на Вадзіма. Рэзка накіроўваецца да дзвярэй.)*

В а д з і м. Пачакай! Я апошні.

І н г а *(выглядае за дзверы)*. Хто да хірурга? *(Павольна вяртаецца, рашуча.)* Я на рабоце.

В а д з і м. Бюракратаў б'юць іх жа зброяй... *(Дастае з кішэні талон, падае Інзе.)* Як пацыент я маю права на ўвагу ўрача.

І н г а *(бярэ талон, глядзіць, рэзка кідае на стол, гледзячы ўбок)*. Я слухаю.

Вадзім падыходзіць да дзвярэй і зачыняе іх на ключ.

Ты што, звар'яцеў?

В а д з і м. Скажаш, прыйшоў надта сарамлівы хворы.

І н г а. Калі шэф даведаецца пра гэтыя штучкі...

В а д з і м. Міш іншым, ужо шэсць. *(Паказвае на гадзіннік.)*

І н г а. Што ж, пагаворым на вуліцы. *(Здымае халат.)*

В а д з і м. Інга... будзь маёй жонкай.

І н г а *(пасля працяглай паўзы)*. Ты казаў, што гэтае мерапрыемства запланавана на канец сямігодкі.

В а д з і м. Сямігодку — датэрмінова. Дэвіз многіх.

І н г а. Дзіўная перамена.

В а д з і м *(з усмешкай)*. Ведаеш, надакучыла самому цыраваць шкарпэткі, гатаваць снеданне...

І н г а. Андрэй казаў, што ўсё будзе рабіць сам... Каб ты ведаў, які ён харошы. У школе хадзіў за мною, як прывязаны. Ходзіць і маўчыць. Аднойчы кажу: «Андрэй, злаві мне ваўчаня». І што ты думаеш? Прывалок. *(Задумалася.)* Ён будзе добры муж...

В а д з і м. Інга, я ўсё ведаю.

І н г а. Што — ведаеш?

В а д з і м. Ну... выпадкова сустрэў урача з лабараторыі, і ён...

Доўгая паўза.

І н г а. Ведаеш... Так, чатыры плюсы, чатыры крыжы... І я ведаю. Вось і каханню прыйшоў канец, дарагі Уладзім Уладзімыч... *(Успыхнуўшы.)* Якое глупства! Я проста ператтамілася. Заняткі, секцыя, студыя... Варта толькі добра адпачыць...

В а д з і м *(жвава)*. Вядома! Я перакананы ў гэтым. Здасі экзамены, паедзем на поўдзень. Марское паветра, фрукты, цудоўныя мясціны Каўказа... Мы яшчэ пасмяёмся з гэтага аракула!

І н г а. Смех у раі. Гэта весела. Мы на розных берагах.

В а д з і м. Я нядрэнна плаваю.

І н г а. Не трэба, прашу цябе.

В а д з і м *(з пачуццём)*. Чаму — не трэба? Мы з табой створым планету, дзе суткі прыраўняем да года. Цяпер ні на дзень не пакіну цябе.

І н г а. Хочаш бачыць, як буду рабіцца брыдкай?

В а д з і м. А ты ўяўляеш сябе прыгожай?.. Слухай, няўжо ты верыш гэтаму глупству? Ці можна нагул верыць нейкаму аналізу? Гэта ж не матэматыка.

І н г а. Калі б я не была ўрачом...

В а д з і м. А колькі разоў ваш брат ставіць фатальны дыягназ, а хворы жыве і п'е за яго здароўе. Ну а раптам той памыліўся?..

І н г а. Учора Аскольд зноў браў у мяне кроў. І сказаў, што ўсё ў парадку.

В а д з і м. Вось бачыш!

І н г а. Я запытала: «Як і месяц назад?» А ён: «Так, вядома». *(Пасля паўзы.)* Не, Вадзім. Усё правільна. Памылкі быць не можа. *(Закасвае рукаў.)*

В а д з і м *(уражаны)*. Што гэта? Ты была...

І н г а. «КМ-68»... Вопытная група.

В а д з і м. Чакай, колькі ж тады табе было?

І н г а. У тое лета дзеці ваеннаслужачых адпачывалі ў Белавежскай пушчы. І калі танкі з чорна-белымі крыжамі перайшлі граніцу, шлях дадому быў адрэзаны. А потым прыехалі яны. Я ўсё помню. Яны былі ў белых халатах... Ласкавыя, добрыя... Кляйнас медхен іст шён... Давалі шакалад. А потым рабілі ўколы. З нашай групы не памерла яшчэ адна дзяўчынка, Лена. Нам бы зноў увялі гэты прэпарат. Але неяк уначы

партызаны вызвалілі частку дзяцей. Я доўга хварэла, паўгода нічога не бачыла.

Вадзім. Лену таксама выратавалі?

Інга. Так. Нядаўна памерла.

Вадзім. Няшчасны выпадак?

Інга круціць галавой.

Што вам уводзілі?

Інга. Калі я пераканалася, што сапраўды... Можаш уявіць, што я адчула. *(Усміхнуўшыся.)* Гейнэ неяк сказаў: калі ў півавара ў бочцы канчаецца піва, яму здаецца, што надыходзіць канец свету... Кінулася ў бібліятэку. Перагледзела ўсё новае, што ёсць у нас, за мяжой... Была і ў дацэнта Мельнікава, сказала, сястра хварэе. І ніхто нічога... Хутчэй бы за работу...

Паўза.

Вадзім. А керома?

Інга. Відаць, не паспею.

Вадзім. Год — 8760 гадзін. Напэўна, гэта многа.

Інга. І вельмі мала. Вось яшчэ трыццаць мінут ты ўкраў.

Вадзім *(пасля паўзы, усхвалявана)*. Інга, керома — выратаванне... Для чаго мы жывём? У чым прызначэнне чалавека? У цябе наперадзе жыццё... Так! Жыццё, якое вымяраецца не стрэлкамі гадзінніка. Удваіх мы зробім удвая больш.

Інга. Не муч... Толькі ты адзін мяне і мучыш.

Стук у дзверы.

Вадзім *(гучна)*. Прыём закончаны. *(Інзе, цвёрда.)* Будзеш рабіць тое, што скажу я.

Інга *(плача)*. Навошта?

Вадзім *(абдымае яе за плечы, горача, пераканаўча)*. Ты будзеш жыць. Будзеш! Мы кінем выклік богу, нячыстай сіле, д'яблу і тым гадам з чорна-белымі... Чуеш? *(Бярэ яе твар у свае рукі.)* Ты мяне яшчэ не ведаеш... Я не аддам цябе. Я кахаю. Чуеш? Кахаю цябе!..

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### Карціна дзесятая

Мінула паўтара года. Невялікая ўчастковая бальніца на Палессі. Вечар. За акном завіруха. На сцэне медсястра, сярэдніх год жанчына, яна падкідае паленцы ў жалезную печку. Уваходзіць Вадзім, ён у лыжным касцюме, пляскае сябе па баках, спрабуючы сагрэцца.

Вадзім. Хірург з Забалоцця ў вас?

Медсястра. Там *(паказвае на дзверы)*. Хлопчыка глядзяць. А што?

Вадзім. Ну і мяце!

Медсястра. Даўно на Палессі такой зімы не было. Учора адзін ногі памарозіў. А ты адкуль?

Вадзім паказвае пальцам угору.

У цябе захварэў хто?

Вадзім. Як яна прыехала?

Медсястра. На трактары. Чым жа яшчэ сюды дабярэшся? Паехала я па яе на санях, а назад — намяло, конь не ідзе. Пайшла яна да начальніка — давай трактар. Той — куды там, гаварыць не даецца. Яна і так і сяк, а ён — не. Тады яна як грукне кулаком па стале, а на стале шкло — толькі пырскі ва ўсе бакі. Хацеў у міліцыю паведамляць.

Вадзім. Даў?

Медсястра. А як жа. У райком пазваніла. Тады той гаворыць: «Глядзі, доктар, каб ваўкі не з'елі». А яна: «Калі з вамі зладзіла, дык з ваўкамі спраўлюся».

Вадзім. Лыжы ніхто не сцягне?

Медсястра. Гэта ж не горад. Людзі свае.

Вадзім выходзіць. З суседняга пакоя паказваюцца Інга і малады ўрач Лапкіна.

Інга. Будзем аперыраваць. Рыхтуйце хлопчыка.

Медсястра ківае і выходзіць.

Лапкіна *(здзіўлена)*. Тут?

Інга. Умовы не ідэальныя. Але што рабіць?

Лапкіна. Мы нават патрэбнага інструменту не маем.

Інга. Самі калі-небудзь аперыравалі? *(Мые рукі.)*

Лапкіна. Хірургію я не любіла. Калі можна было, уступала асістыраваць іншым.

Інга. Прамерзла ў лесе да костачак... *(Усміхаецца.)* Калі раптам... адчую сябе дрэнна, увядзіце мне стрыхнін. Добра?

Лапкіна *(заклапочана)*. Вам нездаровіцца?

Інга *(весела)*. Ды не. Прамерзла, стамілася...

Лапкіна. Дык, можа, не трэба брацца?

Інга. Вы ж урач. Калі б ляснік нас не сустрэў... Паглядзіш — агеньчыкі... Пад'едзем — нічога няма. Міраж нейкі...

Лапкіна. Ваўкі.

З'яўляецца Вадзім.

Вадзім. Гэта ж трэба,— на каляды такое надвор'е! Відаць, пара архангелам на пенсію.

Лапкіна. Вам каго?

Інга *(радасна)*. Вадзім? Як ты знайшоў?

Вадзім. Расказаў зайцам анекдот пра мядзведзя. Двое памерлі на месцы, а трэці не зразумеў і згадзіўся паказаць дарогу... Чаму ў вас няма ёлкі?

З'яўляецца Капарыха, пажылая панурая жанчына.

Лапкіна. Капарыха, маці хлопчыка.

Інга *(Капарысе)*. Страшнага нічога няма. Але трэба аперыраваць.

Капарыха. Гэта што — рэзаць? Жывое цела? Не дам.

Інга *(сумеўшыся)*. Як гэта?

Капарыха. Маё дзіця, мая родная крывінка. Бачыць бог — не дам.

Інга. Паслухайце, матуля, калі не зрабіць аперацыі...

Капарыха. Усё ў руках госпада нашага.

Інга. Гэта... ваша дзіця?

Капарыха. Ён раб божы.

Лапкіна. У вёсцы ёсць мурашкаўцы, сектанты.

Інга. Зразумейце, толькі хуткая аперацыя выратуе хлопчыка ад удушша.

Капарыха. Боская воля. Бог даў — бог возьме. Што людзі могуць? *(Інзе, раз'юшана.)* Маліцеся богу! Кожнаму хочацца жыць... Маліся, дачка, богу! Толькі бог, толькі бог...

Інга расцірае скроні.

**Вадзім.** К д'яблу! *(Паказвае на Інгу.)* Вось твой бог! Усё ад яе залежыць.

Убягае **медсястра.**

**Медсястра.** Доктар, хлопчык ужо вочкі закочвае.

**Інга.** Вы чулі? *(Робіць некалькі крокаў, хістаецца, асядае на табурэтку.)*

Вадзім і Лапкіна яе падтрымліваюць, медсястра падае на ватцы нашатырны спірт.

**Капарыха** *(радасна).* Божачка забярэ яго да сябе!.. Ён будзе з анёламі. Аддайце дзіцятка, слязінку маю горкую.

**Лапкіна.** Толькі пад распіску.

**Капарыха.** Што — крыжыкі на паперку паставіць? Рукі адсохнуць.

**Інга** *(рэзка).* Ніякіх распісак!.. Не ведаю, як вас пераканаць!..

**Капарыха** *(пачынае шумець.)* Аддайце сынка дабром, госпадам богам малю!

**Вадзім.** Дабро для яго — аперацыя. І хопіць!

**Капарыха.** Ліхадзеі! Толькі паспрабуйце рэзаць...

**Медсястра** выводзіць **Капарыху.**

**Лапкіна.** Раскажа сваім. Тыя могуць сюды ўварвацца, вокны пабіць.

**Вадзім.** Парадоксы стагоддзя. Для разнастайнасці.

**Лапкіна.** Калі мы хадзілі па вёсцы і рабілі прышчэпкі, яны запіралі аканіцы на засаўкі і спускалі сабак з ланцугоў.

**Інга.** Аперыраваць! *(Зноў мые рукі.)*

**Лапкіна.** Як маці не згодна, не маем права... Калі няўдача — крымінал.

**Вадзім** *(Лапкінай).* А вы добра вывучылі юрыспрудэнцыю.

**Лапкіна.** Такое жыццё. Вы паедзеце, а я...

**Інга.** Жыццё, уявіце, не толькі такое... Адказваць за ўсё буду я.

**Лапкіна.** Паслухайце, вы тут другі год. І другі год участковыя ўрачы не маюць спакою. Нашто вам гэта?

Інга. Зарабляю характарыстыку. Для аспірантуры...

Уваходзіць медсястра.

Медсястра. Можна пачынаць.

Святло паступова гасне.

Інга. У чым справа?

Лапкіна. У клубе кіно скончылася. Рухавік выключылі.

Інга. Нам неабходна святло.

Лапкіна. Зося, збегайце і ўгаварыце механіка.

Медсястра *(запальвае свечку)*. Не згодзіцца. Яго Юльчына Алена чакае.

Вадзім. Скажыце, доктар Лапкіна абяцала даць спірту.

Медсястра. Паспрабую... *(Выходзіць.)*

Лапкіна накіроўваецца ў суседні пакой.

Інга *(глядзіць на свечку)*. Вось і каляды... Я рада табе, снежны чалавек.

Вадзім. А ты падобная на снягурачку... Інга...

Інга *(перабівае)*. Сектанты — няшчасныя людзі.

Вадзім. Ты ведаеш, што я хачу сказаць?

Інга. Мы некалі дамаўляліся, што не будзеш няньчыць.

Вадзім. Ты наўмысля сябе перагружаеш. Навошта?

Інга. Навошта, чаму, адкуль... пытанні для малых — ад двух да пяці. Што Светка робіць?

Запальваецца святло.

Вадзім. Гатуе грыбны суп. Такі суп — смаката...

Інга. Ну, пара. *(Падстаўляе шчаку для пацалунка.)* Даведайся ў зайцоў дарогу дадому.

Вадзім. Я з табою.

Інга выходзіць у суседні пакой. З'яўляецца медсястра. Падумаўшы, замыкае дзверы і ідзе да ўрачоў.

Вадзім *(ходзіць па пакоі, пачынае чытаць газету, зацікавіўся)*. «Агенцтва ЮПІ паведамляе, што доктар Эрых Крамер, які прымаў у гады вайны ўдзел у эксперыментах над вязнямі канцлагера Дахау, прызначаны спецыяльным саветнікам НАТА».

Марудна цягнецца час. Вадзім ходзіць, раптам да нечага прыслухоўваецца. Чуецца моцны стук у дзверы.

Г а л а с ы.— Адчыняй!
— Выламім дзверы!

Вадзім марудзіць, потым бярэ качаргу і накіроўваецца да дзвярэй. З'яўляецца напалоханая м е д с я с т р а.

М е д с я с т р а. Стойце!.. Доктару дрэнна...

## Карціна адзінаццатая

Прайшло некалькі месяцаў. Ранняя халодная вясна. Кватэра І н г і і В а д з і м а на Палессі. Ноч. Світае. Інга цяжка хворая. Яна ў суседнім пакоі. Туды дзверы налева. Яшчэ ёсць дзверы направа — у кухню і на двор. Гарыць настольная лямпа. За сталом, абапёршыся на руку, сядзіць В а д з і м. Ён нібы акамянеў, глядзіць у адну кропку. З пакоя, дзе знаходзіцца Інга, ціхенька выходзіць С в я т л а н а. Яна разбірае шпрыц, кладзе ў стэрылізатар.

С в я т л а н а. Мне ніхто не званіў?

Вадзім не адказвае.

Ужо раніца. Пагасі святло. Яна цябе кліча. *(Адносіць стэрылізатар на кухню, вяртаецца.)*

В а д з і м *(не мяняючы позы)*. Святлана, няўжо гэта ўсё?

С в я т л а н а. Не ведаю. У звычайную клініку гэта не кладзецца. Думаю пазваць кансультанта.

В а д з і м. Што яшчэ можна зрабіць?

С в я т л а н а. Ты паказваў яе спецыялістам, даставаў самыя новыя прэпараты...

В а д з і м. Паўгода ляжыць. Амаль паўгода...

С в я т л а н а *(здзіўлена, ціха)*. Што ты сказаў?

В а д з і м. У месяцы чатыры тыдні, а ў тыдні сем дзён...

С в я т л а н а. Ідзі да яе.

В а д з і м. Потым.

С в я т л а н а. Ідзі.

Вадзім не рухаецца.

*(Ходзіць па пакоі, быццам спакойная.)* Што ж. Усё правільна. Думаў — як у басейне. На старт, марш — і праз дзве мінуты кветкі, падарункі, слава на ўсю рэспубліку. Раскіс!..

Паўза.

В а д з і м. Яна не павінна бачыць мяне такім.

С в я т л а н а *(нервова ўсміхаючыся)*. Толькі падумаць — я лічыла яго за ідэал мужчыны!..

В а д з і м. Чаго ты хочаш?

С в я т л а н а. А!.. Калі яна адчуе, што ты... Твая вера — апошняе.

Звоніць тэлефон.

*(Падыходзіць, здымае трубку.)* Міжгародняя?.. Так, я заказвала. *(Радасна.)* Тата? Ой, як дрэнна чуваць... Вось цяпер лепш... Як ты там?.. Што яшчэ новага?.. Дасталі сіамскага ката? Будуць кацяняты — аднаго абавязкова забяру... *(Паказвае Вадзіму на дзверы ў кухню.)* Шпрыцы перакіпяць.

В а д з і м выходзіць.

*(У трубку, ціха.)* Татачка, цяпер слухай. Сімптомы тыя ж, што і ўчора. Тэмпература трыццаць восем і сем. Ціск дзевяноста пяць на пяцьдзесят. Так... так... Не, не назіраецца. Антыбіётыкі тыя ж?.. Угу... Добра... У мяне ўсё ў парадку, не хвалюйся. Цалую, родны. *(Кладзе трубку.)*

Уваходзіць В а д з і м, сядае да стала.

В а д з і м. Калі прыедзе кансультант?

С в я т л а н а. Аскольд? Недзе ў канцы месяца.

В а д з і м. Што? Той самы? *(Пасля паўзы.)* Няхай хто другі.

С в я т л а н а. Без глупства. Ніхто лепш за Аскольда ў гэтым не разбярэцца. *(Усміхнуўшыся.)* Раўнуеш?.. Вадзім, усё-такі ўгавары яе ехаць у клініку. Цяпер гэта неабходна. *(Выходзіць на кухню, хутка вяртаецца, пачынае апранацца.)* Зноў тая сектантка прыходзіла. Мёду берасцяначку прынесла і соку кляновага. І заўсёды ўпотай. Цікавая жанчына. Учора ўбачыла яе і гавару: «Інга зрабіла аперацыю хлопчыку, дык за гэта ёй плоцяць».— «Тое, што яе сардэчныя ручачкі сатварылі, не купіш ні за якія грошы». Пытаюся, што новага ў секце. «А гэта, дачушка, не твайго розуму справа». Траву нейкую ўсё мне ў рукі совала. «Рабі настой і давай піць, калі ўзыходзіць сонейка». Чуў бы гэта мой прафесар... Ну я пайшла. Пяціхвілінка. *(Выходзіць.)*

З'яўляюцца д в о е м у ж ч ы н у кажухах — гэта буравікі.

П е р ш ы. Паслухай, дарагі, хірург дзе жыве?

В а д з і м. Тут.

Д р у г і *(за дзверы)*. Сюды!

Увальваецца яшчэ н е к а л ь к і б у р а в і к о ў.

Вадзім. Ідзіце ў бальніцу. Гэта за бярозамі.

Першы. Ты не зразумеў. Нам хірург патрэбен. Жанчына, такая маладая, прыгожая...

Вадзім. Яна... яе няма. У горадзе.

Першы. Што ты гаворыш? Вай-вай... А ты яе муж?

Вадзім. Муж.

Першы. Дарагі, ты для мяне...

Другі. Браток, выпі з намі... *(Выцягвае бутэльку шампанскага, пластмасавыя стаканчыкі.)*

Вадзім. Што трэба, хлопцы?

Трэці *(налівае)*. Мы буравікі...

Другі. За медыцыну.

Чацвёрты. За Мамедава. Не было б Мамедава, не было б нафты. *(Падае Вадзіму стаканчык.)*

Павагаўшыся, Вадзім бярэ, паглядае на дзверы, дзе Інга.

Трэці. За чалавека, які... Калі яна нашага Мамедава... яго самазвалам... з таго свету выцягнула...

Галасы. Праўда.

— Тры ночы не спала.

— Не доктар — канцы Мамедаву і канцы нафце.

— Мамедаў, добра цябе залатала?

Першы *(выходзіць у цэнтр)*. Паглядзі... *(Згінае рукі.)* Бачыў, га? *(Прысядае.)* А гэта бачыў, га? *(Прытанцоўвае.)*

Пяты. Мамедаў! Яна зрабіла цябе вышэйшым!

Чацвёрты. Яшчэ б! Косці з пластмасы паставіла.

Першы. Так і сказала — у гэтых месцах пераломаў больш не будзе. *(Вадзіму.)* Усё, што ёсць у мяне... так... тваё.

Трэці *(узрушана)*. Ды што тут гаварыць... За яе здароўе! *(Намерваецца піць.)*

Пяты. Вось дае! Доктару — здароўя.

Усе шумна п'юць. Вадзім глядзіць на дзверы, хоча выпіць.

Вадзім. За вашы пластмасавыя косці.

Трэці. Ну і за нафту, вядома.

Вадзім. Што?

Трэці. Пад намі, разумееш, мора нафты. Учора ўдарыў фантан... За каршэнь, на галаву — як негры! Выдатная... Хоць ты пі яе. Праўда, Мамедаў?

П е р ш ы. Ён гаворыць, зробім аналіз. Я гавару, не трэба. Узяў на пальцы. Так? Панюхаў. Так? На язык. Так? Паглядзеў на сонца і кажу — добрая нафта. Мамедаў ніколі не памыляўся. Спытай у Татарыі, на Волзе. Пра Каспій не гавару.

Ч а ц в ё р т ы. Я жонцы напісаў — будзе дачка — назавём Нафтусяй.

П е р ш ы. Мы там, разумееш, казу прывялі.

В а д з і м. Казу?

П е р ш ы. Дзікая каза, ледзь не алень. Прывязана. Завесці сюды, га?

Т р э ц і. Няхай там будзе, Мамедаў.

П е р ш ы. А ў калідоры — скрынка з персікамі і хурмой. Маці піша, няхай жыццё ў доктара будзе салодкае, як наша хурма... Ах, чаму не засталі...

Д р у г і. Хадзем. Уваліліся...

П е р ш ы. Жыццё добрае, калі ёсць такія людзі, як доктар, праўда?

Т р э ц і. Хадзем, браточкі, хадзем...

П е р ш ы. Калі што трэба — кліч Мамедава. Зраблю ўсё...

Б у р а в і к і выходзяць. Вадзім марудна завязвае фартух.

## Карціна дванаццатая

Пакой Інгі. І н г а ляжыць у пасцелі і глядзіцца ў люстэрка. Навокал параскіданы кнігі, часопісы, лісты з запісамі. Уваходзіць В а д з і м. У руках у яго паднос, на якім кубкі, спodкі, ваза з кветкамі.

В а д з і м. Ніколі не думаў, што ў мяне кулінарны талент. Паспытай і пераканаешся.

Інга кладзе люстэрка, глядзіць міма.

*(Падыходзіць да пасцелі і ставіць паднос на столік.)* Спачатку таблеткі. Потым выпі соку. Што ні кажы, а быць урачом — найлепшая справа.

Інга не рэагуе.

Нішто не робіць чалавека такім высакародным, як хвароба. Раней насілася па раёне, ваявала з бюракратамі за лабараторыю, страшыла фельчараў за антысанітарыю... А цяпер — проста святая. Кветкі ад Воранава. З цэха каталізатараў. Ты яго аперыравала. У яго

сімпатычная жонка. Памятаеш? Калі паправішся, пабываем у іх.

І н г а. Не, Вадзім. Такога не будзе.

В а д з і м. Не выдумляй. Збоку лепш відаць. Прачытаць табе Джэка Лондана? Вельмі люблю яго — пісаў кароткія рэчы.

І н г а. Баліць галава.

В а д з і м. Вядома,— тэмпература.

І н г а. Увесь час летуценні, летуценні...

В а д з і м. Цікава! Тэлевізар не патрэбен.

І н г а. Ляжала і ўспаміналa сябе маленькай. Бацька вазіў мяне да рэчкі. Там было поўна гарлачыкаў... Адкуль гэты звон?

В а д з і м. Які звон?.. А... На будоўлі. Мантаж чэшскага абсталявання. Добра, што напомніла. *(Ставіць на столік будзільнік.)* Вось, купіў. Цяпер не прасплю на работу. Спадабалася, што не чуваць цікання. Прычасаць цябе?

І н г а. Хочаш праверыць, ці выпадаюць валасы? Вадзім, што цябе тут трымае?

В а д з і м. Добрае паляванне. Учора галоўны дзіка забіў.

І н г а. Я так стамілася... Ты... яшчэ верыш? Толькі не мані.

В а д з і м. Тое, што я тут, хіба не доказ?

І н г а. Не хапае мужнасці.

В а д з і м. Хочаш, каб я паўтараўся?

І н г а. І... цяпер?

В а д з і м *(лашчыць яе рукі, пяшчотна папраўляе валасы)*. Яшчэ мацней. Калі ты слабая, бездапаможная...

І н г а *(жорстка)*. Так і ведала!.. Гэта не каханне.

В а д з і м. Дзіўна. Чамусьці іншыя лепш за мяне ведаюць пра мае пачуцці. *(Пераканана.)* Усё будзе добра, дзяўчынка. Пераможам. І не думай пра бязглуздзіцу.

І н г а. Бязглуздзіца... *(Глядзіць на нумар на руцэ.)*

В а д з і м. Свет ідзе да лепшага. І мы гэта ўбачым.

І н г а. А ты... ведаеш формулу маёй крыві?

В а д з і м. Ведаю. Мяне гэта не пераканае.

І н г а. Фанатызм — сляпая вера.

В а д з і м. Уступай у маю секту.

І н г а *(пасля паўзы)*. Не, Вадзім. Паядынак выйгралі не мы. І з керомай не паспела. Святлана ўжо сама...

**Вадзім** *(сядае побач)*. Давай шчыра. *(Выразна.)* Яшчэ не было, разумееш, не было выпадку, каб я чаго-небудзь моцна хацеў і не дабіўся.

**Інга.** Па псіхатэрапіі ў мяне была пяцёрка.

**Вадзім** *(сядае бліжэй)*. Інга, на свеце нас толькі двое. Дык давай трымацца разам! Пакуль ты са мною, табе нішто не пагражае! Толькі ты павінна мне памагчы. Пакажы свой характар.

**Інга.** Вадзім, у мяне да цябе просьба.

**Вадзім** *(з гатоўнасцю)*. Калі ласка.

**Інга.** Едзь адсюль.

**Вадзім.** Гэта ад недахопу ў арганізме цукру і фосфару. Будзеш добра есці, прыдумаеш што-небудзь больш арыгінальнае. *(Падае сподак.)* Еш, кацянё. Тут многа жалеза.

**Інга.** Табе патрэбна здаровая жанчына.

**Вадзім** *(рэзка)*. Разумная! Але бачу — памыліўся.

**Інга.** Калі ты гаворыш, што ў Воранава сімпатычная жонка...

**Вадзім** *(злосна)*. Вы, медыкі, ханжы! Гаворыце пра Паўлава, а думаеце па Фрэйду.

**Інга.** Вадзім, табе прапанавалі спецыялізавацца па электроніцы.

**Вадзім.** Ведаю гэтую спецыялізацыю. Прымітыў, учарашні дзень навукі.

**Інга.** Калі застанешся праз мяне...

**Вадзім.** Праз цябе? Электроніка — не мая стыхія.

**Інга.** Хачу паслухаць музыку.

**Вадзім.** Даўно б так. *(Падыходзіць да століка, на якім стаіць прайгравальнік і пласцінкі.)* Пашукаем Гершвіна...

**Інга.** Пастаў Моцарта.

**Вадзім** *(разглядае пласцінкі)*. Моцарта? Здаецца, мы некаму яго аддалі. Я знайду «Блакітную рапсодыю»...

**Інга** *(ціха, але настойліва)*. Пастаў Моцарта. І не ўздумай разбіць.

**Вадзім.** Інга, трэба ехаць у клініку.

**Інга.** Я ўжо гаварыла — нікуды не паеду. Ну?

Вадзім ставіць пласцінку, адыходзіць да акна. Гучыць «Рэквіем» Моцарта, частка дванаццатая, «Агнус Дэі».

Напэўна, у лесе цяпер хораша... Я хачу, каб ты ўзяў

машыну і павазіў мяне па лесе, па палях. Як-небудзь перад заходам сонца.

Вадзім *(падыходзіць да пасцелі).* Навошта ты стараешся дапячы мне?

Інга. Дзе ты быў пасля работы?

Вадзім. Хлапчукі гулялі ў футбол. Глядзеў, а потым падключыўся. Нават гол забіў!.. Плаваць няма дзе. Калі нічым не займацца... *(Ходзіць, робіць практыкаванні.)*

Інга. Як я цябе... ненавіджу...

Вадзім *(спрабуе жартаваць).* Калісьці... мы прайшлі праз гэты этап.

Інга адварочвае твар да сцяны.

*(Глядзіць на Інгу, павольна адыходзіць да акна, разводзіць рукамі).* Тады гэта ўсё... марна. *(Выходзіць, не гледзячы на Інгу.)*

Некаторы час Інга ляжыць спакойна, аглядае пакой, доўга глядзіць на будзільнік — стрэлкі спыніліся. Раптам хапае яго, прыкладвае да вуха, сядае, трасе, зноў прыкладвае і ўпускае долу. Інзе здалося, што Вадзім пайшоў назусім. Як яна ні рыхтавала сябе да канца, вострая думка працінае яе: паедзе Вадзім — яна памрэ.

Інга *(у неверагодным жаху).* Ва-дзі-і-ім!!!

Ціха. Інга спрабуе ўстаць, але раптам падае на ложак, страціўшы прытомнасць. Уваходзіць Вадзім з плашчом у руцэ.

Вадзім. Я ў сектар растваральнікаў... Святлана зараз прыйдзе. *(Глядзіць на Інгу, падыходзіць.)*

У Інгі ніякіх адзнак жыцця.

Інга... *(Кідае плашч, хутка падыходзіць да пасцелі, бярэ яе руку. З незвычайнай сілай.)* Інга!.. Я не хачу. Чуеш?! Я не дам... Ты не маеш... Інга!!!

Да Інгі паволі вяртаецца прытомнасць, яна сядае.

Інга *(шэптам).* Вадзім, я нічога не бачу...

Вадзім абдымае яе, Інга з усіх сіл трымаецца за Вадзіма.

Вадзім. Супакойся, я з табою. Гэта пройдзе, дзяўчынка.

Інга. Ты не паедзеш? Ты не паедзеш?

Вадзім. Усё астыла. А я так стараўся...

Інга. Цяпер лепш. Спачатку дай таблетку. Я магу і халоднае.

Вадзім. Супакойся. Кладзіся.

## Карціна трынаццатая

Кватэра Галіны ў Мінску. Святлана і Галіна.

Галіна *(паказвае пакоі).* Там Міколка з бабуляй. А ў тым мы з мужам. Вось так.

Святлана. Жывуць жа людзі! Ванная, душ, газ... Як табе працуецца?

Галіна. Хіба псіхіятры працуюць? Пішуць, пішуць... Дзённікі, выпіскі, эпікрызы...

Святлана. Мы сёння ж перавязём яе ў клініку. Няхай толькі Аскольд паглядзіць і параіць, куды лепш.

Галіна. З галавы нават выкінь. Будзеце ў нас. Дома заўсёды лепш. Як былі студэнткамі, змяшчаліся ў малюсенькім пакойчыку, а тут... *(Падыходзіць да дзвярэй, прачыняе, вяртаецца.)* Інга спіць.

Святлана. Чаму не ідзе Аскольд?

Галіна. Сынок у мяне цудоўны. Усе дзеці пачынаюць: «Дай, дай...» А ён: «На, на...» Ніколі не думала, што так буду любіць дзіця. Але намучылася — пяць кілаграмаў сто!

Святлана. Ты... шчаслівая з мужам?

Галіна. Цяпла не хапае на гэтай зямлі. Звычайнага чалавечага цяпла. Усе стараюцца быць сучаснымі, хаваюць пачуцці, хаваюць, а потым не ведаюць, дзе іх знайсці... Інзе пашанцавала.

Святлана. Пашанцавала... *(Глядзіць у акно.)*

Галіна. Не думаеш перабірацца сюды?

Святлана. А ведаеш, мы робім цікавыя доследы па кероме...

Галіна. Што ў цябе з Максімам?

Святлана. Мне заўжды падабаліся людзі, у якіх двойчы два — пяць. У яго — чатыры, заўсёды чатыры... Я хутка гэта зразумела. Аскольд збіраецца жаніцца?

Галіна. Смяешся! Калі ты напісала, зімою, я была ў інстытуце. Цэлы горад пабудавалі... Расказала пра Інгу, а ён: «Цікавы выпадак...» Кажу, трэба нечым памагчы, а ён: «Яны ведалі, што іх чакае». Такі ж. Выпадак, мадэль, сістэма — і толькі... Страшна падумаць, я хацела стаць яго жонкаю. Як табе ўдалося зацягнуць яго сюды?

Святлана *(падышла да акна).* Ідзе!

Галіна. Пабуджу Інгу.

Святлана выходзіць. Галіна таропка папраўляе валасы, ідзе ў суседні пакой. З'яўляюцца Аскольд і Святлана. Уваходзіць Галіна. Аскольд вітаецца кіўком.

Аскольд. Дзе?

Галіна. Там.

Аскольд марудзіць, потым накіроўваецца ў пакой да Інгі. Святлана ідзе за ім. Хутка Святлана вяртаецца.

Святлана. Я не магу...

Галіна. Добра, што ў такі момант мы разам.

Святлана. Гала, тады ты мела рацыю — яны кахалі адзін аднаго.

Галіна. Не ўспамінай. Зацямненне было...

З'яўляецца Вадзім.

Вадзім. Я купіў сёе-тое ў магазіне.

Галіна. Ох, гэтая вёска... Ды ў гэтым доме ёсць усё.

Святлана. Вадзім, там Аскольд.

Вадзім ідзе ў пакой да Інгі.

Пачакай. *(Рашучым жэстам паказвае, каб Вадзім аставаўся тут.)*

Вадзім *(спыняецца)*. Даўно?

Святлана. Не.

Вадзім. У яе ўзялі кроў для аналізаў. Што ён сказаў?

Святлана. Нічога. Маўчыць.

Галіна *(прыслухоўваецца)*. Так і ёсць — малако пабегла. *(Выбягае.)*

Доўгая паўза. Вадзім ходзіць з месца на месца.

Святлана. Перастань кідацца. Сядзь.

Вадзім. Калі мы знаходзіліся ў эвакуацыі, у вёсцы быў аднарукі паштальён. Ігнат. Часта прыносіў пахавальныя. Варта яму зайсці ў дом, як усе нямелі ад страху...

З'яўляецца Максім з партфелем.

Максім. З прыездам. *(Падыходзіць да Вадзіма, паціскае руку.)*

Святлана. Які халодны чэрвень... Няхай яна ўключыць што-небудзь. *(Ідзе да Галіны.)*

Вадзім. Сядай.

М а к с і м *(сядае).* А я збіраюся да вас, на балоты. Нафта ўнесла і ў нашы разлікі папраўкі. Чым вы туды дабіраецеся?

В а д з і м. Па-рознаму.

М а к с і м. Яна там? *(Паказвае.)*

В а д з і м. Там.

М а к с і м *(дастае бутэльку віна).* За ўсё лепшае?

В а д з і м выходзіць і прыносіць дзве шклянкі. Максім налівае. П'юць.

Ну, як ты жывеш?

В а д з і м. Усё жыццё гэтае пытанне ставіла мяне ў тупік.

М а к с і м. Відаць, даводзіцца быць дыпламатам. «Так» і «не» не гаварыць, «белага» і «чорнага» не называць.

В а д з і м. А ты псіхолаг, Зюзік.

М а к с і м *(нерашуча).* Вадзім, у нас ствараецца новае канструктарскае бюро, перспектыўнае. Твой профіль. Такога інжынера абедзвюма рукамі схопяць. Я сёння ж пагавару са сваімі.

В а д з і м. Не будзем пра гэта.

М а к с і м *(больш настойліва).* Ты — выдатны спецыяліст, а марнуеш сілы... Даруй, выпадкова даведаўся. Прараб...

В а д з і м. Гэта часова. Шкада толькі — няма басейна. *(Налівае, п'е.)*

М а к с і м. Два гады... *(Жорстка.)* Не магу сабе дараваць, што тады не ўтрымаў цябе. Адмовіцца ад стварэння лініі, за якую столькі змагаўся... Пра хлопцаў шумелі газеты, тэлебачанне... Вадзім, сівізна ў валасах?!

В а д з і м. Цяпер гэта модна.

М а к с і м. Але ж існуюць навука, вопыт... Згодна з фармальнай логікай...

В а д з і м. Апрача фармальнай, ёсць дыялектычная.

М а к с і м. Спадзяешся выйсці ў героі?

В а д з і м. Поспехі ў плаванні зрабілі мяне славалюбам. *(Зноў п'е, устае, ходзіць, паглядае на дзверы, дзе Інга.)*

М а к с і м. А я стаў начальнікам аддзела, зарабляю кучу грошай, а штосьці «не тае». Але і там я не быў бы шчаслівы. Дыялектыка?

В а д з і м. Пагавары са Святланай.

Максім *(выпівае)*. Учора паставілі кропкі над «і». «Ты добры, харошы, але шэранькі, без крылляў. Вось Вадзім, Аскольд...» Вадзім, пакажы, дзе ў цябе крылы...

Вадзім. Хочаш, пагавару з ёю?

Максім. Хутка зразумееш, што і табе не ўсё падуладна... Проста табе больш шанцавала. А я заўсёды вёў няспынны, жорсткі паядынак са сваімі жаданнямі.

Вадзім. У цябе нервы... *(Налівае, п'е.)*

Максім. Усе мы памечаныя вайною. Не пі больш...

Вадзім. Пры чым тут вайна.

Максім. Калі ў Інгі вайна ў крыві, дык у іншых... А!..

Вадзім. Час — лепшы лекар.

Максім *(горка ўсміхнуўшыся)*. Усё наша пакаленне памечана крыжам — голадам, хваробамі, жахам... Ты не задумваўся, чаму цяпер так многа захворванняў? Толькі тыя, хто прыйдзе пасля нас, будуць здаровыя, значыцца, і шчаслівыя.

Вадзім. Ты гаварыў гэта Святлане?

Максім. Мне не патрэбна міласэрная сястра. Вадзька, ты мне даруй... Нядаўна Святлана была тут, і Аскольд ёй сказаў, што гэта хутка скончыцца. Табе трэба ведаць.

Доўгая паўза. Вадзім бярэ Максіма за борт пінжака.

Вадзім. Паправіцца Інга, пастаўлю медыкаў перад фактам... І паляцяць дысертацыі, набраныя артыкулы... Займаўся альпінізмам?

Максім. Не даводзілася.

Вадзім. Мы ўсе ў адной звязцы. Калі хто зрываецца, трэба ўтрымаць. Любой цаной... *(Адпускае Максіма.)*

Максім. Паміж хачу і магу — адлегласць...

Вадзім. Я задумаў: паправіцца Інга — не будзе вайны... Глупства, праўда? І яшчэ — калі здарыцца бяда, дык і мне... Жыццё блізкага чалавека — галоўнае...

Максім. Некалі ты асуджаў высокія словы.

Вадзім. Я іх вымыў. Як пялёнкі. Там Аскольд.

Максім. Ёй... вельмі цяжка?

Паўза.

Вадзім. Зараз ён выйдзе... Што мне з ім зрабіць?

Максім разводзіць рукамі. Уваходзяць Галіна і Святлана.

Святлана. Ён яшчэ там?

Галіна. Ну і холад. Памятаеш, былі студэнткамі, і стаяла такое ж халоднае лета.

Максім. Вам наліць?

Святлана. Як вы можаце...

Максім *(Вадзіму)*. Цябе я не пазнаю. Святлана стала іншая... Што адбываецца?

Дзверы адчыняюцца, і павольна выходзіць Аскольд. Доўгая паўза чакання і страху.

Аскольд. Незразумелы, неверагодны парадокс...

Святлана. Што?

Аскольд. Адзін на мільён. Не больш.

Святлана. Аскольд, я нічога не разумею!

Аскольд. Здаецца, яна будзе жыць.

Вадзім. Што вы сказалі?

Аскольд *(доўга глядзіць на Вадзіма, потым адводзіць позірк убок)*. Хвароба праходзіць.

Вадзім *(баючыся памыліцца)*. Як — праходзіць?

Аскольд. Ачуньвае.

Вадзім. Вы... сур'ёзна?

Аскольд. Я не знаходжу ў яе адзнак хваробы.

Вадзім *(падыходзіць да Аскольда)*. Яна... ведае?

Аскольд ківае. Вадзім кідаецца ў пакой, па дарозе перакуліў крэсла. Святлана не можа стрымаць плачу.

Галіна *(у жаху)*. А?! Я зразумела...

Аскольд. Дзіўна, вельмі дзіўна... Чым вы яе лячылі?

Святлана. Чым лячылі? *(Іранічна.)* Не ведаеш, чым гэта лечаць?

Аскольд *(задуменна)*. Гэты хлопец зрабіў тое, што не ўдавалася нікому. Закрэсліў чатыры крыжы...

Святлана. Аскольд, што ёй магло памагчы?

Аскольд. Той, хто адкажа на гэтае пытанне, варты Нобелеўскай прэміі...

Галіна. Усё гэта... Не ўкладваецца...

Максім. Неверагодна...

Аскольд. Святлана, ці не было моцнага нервовага ўзрушэння?

Святлана. Быццам не.

Аскольд *(закурвае).* Зрэшты, мабілізацыя ахоўных сіл магла быць выклікана рознымі прычынамі... Не так даўно ў «Сайенс» было цікавае паведамленне. Захварэў марскі лётчык. Англійскія ўрачы выпрабавалі ўвесь арсенал сродкаў і, пераканаўшыся, што нічога не дапамагло, адправілі дадому, фактычна паміраць. І раптам ён пачаў ачуньваць, быў зусім здаровы, працаваў. Але праз тры гады... раптоўна памёр.

Святлана. Ты хочаш сказаць, што гэта... толькі адтэрміноўка?

Аскольд. Баюся што-небудзь сцвярджаць. Але першы тайм яна выйграла. Гэта бясспрэчна. *(Збіраецца ісці.)*

Святлана. Паабедаеш з намі, га?

Аскольд *(задуменна).* Яна стала яшчэ прыгажэйшая. Нягледзячы на хваробу... Інга, сонечны зайчык...

Галіна *(пасля паўзы).* Мне здаецца, Аскольд, тады ты паставіў няправільны дыягназ.

Аскольд *(здзіўлены).* Я — памыліўся?!

Галіна. Так. Хоць даказаць гэта немагчыма.

Аскольд. Але хто з тых, каму я тады... застаўся жывы? Я мог памыліцца, дапусцім, у іншых выпадках, але не тут. Што адбылося — не ведаю.

Галіна. Ты чагосьці не ўлічыў. У яе была цяжкая, вельмі цяжкая хвароба. Але не гэтая.

Аскольд. Глупства, трызненне...

Галіна. Чаму ты такі разгублены?

Аскольд. Ты разумееш, што гаворыш? Ды і хто ведае гэта лепш — ты ці я?

Святлана. Давайце будзем абедаць.

Галіна. Адышоў ад людзей, адмовіўся ад кахання. І жыццё адпомсціла табе. Нават навука, твая навука цябе пакарала.

Аскольд. Я раблю гэта дзеля соцень такіх, як яна.

Галіна. Гуманізм без чалавека... Было.

Аскольд. Мы яшчэ не ведаем, чым гэта скончыцца.

Максім. Святлана, а ў нас не атрымалася. Чаму?

Святлана. Не трэба Максім... Сядай да стала.

Максім. Пачалося ў іх несур'ёзна, праз глупства... А вось глядзі...

А с к о л ь д *(Святлане).* Мне спадабаўся ўзровень вашых даследаванняў па кероме. Захочаш у наш інстытут — калі ласка.

З'яўляецца В а д з і м.

В а д з і м. Я выпадкова чуў вашу размову пра першы тайм. Мяне гэта не палохае. Выйграем і другі. На тым стаім. *(Святлане.)* А ты можаш ехаць. У аспірантуру.

С в я т л а н а. Яна хоча, каб мы зайшлі?

В а д з і м. Няхай спіць...

З'яўляецца І н г а, яна слабая, трымаецца за спінку крэсла.

І н г а *(з дакорам).* Лімоны, я прасіла лімоны.

В а д з і м. Пара, калі хворым дагаджаюць, скончылася.

І н г а. Святлана, ніколі не выходзь замуж...

С в я т л а н а. Ты праўду кажаш, добрыя мужы — рэдкасць.

І н г а. Глядзіце, сонца... Якое чыстае сонца...

*Заслона.*

А ў зале, у калідорах, у вестыбюлі гучыць фінал Пятай сімфоніі Бетховена.




Драма ў дзвюх частках

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

П а в е л — малады партызан, дэсантнік.
Ф р а н э к — начальнік разведкі.
З у б а ў — камандзір партызанскага атрада.
Г а н н а — разведчыца, яго дачка.
М о н і ч — начальнік асобага аддзела.
К р ы с ц і н а — млынарыха, жанчына трыццаці гадоў.
А л і м п і я — яе цётка па мужу.
К у з н е ч ы к — дзядзька Васіль.
Ч а р н у х а
Г р ы н ь
Д а м а р а д
М а к с і м ч ы к
Г а л а л о б
} партызаны.

Дзея адбываецца ў адным з заходніх раёнаў Беларусі ў 1942 годзе.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### Карціна першая

З у б а ў *(накульгваючы, выходзіць з палкаю на авансцэну).* Калі начамі ныюць старыя раны і няма надзеі заснуць, перад вачамі, як у кіно, плывуць успаміны... У апошнія дні — усё часцей... Чаму я не магу гэта забыць? Былі ж падзеі больш... Мінула чвэртка стагоддзя. Іншы раз я думаю — калі б не вайна... Але вайна была, не мы яе распачалі, і кожнаму часам даводзілася прымаць самае цяжкае рашэнне... Адным гэта ўдавалася. Другія... Тады, у маі сорак другога, стаяла такое ж цёплае надвор'е...

Адзінокі сялянскі двор. Пасярэдзіне паламаны млынавы круг. Вакол дома гаспадарчыя прылады. Побач хлеў, паветка, трошкі далей відаць стары вадзяны млын, бярозы. У двары пажылая жанчына А л і м п і я перабірае шчаўе, глядзіць убок, махае рукой.

А л і м п і я. Акыш, каб ты прапала. Кыш...

А л і м п і я ідзе з двара, чуваць яе голас. З'яўляецца К р ы с ц і н а, маладая прывабная жанчына. Яна абтрасае адзенне і рукі ад мукі. Бачыць на плоце дзіцячую кашульку. Павольна падыходзіць, бярэ, доўга глядзіць, разгладжвае. Вяртаецца А л і м п і я. Крысціна хавае кашульку.

А л і м п і я. Гуркі павыдзіралі... I што з імі... А, Хрысця. Усе паехалі?

Крысціна маўчыць.

Хрысця, цо мололі?

К р ы с ц і н а. Што?.. Ячмень, авёс.

А л і м п і я. Добжэ, Хрысця, што ты да нас пшыехала... Мое здрове бардзо... *(Качае галавой.)* Чыя фурманка стаяла?

К р ы с ц і н а. Міхась, з Крывічоў. Пытаўся, ці не патрэбна цёлка.

А л і м п і я. Заберуць, вшыстко едно, альбо немцы, альбо партызаны. І пенёндзаў мала. Што я табе, Хрысця, сказаць хацела? Вось галава дурная...

К р ы с ц і н а. Ездзіла да касцёлу?

А л і м п і я. Ага. Во! Дай бог памяць... Ксёндз потым адвёў мяне і кажа: «Перадай Хрысціне, хай думае пра тое, што ў біблії напісана»... Чакай... От, галава... Нешта пра немаўлятка, якое забіць хацелі... Што з табой?

К р ы с ц і н а *(пасля паўзы)*. І што ксёндз сказаў?

А л і м п і я. Я нічога не зразумела. Але ён сказаў, што ты ведаеш. І яшчэ напомніў, што заўтра субота, апошні дзень... Хрысця, што гэта?

Крысціна дастае карты, хуценька раскладвае.

Хрысця, гэта не пра нашага Янку?

К р ы с ц і н а *(варожыць)*. Не, Алімпія.

А л і м п і я. У Юркі чэсанай воўны спытай. Рукавічкі звяжу Янку. Хрысця, Хрысця, узяла б сыночка сюды. Цо за інтэрас трымаць яго на сяле?.. Не сказаць мне і адвесці цётцы Альбіне... *(Глядзіць на агарод.)* Кыш! Цо не мувіш? *(Выходзіць.)*

К р ы с ц і н а. Вар'яцею... Божачка, памажы. Малися за яго, Алімпія... Сёння ж... Усе малітвы... Хочуць, каб я заманіла партызан у пастку... Крывапіўцы... Або сына загубяць... Божачка, не магу я на гэта, не магу... *(Пасля паўзы.)* Паўла трэба чакаць! Толькі ён, на аднаго надзея... Родны мой, дзе ж ты?

Вяртаецца А л і м п і я.

А л і м п і я. Нехта ідзе. Чуеш?.. Што змярцвела?

З'яўляюцца двое партызан, Г р ы н ь і Д а м а р а д, асцярожна аглядаюць двор. Крысціна хуценька збірае карты.

Д а м а р а д. Церам-церамок, хто ў цераме жыве?

К р ы с ц і н а. Свае.

А л і м п і я. Зноў... *(Ідзе пад паветку, складвае трэскі.)*

Г р ы н ь. Цалую ручкі, пані Крысціна. Немцаў няма, пшэпрашам?

К р ы с ц і н а. Заходзьце.

Г р ы н ь. Вшыстко ў пожонтку. Давай, хлопцы! Пані Крысціна... *(Перадае кветку.)* Ад чыстага сэрца.

Дамарад. Ох, гэтыя шляхетныя манеры...
Крысціна. Дзякуй, Грынь.

У двары з'яўляюцца партызаны. Малады партызан Максімчык садзіцца ўбаку, разгортвае кнігу.

Франэк. Прывал. Дзесяць мінут. *(Разгортвае карту, глядзіць.)*
Галалоб. А ў мяне гадзінніка няма. Дзе дзесёнт, там і пеньдзесёнт. Як здрове, пані Алімпа?

Алімпія нездаволеная, нешта бубніць.

Дамарад. Крысціна, цётка твая полька?
Крысціна. Адкуль? Ходзіць да касцёлу, вось і ўсё.
Дамарад. Не падабаецца яна мне... Крысця, знойдзецца ў цябе пагрэцца?
Крысціна *(хітравата)*. Такім арлам хіба самагонкай грэцца? *(Ідзе ў дом.)*
Грынь. Нешта ў ёй ад маёй жонкі.
Дамарад. Антэк, цяпнем? Наркомаўскую норму...
Галалоб. Перад аперацыяй — ні-ні.
Франэк. Адставіць самагонку!
Дамарад *(уздыхае)*. Вось і ваюй.

З'яўляецца Крысціна з міскаю.

Крысціна. Маладая бульба.
Грынь. З кропам, са смятанай... Пані Крысціна, вы — цудоўная! Калі б не было гэтага млына, жыццё нашага атрада было б шэрае і няўтульнае...

Партызаны дружна ядуць бульбу.

Франэк. Ці думаў у палоне, што буду як усе людзі... Кінулі нам дохлага каня... Чэрві кішаць... Ты б паглядзеў, як дралі яго... А!.. Пасля палону ў асобнай кішэні патрон нашу.
Грынь. Мы ў акружэнні лісаў елі.
Дамарад. Лісаў?
Грынь. Яны ж як сабакі. Падлу ядуць. І брэшуць.

У двары з'яўляецца Ганна, маладая партызанка.

Дамарад. А, любоў мая... Вось каго вазьму ў жонкі пасля Берліна.

Ф р а н э к *(узрадаваўся)*. Ганна, паспытай. Вось гэта смачная... Што з табою?

Г а н н а. Конь утапіўся... У дрыгве.

Д а м а р а д. Той самы, дзікі?

Г а н н а. Чую, бяжыць ззаду... Ледзь адскочыла... Вочы ў яго — жах... І проста ў балота.

Д а м а р а д. Сляпы ён. Снарадам аглушаны.

Г р ы н ь. Напалохалася, відаць, бедная.

Г а н н а. Вельмі ржаў, як тануў.

Д а м а р а д. Крысціна, ты што пабляднела?

К р ы с ц і н а. Ён даўно тут бегаў, палохаў усіх.

Г р ы н ь. Можа, на змяю наступіў.

Г а л а л о б. І жывёлу вайна не абыходзіць.

Ганна падыходзіць да Франэка, нешта паказвае на карце.

К р ы с ц і н а *(Дамараду)*. Дзе Павел?

Д а м а р а д *(глядзіць на Ганну)*. Я не горшы.

К р ы с ц і н а. Скажы — ён будзе тут?

Д а м а р а д. Прыгледзься, любая пойдзе.

Крысціна адыходзіць ад Дамарада.

Г а л а л о б. Крысця, а дзе Янэк? *(Дастае дудку.)*

К р ы с ц і н а *(пасля паўзы)*. У вёсцы... У цёткі. Там дзяцей поўна, а тут... Прыгожая дудка.

Г а л а л о б. Даўно адправіла?

К р ы с ц і н а. Тыдні два. Ешце, ешце, яшчэ прынясу.

Г а л а л о б. Яму выразаў.

Д а м а р а д. Калі б яна яшчэ і грала...

Г р ы н ь. Самалёт! Рама!

Ф р а н э к. Усім схавацца ў цяні!

Партызаны праводзяць самалёт позіркам.

Чаму іменна сёння?.. Не падабаецца...

Д а м а р а д. Нічога, гáды, многа не налётаеце...

Г р ы н ь. Крысціна, малако люблю — як цяля.

К р ы с ц і н а. Яшчэ карову не даіла.

Г р ы н ь. Напалохала... Вядро дзе?

Крысціна паказвае. Г р ы н ь здымае вядро з плота і выходзіць.

Д а м а р а д. Эй, Грынь, не пераблытай карову з быкам. У быка хвост даўжэйшы.

Ф р а н э к. Развесяліліся! Рана званіць у лапці.

Д а м а р а д. Заданне — прагулка. Хіба гэта ахова

для поезда? Калі хочаш, Ганчыны звесткі — палавіна ўдачы.

Ф р а н э к. Дамарад, еш квас з грыбамі, трымай язык за зубамі. *(Глядзіць на Алімпію.)*

Д а м а р а д. Ну, да...

Ф р а н э к. Нуда горш за каросту.

К р ы с ц і н а. Каму яшчэ бульбы?

Пачакаўшы, Ганна падыходзіць да Крысціны.

Г а н н а. Спытаць хацела. Начамі бывае халадна. Можа, цётка ваша... світэр звяжа.

К р ы с ц і н а. Цётка? Рукі ў яе... Сама звяжу.

Г а н н а. Я заплачу.

К р ы с ц і н а. Што вы. Праўда, воўны добрай няма.

Г а н н а. Дастану. Ёсць адна паліцэйская сям'я... Заходжу аднойчы, галодная, тры дні — ні крошкі... «Бабуля, дай малака».— «Дачушка, ніц нема, вшыстко герман забрал». Глянула ў склеп, а там — масла, смятана, сыры... З пісталета ўсе збаны перакрышыла.

М а к с і м ч ы к. Як ты думаеш, Дамарад, з чаго свет складаецца?

Д а м а р а д. Свет? З гэтых, як яны... атамаў.

М а к с і м ч ы к *(адмоўна качае галавой)*. З трохкутнікаў. Яна любіць яго, ён любіць другую.

Д а м а р а д. Ты гэта да чаго? *(Глядзіць на жанчын.)*

К р ы с ц і н а. Адважная вы.

Г а н н а. Нядаўна забягаю ў вёску. Да старасты — «Дай каня, параненага адвезці».— «Не павязу».— «Ах, не павязеш?! Станавіся да сцяны»... Калі б хлопцы не адабралі пісталет...

К р ы с ц і н а. Відаць, таму і завуць вас Ганкайразбойніцай. А былі студэнткай, розныя мовы вывучалі, музыку гралі...

Г а н н а. Вы з мужам да вайны на станцыі жылі?

К р ы с ц і н а. Маладая, прыгожая, смелая... Як бы я хацела на вашым месцы...

Г а н н а. Зайздросціце? Ці так гэта?

К р ы с ц і н а *(памаўчаўшы)*. Ганначка, родная, любая... Зрабіце для мяне... На каленях прасіць хачу... маліцца буду... Усё аддам, усё...

Г а н н а. Колькі эмоцый... Трэба ж... А што вы хочаце?

Крысціна *(памаўчаўшы)*. Што я хачу... Нічога асаблівага...

Дамарад. Пані Крысціна, плот зараз абваліцца. Дайце сякеру і ўбачыце, што такое сапраўдны мужчына.

Крысціна паказвае на павець. Ганна пільна ўглядаецца ў Крысціну.

Галалоб. Крысця, вось бы табе гаспадара такога.

Крысціна. Есць за вала, а працуе за камара.

Франэк. Крысціна, што новага?

Крысціна адыходзіць і нешта ціха гаворыць Франэку. Дамарад знайшоў сякеру, пад паветкаю выдзірае ў сцяне цвікі, выпростае іх.

Дамарад. Пані Алімпа, успамінаюць людзі Савецкую ўладу?

Алімпія. А то як. Толькі мувяць, ці будуць калгасы.

Дамарад. Цёмны вы чалавек, Алімпія. Мой бацька іншае гаварыў... У калгасе ў іх добра жылі.

Алімпія. Мы тэж.

Дамарад. Эх, Алімпа... Вучыцца ніколі не позна. Займуся я вашым перавыхаваннем...

Франэк *(Крысціне)*. Жалезна. Дазнайся дакладна. *(Адыходзіць да партызан.)*

Крысціна. У мяне... мёд верасковы... Хочаце?

Ганна. Не люблю салодкага. Франэк, скора?

Франэк. Няхай астатнія падыдуць.

Алімпія *(Франэку)*. Мужык на фронце, пад кулямі ходзіць, а твае жарабкі — да салдаткі. Як чмялі на мёд.

Франэк. Хто?

Алімпія. Калі б ведала, носа сюды б не сунуў.

Крысціна падыходзіць і памагае Алімпіі навесці парадак пад павеццю.

Крысціна. Я сама зраблю. Адпачывайце.

Алімпія. Пайду на огруд, свінцы малачаю нарву. *(Узяўшы кошык, выходзіць.)*

Ганна. Чым вас прыцягвае гэты млын?

Галалоб. Што, поезд не спынім? Сказаць, што тут цяжкавата? Адзець, абуць, накарміць такую араву.

Дамарад. З ваеннапалоннымі камандзір здорава прыдумаў. Кадравыя, абучаныя. Падкарміў

трошкі, дзён дзесяць адпачнуць — і ў бой. А вясковых вучыць трэба. Колькі іх?

Г а л а л о б. Адзінаццаць вагонаў.

Д а м а р а д. Фью!

Г а л а л о б. Хаця б не параніць, калі ахову будзем біць...

Д а м а р а д. Дык ты глядзі, куды цэлішся.

Г а л а л о б. Глядзі... Калі па табе паліваюць з кулямёта, носа не ўзнімеш.

Д а м а р а д *(падыходзіць да плота, папраўляе).* Чаму выбралі сто семнаццаты кіламетр?

Г а л а л о б. Лагчына, паварот. І падыходзіць зручна.

Ф р а н э к. Ганка, папрашу тварагу са смятанай. Паеш. Вячэраць сёння табе, напэўна, не прыйдзецца.

Г а н н а. Франэк, мне трэба выходзіць.

Ф р а н э к *(ціха).* Не спяшайся ў пекла. Калі ты там — на душы неспакойна.

Г а н н а. Нумар! Што гэта на цябе накаціла?

Д а м а р а д. Ганка, раскажы, як узняла страляніну.

Ф р а н э к. Ды хопіць табе. Цырк любіш рабіць.

Д а м а р а д. Ну і перапалоху нарабіла. Увесь атрад на ногі, хапаюцца за зброю. Гляджу, Грынь у адным боце пабег. Потым аказваецца — да яе нагі п'яўка прыстала.

Г а л а л о б. П'явак баіцца больш, чым танкетак. *(Кідае каменьчыкі ў Максімчыка.)* Студэнт Максімчык, што чытаеш?

М а к с і м ч ы к *(не адрываючыся ад кнігі).* Джэка Лондана.

Ф р а н э к. Сваіх трэба.

Д а м а р а д. Вось ты ўсё чытаеш. А можа заўтра заб'юць.

М а к с і м ч ы к. Дык што я дурнем павінен паміраць?

Д а м а р а д. Максімчык, а як ты пра нас напішаш пасля вайны?

М а к с і м ч ы к. Акуратным почыркам.

Д а м а р а д. Пра мяне абавязкова складзі. Што быў такі Дамарад, смелы, прыгожы, спяваў песні... Добра?

М а к с і м ч ы к *(адрываючыся ад кнігі).* Калі ў ба-

ры гудзе снарад, наш Дамарад бяжыць назад. Пады-дзе?.. Дрэнна.

Ф р а н э к. Жалезна!

Д а м а р а д *(пакрыўджана).* Калі я бег? Слухай, у мяне маці, сёстры... Калі перададуць...

М а к с і м ч ы к. З гумарком тугавата, таварыш комік.

Д а м а р а д. Няхай у мяне не было выпадкаў, як у Паўла ці Чарнухі, але я... я...

Г а л а л о б. Вялікі паэт атрымаецца. Калі не са-п'ецца. *(Накіроўваецца ў дом.)*

Ф р а н э к. Антэк, куды?

Г а л а л о б. У хату, а што?

Ф р а н э к *(глядзіць міма).* Антэк, калі грамілі гар-нізон, ты ўзяў у адной кабеты кавалак мануфактуры.

Г а л а л о б. Не браў.

Д а м а р а д. Усё ў парадку, пані Крысціна. Калі што трэба, маладой, прыгожай, толькі міргніце...

К р ы с ц і н а *(насмешліва агледзеўшы работу).* Хай тое немцу. *(Ідзе ў дом.)*

Ф р а н э к. Антэк, вайна не ўсё спіша!

Г а л а л о б. Што, Антэк!.. У мяне жонка хварэе, дзіця. Хто ім паможа?

Ф р а н э к. Гэта ж марадзёрства.

Г а л а л о б. Сядзеў бы дома, там бы ўсё было. А я тут добраахвотна...

Ф р а н э к. Глядзі, Антэк, калі яшчэ раз заўважу...

Г а л а л о б. Вам, усходнікам, усё можна.

Ф р а н э к *(стрымліваючы сябе).* Што — усё?

Г а л а л о б. Многае даруецца. А Юзік заснуў на пасту — выгналі.

Ф р а н э к. А ты як думаў? Не дзіцячы сад.

Г а л а л о б. Бог не роўна дзеліць.

Ф р а н э к. У атрадзе ўсе роўныя. Калі хочаш, я таксама заходнік... Трэба адводзіць атрад далей ад ху-тароў.

Г а л а л о б. Ну і нашы разбягуцца. Гэта табе не Мінская вобласць. Саветы два гады былі.

Рэзка адчыняецца брамка. Нечы цень мільгануў і замёр за слу-пам.

Г о л а с П а ў л а. Хэндэ хох! Кідай вінтоўка! Вы-ходзіць па адным!..

Партызаны імгненна падаюць на зямлю, хапаюцца за зброю. Раздаюцца два-тры выстралы ў бок брамкі.

Голас Паўла. Адставіць! Іду на перагаворы!

Павел махае рукой і, усміхаючыся, уваходзіць у двор.

Франэк *(падымаючыся, са злосцю)*. Цьфу! А калі б я секанууў з аўтамата?

Павел. Браткі, а чаго гэта вы на два масты... На бруднай зямлі... Загараеце?

Галалоб *(глядзіць на Франэка)*. Ну? Ці сябруку ўсё дазволена?

Максімчык. Павел, я не люблю, калі мяне адрываюць ад кнігі. І яшчэ — калі цябе па-глупству заб'юць, мне будзе сумна.

Дамарад *(смяецца)*. Вось бы мне так умець...

Галалоб. Хуліган. Відаць, лёгка ўсё даставалася.

Павел. Што ты! Калі мы лазілі ў калгасны сад, сабакі часта дралі мне штаны.

Дамарад. Павел, а як ты вучыўся?

Павел. У партызан, хлопча, не прынята распытваць.

Максімчык. Камандзір адхіліў ад аперацыі?

Дамарад. А што ён адкалоў? Я быў на станцыі.

Галалоб. Пайшоў у заклад з Чарнухам на два запалы, што праедзе на матацыкле перад камендатурай. Спачатку паліцаі падумалі — свой, а потым... *(Качае галавой.)*

Дамарад. Гэта што, вось аднойчы...

Павел. Хопіць, глушы матор.

Галалоб. Такія да перамогі не дажывуць.

Павел. А вы дажывяце? Расселіся, ахову не выставілі... Гэта вам навука.

Франэк. Хіба Сарокіна там няма?

Павел. Загледзеўся, як самы плаваюць.

Франэк. Я яму... З табой — пагаворым у атрадзе.

Франэк паспешліва выходзіць. У дзвярах з'яўляецца Крысціна.

Крысціна. Хто страляў?

Павел убачыў Крысціну, доўга глядзіць.

Дамарад. Павел, заправіцца хочаш? Крысціна, бульбы ў мундзірах.

Г а л а л о б. Бульбы? Крысця пачастуе яго салодзенькай сунічкай.

Партызаны смяюцца.

Д а м а р а д *(здзіўлена)*. Гляньце, пачырванеў.

К р ы с ц і н а. Што табе прынесці?

П а в е л. Квасу. Халоднага.

К р ы с ц і н а ідзе ў дом. Ганна накіроўваецца да брамкі. З'яўляецца Ф р а н э к.

Ф р а н э к. Ганна, разам выйдзем. *(Вяртае яе.)*

Толькі цяпер Павел убачыў Ганну, і радасць яго згасла.

Д а м а р а д. Да чаго раскаркаліся вароны. Галалоб, гэта на дождж?

Г а л а л о б. Калі воран каркае — бяда будзе.

Д а м а р а д. Ну, я ў гэтыя забабоны... Вось калі па справе ідзеш і заяц дарогу перабяжыць...

Ганна праходзіць побач, Дамарад закранае яе.

Г а н н а. Я цябе зачаплю... Ні адна бальніца не прыме.

Д а м а р а д. Ну і гармата ў цябе... Ці ўмееш хаця страляць?

Г а н н а. Адыдзі да хлява, перакандаешся.

Ганна падыходзіць да Паўла.

Д а м а р а д. Дзеўка адарві ды кінь. А вось аднаго баійца — жывой папасціся...

Г а л а л о б. Бабам на вайне цяжэй.

Г а н н а *(весела)*. Уяві, іду па сцяжынцы — змяя выпаўзае... Як драпану — рэкорд інстытута!

Апусціўшы галаву, Павел маўчыць.

Заўтра на аэрадром... Давай разам. Ведаеш, колькі там кветак... Як на востраве... Памятаеш?

П а в е л. Не я размяркоўваю байцоў.

Г а н н а *(пяшчотна)*. Хочаш, пагавару з бацькам?

П а в е л *(пасля паўзы)*. Ганна, не трэба...

Г а н н а. А раней са мной хадзіў на заданні...

П а в е л. Зноў...

Г а н н а. Павел, гэта праўда?

П а в е л. Ганна, хлопцы...

Г а н н а. Яна ж старэйшая за мяне, вясковая... Калі будзеш хадзіць на млын... Баюся, наладжу феерверк.

Павел. І бацька здасць цябе ў асобы аддзел. Ганна, я цябе не ашукваў...

Ганна *(пасля паўзы)*. Неразумна ўсё гэта, неразумна... Чаму б бацьку не паслаць мяне далёка і надоўга?

Вяртаецца Крысціна, дае Паўлу квас. Ганна адыходзіць да плота. Крысціна глядзіць, як Павел п'е.

Галалоб. Крысціна, начамі ные нага. Вось тут куля прайшла. Загаілася, а ные.

Крысціна *(памацаўшы)*. Торф прыкладвай. Увечары пагрэй ля вогнішча і прыкладвай. І яшчэ націранне дам — як рукою зніме.

Дамарад. Прызнайся — доўга калдавала над ім?

Крысціна. Не совай носа не ў сваё проса.

Дамарад. Крысціна, паваражы *(працягвае далонь)*, кім сэрца супакоіцца, што чакае.

Франэк. Адставіць! Будзеш варажыць пасля бою.

Дамарад. Правільна: маральны дух — гэта... *(Сціскае кулак.)*

Франэк. Так, гэта...

Дамарад. За што я цябе, Франэк, паважаю,— што ты жалезны... Як пэўны інструмент. *(Жэст дрывасека.)*

Галалоб. Калі яго схапілі, ён левай трох эсэсаўцаў улажыў. Рука лесаруба.

Дамарад. А я заўсёды акругляю да пяці.

Франэк. Хочаш паспрабаваць?

Дамарад. Я не цікаўны.

Крысціна падыходзіць да Паўла.

Павел *(нягучна)*. Як ты жывеш?

Крысціна *(сумна ўсміхаючыся)*. Дрэнна. Як усе грэшныя.

Павел. Тысячу гадоў не бачыў... *(Бярэ яе руку.)*

Крысціна *(вырывае руку)*. З імі ідзеш?

Павел. Падумаю.

Крысціна. А можна не ісці? Пагаварыць трэба.

Павел. Засумаваў... Імчаўся на трэцяй скорасці. Што з табой? Немцаў не было?

Крысціна. Ой, дрэнны сон бачыла...

Павел. Ну, калі сон — не пайду...

Крысціна. Не смейся. Быць сёння бядзе, Павел.

П а в е л. Ты гэта гаварыла і ў мінулы раз. А мост мы — у трэскі.

К р ы с ц і н а. Двух жа раніла... *(Сціхае.)*

Вяртаецца Г р ы н ь.

Д а м а р а д. Гэта ўсё малако?

Г р ы н ь. Разумееш, пачула, што страляюць і... адабрала назад. Пап'ю другім разам.

К р ы с ц і н а. Паўлік, Паўлік...

П а в е л. Перастань. У мяне сваё.

К р ы с ц і н а. Не ашукваеш?

П а в е л *(глядзіць на Ганну)*. Пойдуць — пабалакаем.

К р ы с ц і н а *(ідзе да партызан)*. Хто яшчэ хоча квасу?

Д а м а р а д. Квас — не самагонка, многа не вып'еш.

Ф р а н э к. Пад'ём! Астатнія падыходзяць.

М а к с і м ч ы к *(згортвае кнігу)*. Вось гэта людзі...

Д а м а р а д *(напявае)*. Дан приказ: ему — на запад, ей — в другую сторону...

К р ы с ц і н а *(разгублена, не ведаючы, што рабіць)*. Ужо?.. Будзьце асцярожныя. На кожным кроку — засада. Нават местачкоўцаў паставілі на ахову.

Д а м а р а д *(усміхаючыся)*. Усё будзе ў ажуры. Не першы год замужам.

Г а н н а *(Паўлу)*. Куды ты ідзеш?

П а в е л. Купацца.

К р ы с ц і н а. Ахвота яму жартаваць. Дай гузік прышыю, ададраўся зусім.

Г а н н а выходзіць.

Ф р а н э к *(Паўлу, ціха)*. Табе трэба морду біць!

П а в е л. За што?

Ф р а н э к. Не ведаеш?

П а р т ы з а н ы выходзяць, застаюцца Павел і Крысціна. Наскомбота Павел падкідвае галінку.

К р ы с ц і н а. Гэта не небяспечна? Куды цябе пасылаюць?

П а в е л. Прыбываюць новенькія. Патрэбны вінтоўкі. Камандзір выклікае: «Павел, калі ты добра плаваеш... Кажуць, пры адступленні на дно віра кідалі зброю». *(З прыкрасцю.)* Хлопцы на справу, а я... Ты нейкая...

Крысціна. Вось вазьму, прышыю да сябе...

Павел. Хіба мяне яшчэ трэба прышываць? Хадзем паглядзім на нашу рабінку. *(Абдымае яе, цалуе.)*

Крысціна. Не сёння.

Павел. Не зрывай мне задання.

Крысціна вырываецца, ударыўшы Паўла па твары.

Павел *(прыклаўшы далонь да носа)*. Тармазы ў цябе не адрэгуляваны...

Крысціна. Як я цябе іншы раз ненавіджу...

Павел. Выходзіць, любіш.

Крысціна. Адно наўме.

Павел. Табе больш небяспечна, чым нам, праўда...

Крысціна. Нічога ты... Божа...

Павел. Зноў загадкі. Ну што, што цябе мучыць? Лашчу і раптам адчуваю — выслізгваеш... Толькі што была маёй — і няма... Недзе там... Сын здаровы? Зразумей, старэнькая, нам ужо нельга адно без аднаго... Ідзі да мяне...

Крысціна. Цётка зараз прыйдзе... *(Праводзіць рукою па яго шыі.)* Муж на фронце.

Павел. Я таксама ваюю. Пасля перамогі возьмеш сына і застанешся са мною.

Крысціна *(пасля паўзы)*. Мяне ўжо не будзе.

Павел. Ды ты што! Я ў якія аварыі траплялю і то...

Крысціна. І загіну — праз цябе.

Павел. Звіхнулася. Карты сказалі?

Крысціна. Заблыталася я, Павел... Галава кругам ідзе...

Павел. Крысціна, калі ён вернецца, я сам растлумачу... Кідай млын, ідзём у атрад.

Крысціна. Я — у атрад?

Павел. Баішся са зброяй — можаш гатаваць абеды. А то нам кухар згатуе крупнік, а па смаку — недаваранае мыла. Цуд — без вайны мы б не сышліся.

Крысціна. Вайна нам шчасце дала, вайна нас і загубіць.

Павел. Добра, каб у адну магілку.

Крысціна. Смяешся. Ты ўпэўнены, што Саветы перамогуць?

Павел. А як жа!

Крысціна. Так далёка зайшлі... Ніхто не ведае, дзе фронт...

П а в е л. Татары заходзілі далей.

К р ы с ц і н а. І сотні гадоў былі. А чалавек жыве нядоўга.

Зноў пралятае самалёт. Павел прыціскае да сябе Крысціну, глядзіць у неба.

П а в е л. Яшчэ дзве зімы калі перазімуюць... Яны пакоцяцца, ой, як пакоцяцца... Зачаравала... Нават у баі ўспамінаю. Нездарма цябе ведзьмай завуць...

К р ы с ц і н а. Пусці, там цётка.

П а в е л. Дык што ты хацела сказаць?

К р ы с ц і н а. Я?.. Павел, любіш гэтую дзяўчыну?

П а в е л *(уздыхае)*. Ты першая і апошняя. Да бярозкі.

К р ы с ц і н а. Яна мяне з'есці гатова. І калі-небудзь заб'е.

П а в е л. Далёка пайшла Алімпія?

К р ы с ц і н а выходзіць і вяртаецца з аўтаматам.

К р ы с ц і н а. Табе.

П а в е л. Расцалаваць мала... Ну, фрыцы, капут... Адкуль?

К р ы с ц і н а. Выменяла на хутары. За шынку.

П а в е л. Крысціна, што ты са мной робіш...

К р ы с ц і н а *(падыходзіць, прытуляецца)*. Цяпер нікога не пабаішся, праўда? Ты смелы, усё можаш...

П а в е л. Нервуешся? Я ведаю — Франэк часта пасылае цябе ў гарнізон... Гэта не мая справа. Але калі ты там з кім-небудзь... Паслухай, а можа хто з нашых?

К р ы с ц і н а. Асцярожна ныряй. Акружэнцы спіхнулі туды машыну.

П а в е л *(глядзіць на гадзіннік)*. Увечары ўбачымся, як назад буду ісці.

Павел накіроўваецца да брамкі. Крысціна працягвае да яго руку. Кукуе зязюля.

П а в е л. Чуеш, зязюля... *(Крычыць.)* Зязюля, колькі нам гадоў з Крысцінаю... А можа гадоў — гэта занадта?.. Раз, два... Што — два? Няпраўда! Давай спачатку. Раз...

К р ы с ц і н а. Не лічы! Не трэба... *(Крычыць.)* Не трэба, не хачу... *(Закрывае вушы.)*

П а в е л. Забабонная!

К р ы с ц і н а. Знайсці б, Павел, у балотах астра-

вок... Уцячы б ад усіх — ад немцаў, ад нашых... Пераседзець вайну...

П а в е л. Ну, не. Спачатку пераб'ём гадаў. А пасля вайны я табе такую святліцу адгрукаю... У нас у раду — цесляры першы клас! Я адзін у шафёры падаўся. Пакінуць бы. Сумна без людзей, Крысціна. Паслухай, а можа няма вайны? Цішыня якая...

К р ы с ц і н а. Калі ціха — яшчэ страшней.

П а в е л. У змярканні, на нашым месцы, ля белай вярбы. *(Адыходзіць, любуючыся аўтаматам.)* Кажуць, за жывога партызана немцу водпуск даюць. А хто правініцца на фронце — пасылаюць на партызан...

К р ы с ц і н а. Павел, ты пайшоў бы... у мястэчка?

П а в е л. У мястэчка? *(Спыняецца, свішча.)* Чаго я там не бачыў — немцаў, паліцаяў?

К р ы с ц і н а. У цябе ж аўтамат.

П а в е л. У іх — кулямёты.

К р ы с ц і н а. А калі вельмі, вельмі папрашу...

П а в е л *(усміхаючыся)*. Вось тады мяне напэўна выганяць з атрада... Гіблая справа. Не выбрацца адтуль. Навошта гэта табе?

К р ы с ц і н а *(памаўчаўшы)*. Знаёмая прасіла.

П а в е л. Я табе вавёрку злаўлю. Рыжую, пушыстую...

К р ы с ц і н а. Павел...

П а в е л пайшоў. Крысціна бярэ дудку.

К р ы с ц і н а. Божачка, што рабіць, што рабіць?.. Хто мне дапаможа? На каго абаперціся? Людзі? Дабра ад іх я не бачыла. Бог? *(Качае галавой.)* Занадта многа крыві... Буслы?.. Зусім слабыя... Сонца? Вецер?.. *(Шэпча.)* Ну хоць хто-небудзь, памажыце...

## Карціна другая

Партызанскі лагер у лесе. Кожны з партызан заняты сваёй справай, але ўсюды адчуваецца трывога. Недзе побач хтосьці наігрывае і сумна напявае даваенную песню. Ля шалаша сядзіць на пяньку К у з н е ч ы к і, варушачы губамі, чытае старую, пашарпаную газету. Падыходзіць камандзір атрада З у б а ў, пажылы мужчына ў вайсковай форме, нецярпліва пазірае на гадзіннік.

З у б а ў. Знойдзецца агеньчык, дзядзька Васіль?

К у з н е ч ы к. А як жа, таварыш камандзір. *(Дае прыкурыць ад запальніцы.)* Трафея.

З у б а ў. Што за газета? Пра што тут?

К у з н е ч ы к. Разгром немцаў пад Масквой.

З у б а ў. Старая, значыць. *(Паглядае ўбок.)*

К у з н е ч ы к. Колькі разоў чытаю і яшчэ хочацца. Гітлер думаў — фур-фур-фур — і ў дамкі. А нашы яму — ні хрэна, гэтага не хочаш? *(Робіць дулю.)* І паказалі іраду, на чым свіння хвост носіць.

З у б а ў. Ты б мякчэй, дзядзька Васіль.

К у з н е ч ы к. Мякчэй нельга, таварыш камандзір. Гэта вайна, а не тра-ля-ля.

З у б а ў. Пара б на боты перайсці.

К у з н е ч ы к. У лапцях зручней. Намоклі, ідзеш — высахлі. А боты сушыць трэба.

З у б а ў. Дзяцей даўно бачыў?

К у з н е ч ы к. Перад вялікаднем. Праходзілі праз вёску, забег.

З у б а ў. Ой, не падвядзі сям'ю...

К у з н е ч ы к. Дык я сетку на галаву накінуў, каб не пазналі. *(Беражліва складвае газету.)* Як сцяг, берагчы трэба. *(Памаўчаўшы.)* Нам бы радыё, таварыш камандзір.

З у б а ў. Будзе, хутка будзе.

К у з н е ч ы к. А то нашы праз граніцу пойдуць, а мы толькі вушамі — шлёп-шлёп...

З у б а ў. Калі пойдуць праз граніцу, ужо мы пачуем.

К у з н е ч ы к *(азірнуўшыся)*. Паспалі б гадзінку, таварыш камандзір. Вочы чырвоныя.

З у б а ў *(весела)*. Эх ты, эскулап... Ад папараці ў мяне...

Кузнечык дастае іголку, зашывае кашулю. Падыходзіць М о н і ч, начальнік асобага аддзела, які больш падобны на школьнага настаўніка, трымае кніжку.

З у б а ў *(накіроўваецца да яго)*. Ну?

М о н і ч. Пакуль нічога. *(Паўза.)* Паслалі сувязнога з Борак.

З у б а ў. Войцік не вярнуўся?

М о н і ч *(адмоўна качае галавой)*. Самае непрыемнае — невядомасць... Можа поезд не здолелі спыніць.

З у б а ў *(стрымліваючы сябе)*. Можа — на двое варожа, таварыш начальнік асобага аддзела... Колькі часу мінула?

М о н і ч. Сто семнаццаты кіламетр павінен быў праходзіць паміж дзевяццю і дзесяццю вечара.

З у б а ў. Усе тэрміны мінулі.

М о н і ч. Абыдзецца. Там суніц назбіралі, паеш.

З у б а ў. Максімчыка на такое больш не пасылаць.

М о н і ч. Як жа — утрымаеш! *(Нягучна.)* Д'ябальшчына... Не магу рашыць ураўненне. З адным невядомым. З трох сувязных нехта працуе на немцаў.

З у б а ў. Яшчэ раніцаю гаварыў — з шасці.

М о н і ч. Тых выключыў.

З у б а ў. Слухай, а можа — трызненне?

Моніч адмоўна качае галавой. Да Кузнечыка падыходзіць П а в е л, выбірае месца, дзе б прылегчы.

П а в е л. Краўцом стаў, дзядзька Васіль?

К у з н е ч ы к. У лесе ўсё ляціць, як на агні. Раней, бывала, носіш і носіш...

З у б а ў. А ты, Моніч, не расстаешся з кніжкаю. Не разумею — Пушкін і вайна...

М о н і ч. У Буслах перастрэлку чулі.

З у б а ў. Давядзецца паслаць атрадную разведку.

М о н і ч. Хадзем, ёсць размова.

М о н і ч і З у б а ў выходзяць. Павел кладзецца.

П а в е л. Пачастуй, дзед, самасадам.

К у з н е ч ы к. Калі ты добры курэц, братка-беларус, то насі люльку і тытунец.

П а в е л. Кулак ты, Кузнечык.

К у з н е ч ы к. Любіце вы, усходнікі, на класы дзяліць... А можа я хрыбтом добрае жыццё сваім дзецям забяспечыў?

П а в е л. Па натуры кулак.

К у з н е ч ы к. А ты галадранец. Таксама натуральны. І ніколі ў такога не будзе ні кала ні двара. На гаспадарцы працаваць трэба, а не тра-ля-ля. Вось скажы, ты пісьменны, сем класаў скончыў... Адкуль у вас непавага да багацця? Беднасць — абавязкова добра. Нават калі бедны таму, што гультай, абібок, як у нас адзін... Усім беднякам — пашана, павага, тра-та-та. Усім заможным — па шапцы... А пры камунізме ж усе павінны быць багатыя. Нешта тут не сыходзіцца, а?

П а в е л. За што я вас, заходнікаў, недалюбліваю — кожны жыве, як на хутары — для сябе, для дома...

К у з н е ч ы к. Дабро з неба не валіцца — потам, мазалём. А дзе чалавек лепш стараецца — у калгасе ці дома? Добра, закуры.

Павел. Ды ну цябе... Колькі крыві, колькі бед на зямлі — і ўсё з-за багацця. Пакуль нічога няма — браты, сябры. Завялося, праклятае — ворагамі становяцца людзі. А!.. Спрачацца з табой — што ехаць на палутарцы па балоце.

Кузнечык. Ды і з табой — як у лесе з бараной... Што ж на машыне не ваюеш? Адбіў бы.

Павел. Спрабаваў. Але свае лупяць. І што ні рабіў — флаг вывешваў, зорачку маляваў — усё роўна абстраляюць. Як у ваду канулі хлопцы.

Кузнечык. Чуў — ты Монічу дарожку перабег.

Павел. Дрэнна чуў.

Кузнечык. Лётчыкаў і спецыялістаў трэба за фронт весці. Ён прасіўся — сям'ю ў Маскве хацеў пабачыць. А камандзір і камісар цябе намецілі.

Павел. Дык што я — сам?

Кузнечык. Глядзі, хлопча, не жартуй з асобым аддзелам.

Падыходзіць малады партызан Чарнуха.

Чарнуха. Дзе Зубаў? Хто бачыў?

Павел. З Монічам у штаб пайшлі. А ў чым справа, палундра?

З'яўляюцца Зубаў і Моніч.

Чарнуха. Бяда, таварыш камандзір...

Падыходзіць паранены Галалоб, яго падтрымліваюць двое. Наўкол збіраюцца партызаны.

Зубаў. Што здарылася, Галалоб?

Галалоб. На засаду... Вады...

Яму даюць флягу, прагна п'е.

Зубаў. Дзе астатнія? Максімчык?

Галалоб. Забіты.

Зубаў. Што?!

Галалоб. Няма Максімчыка.

Моніч. Грынь?

Галалоб. Насмерць.

Моніч. А, чорт... Дамарад?

Галалоб. Ва ўпор... Чацвёра засталося, Франэк цягне Дыбоўскага ў шпіталь, Думбадзе і я...

Зубаў. Чаму не выслалі наперад разведку?

Галалоб. Выслалі... Але яны чакалі. На просеку, яшчэ да падыходу да чыгункі. Паслалі ў разведку

Сарокіна, з Горкаўскай вобласці, і мяне... Раптам чуем, ззаду страляюць... Мяне ў галаву параніла, а з Горкаўскай вобласці — абедзве нагі перабіла... «Адыходзьце,— крычыць,— прыкрыю!» Іх нехта папярэдзіў.

П а в е л. Не можа быць!

Г а л а л о б. Ведалі, дзе будзем ісці.

М о н і ч. Жыўцом — нікога?

Г а л а л о б. Да Максімчыка падбеглі. Але ён — гранату да шыі і чаку тузануў...

З у б а ў. Разысціся!

П а р т ы з а н ы неахвотна разыходзяцца.

М о н і ч. Падазраеш каго-небудзь?

Г а л а л о б. Не ведаю.

З у б а ў. Ідзі, няхай перавяжуць.

П а р т ы з а н ы выводзяць Г а л а л о б а.

М о н і ч. Усё-такі шпіён ёсць...

З у б а ў. І ўсе — добраахвотнікі...

М о н і ч. Жыццё абясцэнілася. Памятаю, да вайны памрэ чалавек — падзея... Так, амаль у кожным будзеш бачыць здрадніка... Мярзотнасць.

З у б а ў. Дагуляліся ў дабрату, міласэрнымі сталі!.. Хто ведаў пра аперацыю?!

М о н і ч. Усе. Трэба было і лазню наладжваць, адзенне, прадукты даставаць.

З у б а ў. Не ўсе ведалі, дзе будзем поезд спыняць!

М о н і ч. Даўно гавару, заданне трэба ўручаць камандзіру групы ў канверце. Ускрыць пасля выхаду з лагера.

З у б а ў. Канцыляршчына. Людзі загадзя павінны ўяўляць аперацыю, прадумаць у дэталях, абмеркаваць. А папера і ворагу можа трапіць. Шмат балбочуць, Моніч. Вось дзе сабака... Колькі разоў пераконваўся — ліберальнічаць пачнеш, бокам вылезе.

З'яўляецца П а в е л.

П а в е л. Нож згубіў. *(Збіраецца ісці.)*

М о н і ч. Дык чаго ты — шукай.

М о н і ч і З у б а ў выходзяць. З'яўляецца Г а н н а.

Г а н н а *(азірнуўшыся)*. Павел, сказала яна, куды сына адправіла?

П а в е л. Ганна, людзі загінулі...

Ганна. Памажы мне разабрацца. Страшныя думкі...

Павел. Што ты хочаш?

Ганна. Успомні ўсё, падумай добра... Занадта яна паддобрываецца, нешта ўтойвае... Ці на нас яна працуе?

Павел. Ты што — звар'яцела?

Ганна. З Монічам падзяліся, ён разбярэцца.

Павел. Гэтага нават ад цябе не чакаў.

Ганна. Фактаў у мяне няма, але здаецца...

Павел. Калі здаецца — перахрысціся! Дурніца... *(Выходзіць.)*

З'яўляюцца Моніч і Зубаў.

Зубаў. А, дачка... Чула?

Ганна. У штаб?

Моніч. Не хочацца ў такое надвор'е ў зямлянку. На сонцы хоць камароў менш.

Ганна. Эшалон з палоннымі яшчэ не праходзіў, затрымалі.

Зубаў. Што яшчэ?

Ганна. Бачыла, кнігі палілі на плошчы. З бібліятэкі. Тры дні, кажуць, гарэлі...

Зубаў *(пасля паўзы)*. Пятровіч, на колькі гадоў трэба пазбавіць людзей пісьменнасці, каб з чалавека зноў зрабіць дзікуна?

Моніч. Два-тры пакаленні, не больш.

Ганна. Вы ведаеце, што ў Крысціны ёсць сын?

Моніч. У млынарыхі? Так. А чаму ты...

Ганна. Дзе ён?

Моніч. Як быццам у вёсцы.

Ганна. Гэта яна гаворыць... У мястэчку, у ксяндза.

Зубаў. Не разумею — якое гэта мае значэнне?

Моніч. Начальнік паліцыі — родны брат ксяндза.

Зубаў. Ну і што? Тут ксёндз — першы чалавек.

Моніч. Здаецца, іменна гэтага звяна мне не хапала... Але ж гэта гіпотэза.

Ганна *(дастае з прычоскі кавалачак паперы)*. Ад дзядзькі Андрэя. Прыкметы жанчыны, якую нядаўна завербавалі...

Моніч бярэ, чытае, перадае Зубаву.

Моніч. Відаць, яна. Чорт!.. Колькі разоў піў у яе малако... Ды і заданні ж для нас выконвала...

**З у б а ў.** Трэба браць. Сёння ж. І дапытаць. Каго пашлём?

**М о н і ч.** Мясцовых не трэба — раптам прабалбочуцца! Сват свату, кум брату...

**З у б а ў.** Шыдлоўскага, Паўла. І хлопцаў яму даць. Ліхач, праўда, затое заўсёды зробіць.

**Г а н н а.** Лепш я пайду.

**М о н і ч.** Чаму?

**Г а н н а.** Ён... Прастудзіўся, калі зброю даставаў. Сама перакананца хачу.

**З у б а ў.** Табе іншае даручэнне. *(Адыходзіць.)* Кузнечык! Пакліч Шыдлоўскага.

**М о н і ч.** Калі яна, многае становіцца зразумелым.

**З у б а ў.** На фронце лягчэй, Моніч.

З'яўляецца П а в е л.

**П а в е л.** Слухаю, таварыш камандзір.

**З у б а ў.** Павел, увечары выступаеш.

**П а в е л.** Ведаю.

**З у б а ў.** Другое. Пойдзеш на млын.

**М о н і ч.** Крысціну арыштуеш.

**П а в е л.** Што?.. *(Няўпэўнена смяецца.)*

**З у б а ў.** Здаецца, шпіёнка.

**П а в е л.** Крысціна? Ды што вы, таварыш камандзір... Можа, Алімпія, цётка яе...

**З у б а ў.** Сумняваешся?

**П а в е л.** Яна ж... Не, не... Яна... У хлопцаў спытайце. А цётка... Заўсёды нездаволеная, бурчыць...

**М о н і ч.** Ёсць звесткі.

Павел глядзіць на Ганну, тая адводзіць позірк.

**З у б а ў.** Значыць, працавала на два бакі. Учарашняя засада — яе рук справа. Точна.

**П а в е л.** Ганна, гэта няпраўда.

Зубаў дае Паўлу лісток, прынесены Ганнай.

**З у б а ў.** Колькі табе трэба хлопцаў?

Павел углядаецца ў лісток.

Трэба папярэдзіць групы, якія на заданні.

**М о н і ч.** Думаю. Але як гэта зрабіць?

**З у б а ў.** Не дай бог, калі яна... Дык колькі табе трэба хлопцаў? *(Паўза.)* Ты здаровы?

**П а в е л.** Здаровы.

**З у б а ў.** Выгляд у цябе...

П а в е л. На зямлі пераляжаў.

М о н і ч. Калі заходзіў на млын — нічога не заўважаў?

П а в е л. Гэта ж толькі падазрэнне.

М о н і ч. Чалавек пяць пашлём.

З у б а ў. На адну бабу?

П а в е л. Я адзін пайду.

З у б а ў. Ні ў якім разе. Бачыш, цвёрдай упэўненасці ўсё-такі няма. Абшукай кожную шчылінку, можа што пацвердзіць.

М о н і ч. Хлопцам раскажаш па дарозе.

З у б а ў. Бяры дзядзьку Васіля, Чарнуху...

Г а н н а. Я таксама пайду.

З у б а ў. ...Чарнуху, Волгіна і выходзь.

П а в е л. Таварыш камандзір, дайце ёй спецыяльнае заданне, праверым...

З у б а ў. Дорага кожная гадзіна.

П а в е л выходзіць.

М о н і ч. На гэтай рабоце скора сябе падазраваць пачнеш.

Г а н н а. Круглы паведамляе, што немцы з першага ўводзяць новыя аўсвайсы.

З у б а ў. Ліха на іх!

Г а н н а. Я... зараз вярнуся. *(Хуценька выходзіць.)*

З у б а ў. Колькі было Максімчыку?

М о н і ч. Дваццаць адзін. Калі перад вайною выйшла яго аповесць... Памятаеш, колькі было размоў? Штосьці незвычайнае. І галоўнае — бяздонне гумару. Вось і ўкралі ў народа частку радасці.

З у б а ў. У мяне адчуванне — загінуў цэлы універсітэт.

З'яўляецца Ф р а н э к з перавязанай рукой.

Франэк? Жывы... Садзіся вось на пень.

М о н і ч. Што з рукой?

Ф р а н э к. Косць цэлая. Думаю — можа з самалёта заўважылі?

М о н і ч. Ты начальнік разведкі.

Ф р а н э к. Ідзём — і раптам з кулямётаў... Ва ўпор.

М о н і ч. Не хлопцы былі — арлы. Так і рваліся ў бой...

З у б а ў. Гінуць самыя прыгожыя, разумныя, смелыя... Калі вайна некалькі гадоў... *(Доміць галінку.)*

М о н і ч. Камандзір!

З у б а ў. Га!.. Да восені ўвесь раён зробім партызанскім. Упэўнены.

Ф р а н э к. З Дыбоўскім дрэнна. Доктар гаворыць, куля далёка і без інструменту не дастаць.

М о н і ч. Доктар... Узялі неўрапатолага.

З у б а ў. Скажы дзякуй гэтаму. У атрадзе «Бура» ўрачом ветэрынарны фельчар. Праўда, у яго і хлопцы — як коні.

М о н і ч. Ведаеш, хто вас?.. Адкуль?

Ф р а н э к. Ганна сказала.

М о н і ч. Каб з лагера ніхто нікуды. Узмоцніш пасты, выставіш сакрэты. Выхад спецгрупы адкласці.

Ф р а н э к. Яна мне такія звесткі здабывала... Каго паслалі?

З у б а ў. Шыдлоўскага.

Ф р а н э к. Паўла?!

М о н і ч. У чым справа?

Ф р а н э к. Па-мойму, ён не зусім здаровы.

З у б а ў. Клапатлівыя. Тут што — санаторый?

Моніч уважліва глядзіць на Франэка.

## Карціна трэцяя

Вечар у доме на млыне. А л і м п і я памалілася, рассцілае пасцель. К р ы с ц і н а неахвотна п'е чай.

А л і м п і я. Спіна не перастае... Памятаю, пры Саветах прыязджае на млын доктар. Паглядзеў мяне, лякарства выпісаў. Даю гасцінец — не бярэ... Смяецца, мы, кажа, савецкія, да гэтага не прывучаны... І ты б за іх памалілася. Хаця і бязбожнікі... *(Хрысціцца.)*

Крысціна ўздыхае.

З мёдам пі. Сахарына бардзо не смачна.

К р ы с ц і н а *(прыслухоўваецца)*. Нехта ходзіць... *(Адстаўляе недапіты кубак.)*

А л і м п і я. Я ж казала — вазьмі і ты ікону «Благаславенне духоўнае дому», прайдзіся па двары. Даўно ведаю — як нойдзе хмара, выйдзеш з іконаю, пахо-дзіш, і неба праясняецца.

К р ы с ц і н а. Здалося.

А л і м п і я. Інакшая ты стала, Хрысця, панурая.

К р ы с ц і н а *(нерухома сядзіць)*. Кладзіся, Алімпія.

А л і м п і я. А ты?

К р ы с ц і н а. Усё роўна не засну.

А л і м п і я. Бачу, па сыну сумуеш. Тутэй яму бэндзе лепей. А то яшчэ забяруць германцы.

К р ы с ц і н а. Малых не бяруць.

А л і м п і я. З такіх, кажуць людзі, кроў для параненых высмоктваюць. Бардзо многа вязуць параненых з фронту. Поезд за поездам... А тут партызаны. Едын праскочыць, а другі... Так і ляцяць у балота... Глядзі, Хрысця, згіне сын. У такі момант — разам трэба. Хіба я яго пакрыўдзіла?

К р ы с ц і н а. Хопіць, Алімпія. Абрыдла.

А л і м п і я. Ну, глядзі. Каб не пайшоў дождж, косці ныюць. Сена грэбці трэба. Пасля абеду грымела. Прыслухалася, падумала, фронт... У Падліпках зайшоў немец: «Матка, яйко». Баба кажа: «Ніц нема», а ціха так: «Калі вас, паганцаў, пагоняць?» А ён панашаму: «Калі адыдзем, то зробім, што дзесёнць лят трава расці не будзе, ніхто жыць не зможа, а калі пташэк залеціць, дык каменем упадзе на зямлю»... *(Хрысціцца.)*

Раздаецца стук у дзверы. Крысціна марудзіць. Стук паўтараецца.

Каторыя гэта? Нашы ці...

К р ы с ц і н а выходзіць і хутка вяртаецца, за ёй ідуць К у з н е ч ы к, Ч а р н у х а, П а в е л.

К у з н е ч ы к. Добры вечар у хату. Ледзь змерклася — фур-фур — і ў пасцель?

К р ы с ц і н а. Газы шкода. Сядайце.

К у з н е ч ы к. Не падабаецца новы парадак? Лата-та. Не цанілі Савецкую ўладу.

А л і м п і я. У нас і даўней не шмат яе было.

К у з н е ч ы к. Ат, заўсёды ты, Улімпа, палкі ў колы.

А л і м п і я. Добжыя людзі спяць даўно...

Ч а р н у х а. Эх, бабуля... Біблію не чытаеш.

А л і м п і я. А хто цяпер жыве па біблії... Забыліся на бога. *(Хрысціцца.)* Але ён усё бачыць.

К р ы с ц і н а. Есці, можа, ці чаю хочаце... Праўда, з сахарынаю. Або самагоначкі? *(Прыбірае са стала.)*

Ч а р н у х а. Шкода — нельга, па справе ідзём. Гляджу на цябе, кабетачка — хоць куды... Выберу момант — сходзім з табой на справу. *(Пацірае рукі.)*

Крысціна. Не перапалохаешся? А то давядзецца з рота вады даваць.

Кузнечык. У бой — на справу. Да бабы — на справу... Цьфу! З-за цябе ўвесь атрад лаяцца пачаў. Нават камандзір учора, як мініраваць пасылаў...

Чарнуха. А твае тра-ля-ля?

Кузнечык. Мякіны ў тваім кацялку... Для аднаго мнагавата. Ага.

Чарнуха. Мяне гэта, дзядзька Васіль, не калыша.

Крысціна. Жахліва ваўкі выюць... Чуеце?

Алімпія. І чаго ім выць? Столькі яды, столькі мёртвых наўкол...

Чарнуха. Нашых і пахаваць не змаглі...

Павел *(перабіваючы)*. Што ў мястэчку?

Крысціна *(упускае кубак)*. Па-ранейшаму.

Кузнечык. Рукі ў цябе сёння як не свае.

Павел. Часта ездзіце?

Крысціна. Раз на тыдзень. Тое выменяць, тое купіць...

Павел. А з мястэчка — бываюць?

Крысціна. Больш [redacted] вёсак.

Павел. І хто часцей ездзіць?

Крысціна ўважліва глядзіць на Паўла.

Алімпія. Малоць усім трэба. Учора з Макава быў... Кажа, столькі партызан пазабівалі, столькі пазабівалі...

Чарнуха. Калі ішлі на жалезку, Дамарад смяецца і гаворыць...

Павел *(перабіваючы)*. Сёння хлопцы былі, чапаеўцы. Расказвалі, праваката́ра выявілі... Засеклі шампаламі.

Чарнуха. Я немца разумею — фашыст. Але сваіх... Памятаю, узялі начальніка паліцыі... Люты быў, гад... Дзяцей за ногі і — аб вугал... Доўга ганяліся. Схапілі. Што ні спытаем — маўчыць. Ах так, кажу, глытай патрон. Калі патрон вось тут засеў — усё расказаў.

Кузнечык. Чарнуха, «чорная смерць»... Не хацеў бы ў твае лапы. Няўжо такі і да вайны быў?

Чарнуха *(рэзка ўстае)*. Нешта піць хочацца.

Крысціна. Бярозавіка прынясу.

Павел. Не ідзі.

Крысціна. Гэта блізка, у сенцах.

Павел. Сядзі. *(Усміхнуўшыся.)* Не вялікі пан, сам сходзіць.

Чарнуха. Ты мне сёння не цікавы. *(Выходзіць з кубкам, вяртаецца, п'е.)*

Павел. Не баішся, што атручаны?

Алімпія. Ціпун табе на язык...

Крысціна *(нервова смяецца).* Тут усё атручана — і малако, і вада, і квас, што заўсёды п'яце...

Кузнечык *(Паўлу).* Мелеш пустое.

Павел *(усміхнуўшыся).* Ніколі не забуду — прыходзім у групу Мамантава, і карціна — мёртвыя за сталом, галовы ў міскі. Твары чорныя... Прыгожая, кажуць, была...

Чарнуха. У шпіёнкі толькі такіх і бяруць.

Павел. Алімпія, што б ты з такой зрабіла?

Алімпія. Што я табе, сынок, скажу? Вайна ўсё пераблытала. Быў добры — стаў дрэнны, а той, пра каго не думаў, чалавекам аказаўся... Не судзіце, ды не судзімы будзеце. Вайна...

Павел. Крысціна, а ты? Што б ты зрабіла?

Крысціна *(рассеяна).* Забіла б... Вядома. Толькі забіла б... Што гэта? Па даху ходзяць?

Чарнуха адводзіць затвор.

Павел. Нашы. Я загадаў.

Крысціна. Пагляджу.

Павел. Не.

Крысціна. Што ім трэба?

Павел скіроўвае аўтамат на Крысціну, кідае Чарнуху вяроўку.

Павел. Вяжы.

Крысціна. Ты што?

Павел. Толькі такога балвана, як я, можна было вадзіць за нос. Ну?! Што стаіцё? Хутчэй!

Крысціна. Павел...

Чарнуха. Слухай сюды, я сам люблю анекдоты. За адзін мне ў Адэсе літр гарэлкі паставілі. Але...

Павел. Выконвай загад!

Алімпія. Свенты Езус!.. Пане... Волеле-волеле...

Кузнечык. Загад ёсць загад.

Партызаны звязваюць Крысціне рукі.

Крысціна. Хлопцы, дзядзька Васіль, ён не памятае, што робіць...

Павел. Абшукаць кожную шчыліну.

Ч а р н у х а. Будзь спакойны. Калі я на дзеле...

Ч а р н у х а запальвае ліхтарык і выходзіць. Кузнечык робіць вобыск у доме.

К р ы с ц і н а. Каго шукаеце?

П а в е л. Што абяцалі — золата, маёнтак? Ці спадзявалася ў Германіі каштаны рваць?

К р ы с ц і н а. Ты што мелеш?

П а в е л. Такія хлопцы... Максімчык, Грынь, Дамарад. Павесіць мала. Калі праўда...

К у з н е ч ы к. Павел, растлумач.

П а в е л. Гэта яна... нашых... на засаду.

К р ы с ц і н а. Я?! Ты сам гэтаму не верыш! Я! Трэба ж такое прыдумаць. Тваім бы языком лён трапаць.

П а в е л. Вось чаму не хацела, каб ішоў з імі...

А л і м п і я. Сыночак, тэ ж наша Хрысця... Ты ж яе ведаеш. Тэ ж яна цябе выратавала... Паменташ?

З'яўляецца Ч а р н у х а.

Ч а р н у х а. Хлопцы дакладваюць: у вуллях, у сене — ні шыша. Волгін гаворыць, на гарышчы — адны мышы.

П а в е л. Шукайце, хлопцы, шукайце... Шампаламі зямлю, салому. Алімпія, адчыні свірны, млын...

Ч а р н у х а выходзіць, прапусціўшы спераду сябе А л і м п і ю.

К р ы с ц і н а. Што ты хочаш знайсці — гармату, кулямёт? Або танк? Дык ён за печчу...

П а в е л. Абыдземся без тваёй парады.

К р ы с ц і н а. Павел, падумай спакойна, раптам я не вінавата, раптам памылка...

П а в е л *(спыняецца)*. І можаш гэта даказаць? Камандзіру...

К р ы с ц і н а. Хто вам збіраў звесткі? Хто шыў маскіровачныя халаты, пёк хлеб, сушыў траву на лякарства?

Павел маўчыць. З'яўляецца Ч а р н у х а.

Ч а р н у х а. Суду ўсё ясна. Павел, там тэлефон.

П а в е л. Тэлефон?

Ч а р н у х а. Палявы. Кабель замаскіраваны. У трубцы гудзе, значыць, падключаны.

П а в е л. Дзе?

Ч а р н у х а. У карчах. Слухай, дай я ім скажу пару флотскіх слоў...

П а в е л *(пасля паўзы).* Перарэзаць.

Ч а р н у х а выходзіць. Павел закурвае, садзіцца. Уваходзіць А л і м п і я.

А л і м п і я. Хрысця, цо то ест... Хрысця...

П а в е л. Я ўсё спадзяваўся — памылка...

Уваходзяць п а р т ы з а н ы.

К у з н е ч ы к *(узнімае вінтоўку).* Што з ёй тра-та-та... Вывесці і...

Ч а р н у х а. Не спяшайся, дзядзька Васіль. Здраднікаў канчаць трэба прыгожа...

А л і м п і я. Хрысця, Хрысця... Да касцёлу не стала хадзіць...

К у з н е ч ы к. Эх, Улімпа... Яна з тымі, у каго напісана на спражках «З намі бог».

А л і м п і я. Я жыла з ёю, елі разам... Яна атруціць мяне магла...

Ч а р н у х а. Закрый, бабуля, рот, прастудзішся.

К р ы с ц і н а. Павел, я хачу пагаварыць з табой.

Паўза.

П а в е л. Хлопцы, пачакайце там.

К у з н е ч ы к. Павел...

П а в е л. Выйдзіце.

Ч а р н у х а *(падыходзіць да Паўла, ціха).* Яна мне таксама падабаецца...

Павел апускае галаву.

К у з н е ч ы к. Не скрыпі зубамі, паломіш. Ага.

П а р т ы з а н ы выходзяць.

П а в е л. Растлумач мне... Толькі не хлусі... Толькі не хлусі... Інакш... *(Ківае галавой.)*

К р ы с ц і н а. Што са мною будзе?

П а в е л. Яшчэ спадзяешся?

К р ы с ц і н а. Вады...

Павел спрабуе даць ёй вады.

Развяжы мяне... Рукі ў цябе дрыжаць.

П а в е л. Без фокусаў! Кругом хлопцы. *(Павел развязвае рукі. Крысціна п'е ваду.)* Даўно завербавана?

К р ы с ц і н а. Божачка, што ты ведаеш...

П а в е л. Што тут... ведаць? На фашыстаў працавала!.. Ідыёт...

К р ы с ц і н а. Табе добра. Са сваімі. Бачыш немца — страляеш, уцякаеш, хаваешся, зноў страляеш... А я? Калі б паспела на Урал або куды далей... Сказалі б стойкая, самаадданая... А!.. Страшна ўспомніць, што мне... Каб выжыць... Адзін раз за пяцёрку залатую адкупілася... Другі...

П а в е л. Дзе праходзіла разведшколу?.. Далібог жа, не змагу давесці цябе да лагера, сам прыдушу...

К р ы с ц і н а. Школу? *(Адмоўна ківае галавой.)* Тыдні два назад... Алімпія да касцёлу ездзіла, не было яе — узялі мяне і Яначку... Крычалі спачатку — партызанка, прызнавайся, муж у лесе... Білі моцна. Потым да акна падводзяць, гляджу — аднаго расстралялі, яшчэ траіх. Бачу... Яначку вывелі... Не ведаю, што са мной... Калі апамяталася, чую: «Можам захаваць сына... Будзеш паведамляць з млына, куды пайшлі партызаны, калі, чым узброены. Не хочаш — наракай на сябе...» Я і згадзілася. Нічога не гавары, сама ведаю... Думала — ашукаю іх, перахітру... Прывозяць мяне назад на млын,— Яначку ў заложніках пакінулі,— гляджу, нешта капаюць. А яны ўспомнілі — да вайны тут тэлефон стаяў... Вось апарат і падвялі... Божа... Спачатку вадзіла іх за нос — то позна паведамлю, калі нашы далёка-далёка, або іншы напрамак укажу... Ну, і злавала іх гэта... А нядаўна сказалі: «Да суботы не будзе выніку — сына не ўбачыш...» Калі мой ішоў добраахвотнікам, гаварыў: «Крысціна, захавай Яначку, любой цаной захавай сына...» Я зусім адна. Мужа, кажуць, бачылі знявечанага пад Рагачовам... Цётка — чужы чалавек...

П а в е л. Чаму не сказала?

К р ы с ц і н а. Што б ты зрабіў?

П а в е л. Пагаварыў бы з камандзірам.

К р ы с ц і н а. Вось-вось... Дзякуй табе ў шапку. Чула пра вашага Зубава. Такі ж, як Чарнуха. Людзі ў вайну — як зверы.

П а в е л. Сам паспрабаваў бы.

К р ы с ц і н а *(пільна глядзіць)*. Не, безнадзейна... Ды і свая галава даражэй.

П а в е л. Навошта так...

К р ы с ц і н а *(злосна)*. Так, так і ўсе такія... Вайна раскрыла... Думаеш, Франэк ці Ганна рызыкнулі б з-за яго? Чорта з два... Свая сарочка бліжэй да цела... Кожны толькі за сваю шкуру... Так было за польскім часам, так заўсёды будзе!

П а в е л *(пасля паўзы)*. Ведаеш, што я зараз зразумеў? Чаму фашыстам удалося захапіць Еўропу... І толькі савецкія скруцяць ім галаву. Больш няма каму.

К р ы с ц і н а. Калі ставілі тэлефон, з імі былі яшчэ трое, па-нашаму гаварылі... Спыталі ў мяне пра ўсе сцяжынкі і пайшлі ў Пушчу... Мне потым так хацелася падказаць вам, але падумала — і мяне раскрыюць.

П а в е л. Крысціна, калі б Янак пасля вайны даведаўся, чаго каштавала яго жыццё... Такія хлопцы...

К р ы с ц і н а. Павел, іх на самай справе...

П а в е л. Грынь, Сарокін... Пятрэнка хацеў асушыць усё балота... А Дамарад паспеў плот адрамантаваць... табе.

К р ы с ц і н а *(пасля доўгай паўзы)*. Божа, як жа мне жыць пасля гэтага... Не хацела, не думала!.. Ну, будзе перастрэлка, ну, не ўдасца партызанам на гэты раз, возьмуць сваё другім разам... *(Паспешліва.)* Павел, калі я пачала званіць, раптам апамяталася... І замест ста семнаццатага сто першы кіламетр сказала... Дык чаму яны... Не разумею... *(З надзеяй.)* А мо не з-за мяне?

П а в е л. Ты ім сказала — партызаны выходзяць. І ўсё.

К р ы с ц і н а. Колькі гадоў пражыла, нікому дрэннага... Цяпер яго заб'юць. Падумаюць, пайшла ў лес.

П а в е л. Скажы мне, калі мы... Значыць, тады ты... ілгала...

К р ы с ц і н а. Я старалася не думаць... Любіла. Ведала, што фашысты. Але думаю, а можа не ашукаюць, выпусцяць Яначку? Муж быў намнога старэйшы, сухар... Сяду на калені, а ён: «Крысціна, устань, пакамечыш штаны...»

П а в е л *(узрываючыся)*. Штаны!.. Ды ну іх... Зразумей — ты стала ворагам! Ты ўжо не лепшая за любога фашыста!

К р ы с ц і н а. Гэта пра мяне?

П а в е л. Ты не толькі нам здрадзіла... Забіў бы!

К р ы с ц і н а. Дзяўчынкай марыла пець у касцёле... Каб іграў арган, каб народу было... І пасля — душы ва ўсіх светлыя, чыстыя... Не збылося... *(Горка качае галавой.)*

П а в е л. Як ты змагла!

К р ы с ц і н а. Ужо не любіш.

П а в е л. Збірайся.

К р ы с ц і н а. Павел, хачу жыць... Вельмі хачу... Вечная работа, работа... Ён быў добры, з Кракава і Варшавы гасцінцы прывозіў, але я... Не разумелі мы... Ён і сына па-свойму выхоўваў.

П а в е л. Апранайся.

К р ы с ц і н а. Забыўся, як ноччу купаліся... Русалкай называў...

П а в е л. А хлопцы ў гэты час... А хлопцаў...

К р ы с ц і н а. Расстраляюць?

П а в е л. Папрашу, каб мне дазволілі.

К р ы с ц і н а. І не здрыганецца рука?

П а в е л. Здрыганецца. Але я гэта зраблю.

К р ы с ц і н а. Вось як. А хто выцягнуў цябе з дрыгвы... Змерзлага, знясіленага... Лётчык скінуў проста ў балота... Ледзь выцягнула за вяроўкі парашута... Сагравала сваім дыханнем. Два тыдні — сырадой... У доме кожны дзень паліцаі, а ты — наверсе...

Павел падыходзіць, бярэ яе за плечы. Крысціна прынікае да яго грудзей.

П а в е л. Усё помню, Крысціна. І як пачалася наша любоў, помню... Але ты ўсё сцерла... Канец... *(Нечакана.)* Любая, каханая, што ты нарабіла?..

Паўза.

К р ы с ц і н а. Павел, калі павядзеш па сцяжынцы, я кінуся ў чарот. Ты пачнеш страляць, але міма...

П а в е л *(пасля паўзы)*. Не. Я буду страляць у цябе. Можа, пасля — кулю ў лоб, але інакш не магу...

К р ы с ц і н а. Толькі такіх і бяруць у дэсантнікі.

П а в е л. Пойдзем.

К р ы с ц і н а. Сустрэцца б нам іншым часам...

П а в е л. Час можа быць розны. А чалавек — заўсёды чалавек.

К р ы с ц і н а. А ты — чалавек?! *(Ён маўчыць.)* Павел, гэта ж сын. Ты лічыш, павінна была...

П а в е л *(глуха)*. Страшна гэта, але...

К р ы с ц і н а. Але — сын не твой... А дзеля чаго?

П а в е л. Там чакаюць.

К р ы с ц і н а. Радзіма для мяне — Яначка...

П а в е л. Сын — і Дамарад, сын — і Максімчык, сын — і Грынь...

К р ы с ц і н а *(перабіваючы)*. Яны мне чужыя!

П а в е л. Не трэба.

К р ы с ц і н а. Млын... Суцэльны млын... І людзі — зярняткі пад жорнамі...

П а в е л. Дробяцца пад жорнамі цвёрдыя зерні, а тыя, што мякчэйшыя, праслізгваюць.

Крысціна кідаецца на калені, абдымае ногі Паўла.

К р ы с ц і н а. Паўлік, не за сябе... Выратуй Яначку... Любы, родны, малю... Дзеля ўсяго, што было...

П а в е л. Хопіць! Пара.

Крысціна павольна ўстае, глядзіць на сукенку.

К р ы с ц і н а. Так, пара... Толькі маці зробіць усё для сына... У чым працавала, у тым... Можна пераапрануцца?

П а в е л. Толькі хутка.

К р ы с ц і н а *(марудна здымае сукенку)*. Больш ніхто... целам маім... любавацца... Прыйдзеш, бывала, у лазню, а бабы: «Крыся, а цябе б дываночкі малязаць...»

П а в е л. Ідзі за перагародку! *(Накіроўвае аўтамат.)* Там пераапраніся.

К р ы с ц і н а *(не спяшаецца ісці)*. Не крычы. Баішся? Не ўтрымаешся? *(Глядзіць на аўтамат.)* Той? Так... *(Ідзе за перагародку.)*

П а в е л *(выцірае пот з ілба)*. Навошта?

Г о л а с К р ы с ц і н ы. Берагла. Яшчэ калі на мост ішлі, магла сына выкупіць...

П а в е л. Выкупіць!..

Г о л а с К р ы с ц і н ы. Але з імі ішоў ты.

П а в е л. Значыць, я прадаў хлопцаў.

Г о л а с К р ы с ц і н ы. Што можа чалавек? Пясчынка на ветры, муравей пад абцасам... Спрабуе выжыць.

П а в е л. Чалавек і пра іншых павінен думаць. Інакш — нічога не атрымаецца, не будзе толку. Табе не пашанцавала. Выбару не было. Нармальнага выбару. Але выменяць сваё жыццё на чужое... *(Адмоўна качае галавой.)* Трэба было прыняць смерць. Жорстка. Але іншага не дадзена. Не ты адна, Крысціна... Нам усім не пашанцавала. З другімі такога не будзе... Прыйшла б у атрад... А ты маўчала. І цябе засмактала. Як у балоце. Паставіў нагу не там... Гатова?

Маўчанне. Павел падыходзіць да перагародкі, там нікога няма.

Крысціна!

Павел узнімае аўтамат і выпускае чаргу ў цемру. Убягаюць партызаны, Алімпія.

Павел. Там... Дзверы?

Алімпія. Ты цо, забыўся? Проста да вады. І лодка цодзень прывязана.

Павел сціскае рукамі галаву.

Чарнуха. Дагнаць суку!.. *(Кідаецца да выхада.)*

Кузнечык. Не хацеў бы ў тваёй шкуры быць... Ага.

*Заслона.*

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Карціна чацвёртая

Партызанская зямлянка. Павел без папругі стаіць пасярэдзіне. Зубаў ходзіць. Моніч сядзіць за сталом, піша.

Зубаў. Вопытны разведчык... Як ты мог яе ўпусціць? Прызнайся — адпусціў...

Павел. Я ўжо сказаў.

Зубаў. Адправіў хлопцаў, развязаў, паслаў за перагародку і, нарэшце, не арганізаваў пагоню.

Павел. Хацеў па-чалавечаму...

Зубаў. З кім?

Павел. Яна была сувязной атрада. І шмат добрага зрабіла.

Зубаў. Цяпер немцы яе прымусяць... Ды і ведае пра нас...

Павел. Хацеў сам пераканацца.

Зубаў *(узрываючыся)*. Хто цябе на гэта ўпаўнаважыў?!

Моніч. Спакойна.

Зубаў. Не клеіцца размова. Утойваеш.

Павел. Усё сказаў.

Паўза.

Моніч. Сціпласць — рыса пахвальная, але не цяпер. Чаму не гаворыш, што ў вас быў раман?

Зубаў. Як — раман?

М о н і ч. Быў з ёю... як з жонкаю.
З у б а ў. Няпраўда... І ні слова раней?
М о н і ч. Толькі сёння даведаўся.
З у б а ў. Тады... іншая размова.
М о н і ч. Хочаш што-небудзь сказаць?

Павел маўчыць.

З у б а ў. Дэсантнік... *(Кліча.)* Вартавы!

З'яўляецца Ч а р н у х а.

Адвесці. Ведаеш, што цябе чакае?
П а в е л. Калі?
З у б а ў. Раніцаю. На досвітку.
П а в е л. Перад строем?
З у б а ў. Толькі так. На вачах дзвюхсот чалавек.
П а в е л *(пасля паўзы)*. Дайце заданне, з якога не вяртаюцца.
З у б а ў. У нас няма штрафной роты.

Павел ідзе да дзвярэй.

Ч а р н у х а *(уздыхае)*. Эх, ё маё...
З у б а ў. Можаш напісаць маці. Як-небудзь пераправім.
П а в е л *(спыняючыся)*. Яна сказала, што немцы паслалі сюды трох агентаў. Нядаўна.
М о н і ч. Падрабязнасці?
П а в е л. Не ведаю.

П а в е л і Ч а р н у х а выходзяць.

З у б а ў. Шкада сукінага сына.
М о н і ч. Па-майстэрску вартавых знімаў, бясшумна.
З у б а ў. Як ты не ведаў, што яны жывуць?
М о н і ч. Начальнік асобага аддзела не абавязаны ўнікаць у інтымныя адносіны.
З у б а ў. Не абавязаны. А гэтага б не здарылася.
М о н і ч. Даходзілі чуткі... Але ў ім быў упэўнены. Чуў? Камандзіру «Разгрому» падаслалі прыгажуню. Не ўстаяў. А потым ад атрада — рожкі ды ножкі.
З у б а ў. Помню такога. У лесе — у хромавых ботах... Ваяка. Па-мойму, яна старэйшая за Паўла.
М о н і ч. Бальзак таксама аддаваў перавагу спелым жанчынам. Глядзі, каб табе не падаслалі паненку.
З у б а ў *(качае галавой)*. Без паненкі я магу пра-

жыць. А без павагі байцоў... Ды і якое цяпер каханне? Ты бачыў яе?

Моніч. Нічога асаблівага. Хочаш яго расстраляць?

Зубаў. Не атрымаецца з настаўніка начальнік асобага аддзела.

Моніч. Я часта іду супраць сваіх жаданняў — вайна ёсць вайна. Але расстраляць байца з-за дрэннага настрою...

Зубаў. Атрад нядаўна створаны з розных груп. Калі адразу не наладзіць дысцыпліну... Такія ўмовы вайны.

Моніч. Тут многа няяснага.

Зубаў. Знарок адпусціў — упэўнены.

Моніч. Ён не вораг.

Зубаў. Хіба толькі ворагаў расстрэльваем? Непрыкметна выбалботваў ёй. Яшчэ не ведаем усіх вынікаў.

Моніч. Зайздрошчу — ніколі не сумняваешся.

Зубаў. У акружэнні з цяжкасцю дасталі вядро бульбы. На ўзвод. Згатавалі. Гляджу — дзвюх, прыгарэлых, зверху не хапае. Пытаюся: «Хто ўзяў дзве бульбіны?» Знайшлі. Загадваю расстраляць.

Моніч. Не веру. Любіш з сябе звера паказаць.

Зубаў. Жалезная дысцыпліна — вось што памагло вырвацца з акружэння. Кожны час, Моніч, мае сваю праўду, сваю справядлівасць.

Моніч. Шкада, камісар на аперацыі. Ён хацеў Шыдлоўскага да ордэна.

Зубаў. На сваіх арлоў пасылаць наградных лістоў пакуль не буду. Не для гэтага яны...

Моніч. Камісар думае, што гэты стымул...

Зубаў. Ваяваць трэба, а не думаць! Вось калі пераможам...

Моніч. Табе прапаноўвалі многіх у асабісты. А выбраў мяне. Чаму?

Зубаў. Я ведаю выпадкі, калі ахвяроўвалі дзецьмі, але не здраджвалі. Што, гэта мацней любіла? Глупства. Псіхалогія ін-ды-ві-ду... індзідуа... Цьфу. Карацей, мая хата з краю.

Моніч. Я іншы раз думаю — калі б Чэхава, Антона Паўлавіча, гуманнейшага чалавека, на маё месца... Смешна.

Зубаў. І павалок бы. Зразумеў бы неабходнасць.

З'яўляецца Ч а р н у х а.

Ч а р н у х а. Дазвольце? Кок гаворыць, рыбку дастаў. Пытаецца, абед сюды несці ці...

З у б а ў *(гнеўна).* Бачыў? Зноў... Перадай кухару, што буду есці разам з усімі, з аднаго катла. Зразумеў?!

Ч а р н у х а *(весела).* Так точна, таварыш камандзір. *(Выходзіць.)*

М о н і ч. За што ты яго?

З у б а ў. Вось скажы — нявечыць вайна людзей?

М о н і ч. Разлютавала. Хлопец як хлопец, а адно імя наводзіць жах на паліцаяў.

З у б а ў. Моніч, адкуль у іх столькі энергіі? Харчуемся неважнецка...

М о н і ч. Эх ты, стары зубр... Хлопцамі рухае многае... Але не хочуць высокіх слоў. Прыкрываюцца зухаватасцю, гарэзлівасцю. А пад усім гэтым — такая любоў да Радзімы. Сяргей, расстраляць заўсёды паспеем.

З у б а ў. Ведаю, што цябе хвалюе — хто павядзе лётчыкаў у Маскву. Сям'ю пабачыш.

М о н і ч. Пашлі яго. Інакш — камень на сумленні.

З у б а ў. Вайна для яго стала спортам. Памятаеш гісторыю з бронедрызінай?

М о н і ч. Пераможцаў не судзяць.

З у б а ў. А з камендатурай? І колькі папярэджваў — два разы сыдзе, на трэці — загубіш і сябе, і таварышаў. Не, Пятровіч, з людзей трэба выбіваць партызаншчыну. І мясцовыя пакрыўдзяцца, калі пашкадуем дэсантніка. Падпісаць загад? Як ён не здолеў яе раскусіць? *(Падпісвае.)* Не ўсякая любоў памагае ваяваць.

М о н і ч. Калі з Баранавіч вывозілі архіў, я дазволіў сесці ў кузаў жанчыне з дзяўчынкаю. Потым гляджу, побач муж яе, бухгалтар, шчупленькі, у акулярах... А час быў — сам ведаеш... Бамбяць навокал, станцыя гарыць. Я за пісталет: «Ану вылазь...» Потым даведаўся — трапіў ён у гета і там яго... Паміраць буду, а вочы яе ўспомню.

З у б а ў. Моніч, выкінь гэтую белетрыстыку з галавы. Думаеш пра адзінкі і забываеш пра тысячы.

М о н і ч. Тысячы — з адзінак.

З'яўляецца Г а н н а.

Г а н н а. Можна?

З у б а ў. Заходзь, дачка. Мая табе, Бора, парада.

Забудзь... Перамогу, перамогу! Любой цаной, любымі сродкамі. Не вырвем — некаму будзе весці размовы аб чуллівасці, маралі, гуманізме... Быць добрым сёння — грэх!

М о н і ч. Страшна, калі за вайну мы станем іншымі. Потым шмат гадоў міне, пакуль... Я вось з класікамі спрабую... захаваць. *(Глядзіць на кнігу.)* Не ведаю, як дзецям пасля вайны... Ці змагу... Пасля ўсяго, што бачыў...

М о н і ч выходзіць.

Г а н н а. Я з мястэчка. Радыёпрыёмнік скора збяруць. Галоўнае — пераправіць у лес.

З у б а ў. Хутчэй бы. Не ведаю, што б аддаў, каб толькі Маскву пачуць. Выгляд у цябе як у тыфознай. Беражы сябе, дачка. Двое нас засталося... Разумею, жыць у лесе — не для дзяўчыны.

Г а н н а. А мне цікава.

З у б а ў. Ведаеш, што разведка даносіць? Раніцаю, калі раса, ты ўскокваеш на каня і імчышся ў гушчар... Нябось, лісце б'е па твары, дыхаецца лёгка.

Г а н н а. Мама расказвала, некалі ты пісаў вершы. Праўда?

З у б а ў *(гладзіць яе валасы)*. Зусім дзіця... Які дурань даверыў табе зброю?

Г а н н а. Гэты дурань, татачка, ты... Любіш мяне?

З у б а ў. Дурненькая, дурненькая... Табе б у лялькі...

Г а н н а. У мяне да цябе просьба. Можна зрабіць вялікую дыверсію. У Рудні. Там у іх бензін, сотні тон. Для самалётаў.

З у б а ў. Ахова?

Г а н н а. Не гэта страшна — міннае поле.

З у б а ў. Куды ты хіліш?

Г а н н а. Дазволь ісці з Паўлам.

З у б а ў *(пасля паўзы)*. Арыштаваны.

Г а н н а. Ён можа размініраваць праход.

З у б а ў. Авантура.

Г а н н а. А чым я займаюся цэлы год? Пакарай, дай нам самае цяжкае заданне. Толькі не гэта.

З у б а ў. Нам?

Г а н н а. Я проста...

З у б а ў *(уздыхае)*. Заяц, я цябе ўзяў у атрад не дзеля таго, каб ты ўмешвалася ў мае справы.

Г а н н а. Тата, дай яму заданне.

З у б а ў. Калі ўцячэ... Глупства, ён не ўцячэ... Дадзім заданне... Выканае... з бляскам, мярзотнік, выканае... героем вернецца. Добры прыклад! А пасылаць з ім на верную гібель...

Г а н н а. Так неразумна...

З у б а ў. Вайна. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Хутка партсход...

Г а н н а. Тата, ты гэтага не зробіш.

З у б а ў. Мне таксама яго шкада, слова гонару. Але інакш нельга. Дысцыпліна ў атрадзе цяпер важней за яго жыццё. Партызаны — не армія. Кругом немцы. Найменшы промах — і няма людзей...

Паўза.

Г а н н а. Бацька, я люблю яго. Я пайду з атрада.

З у б а ў *(п'е ваду)*. Ніяк не магу да вады прывыкнуць. Пахне асінаю. І колер жоўты. Помніш, да вайны, у МТС калі жылі... Вада, як нарзан была...

Г а н н а. Пашлі яго на дыверсію. А я буду заложніцай.

З у б а ў. Да вайны мы з табою заўсёды дзяліліся патаемным... Сына не было. І я выхоўваў у табе хлопца.

Г а н н а. Памятаеш, паслаў нас да Ціхамірава. Па дарозе назад насцігли немцы. Мы прабраліся на Высокі востраў. Па горла ў балотнай вадзе. Тайны насціл ведалі... Надышла ноч... Недзе побач брахалі аўчаркі... На небе зоры... Я ніколі не чула, каб так пахлі суніцы... Галава кружыцца, як успомню...

З у б а ў. Ганначка, з млынарыхай ён...

Г а н н а. Павел гаварыў. Але я разумела — раніцаю немцы пачнуць шукаць сцежку. І гэта будзе апошняя раніца... А я не ведала кахання...

З у б а ў. Чым ён табе падабаецца?

Г а н н а. Рашай, бацька. Я ўжо рашыла.

З у б а ў. Куды пойдзеш?

Г а н н а. Корж мяне прыме.

З у б а ў. Што ж, дзякуй, дачка, так ты памагаеш бацьку.

Г а н н а. Пасля гэтага не змагу... з табой.

З у б а ў. А рэмня ты не хочаш?

Г а н н а *(стрымліваючы сябе)*. Тата, я не дзяўчынка, якую можна пасадзіць на калені і заплятаць коскі... Сёння пайду!

З у б а ў *(гнеўна)*. Пойдзеш?.. Ты салдат! Як станеш перад камандзірам?!

Ганна становіцца па стойцы «смірна».

Вольна... Даруй, дачушка... *(Бярэцца за скроні.)* Кацялок пасля кантузіі... І кожны дзень. Толькі — маўчок!

Ганна *(дакранаецца да яго)*. Каб ведаць, якія лякарствы — дастану.

Зубаў. Ганка, Ганка.

Ганна. Бацька, ты ж добры... Парася не мог закалоць.

Зубаў. Сто гадоў назад... У атрадзе ведаюць пра цябе і Паўла?

Уваходзіць Франэк.

Франэк. Дазвольце, таварыш камандзір. З горада чалавек прыбыў... Нашы пакінулі Севастопаль.

Зубаў *(папраўляе боты)*. Цісну... Проста бяда.

Франэк. Цяжкія баі пад Калінінам.

Ганна. Тата, я чакаю.

Зубаў. Севастопаль пакінулі.

Ганна. У іншых атрадах камандзіраў завуць «бацям». Ці чуў калі-небудзь гэта ты?

Ганна рашуча выходзіць.

Зубаў. Ганна!.. *(Ходзіць.)* Калі была маленькая, пайшла ў поле, заблудзілася ў бульбе. Ходзім, шукаем — няма дзяўчынкі. Пад раніцу знайшлі — сядзіць у разоры, плача і бруднымі кулачкамі расцірае слёзы... А можа, няпраўда пра Севастопаль?

Паўза.

Франэк. Крысціна ў гарнізоне. Нашы людзі бачылі. Жыве побач з паліцэйскай казармай.

Зубаў. Якая Крысціна?

Франэк. Ну, млынарыха. У доме паліцая. Нікуды не выходзіць, хаваецца.

Зубаў. Кажуць, прыгожая.

Франэк. Мы ведалі б агентуру, адпраўленую ў лес.

Зубаў. Павязуць яе, вядома, з ахоўвай.

Франэк. Таварыш камандзір, давайце рызыкнём.

Зубаў *(пасля паўзы)*. Забудзь.

Франэк. Не на дарозе, у гарнізоне.

Зубаў. Ты што — мухамор з'еў?

Франэк. Дайце мне трох, у тым ліку Паўла...

З у б а ў *(ківаючы)*. Партызанская дружба мацнейшая, чым франтавая, тут без гэтага дрэнна.

Ф р а н э к. Толькі я яму спачатку морду наб'ю. Кругом зямля дыміць. Кожны толькі і павінен думаць...

З у б а ў. Так, любоў — гэта не тая кветка, якую цяпер можа... А калі ў іх сур'ёзна?

Ф р а н э к. Яшчэ большы грэх, адцягвае.

З у б а ў. Франэк, жалезны Франэк... Я думаў — Ганна і ты... Слаўная была б пара.

Ф р а н э к. Калі з палону ўцёк, зарок даў — пакуль апошні гад не пакіне нашай зямлі, ні на адну не гляну... Як бы ні падабалася...

З у б а ў. На яго месцы ты б адмовіўся ад жанчыны?

Ф р а н э к. Ён не быў у палоне, таварыш камандзір.

З у б а ў. Рука баліць?

Ф р а н э к. Глупства. Добра, што правую паранілі.

З у б а ў. Ведаеш, колькі немцаў і паліцаяў у гарнізоне?.. Колькі кулямётаў?

Ф р а н э к. Ніхто ў лоб не палезе. Алімпія падрабязна расказала, як прабрацца.

З у б а ў. Алімпія? Яе цётка?

Ф р а н э к. Баіцца, што Крысціна вялікую бяду нам рыхтуе.

Паўза.

З у б а ў. Калі б назвала агентаў... Але трэба жывую.

Ф р а н э к. Так, згодны?

З у б а ў. Цьфу!.. Напляваць і забыць. Ён расказвае казкі, а я, стары дурань... На верную гібель паслаць...

Ф р а н э к. А ведаеце, таварыш камандзір, я вас раскусіў. Добры вы. Хаваеце. Думаеце, лютаму ваяваць лягчэй.

З у б а ў *(пасля паўзы)*. Пустое мелеш. Таксама, псіхолаг.

Ф р а н э к. Значыць, самі не ўсведамляеце. Вы кім да вайны працавалі?

З у б а ў. Кім? Да горада аграномам МТС. У гэты час звычайна бульбу другі раз абганялі. Калгасы наўкол добрыя былі, людзі не скардзіліся. Навошта гэта табе?

Ф р а н э к. А я не толькі плыты ганяў... У цырку адзін час працаваў. Рабочым, праўда. Там артыст нумар выконваў, пакуль не атрымліваўся.

Уваходзіць М о н і ч.

М о н і ч. Я пра Паўла хацеў... *(Глядзіць на Франэка.)*

З у б а ў. Яго гэта таксама датычыць.

М о н і ч *(пасля паўзы).* Увогуле, без камісара на расстрэл не згодзен. Пастроім атрад, і няхай байцы вырашаць.

З у б а ў. Значыць, загад... *(Дастае з планшэта карту, вывучае.)*

М о н і ч. Усё вырашаць байцы. Скажуць, расстраляць — так і зробім, не — будзе ваяваць.

З у б а ў. Што ж, гэта...

М о н і ч. Даруй, калі ласка, так трэба. У свой час Ільіч прасіў пашкадаваць эсэрку.

З у б а ў. Таму, што страляла ў яго. Але калі б страляла ў Савецкую ўладу... Дык як падысці да гарнізона?

Ф р а н э к. Барыс Пятровіч, вось, прапаную камандзіру яе выкрасці.

М о н і ч. Сама тут, сын асобна, у трох кіламетрах. Навошта?

Ф р а н э к. Агенты могуць быць і ў нашым атрадзе.

З у б а ў. Што прапануеш, асобы аддзел?

М о н і ч *(пасля паўзы).* Няхай паспрабуюць.

З у б а ў. Дрот, пасты...

Ф р а н э к. Пост не мост, абысці можна.

М о н і ч. Рука не перашкодзіць?

Ф р а н э к. Фельчар нешта прыклаў. Жалезна. *(Хітра падміргвае Монічу.)*

М о н і ч *(непрыкметна грозіць пальцам).* Неўзабаве з гета выкрадзем хірурга. Выдатны спецыяліст. Хаця б не спазніцца, збіраюцца знішчыць.

З у б а ў. Сволачы, усю інтэлігенцыю перавядуць. Аб чым толькі думаюць?!

М о н і ч. Яны не думаюць — ваююць.

З у б а ў *(падыходзіць да дзвярэй).* Арыштаванага! Самі ў пекла не лезьце — яго... І запомні: калі штонебудзь — страляй.

Ч а р н у х а прыводзіць П а ў л а.

М о н і ч. Напісаў пісьмо маці?

П а в е л *(ківае галавой).* Няхай думае, што ў баі. Ужо?

З у б а ў. Значыць, такая абстаноўка. Мы доўга спрачаліся. Я за самую суровую меру... *(Памарудзіў-*

*шы.)* Нягледзячы ні на што... Але можам даць заданне. Вельмі небяспечнае. Выбірай, расстрэл перад строем ці...

П а в е л. Дзякуй, таварыш камандзір.

З у б а ў. Рана дзякаваць. Трэба ўзяць Крысціну. У гарнізоне.

М о н і ч. Што маўчыш?

З у б а ў. Гарнізон ёсць гарнізон. Адтуль... амаль не вяртаюцца. Але калі выканаеш, захаваем табе жыццё.

П а в е л. А ёй?

З у б а ў. Пытанне яснае — у расход.

Павел праводзіць рукой па лбе.

Ф р а н э к. Апамятайся, Павел, сам прасіўся...

П а в е л. Ратаваць сваю шкуру за чужую...

З у б а ў *(расшпільваючы кабуру).* Мярзотнік. Здрадніка пашкадаваў? Пастроіць атрад.

П а в е л. Крысціна прадала, але яна не здрадніца. Што вы пра яе ведаеце?

З у б а ў. А што ведаеш пра яе ты,— прыгожая баба?!

М о н і ч. Сяргей, не гарачыся. Павел, нас цікавяць тыя агенты... Ад цябе залежыць жыццё многіх, магчыма, нават лёс атрада.

П а в е л *(пасля доўгай паўзы).* Калі трэба выходзіць?

З у б а ў. З табой пойдуць Франэк і яшчэ двое. У дом увойдзеш сам... Запомні — Крысціна патрэбна жывой. Інакш губляецца сэнс аперацыі.

П а в е л. Так, патрэбна жывой...

З у б а ў *(грэбліва, недаўменна).* Няўжо ў цябе да яе... што-небудзь засталося?

П а в е л. Дазвольце рыхтавацца, таварыш камандзір?

З у б а ў. Ідзіце.

П а в е л, Ф р а н э к, Ч а р н у х а выходзяць.

М о н і ч. Любоў — гэта дар. Далёка не кожны любіць здольны.

З у б а ў. Калі сябе, сваю палюбоўніцу або сына любіш у шкоду іншым людзям, дык гэта любоў грэшная. Не памятаеш, дзе жыве маці Максімчыка?

М о н і ч. Як жа. Кіламетрах у трыццаці.

З у б а ў. Трэба паслаць хлопцаў. Ці не мае патрэбы яна ў чым-небудзь...

М о н і ч. Даўно заўважыў — калі ў душы чалавека ёсць хоць адна трэшчынка, яны здолеюць учапіцца кіпцюрамі. Фашысты!

З у б а ў. Ну, добра, не расстралялі, па яе паслалі... Ды гэта ж горш за расстрэл!

М о н і ч. Дзіўны ты чалавек.

З у б а ў *(пасля доўгай паўзы).* Ведаеш, што я думаю? Пасля вайны нас у нечым не зразумеюць.

## Карціна пятая

Ноччу ў гарнізоне. Несціхана шуміць дождж. Недзе брэшуць сабакі. Схаваныя ў кустах стаяць Ф р а н э к, П а в е л, К у з н е ч ы к, Ч а р н у х а. На другой палавіне сцэны, трошкі далей — пакой. Цьмяна гарыць лямпа. На табурэтцы ля стала сядзіць А л і м п і я. Па пакоі неспакойна ходзіць К р ы с ц і н а, і яе цень трывожна мітусіцца па сцяне. Зразумела, бачыць іх толькі глядач.

Ч а р н у х а. Закурыць бы. Хаця адзін чынарык.

Ф р а н э к. Я табе закуру. Іскры з вачэй пасыплюцца.

Ч а р н у х а. Хана, адсырэла махорка. Гэты дождж, зараза... Ніводнай сухой анучы не засталося.

Ф р а н э к. Нехта ідзе.

А л і м п і я. Пелі бардзо прыгожа. Арган граў. Перад гэтым ксёндз гаварыў. А я слухала і думала — калі ты з немцамі звязалася, бог табе не даруе.

К р ы с ц і н а. Што ты на мяне так глядзіш?!

А л і м п і я. Куды ж мне вочы дзець? У людзей яны на тое, каб бачыць.

Ф р а н э к. Вецер. Разбудзі дзядзьку Васіля, а то захрапе.

К у з н е ч ы к. Заснеш тут, та-та-та! І ў лагеры сплю заечым сном — дробна-дробна...

Ч а р н у х а. А можна спаць стоячы?

Ф р а н э к. У нас, у лыжным батальёне, адзін спаў на хаду. Яго заўсёды ставілі пасярэдзіне. А то ідзе, ідзе, і як лунацік, пабрыў убок.

А л і м п і я. З Анэляй гаварыла. Пыталася, як Хрысця жыве, дзе Янэк.

К р ы с ц і н а. Навошта ты прыехала? Костачкі мне перамываць?! Увесь вечар толькі і чую...

А л і м п і я. Я не да цябе, да касцёла. Што ж, мне

на ноч гледзячы на млын ехаць? Не хочаш, каб тут начавала, пайду да людзей.

Чарнуха. Другую ноч мокнем. У носе хлюпае.

Кузнечык. Я думаў, што ў маіх лапцях так чвякае.

Чарнуха. Дзядзька Васіль, ты быў у Адэсе?

Кузнечык. Не, але я ведаю, дзе яна.

Франэк. Тсс!

Недзе побач чуецца нямецкая мова.

Крысціна. Цяжка мне, Алімпія, ой як цяжка... Камень вось тут... І Павел на сумленні... Калі б Янэк быў не ў іх, пайшла б у лес і сказала: «Вінавата. Рабіце што хочаце...»

Алімпія. Пабаялася б.

Крысціна *(адмоўна качае галавой).* Жыць страшней.

Алімпія. Хрысця, цо далей бэндзе?

Крысціна. Не ведаю, нічога не ведаю... Немцы мне такое прапаноўваюць... А пайсці самой да партызан...

Кузнечык. Патруль?

Чарнуха. І ў дождж ходзяць, гады. Нешта ў іх сёння неспакойна...

Кузнечык. Добра фрыцам у плашчах.

Чарнуха. Трэба пазычыць.

Франэк. Без глупства. Не па гэта прыйшлі.

Алімпія. Удзень бачыла — ля Юлікавага плота калючка адагнутая, дзеці лазілі.

Крысціна *(памаўчаўшы).* Ты хочаш, каб я пайшла ў лес?

Чарнуха. Доўга гэтая сцерва спаць не кладзецца. Відаць, з Алімпіяй балакае.

Кузнечык. Гарыць агонь?

Франэк. Добра, што аканіцы са шчылінамі. Рассохліся.

Чарнуха. Як любоўнага спаткання чакаем... Нябось, ляжыць і не здагадваецца, што хочам сустрэцца... А бабка цёпленькая...

Франэк. Перастань.

Алімпія. Хрысця, блізка з тваім домам... партызаны.

Крысціна. Партызаны? Тут... Адкуль?

Алімпія. Па цябе прыйшлі.

Крысціна. А!.. Вось яно... Але ты не ведала —

за сцяной паліцай жыве... Кулямёт у яго... А па сцежцы вартавы ходзіць... *(Падыходзіць да сцяны, стукае.)* Пан Віткоўскі!..

Голас за сцяной. Чаго табе, Крыся?

Крысціна *(памаўчаўшы)*. Колькі часоў?

Голас за сцяной. Адны. *(Смех.)* Палова другой. Спі.

Доўгая паўза.

Алімпія. Я старая, пажыла сваё... А іх пераб'юць... І Васіля, і Паўла, і Франэка...

Крысціна. Павел тут?

Алімпія. І Чарнуху. Страляць пачнуць — усіх пераб'юць.

Крысціна. Павел прыйшоў...

Алімпія. Ім пра шпіёнаў ведаць трэба.

Крысціна. Я шмат даведалася. Асабліва цяпер.

Алімпія. У лес цябе павядуць.

Крысціна. А потым?

Алімпія *(памаўчаўшы)*. У бібліі сказана, Хрысця, за такое...

Чарнуха. З-за нечай дурасці стаю, мокну.

Франэк. Я цябе сагрэю — маці не пазнае.

Чарнуха. А што, няпраўда?

Кузнечык. Вось зануда! Марачок! Вечна пляце кашалі з лапцямі.

Чарнуха. Малады, выпраўлюся.

Кузнечык. Калі народзіцца жарабя з лысінай, дык і памрэ з ёю. Чаму гэта часта ракеты шпурляюць?

Крысціна. Алімпія, немцы заб'юць Янэка.

Алімпія. Я тут застаюся. Скажу, сілком узялі. Павераць.

Чарнуха. Кузнечык, дрыжаць калені ў баю?

Кузнечык. Раней зубы сціскаў. Каб не стукалі. Цяпер прывык.

Франэк. Цішэй вы, кругом немцы.

Чарнуха. А немцы гавораць — кругом партызаны. Дык хто гаспадар у Беларусі?

Крысціна. Цябе будуць мучыць.

Алімпія. Не бойся за мяне, Хрысця. Янэка забярэ цётка Альбіна, я наказала.

Павел. Давайце бліжэй станем, цяплей будзе.

Кузнечык. Недзе і мая баба яшчэ не спіць... Позна любіла класціся. Працавітая.

Чарнуха. Ды і ты — сямёра дзяцей! Франэк,

чуў, у Галалоба, аказалася, брат у паліцыі. Весела, калі ў баі — лоб у лоб...

К у з н е ч ы к. Страшна, калі фронт ідзе — вось тут. *(Паказвае на грудзі.)*

К р ы с ц і н а. Не думала, што ты такая. *(Апранаецца.)*

А л і м п і я. Германцы вечна не будуць. Калі-небудзь вайна скончыцца. Што людзі пра нас скажуць?

К р ы с ц і н а. Бывай, Алімпія. Я іду. Няхай судзяць.

А л і м п і я. Бывай, Хрысця. Хоць як трэба бяду выпраўляць.

К р ы с ц і н а змяншае святло і выходзіць.

Ф р а н э к. Глядзіце, пагасла.

К у з н е ч ы к. Значыць, бай-бай.

Ф р а н э к. Пара.

Ч а р н у х а. Няхай засне. А то Алімпія не адчыніць.

Ф р а н э к. Павел, давай.

Ч а р н у х а. Пачакай, Франэк, лепш я пайду.

Ф р а н э к. Што такое?

Ч а р н у х а. Зноў адпусціць, убачыш.

Паўза.

П а в е л *(павольна).* Не адпушчу.

Ч а р н у х а. Я давяраю толькі сабе, ды і то — калі карабін у руках.

К у з н е ч ы к. Няхай Чарнуха — больш надзейна.

П а в е л. Хлопцы, Франэк...

Ф р а н э к *(пасля паўзы).* Ідзі, Павел. Назірай за вартавым.

П а в е л ідзе ў цемру.

К у з н е ч ы к. Сапраўдны разведчык. Налаўчыўся хадзіць ноччу па лесе, як днём па тратуары — ні адна галінка не зварухнецца. А вось звязаўся з гэтай... даруй божа...

Ч а р н у х а. Чаму так брэшуць сабакі?

Ф р а н э к. Цішэй.

К у з н е ч ы к. Марачок, калі б да вайны, вось так, мокры, прастаяў усю ноч, назаўтра хвост бы адкінуў, га?

Ф р а н э к. Балоты нашы гаючыя. Гразямі лячыцца можна.

Ч а р н у х а. Цсс!

Ф р а н э к. Што такое?

Ч а р н у х а. Нейкі шухар. *(Паўза.)* Ці здалося?

Ф р а н э к. Трэба памагчы.

Ч а р н у х а. Я пайду.

Ф р а н э к *(пасля паўзы).* Ідзі.

Ч а р н у х а выходзіць.
П а в е л асцярожна прабіраецца ў кустах. К р ы с ц і н а кліча яго.

К р ы с ц і н а *(шэптам).* Павел...

Павел рэзка паварочваецца, трымае нож.

Хадзем. Я гатова.

П а в е л *(таксама шэптам).* Куды?

К р ы с ц і н а. У лес. Ідзі сюды, там вартавы.

П а в е л. Яго няма.

К р ы с ц і н а *(працягвае рукі).* Вяжы.

Павел бярэ яе рукі ў свае, шукае вяроўку, але не знаходзіць.

Ф р а н э к. Дарма ты на яго. Не быў ён на моры.

К у з н е ч ы к. Як — не быў? Чарнуха?

Ф р а н э к. На Прыпяці, на баржы... Калі сястру яго... немцы, ён зняў вартавога і ў казарме нажом дзевяцярых...

К р ы с ц і н а. Дождж перастаў.

П а в е л. Ідзе. Дробны.

К у з н е ч ы к. Калі б ведалі, што мы тут, у іх пад носам... Чаго стогнеш? Рука?

Ф р а н э к. Намокла і ные.

К у з н е ч ы к. Наліха ўвязаўся з намі...

Ф р а н э к. Папраў павязку.

К р ы с ц і н а. Яны ашукалі... Не аддалі Янэка. Ідзі, кажуць, у лес, золата атрымаеш. Сволачы.

П а в е л. Фашысты.

К р ы с ц і н а. Кроў? Ты паранены?

П а в е л. Гэта... не мая.

К р ы с ц і н а. Табе быў наганяй?

П а в е л. Глупства.

К р ы с ц і н а. Ты ўмееш ваяваць, але хлусіць не навучыўся. Хадзем. Ад партызан можна ўцячы — ад сябе не ўцячэш. Калі скончыцца вайна, жаніся з Ганнаю... Толькі з ёй.

П а в е л. Крысціна... *(Абрывае сябе.)*

К р ы с ц і н а. Чаму я не наклала рукі?.. У самым пачатку...

П а в е л. Здолела б.

К р ы с ц і н а. Гэта было б лепш.

З'яўляецца Ч а р н у х а. Павел апускае нож.

Ч а р н у х а *(пасля паўзы).* Завязаць і рот заткнуць.

Павел павольна адмоўна качае галавой. Ч а р н у х а, К р ы с ц і н а і П а в е л ідуць да астатніх.

К у з н е ч ы к. І ўсё-такі, хлопча, табе пашанцавала.

Ф р а н э к. Шчаслівы. Калі ў Германію везлі, скакаў з поезда, таксама ноччу. Трапіў паміж штабелямі шпал. На паўметра туды або сюды — і мокрае месца.

К у з н е ч ы к. А я няўдачнік. Падклалі, Эшалон — дрррыль! Так радаваўся... Падыходзім — сена везлі, у цюках...

Ф р а н э к. Цсс!

З'яўляюцца П а в е л, Ч а р н у х а, К р ы с ц і н а.

К у з н е ч ы к. Вось, значыць, сустрэліся.

Ф р а н э к. Вартавы — нічога?

П а в е л. Я яго... Давялося.

Ф р а н э к. Ай-яй-яй... Праз дваццаць мінут у іх змена.

К у з н е ч ы к. Братцы, зайца ногі ратуюць... Хутка світаць пачне. Клічце Улімпу, і ходу.

Ф р а н э к *(памаўчаўшы).* Не пойдзе. Гаварыў.

П а в е л. Крысціна, вазьмі маю куртку.

К р ы с ц і н а. Мне не холадна, Павел.

К у з н е ч ы к. Дзе будзе падвода?

Ф р а н э к. Каля лесапілкі.

Ч а р н у х а. Мы папаўзём пад дрот, а вы прыкрывайце.

К р ы с ц і н а. Там кулямётная вышка, а злева, кажуць, міннае поле. Трэба ісці вунь на тое дрэва.

Ч а р н у х а. Ну, кабеціна, пайшлі...

К у з н е ч ы к і Ч а р н у х а выводзяць К р ы с ц і н у. Алімпія ціхенька робіць у кватэры непарадак.

Ф р а н э к. Разбудзіў?

П а в е л. Ля дома сустрэў. Ішла ў лес, да нас.

Ф р а н э к. Сама? Чаго?

П а в е л. У мяне да цябе просьба.

Ф р а н э к. Ну?

П а в е л. Ідзіце без мяне.

Ф р а н э к. Што — звар'яцеў?

П а в е л. Так трэба.

Ф р а н э к. Ты што задумаў?

П а в е л. Прыйду пазней, раніцаю.

Ф р а н э к. Нікуды не пойдзеш. Зразумеў?! *(Скіроўвае аўтамат на Паўла.)*

П а в е л. Цішэй. Я хачу прывесці ў атрад яе сына.

Ф р а н э к. З мястэчка? А паліцэйскі ўчастак? Павел, сёння нам пашанцавала. Двойчы такое не бывае.

П а в е л. Франэк, я абавязаны.

Ф р а н э к. Хочаш, каб жыўцом схапілі? Ты ведаеш маю левую.

П а в е л. Дзеля дружбы...

Ф р а н э к. Ты зубоў не загаварвай! Бачыў, як ракеты...

П а в е л. Я ведаю, калі не вярнуся — цябе ў асобы аддзел.

Ф р а н э к. Не ў гэтым справа.

П а в е л. Нам далі тры дні на заданне. Мы выканалі за два. Дзень мой.

Ф р а н э к. Твой? А ці ведаеш, колькі за гэты дзень... Жанчын, дзяцей... Гэта ты ведаеш?

П а в е л. Франэк, калі яны ўбачаць, што Крысціны няма, хлопчыка заб'юць.

Ф р а н э к. Няўжо ты яе яшчэ...

П а в е л. Не магу растлумачыць.

Ф р а н э к. Нянавісці ў цябе мала.

П а в е л. Яна павінна зразумець, што людзі лепшыя...

Ф р а н э к. Не, не пушчу... Толькі пасмей. Знявечу, як бог чарапаху.

П а в е л. Успомні станцыю, бой ля моста... Успомні, як нас ганялі па могілках... Франэк, сёння ты мне ўступіш.

Ф р а н э к. Хто ён табе? Чужы.

П а в е л. У нас няма чужых.

Ф р а н э к. Ён сын здрадніцы.

П а в е л. Ён не вінаваты. Свішчуць, чуеш? Перайшлі. Я разумею... За Ганну ты мне гатовы... Але твая рэўнасць...

Ф р а н э к. Рэўнасць?! Дурань! Такія хлопцы гінуць, а ён...

П а в е л. Я іду, Франэк.

Ф р а н э к. Павел!.. У мяне ёсць загад... страляць. І ты мяне ведаеш.

П а в е л. Падвядзеш хлопцаў. Да сустрэчы, Франэк.

Ф р а н э к. Пачакай... Вазьмі аўтамат, «лімонку»... Як бы я хацеў гэтай гранатай... па галаве.

**Павел.** Разумею, што табе пагражае... Подла. Але не магу інакш... Даруй, дружа.

**Франэк.** Бывай.

Павел выходзіць.

## Карціна шостая

Золак на млыне. Той жа двор, што і ў першай карціне, але штосьці няўлоўна змянілася. Не спяваюць птушкі. Сціхлі лягушкі на балоце. Убаку група партызан, сярод іх Ганна, Кузнечык. Адны прыйшлі з задання, другія ідуць на аперацыю. Хтосьці чысціць зброю. На бервяне сядзіць Галалоб з перабінтаванай галавой, наігрывае на гармоніку «Синий платочек». Партызаны паглядаюць на дзверы дома, чакаюць.

**Ганна.** Гэта праўда — сама прыйшла?

**Галалоб** *(памаўчаўшы).* Так.

З дома выходзіць Моніч, Крысціна, Чарнуха з карабінам. Моніч глядзіць на гадзіннік, марудзіць.

**Чарнуха** *(Галалобу).* Не люблю прыводзіць у выкананне. У баі — калі ласка. А калі стаіць з пасалавелымі вачыма і просіцца... Цьфу.

**Крысціна.** Так, у таго, высокага, што адзін у лес пайшоў, шынель быў падраны, злева, вось так...

**Моніч** *(садзіцца на камень, піша).* Што яшчэ можаш паведаміць? Нічога не ўтаіла?

Крысціна маўчыць.

Ёсць у цябе якая-небудзь просьба?

**Крысціна.** З Паўлам пагаварыць хачу.

**Моніч.** Немагчыма. *(Кладзе ліст у канверт.)*

**Крысціна** *(горка ўсміхнуўшыся).* Разумею.

**Моніч.** Пайшоў па твайго сына. Самавольна.

**Крысціна.** Па Янэка?..

**Моніч.** Чарнуха, там... скора?

**Чарнуха.** Амаль гатова. Як на пана працуюць.

**Моніч.** І ўсё-такі — чаго ішла ў лес?

**Крысціна.** Па смерць. Не бойцеся — прасіцца не буду.

**Моніч.** Зразумела, у чым твой грэх?

**Крысціна.** У тым, што нарадзілася на свет.

**Моніч.** Не сябе шкадуй. Іх успомні... *(Глядзіць на гадзіннік, марудзіць.)* Учора маці Максімчыка адвезлі сёе-тое. З прадуктаў. А яна глядзіць і ні слова...

**Кузнечык.** Ведаеш, чаго мне, бывае, хочацца? Каб у партызан была турма. Добрая, моцная, на колах.

Г а н н а. Балбочаш глупства.

К у з н е ч ы к. Часта і адпусціць нельга, і ў расход зашмат. А турма тады — самая лепшая справа. Ага.

З'яўляецца З у б а ў. Моніч глядзіць на гадзіннік, пераводзіць позірк на Зубава. Той сцвярджальна ківае.

М о н і ч. Усё.

Ч а р н у х а *(падыходзіць да Крысціны).* Хадзем, пікі-козыры...

К р ы с ц і н а. Перадайце Паўлу, што ён...

М о н і ч. Далей.

К р ы с ц і н а. Колькі буслоў...

Ч а р н у х а. Буслы — гэта добра. Да дабра. У нас на Дняпры іх безліч.

З'яўляецца П а в е л, ён ідзе павольна, спыняецца.

П а в е л. Я... прывёў яго. Янэка.

К р ы с ц і н а *(адступае).* Не... Не...

М о н і ч. Ён здаровы?

П а в е л. Так. Здаровы.

З у б а ў. Можаш пагаварыць з ёю.

Павел глядзіць на Крысціну, адмоўна качае галавой.

П а в е л. Няма аб чым.

К р ы с ц і н а. Павел...

Хістаючыся, Павел робіць некалькі крокаў за сцэну. Партызаны глядзяць услед і раптам ускліквулі. Ганна кідаецца да Паўла.

М о н і ч. Доктара! *(Хутка выходзіць.)*

З у б а ў. На падводу і зараз жа ў лагер! *(Крысціне.)* З сынам развітайся.

Ч а р н у х а. Ну, чаго стаіш?

К р ы с ц і н а. Павел... Божа мой... Што я нарабіла...

Ч а р н у х а выводзіць К р ы с ц і н у. З'яўляецца Ф р а н э к.

З у б а ў. Што вы цягнеце?!

Ф р а н э к *(памаўчаўшы).* Ён увесь... зранены.

Г а л а л о б. Як ён дабраўся? Гэта ж да млына кіламетраў...

К у з н е ч ы к. Восем з гакам.

Ф р а н э к. Гэта я яго...

З у б а ў *(пасля паўзы).* Франэк, у яго стралялі фашысты. І з імі зараз будзе бой. Звычайная вайна.

З'яўляецца М о н і ч.

Аб чым яна — з сынам?

Моніч. Гаворыць: «Помні Паўла, увесь век помні. За партызан трымайся, у людзі выведуць».

Зубаў. А ён?

Моніч. Пытаецца: «Мама, цябе пасылаюць на заданне?»

Зубаў *(не адразу)*. Звычайная вайна.

З'яўляецца Ганна.

Ганна. Ён сам смерці шукаў. Ці паможа доктар?

Зубаў. Што з Алімпіяй?

Франэк *(паціснуўшы плячамі)*. Хутчэй за ўсё, расстраляюць.

Галалоб. Калі хлопчык падрасце і ўсё зразумее... *(Ківае галавой.)* Калекай вырасце.

Кузнечык. Не трэба яму ўводзіць у вушы.

Галалоб. Не ўтоіш.

Франэк *(правярае аўтамат)*. Увечары з Каменкі прыйдуць. Дванаццаць.

Зубаў. Зброя?

Франэк. Ва ўсіх. Нават адзін кулямёт. *(Выходзіць.)*

З'яўляюцца Крысціна і Чарнуха.

Крысціна. Што з ім будзе?

Моніч. Адправім у зону. Там сем'і партызан.

Крысціна. Лашчыць, любіць... А стане вялікім — узненавідзіць і адмовіцца. Як Павел...

Моніч *(да Чарнухі)*. Чаго чакаеш? Хутчэй.

Чарнуха. Пайшлі.

Зубаў. Адставіць!

Моніч. Як разумець?

Зубаў. Няхай ідзе к чортавай матары, на ўсе чатыры бакі. *(Закурвае.)*

Крысціна. Што? Гэта праўда?..

Моніч. Нават да немцаў?

Зубаў. Чарнуха, адвядзі яе і чакай там.

Чарнуха выводзіць Крысціну, Зубаў бярэ канверт, дастае паперу, глядзіць.

Так, гэтыя не ў нас, у суседзяў...

Моніч. Дзе логіка? З-за яе ты хацеў Паўла...

Зубаў. Напэўна, пасля вайны будуць самыя чырвоныя суніцы... Навокал там густа паліта крывёю... *(Вяртае канверт.)* Мы не фашысты. Калі можна без кулі — абыдземся.

Моніч. Сваёй рукой ты расстраляў не аднаго

здрадніка. Чым гэта лепшая? Па волі ці па няволі — яна забойца.

З у б а ў. Сама прыйшла. Сама сябе пакарае.

Г а л а л о б. Разнюніліся? А ў тых што — дзяцей не было?! Іх што — ніхто не любіў?! Таварыш камандзір, каго адпускаеце? Гэтую гадзіну?!

З у б а ў. Яна яшчэ і маці.

К у з н е ч ы к. Ваўчыха. Маці другіх не губіць.

Г а л а л о б. Браток мой — такая ж сволач. Улады захацелася!

Г а н н а. Цёмная баба. Дзе ёй зразумець...

М о н і ч. Пяцёра нашых таварышаў.

З у б а ў. Гэтым іх не вернеш. *(Паўза.)* Моніч, чаму я павінен вырашаць такія пытанні? Я салдат.

М о н і ч. Ты яшчэ і Савецкая ўлада.

З у б а ў. Да вайны ёй далі б гадоў пятнаццаць.

Г а л а л о б *(падыходзіць да Зубава).* Дзе Максімчык? Дзе Дамарад? Не магу, камандзір!

З у б а ў *(пасля доўгай паўзы).* Не можаш? Тады... канчай. Сам. Так. Адпусціць — значыць, дараваць.

З'яўляецца Ч а р н у х а. Зубаў ударае бізуном па халяве.

Гэта што такое?! Дзе арыштаваная?

Ч а р н у х а. Я хацеў выцягнуць... Але яна...

М о н і ч. Што здарылася?

Ч а р н у х а. У дрыгву кінулася.

М о н і ч. Спрабавала ўцякаць, ці што?

Ч а р н у х а. Я ёй — вяроўку, а яна — не бярэ...

Доўгая паўза. Кузнечык непрыкметна хрысціцца.

М о н і ч. І на гэты раз — выбрала, што лягчэй.

Ча р н у х а. Калі ішлі, яна ўсю дарогу: «Не адпускайце мяне. Не змагу жыць. Забіце». Крычу ёй — змоўкні! А яна: «Забі мяне, вызвалі душу... Страшэнна жыць хочацца,— гаворыць,— пчол тры сям'і завялі, прыгожых кветак пасеяла... Толькі не змагу». А як дайшлі да кладкі...

М о н і ч. Дамарада, аказваецца, узялі параненага. Учора памёр ад катаванняў. Нічога не сказаў.

Г а н н а. У дрыгве... гадзюкі, п'яўкі... *(Уздрыгвае, пацепваецца.)*

К у з н е ч ы к. Ну і парыць. Дождж будзе.

З у б а ў *(раптам выпрастаўся, паправіў маўзер).* Праз дзесяць мінут — па конях! *(Выходзіць.)*

Партызаны рыхтуюцца да выступлення,

Моніч. Кузнечык!

Кузнечык. Слухаю! *(Паспешліва падыходзіць.)*

Моніч *(перадае канверт)*. Давай, дзядзька Васіль, у атрад «За Радзіму». Начальніку асобага аддзела. Прывяжы да гранаты. Калі што...

Кузнечык. Вядомая справа, ла-та-та.

Моніч. На каня, і ляці.

Кузнечык *(хавае канверт)*. А я, таварыш Моніч, нацянькі па балоце на сваіх дваіх хутчэй далячу.

Моніч. Глядзі, каб у дрыгву не трапіў.

Кузнечык *(адмоўна качае галавой)*. Ён гаварыў — я таксама заходнік, па нутру. Можа, і што якое, га? *(Выходзіць.)*

Галалоб. Заходнікі, усходнікі... Глупства гэта. Савецкія.

Ганна раптам, нікога не саромячыся, пачынае рыдаць.

Моніч. Пракляцце на гэтую вайну! Няўжо толькі год ваюем?

Галалоб. Сёння я буду страляць. Як яшчэ не страляў... Каб скончыўся час гэты... За ўсё разлічуся!

Гасне святло, і высвечваецца твар Зубава, стомлены, пастарэлы, высвечваецца знізу. Ён глядзіць у залу. З глыбіні сцэны адзін за адным праходзяць маладыя, моцныя, прыгожыя.

Дамарад *(хвацка)*. Эх, секануць бы нам полечку! Каб стук ад абцасаў на ўсю вёску.

Грынь. Дачушка ў мяне, пан камандзір, заглядзенне. Вось такая... *(Паказвае на метр ад падлогі.)* А ўсё разумее. Ядвісяй завуць.

Максімчык. Я напішу пра вас, Крысці-на... Світанне. Вясёлка ў кроплях на папараці. У тумане, як у аблоках... Босая каля ляснога возера...

Ганна. Ведаеш, тата, учора ў засадзе ляжала і ўспамінала, як ты злавіў ваўчаня, прынёс дамоў. Мама сварылася, а ты сказаў: «Выгадуем з яго чалавека...» Смешна. Няўжо мы некалі былі такімі?

Павел. Таварыш камандзір, дайце заданне, з якога не вяртаюцца.

Франэк. Вабіць мяне млын. Калі чую шум вады, разумею — жыццё вечнае. Незалежна, застануся я ці не.

Зубаў. Баляць... старыя раны.

*Заслона.*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Марозаў Андрэй Сяргеевіч — урач, 30 год.

Чамалаеў Аляксей Міхайлавіч — урач, 65 год.

Лапіцкая Мар'я Аляксееўна — галоўны ўрач, 45 год.

Каця Муравейка — медсястра, 25 год.

Антон — яе муж, санітар, 27 год.

Лена — медсястра, 23 гады.

Юлія Паўлаўна Атаманава — жанчына нявызначаных год.

Тамара — яе дачка, 25 год.

Наташа — яе дачка, 20 год.

Барыс — прыяцель Марозава, 35 год.

Патанін Канстанцін Пятровіч — падпалкоўнік, 42 гады.

Жук — наведвальнік, сусед хворага, 50 год.

Невядомая — жанчына гадоў трыццаці, у бальніцы не паяўляецца.

Дзея адбываецца ў перыферыйнай псіханеўралагічнай бальніцы.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Вялікае прасторнае памяшканне са скляпеністай столлю. Некалькі вузкіх дзвярэй. Шырокае, амаль на ўсю сцяну акно зроблена нядаўна ў шырокай каменнай сцяне. Калісьці тут быў манастыр. З таго часу будынак шмат разоў перабудоўвалі, але асноўнае аблічча захавалася. У калісьці прасторнай манастырскай трапезнай размясціўся дзяжурны пакой урачоў і медсясцёр. Гэты пакой адначасова служыць і для неведванняў хворых. Тут можна вылзеліць тры пляцоўкі — для ўрачоў, для сясцёр, для гасцей. Сучасны інтэр'ер і старасветчына. За акном у маляўнічым парку сярод стогадовых ліп відзён змрочны будынак ■ цьмяна асветленымі вокнамі на розных узроўнях. Наверсе будынка ў дзвюх вежах цямнеюць правалы.

На авансцэне, збоку (альбо ў глыбіні сцэны — гэта залежыць ад пастаноўшчыка) — начны столік, тэлефон — у зацямненні. Гэта па-за бальніцаю.

Позні вечар. Антон, малады санітар ■ вусікамі, дапамагае сваёй жонцы Каці, медсястры, прыняць дзяжурства.

Каця *(гартае журнал)*. Вокны праверыў?

Антон. І вокны і дзверы — парадак.

Каця. Люк на гарышча?

Антон. Ну што я — хлусіць буду?

Каця. Які жудасны крык у гэтай савы. *(Зачыняе акно.)* Як ты думаеш, ноччу нічога не здарыцца?

Антон *(лагодна)*. Ды ну цябе, Кацька!

Каця. Хворыя ў палатах?

Антон *(не гледзячы на Кацю)*. Кураць у ваннай! Сяргеевіч едзе ад нас, вось табе і неспакойна.

Каця. Да чаго гэта ты?

Антон. Строгі быў доктар, але справядлівы... Убачыць, што спіш на дзяжурстве, насварыцца, але галоўнаму — ніколі... Хаця, што ім, прыезджым? Пабудуць месяцы два, грошыкі ў кішэню — і цю-цю...

Каця. Ты кажаш, «быў», нібы...

**А н т о н** *(з прыкрасцю глядзіць у акно).* Дык гэта ж па яго прыкацілі! Раніцою пасадзяць на «Масквіча»!.. Шыкоўная ў яго нявеста!

**К а ц я.** Нявеста! А ты адкуль ведаеш?

**А н т о н.** Прывецік! Усе ведаюць. Два разы пацалаваліся ў кабінеце, адзін у калідоры і чатыры ў садзе.

**К а ц я.** Перастань.

**А н т о н.** Удзень глядзеў, Сяргеевіч гіпноз рабіў. Спяць як пшаніцу прадаўшы. Талент у Сяргеевіча!

**К а ц я** *(ходзіць).* Здаецца, нібы за спіною нехта стаіць. Азірнуся — нікога. Глупства...

**А н т о н.** Ты проста, Кацька, стамілася. У адпачынак трэба.

**К а ц я.** Ведаеш, Антон, правер яшчэ раз вокны.

**А н т о н** *(уздыхае).* І навошта толькі жонку і мужа ставяць у адну змену. *(Выходзіць.)*

Уваходзіць М а р о з а ў, малады ўрач. Уваходзіць шпарка, упэўнена. Каця падае халат.

**М а р о з а ў.** У аддзяленнях спакойна? *(Глядзіць у акно.)*

**К а ц я** *(бадзёра).* Так точна, Андрэй Сяргеевіч. Як заўсёды на вашых дзяжурствах.

**М а р о з а ў** *(адыходзіць ад акна).* Вось гэта адказ! Калі стану дырэктарам клінікі, будзеш у мяне старшай сястрой.

**К а ц я** *(падтрымлівае ігру).* Рада старацца!

**М а р о з а ў.** Абкружу сябе аднымі падхалімамі.

Абодва смяюцца. Марозаў бачыць на стале скрутак.

**К а ц я.** Памятаеце — прасілі... Знайшла!

**М а р о з а ў** *(разгортвае скрутак — старадаўняя даматканая вышываная сарочка).* Кацечка, родная...

**К а ц я.** Мая прабабка ў ёй замуж ішла. А нашто вам?

**М а р о з а ў.** Я твой вечны даўжнік!

**К а ц я.** Аёечкі! Падарунак вам ад бабулі.

**М а р о з а ў.** Цудоўна! Дзякуй, мілая!

Насвістваючы, Марозаў наводзіць парадак у шуфлядах пісьмовага стала.

Так не хочацца запаўняць дзённікі... Пісаніна! Яшчэ як студэнтам быў, ненавідзеў яе.

**К а ц я.** Аналізы я падкалю. А вы мелі рацыю, Булынка стаў лепшы. Гэтулькі год праляжаў...

**М а р о з а ў.** Той дзень, калі я не буду мець рацыі, мы адзначым.

З'яўляецца **Л а п і ц к а я**, галоўны ўрач, мажная жанчына, шумная, экспансіўная.

**Л а п і ц к а я.** Сяргеевіч, радуйцеся! Я прывезла вам мір з бухгалтэрыяй!

**К а ц я** выходзіць.

**М а р о з а ў.** Значыць, раніцой будуць грошы?

**Л а п і ц к а я.** Да капеечкі. Рыхтуйце мех.

**М а р о з а ў.** Мар'я Аляксееўна, вы рабілі ўсё, каб мне...

**Л а п і ц к а я.** Не забывайце нас. Да зімы такі корпус адгрукаем... Магнітафоны, селектар, перфакарты... Упершыню ў рэспубліцы! Уяўляеце, праз год у нас не будзе гісторый хвароб! Урач вызвалены ад пісаніны. Ну як?

**М а р о з а ў** *(праглядаючы дзённікі).* Перакладзіце на перфакарту фразу хворай: «Ха! Думаеце, я кручаная? Я пажартавала».

**Л а п і ц к а я.** Даражэнькі! Колькі слоў у вашым лексіконе?

**М а р о з а ў.** Калі ноч будзе спакойная, падлічу.

**Л а п і ц к а я** *(апанавана).* На перфакарце можна змясціць дзесяткі тысяч сімвалаў... Сяргеевіч, якія цяпліцы ў нас будуць! Хочаце пары? На Новы год — наступны — прысылаю букет бэзу!

**М а р о з а ў.** Дзе гарантыя, што бэз не з поўдня?

**Л а п і ц к а я.** Вось яна, моладзь... Мне б энергічнага начмеда! Такую бальнічку разгарнулі б!

**М а р о з а ў.** Ганна Іванаўна — талковы ўрач. Не грашыце.

**Л а п і ц к а я.** На жаль, больш думае пра сваіх трусянят. І наогул, сапраўдных урачоў менш. Больш дыпломатрымальнікаў. У вобласці дамаглася б дзвюх ставак. Домік паставім.

**М а р о з а ў.** Мар'я Аляксееўна, мы ўжо гаварылі.

**Л а п і ц к а я.** Чаму вы рашылі, што я вас агітую? М-да. Будзеце ў Мінску, падкажыце ўрачам. З Варшавы арыстакраты тут адпачывалі!

**М а р о з а ў.** Гэта абяцаю.

**Л а п і ц к а я** *(сумна).* Едуць ад нас. Уцечка мазгоў абядняе не толькі Еўропу. Зноў прышлюць часовых.

*(Глядзіць на гадзіннік.)* Сяргеевіч, а раптам гэта памылка — з тэлеграмай...

Марозаў. Як гэта?

Лапіцкая. Запрашаюць у Маскву вашага цёзку.

Марозаў. Праводзіце тэст на мніцельнасць?

Лапіцкая. З бальніцы — у лабараторыю. Біць вас трэба. Няўжо не пашкадуеце?

Марозаў *(уздыхнуў).* Калі на зямлі ёсць рай, дык гэта ў дабротнай сучаснай лабараторыі.

Лапіцкая. Я разумею — сталіца, лабараторыя высотнай медыцыны — спакуса! Але пакінуць лячэбную работу, хворых...

Марозаў. «Все работы хороши, все работы нам нужны...»

Лапіцкая. Што, моцна захварэлі на космас?

Марозаў *(весела).* Ноччу хачу спаць спакойна.

Лапіцкая. А навошта ўсё браць блізка да сэрца? Урач павінен выпрацаваць імунітэт да такіх рэчаў. Так, трусы, марскія свінкі — менш адказнасці. І ўсё ж падумайце. Да раніцы.

Уваходзіць Лена. Лапіцкая глядзіць на яе ногі.

Вы зноў падрэзалі халат?

Лена. Для бяспекі руху транспарту — падлічылі, што колькасць аварый меншая, калі жанчыны пераходзяць вуліцу ў міні-спадніцах.

Лапіцкая. Даведка. За год тут праязджае адзін воз. *(Выходзіць.)*

Марозаў. Вы не пайшлі?

Лена. Душны вечар. Але што за сэнс лезці ў ваду, калі на цябе ніхто не глядзіць?

Марозаў. Хто за мяне гісторыі напіша?

Лена. Гісторый многа, доктар, а маладосць адна. Як душна... *(Расшпільвае халат, пад ім купальны касцюм.)*

Марозаў. У аддзяленні насіце суконку.

Лена. Уратуйце мяне, чатыры прыёмы каратэ... Будзеце нас успамінаць?

Марозаў. Тры месяцы прабыў.

Лена. Калі б пакінулі кавалачак сэрца... Ну?

Марозаў. Тут кавалачак, там кавалачак... Недалёка да перасадкі новага. Чаму раптам сёння?

Лена. Як у доме адпачынку — усё на апошні вечар. Вось хто ніколі не наробіць глупства... Хочаце, завязу вас на матацыкле ў лес?..

М а р о з а ў. Украсці дзяжурнага ўрача... Адно імгненне — вялікая радасць?

Л е н а. З таго часу, як нехта даказаў, што ўсё ў свеце адносна... Дзякуй за ноч. За гадзіну. За хвіліну пяшчоты. Ці варта патрабаваць большага? Невядома, што лепш.

М а р о з а ў. Што гэта — антыкаханне?

Л е н а *(счакаўшы)*. Нявеста ваша, відаць, строгая.

М а р о з а ў. Шумныя госці, праўда?

Л е н а. Старая надта манерная. Не гаворыць — спявае. Няўжо не разумее, што з псіхіятрамі нельга так?

М а р о з а ў. Нецярпімасць — не лепшая рыса для жанчыны.

Л е н а *(глядзіць убок)*. Вы моцна яе кахаеце?

М а р о з а ў. Ніякіх каментарыяў.

Л е н а *(не адразу)*. Упэўнены, што яна вас кахае?

М а р о з а ў. Якая-небудзь плётка прасачылася?

Л е н а. Нашто так. Уцечка інфармацыі.

М а р о з а ў. Што вы хочаце паведаць?

Л е н а. Да мяне вы абыякавы. Але гэтая ноч — мая?

М а р о з а ў. Колькі вам год?

Л е н а. Не была. Не ўдзельнічала. Не састаяла.

М а р о з а ў. Ваш лётчык у той прыезд пакінуў добрае ўражанне.

Л е н а. Ён інвалід — абсалютна не мае пачуцця гумару. Як і дактары.

М а р о з а ў. З цягам часу зразумееце, што ў вастраслова нервы звычайна не ў парадку.

Л е н а. Не трэба ехаць... *(Падыходзіць бліжэй.)*

М а р о з а ў. Лена, размова набывае слюнявы характар.

Л е н а *(весела)*. Маё дзяжурства, доктар, закончылася. Цяпер я проста жанчына... з чорцікамі. Кепская ноч... Калі вас пакусаюць, успомніце — ёсць істота, якая заліжа раны.

Л е н а выходзіць. Марозаў доўга глядзіць ёй услед, падыходзіць да акна. Адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць Ч а м а л а е ў, пажылы, з бакенбардамі, нядбайна апрануты мужчына, у капелюшы, на шыі закручаны шаль, у зубах люлька. Падыходзіць да шафы з медыкаментамі, тузае дзверцы — замкнёна.

Ч а м а л а е ў *(злосна)*. Гэта бальніца ці вар'яцкі дом?

М а р о з а ў. Лячэбніца. Псіхіятрычная.

Ч а м а л а е ў. Чорт ведае што такое! Ніколі іх няма на месцы. Семнаццатую бальніцу мяняю, але такога бедламу...

М а р о з а ў. Вы аб сёстрах?

Ч а м а л а е ў. Скарджуся вам як загадчыку аддзялення. Хаця... зматваеце вуды.

М а р о з а ў. Усё, Аляксей Міхайлавіч, мае пачатак і канец. Нават камандзіроўка.

Ч а м а л а е ў. У Арыстоцеля сказана яшчэ — сярэдзіну. Але адкуль маладым гэта ведаць?

М а р о з а ў *(усміхаючыся)*. Калі б не ад'язджаў — арганізаваў бы клуб добрага настрою... Прыміце таблетку трыаксазіну — станеце дабрэйшым.

Ч а м а л а е ў. Таленавітых урачоў сталі выпускаць! Значыць — зматваецеся? Ну што ж, я заўсёды казаў — псіхіятра з вас не атрымаецца, падавайцеся ў навуку. Пра што будзеце пісаць?.. Размнажэнне трусянят у стане бязважкасці?

М а р о з а ў. Ніяк ад зямлі не адарвецеся! Трэба глядзець у будучае!

Ч а м а л а е ў. Ну, ну! Самая актуальная праблема, якая стаіць перад чалавецтвам... Вельмі шкада — не будзе каго абыгрываць у шахматы.

М а р о з а ў. Гэта здаралася часта?

Ч а м а л а е ў. Прыйдзецца зноў гуляць з гэтым ідыётам з трэцяга аддзялення.

М а р о з а ў. Ён не ідыёт, а шызафрэнік.

Ч а м а л а е ў. Прагрэс! Вас не здзіўляе — двух слоў звязаць не можа, а ў шахматах — Алёхін?

М а р о з а ў. Гэта можна растлумачыць. Хочаце паглядзець нямецкі часопіс? Прачытайце апавяданне майго знаёмага. Вось гэтае... У абмен на старыя медыцынскія кнігі.

Ч а м а л а е ў. Умееце выбіраць знаёмых!

М а р о з а ў. Столькі народу праз Мінск праязджае... З Гамбурга. Для мяне — моўная практыка. А апавяданне я чытаў яшчэ ў рукапісе.

Ч а м а л а е ў. Быў я знаёмы з адным сучасным пісьменнікам. Ён мне нагадваў Хемінгуэя — спаў, не выключаўшы святло.

М а р о з а ў. Вам, як псіхіятру, будзе цікава.

Ч а м а л а е ў. Ведаеце, чаму я так і не ажаніўся?

М а р о з а ў. Баяліся — прыйдзецца гатаваць абеды?

Ч а м а л а е ў. Жонка пачне даваць парады. *(Бярэ часопіс.)* А раптам супакоіць зубны боль? *(Падыходзіць да акна.)* Хто гэта лётае па парку? Хворыя?

М а р о з а ў. Мае госці. Я вас знаёміў.

Ч а м а л а е ў. Нішто машына ў піжона — на чатырох колах.

М а р о з а ў. Без пяці мінут кандыдат навук. У санслужбе горада — далёка не апошні вінцік. Доктар Чамалаеў, аддайце некалькі кніг...

Ч а м а л а е ў. Якая з іх вас зачаравала? Тая, каля басейна?

М а р о з а ў. Што вы, гэта іхняя маці.

Ч а м а л а е ў. Пра кнігі забудзьцеся. Значыць, малодшую?

М а р о з а ў. І зноў міма.

Ч а м а л а е ў. У вас кепскі густ. Я казаў аб гэтым?

М а р о з а ў. Неаднаразова.

Ч а м а л а е ў. Та-ак. Калі чалавек жэніцца, магчымы два варыянты — альбо ён шчаслівы, альбо робіцца філосафам. *(Пасля паўзы.)* Стараіндыйская філасофія надзіва цікавая. Процьма паэзіі!

М а р о з а ў. Сёння дыскуціруюцца экзістэнцыяльныя праблемы.

Ч а м а л а е ў. Увы! Я бачу ў іх непераадольны песімістычны настрой. Дарэчы, дыхайце глыбей — даўжэй пражывяце.

М а р о з а ў. Шчыра — што вы думаеце аб маёй нявесце?

Ч а м а л а е ў. Лёгкая гіпафункцыя шчытавіднай залозы, аслабленае дыханне, крыху паніжаны артэрыяльны ціск, пульс семдзесят...

М а р о з а ў. Калі б вы былі маладзейшы...

Ч а м а л а е ў. Пашкадуйце нервы. У вас усё наперадзе.

М а р о з а ў. Вы бачылі яе тры хвіліны!

Ч а м а л а е ў. Я прывітаўся за руку, дапамог скінуць плашч... Просіце шчыра — як жанчына яна... Любіце марожанае?

Уваходзіць падпалкоўнік П а т а н і н, высокі, маладжавы, з сівымі скронямі.

П а т а н і н. Дазвольце? Добры вечар, доктар. Прабачце, раней не змог — служба. На досвітку выступаем і, здаецца, надоўга... Магу я пабачыць жонку?

М а р о з а ў *(глядзіць на гадзіннік)*. Вядома. *(Зво-*

*ніць па тэлефоне.)* Каця, дайце спатканне з Патанінай. Так, зараз. *(Кладзе трубку.)* Як маюцца блізняты?

Патанін *(сеў)*. Выдатна! У тэхніку закаханыя. Катаю на бронетранспарцёры — мала. «Тата, пакажы ракеты!» *(Дастае фатаграфіі.)* Мішка страшэнны свавольнік... Што з яго атрымаецца? Я вас перапыніў?

Марозаў. Не, не. Слаўныя хлапчукі!

Патанін. Я заўсёды ў часці, бабуля ледзь спраўляецца!..

Паўза.

Марозаў. Пагуляйце ў парку, да млына схадзіце.

Чамалаеў павярнуўся, незадаволена ківае галавою.

Патанін. Так. Дзякую вам, доктар! Абавязкова. *(Марудзіць.)*

Марозаў. Я дамовіўся.

Патанін. Так, так. *(Устае, выходзіць.)*

Марозаў *(пасля доўгай паўзы)*. Дывізіён ракет. Вясёлая гаспадарка!

Чамалаеў. Чаму вы не адкрыеце яму ісціну?

Марозаў *(падыходзіць да акна)*. Што ёсць ісціна?

Чамалаеў. Два гады яна тут, і два гады рэгулярна прыязджае бронетранспарцёр... Парайце — няхай шукае другую.

Марозаў. Дзіўны выгляд у гэтага будынка. Вачніцы...

Чамалаеў. Спадзяецеся на «а раптам»? Не будзе. За сваё жыццё нагледзеўся на такіх хворых.

Марозаў. Учора я выпісаў Дзеравенчыка. Восем год ляжаў.

Чамалаеў. З гэтай формай? *(Паўза.)* Што вы думаеце ёй прыпісаць — кроплі святла з месяца, высушаную марскую пену? Глядзіце на яго і ўпіваецеся асалодаю — такія людзі!.. А дзецям патрэбна маці. Хаця б жаночая ласка.

Марозаў. Скажыце гэта самі.

Чамалаеў *(ходзіць, пасля паўзы)*. Сяргеевіч. Ноччу дазваляць хворым хадзіць у парк альбо да млына... Прагулкі ў ягады і грыбы, паездкі ў горад на футбол!.. *(Засмучана паківаў галавой.)*

Марозаў. Як дома — вось бы дамагчыся такога, праўда?

Ч а м а л а е ў. Розніца паміж домам адпачынку і нашай установай заключаецца не толькі ў масавіку-забаўніку.

М а р о з а ў. Ваша думка — папраўка хворага залежыць ад яго настрою?

Ч а м а л а е ў *(уздыхнуў)*. Едзьце ў лабараторыю. Інакш рана ці позна — далёкая дарога, казённы дом... Сістэма расчыненых дзвярэй эфектная, але неразумная.

М а р о з а ў. Галоўны хваліць. Чулі — на сходзе?

Ч а м а л а е ў. Да першага грому. Гэтая мадам Кюры больш гаспадарнік. Таленавіты. Але не псіхіятр. З пункту гледжання аблздрава, жыццё аднаго шызафрэніка даражэй за свабоду для некалькіх соцен яго калег. Вы моцна можаце пагарэць!

М а р о з а ў. Пагарэць! Пагарэць!.. Я жалезна перакананы: дай хворым свабоду, пабудуй разнастайныя майстэрні, уцягні ўсіх у работу — і палова хронікаў была б дома! Чаго не могуць медыкаменты, павінны зрабіць мы. Няхай нават з рызыкай для ўласнага дабрабыту.

Уваходзіць К а ц я, прыносіць стос гісторый хвароб.

Ч а м а л а е ў. Кацечка, пірамідон.

К а ц я. Таблетку?

Ч а м а л а е ў. Адну ад зубнога болю і другую... Буду чытаць апавяданне.

М а р о з а ў. Аляксей Міхайлавіч, калі я паеду, правядзіце Патанінай яшчэ адзін курс!

Ч а м а л а е ў. А нашто? *(Паўза.)* Што гэта дасць?

Ч а м а л а е ў бярэ таблеткі, выходзіць.

К а ц я. Так слаўна стала ў бальніцы, а вы едзеце.

М а р о з а ў. Мяне чакае цікавая работа. Аб такой можна толькі марыць.

К а ц я. Хворыя будуць сумаваць. Вы ім падабаецеся.

М а р о з а ў. Ха! Хвораму няважна, хто прызначыць лякарства.

К а ц я. Самі ведаеце — гэта не так. На галоўную добры ўплыў мелі — лагаднейшай стала, больш душэўнай да персаналу. Калі паедзеце...

М а р о з а ў *(раптам, заўзята)*. Каця, кожны дзень размаўляйце з Патанінай... Доўга, упарта, настойліва... Уцягвайце ў работу... Больш, актыўней!..

**Каця.** Добра. *(Паўза.)* Андрэй Сяргеевіч, ставіць вопыты знойдуць чалавека, а вось каб не спаў па начах, думаў, як дапамагчы Патанінай...

**Марозаў** *(не адразу).* Зараз прыйдуць госці. Збярыце на стол.

Уваходзіць Наташа, маладая дзяўчына ў штанах, Барыс у спартыўным касцюме, Тамара, вельмі прыгожая дзяўчына, з ракеткамі ў руцэ, Юлія Паўлаўна з букетам палявых кветак. Каця выходзіць у аддзяленне.

**Барыс.** Вось ён, будучы акадэмік! Свяціла касмічнай медыцыны! Рады за цябе, стары.

**Юлія Паўлаўна.** Андрэй, вам абавязкова давядзецца выступаць па тэлебачанні, даваць інтэрв'ю. Дык усміхніцеся нам!

**Марозаў.** Абавязкова, Юлія Паўлаўна.

**Тамара.** Божа, як я стамілася. Ніколі не думала, што бадмінтон можа так выматаць... *(Пазірае то на Барыса, то на Марозава.)*

**Наташа.** Марозаў, гэта быў матч стагоддзя! Сёстры Атаманавы ў паядынку. Ведаеш, хто выйграў?

**Барыс.** Перамагла дружба — чытайце заўтрашнія газеты.

**Марозаў** *(са століка ў куце сцягвае настольнік, там стравы).* Паважаныя турысты, вас чакае вячэра!

**Барыс.** Каньяк у нас свой. Малодшай Атаманавай — бярозавік.

**Наташа.** Хачу пакаштаваць самагонкі.

**Юлія Паўлаўна.** Наташа! Чаму ты такая?

**Наташа.** Апраўдваю прозвішча — Атаманава!

**Юлія Паўлаўна.** Дзе можна памыць рукі?

**Наташа.** Нашто? Ад гразі мікробы дохнуць. Санітарны доктар можа гэта пацвердзіць. Яго дысертацыя аб гэтым.

**Барыс.** Сёння вы да мяне неабыякавыя, паненкі.

**Юлія Паўлаўна.** У Барыса цудоўная праца!

**Наташа.** Усе цяпер хочуць мець дыван і дысертацыю.

**Барыс.** Стары, п'ем за тое, што ты нарэшце кінеш рамантыку і зоймешся справаю. Удачы табе!

Госці дружна выпіваюць, закусваюць.

**Юлія Паўлаўна.** Вашы хворыя — чароўныя! Пытаюся ў аднаго: «Даўно тут жывяце?» А ён: «Ад нараджэння».

**Наташа.** Мамачка, ты гаварыла з санітарам.

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Вось як!

Б а р ы с. Да́чку б тут адгрукаць, Марозаў! А?

Н а т а ш а. За паваротам ракі — такое хараство... Ну чаму я не ўмею малявацъ?!

Т а м а р а. Гэта цяпер не модна.

Н а т а ш а. Салют! А што цяпер модна?

Т а м а р а. Запытайся ў маці — яе хлеб.

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Хто кепска трымае пэндзаль — будоўлі, уборка бульбы... А таленты аддаюць перавагу мадэрну. Але гэтых у мяне ў салоне — увы, не купіце.

Н а т а ш а. Марозаў, калі прыбудуць новенькія, паклічаш мяне.

Б а р ы с. Наташа, псіхіятрыю ніколі нікому не паказваюць. Паедзеш за мяжу — тое самае.

Т а м а р а. Так, не для старонніх.

Н а т а ш а. Прывецік! Ён жэніцца з маёй сястрою...

*Няёмкая паўза. Тамара ўстае, падыходзіць да акна.*

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Заўтра вечарам не возьмем яе на фігурнае катанне.

Н а т а ш а. Заўтра ўвечары Марозаў і Тамара ад'язджаюць у Маскву. Ты не пойдзеш праводзіць?

М а р о з а ў *(усміхаючыся)*. Людзі, як я засумаваў па горадзе!..

Ю л і я  П а ў л а ў н а *(аглядаючы сцены)*. А што тут рабілі манашкі?

Н а т а ш а. У тэніс гулялі.

Т а м а р а. Нічога, што мы тут?

Б а р ы с. Аб чым ты пытаеш? Дзяжурны ўрач — уладар.

Н а т а ш а. Марозаў, а я магла б звесці з розуму?

М а р о з а ў. У адно імгненне! *(Падыходзіць да Тамары.)*

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Каб звесці, трэба розум мець, мая любая.

Н а т а ш а *(з папрокам)*. Мамачка, нават хворыя так не жартуюць.

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Марозаў, як растлумачыць — чым дзеці больш дарослыя, тым яны горшыя?

*Уваходзіць* К а ц я, *марудзіць. Марозаў падыходзіць да яе.*

К а ц я. Андрэй Сяргеевіч! Мне здаецца, няма аднаго хворага.

М а р о з а ў. Гэта яшчэ што такое?

**Каця.** Два разы лічыла.

**Марозаў.** Усіх па палатах і праверыць па ложках. Хутка.

Каця выходзіць.

**Барыс.** Што здарылася, Андрэй? Хворы праглынуў лыжку?

**Тамара** *(незадаволена)*. Божа, які ты дасціпны!..

**Барыс.** За гэтымі манастырскімі мурамі гарматы будуць страляць — не пачуеш. Хворыя ў асноўным там. *(Паказвае на акно.)*

Госці выходзяць. Тамара застаецца. Марозаў дастае старасвецкую сарочку.

**Марозаў.** Як мы вам падабаемся?

**Тамара** *(ажывілася)*. Ты гэта дзе ўзяў?

**Марозаў.** Ха! *(Падстаўляе шчаку, Тамара цалуе. Марозаў расчараваны.)* І гэта ўсё?

**Тамара.** Гэтыя матывы я скарыстаю... Умелі нашы продкі!

Марозаў абдымае яе, цалуе.

**Марозаў.** Мы сёння такія сур'ёзныя...

**Тамара.** Учадзела. З маторам нешта, ды і дзвесце кіламетраў, аб'езды...

**Марозаў.** У гэтых лясах па тваім доме мадэляў засумавалі ласі, дзікі, лісы...

**Тамара.** Яны мяне ведаюць?

**Марозаў.** Я ім расказваў. Жартачкі — восемдзесят шэсць дзён без цябе... У Маскву гатова?

Праходзіць Лена.

**Тамара.** Не сястрычкі, а манекеншчыцы. Заляцаўся?

**Марозаў.** А як жа! Для параўнання. І зразумеў — ты лепшая.

**Тамара** *(раптам, з болем)*. Дзед Марозаў...

**Марозаў.** Я так адвык ад твайго «дзед Марозаў»!

Марозаў раптам сціскае яе ў абдымках.

**Тамара.** Барыс! О божа... *(Смяецца.)* Андрэй...

**Марозаў** *(жартаўліва)*. Папрашу санітара пастаяць каля дзвярэй.

**Тамара.** Вар'яцкі доктар...

М а р о з а ў *(не рухаючыся, пільна глядзіць).* Назойлівая ідэя, хочацца ўвесь час цябе цалаваць...

Т а м а р а. Праўда? Папрасі сястрычку зрабіць укол.

Уваходзіць К а ц я, стаіць ля стала. Т а м а р а выходзіць.

К а ц я. Бусловіча няма.

М а р о з а ў. Мацвей? Калі яго бачылі?

К а ц я. Абедаў. Быў на прагулцы. Наведвальнік да яго прыехаў.

М а р о з а ў. Гэта ён застаўся?

К а ц я. Ехаць далёка, кажа. І вішань купіць хоча.

М а р о з а ў. Чаму не пералічылі хворых, калі прымалі дзяжурства?

К а ц я. Футбол глядзелі, стоўпіліся каля тэлевізара. Не хацела перашкаджаць.

М а р о з а ў. Пасля футбола прайшло...

К а ц я. Дрозд узбудзіўся, да акна... Пакуль супакойвалі...

Уваходзіць Л е н а.

Л е н а. Андрэй Сяргеевіч, непрыемнасць якая.

М а р о з а ў. Лена, вы дзяжурылі ўдзень.

Л е н а. Яны гулялі з наведвальнікам у садзе... Частаваў яго напіткам... Падышла — не гарэлка.

М а р о з а ў. Заходзіў ён у аддзяленне пасля прагулкі?

Л е н а *(пасля паўзы).* Не бачыла.

М а р о з а ў. Позна. *(Таропка.)* Паклічце наведвальніка.

Л е н а выходзіць. Марозаў здымае трубку, набірае нумар.

Міліцыя? Гаворыць дзяжурны ўрач псіхабальніцы. Сёння днём уцёк Бусловіч Мацвей Іванавіч. 46 год, шатэн, сярэдняга росту. У бальнічным адзенні... Гадзіны ў чатыры...

Вяртаецца Л е н а, за ёю ідзе Ж у к, пажылы мужчына, на хаду зашпільвае гузікі кашулі.

Чаму цяпер? Так атрымалася... Што можна зрабіць? Цяжка сказаць — брэдавы хворы, крытыка адсутнічае. Добра. *(Кладзе трубку.)*

Ж у к *(пазяхае).* Клікалі мяне, доктар? Толькі лёг.

М а р о з а ў. Сядайце, калі ласка. Вы жывяце разам з Бусловічам?

Ж у к. З Мацвеем? Гэта точна. Працуем на спірт-

заводзе, каб не схлусіць — год семнаццаць. Калі яшчэ...

М а р о з а ў *(перабіваючы)*. Аб чым вы гутарылі?

Ж у к *(паціснуўшы плячамі)*. Тры тыдні не бачыліся... А што?

М а р о з а ў. Хутчэй адказвайце.

Ж у к. Аб рабоце, аб дзецях... У Мацвея залатыя рукі...

М а р о з а ў. Вы не сказалі яму што-небудзь непрыемнае?

Ж у к. Здаецца, не. Сынок у яго хварэў. Паправіўся.

Паўза.

Л е н а. Аб чым вы шапталіся ў альтанцы?

Ж у к. Аб чым... Ды глупства! Нічога такога.

М а р о з а ў. А ўсё ж такі?

Ж у к *(памаўчаўшы)*. Ну, што жонка яго... Хахаль да яе ходзіць... калі па-культурнаму.

Марозаў устае, падыходзіць да акна.

К а ц я. Як вы маглі...

Ж у к. Дзетачка, ён мой друг.

М а р о з а ў. Каця, неадкладна звaніце на пошту, папярэдзьце жонку тэлеграмай.

К а ц я спяшаючыся выходзіць.

Ж у к. А што хаваць? Ды і праўду не схаваеш.

Л е н а. Якую праўду?!

Ж у к. Многія... бачылі. Калі хочаце, я ніколі не хлусіў.

М а р о з а ў. Мацвей уцёк з бальніцы. Вы разумееце, што можа здарыцца? *(Бярэ гісторыю хваробы, таропка гартае.)*

Ж у к *(усміхнуўся)*. Доктар, калі качалкаю ці раменьчыкам... Нічога страшнага. Чым больш іх б'еш, тым яны...

Л е н а. Ну і ну! Хвораму сказаць такое...

Ж у к. Хвіліначку, я не ўпэўнены, што ён хворы... Ёсць у вас кручаныя — бачыў у садзе... Але Мацвей... На рабоце ў яго такая цвярозая галава не бывае!

Л е н а. Манія рэўнасці.

Ж у к. Эге! Якая ж гэта манія, мілачка, калі жонка здрадзіла? Ён, праўда, ператаміўся, спаў мала, але

каб гэта — не... Ручаюся!.. Ды і ўвесь наш калектыў гатовы...

Вяртаецца Каця.

Лена. Калі, гавораць, што мужчыны ператвараюцца ў конікаў і ходзяць да жонкі на спатканне... Калі ў сукенку яе зашываюць шкляныя трубачкі... для кантролю...

Марозаў. Лена! *(Захлопвае гісторыю хваробы.)*

Жук. Не ведаю, пра што вы. *(Паўза.)* У мяне жонка гуляла. Усе ведалі. А я як здагадаўся? Прыязджаю — экспедытарам я,— узасос цалуецца, як гэта... Раней не ўмела! Эге, думаю. Стаў сачыць. Усё роўна мяне кінула. А шапні мне хто на вуха...

Марозаў. Можаце ісці.

Жук. І колькі ён піў? Драбнець стаў чалавек. Мой дзед — сем пудоў, у армію не ўзялі. Я — пяць пудоў... Мой сын... *(Махнуў рукою.)* Дзед сядзе на каня, паездзіць — конь сохне. *(Выходзіць.)*

Каця. Крыўдна. Быў амаль здаровы. Яшчэ б крыху...

Марозаў. Яго цемната не можа нас апраўдаць.

Уваходзіць Антон, на шыі пярэсты шаль.

Лена. Паслухай, тапалік мой у чырвонай хусцінцы. Я прасіла цябе папільнаваць хворых, а сама пайшла ў аптэку...

Антон. Паспрабуй упільнаваць! Цяпер жа — свабодны выхад. Распаўзуцца, як мураўі. *(Старанна папраўляе валасы.)*

Марозаў. Пасля пагаворым, хто вінаваты. Давайце думаць, як папярэдзіць няшчасны выпадак. Тэлеграму далі?

Каця ківае.

Апытайце хворых.

Каця выходзіць.

*(Санітару.)* Антон, вазьмі ліхтар, правер парк, хады ў падзямелле.

Санітар выходзіць.

Лена. Чаму ж мне — нічога? Ну, вінаватая. Але ўвесь час быць у напружанні... Хаця б хворы не паве-

сіўся, не разбіў галаву суседу... Калі так — ці надоуга хопіць нерваў.

Марозаў. Як вы трапілі ў псіхіятрыю?

Лена. Размеркаванне.

Марозаў. Калі здарыцца горшае, самы цяжкі грэх упадзе на вашу галаву.

Лена. І на вашу — свабодны выхад!

Уваходзіць Патанін, ён ажыўлены.

Патанін. А ведаеце, доктар, яна лепшая. Кантакту, праўда, няма, але яблыкі ўзяла. Паказаў фатаграфіі блізнят, доўга глядзела... У вачах прамільгнуў жывы агеньчык, пасля — зноў...

Маўчанне. Лена выходзіць.

Той раз нават не глянула на здымкі. Сёння... Па-мойму, яна мякчэй. Вы змаглі тое, чаго лекі...

Маўчанне.

Марозаў *(пасля доўгай паўзы)*. Канстанцін Пятровіч... Тое, што я скажу, урач не павінен... Але вам трэба ведаць. На жаль, жонку вашу вылечыць... Навука пакуль яшчэ...

Патанін. Чакайце, вы ж...

Марозаў. Я ўважліва вывучыў дынаміку хваробы. Два гады... у нас ёсць хворыя з вайны — з сорак пятага...

Патанін. Выходзіць, памагчы ёй...

Марозаў. Прагноз — справа рызыкоўная. Але ў даным...

Патанін. Чаму вы загаварылі аб гэтым?

Марозаў. Дзецям патрэбна жаночая пяшчота.

Патанін *(памаўчаўшы)*. А ў нас вучэнні пачынаюцца... Спрытна вы.

Марозаў. Не разумею.

Патанін *(не адразу)*. Ад чаго гэтая хвароба?

Марозаў. Я неяк казаў — прыроджаная плюс набытая слабасць нервовых клетак. І яшчэ... нераскрытая таямніца жывога.

Патанін. У яе было цяжкае, вельмі цяжкае маленства. Вайна, пасляваенныя... Але пасля — як дзіця глядзеў...

Марозаў. Хочаце сухога віна?

Патанін *(не звяртаючы ўвагі)*. Я буду чакаць.

Марозаў. Чакаць?

Патанін. Хімікі павінны памагчы.

Марозаў. Вы ўяўляеце, колькі год можа прайсці?

Патанін. І спадзявацца. Што зробіш, калі здараюцца аднолюбы. Я быў шчаслівы. Ведаеце, што такое шчасце? Трымайцеся, доктар, не вешайце носа. Пакуль уся надзея на вас.

Марозаў. Заўтра я ад'язджаю, Канстанцін Пятровіч.

Патанін. Як — ад'язджаеце?

Марозаў. На даследчую работу, з псіхіятрыяй не звязана.

Патанін. Бабуля піражкоў напякла. За дзвярамі пакінуў. Кажу, не трэба, доктар не возьме. Але бабулька ўпартая...

Марозаў. А што вас, уласна, бянтэжыць?

Патанін. Ды не... Хто ж цяпер будзе яе лячыць?

Марозаў. Доктар Чамалаеў. Стары, вопытны ўрач. Каласальная эрудыцыя! Дыягназ ставіць з першага позірку.

Патанін. Ён вёў яе раней. На жаль, адной эрудыцыі аказалася мала. За апошнія месяцы яна ажывілася, да сям'і цяплей... *(Пасля паўзы.)* Доктар, а можна не ехаць?

Марозаў павярнуў галаву, глядзіць у акно.

Ну, што ж... Шчаслівай дарогі. *(Накіроўваецца да дзвярэй, спыняецца.)* Калісьці Флемінг адкрыў пеніцылін... Мільёны людзей не ведаюць, каму абавязаны жыццём. Несправядліва... Буду чакаць свайго Флемінга.

Патанін выходзіць. Марозаў падыходзіць да акна, доўга глядзіць. Уваходзіць Антон.

Антон. Паглядзеў, як казалі — няма.

Марозаў. Правер яшчэ ў чаромусе, на беразе.

Антон. У цемры?.. Заўтра пашукаем.

Марозаў. Твая віна, Антон, што ўцёк хворы. Галоўны вымову дасць. А дзе-небудзь, у іншай краіне, цябе б з работы!..

Антон. А іншай краіны, доктар, мне не трэба. Я задаволены нашай. Думаеце, за месца трымаюся? Рабацёнкі хапае... Я таксама ў горад махну! Добра, гляну яшчэ...

Марозаў. Чакай. Што здарылася?

Антон. А што магло... Нічога!

Марозаў. Кажу як урач: будзеш піць — жонка кіне.

Антон *(жэст дасады)*. Жыццё наперакасяк пайшло! З Кацькай... Маўчыць, але я адчуваю! Калі б яшчэ чэмпіёнам стаў... «Ну, хто ты, кажа, санітар! Ідзі вучыся». А я баюся — усё забыў.

Марозаў. Ты станеш чэмпіёнам вобласці.

Антон. Як жа! Праз два тыдні — спаборніцтва. Выйду на старт — і зноў сарвуся. А на трэніроўках бегаю лепш за ўсіх!

Марозаў. Добра засвоіў нашу методыку?

Антон. Ну. Кладуся спаць і ўнушаю. Рукі, ногі — як казалі... А потым: ты прыйдзеш першым, Антон Муравейка. Ты выйграеш забег... Па-мойму, выходзіць.

Марозаў. Дык у чым жа справа?

Антон. Вас жа не будзе! А без вас... Не выйдзе.

Марозаў. Антон, павер у сябе! Чалавек выкарыстоўвае толькі шэсьдзесят працэнтаў сваіх фізічных магчымасцей. Сорак — у цябе ў рэзерве! Вызваляюцца толькі ў выключныя моманты. Унушэнне і дапаможа гэта зрабіць!

Антон *(уздыхае)*. Як пачуў, што едзеце... Можа таму і прамаргаў Мацвея.

Уваходзіць Чамалаеў. Антон выходзіць.

Чамалаеў. Галоўны віноўнік? Многае разлічана на высокую свядомасць. А калі яе проста няма? Патрэбны іншыя меры? М-да... На шчасце, удзень дзяжурыў не я.

Марозаў *(гартае сшытак)*. Аляксей Міхайлавіч, Мацвей атрымліваў па дзвесце міліграмаў.

Чамалаеў. Мяркую, дастаткова.

Марозаў. Аптымальная доза ў два разы вышэй.

Чамалаеў. Зазірнулі ў інструкцыю? Галубок, у яго прапітая печань.

Марозаў. Аналізы гэтага не паказваюць.

Чамалаеў. Аналізы! Вы памятаеце яго вочы?.. Пятнаццаць год у кампаніі зялёнага змія!

Марозаў *(пасля паўзы)*. Аляксей Міхайлавіч, так мы доўга будзем яго лячыць.

Чамалаеў. Хацелі б хутчэй? За Мацвея не хвалюйцеся. Нап'ецца, і прывязуць.

Марозаў. Чаму ўрачы баяцца рызыкаваць?

**Чамалаеў.** Інстынкт самазахавання — аснова жыцця. Калі ласка, магу шчыра: з маленства адчуваў агіду да турмаў, чалавечая прырода не прадугледжвае знаходжання ў няволі.

Уваходзіць Каця.

Каценька, начальства гарыць жаданнем прачытаць пропаведзь. Ці не маглі б затрымацца? Яшчэ адно евангелле. Ад Андрэя. *(Ідзе да дзвярэй, прыпыняецца.)* Калісьці — вас яшчэ на свеце не было — хадзіў па лязу брытвы. І ведаеце, паломніцтва было. Так! Але раптам адзін памёр... І мяне... з'елі.

**Марозаў.** Ад чаго ён памёр?

**Чамалаеў.** Ад чаго? *(Паціснуў плячамі.)* Магчыма, забыўся, што трэба дыхаць? *(Выходзіць.)*

**Каця.** Андрэй Сяргеевіч, сваякоў трэба папярэдзіць.

**Марозаў.** Дайце тэлеграму маці. Добра, я сам.

Марозаў выходзіць. Уваходзіць Наташа. Памагае Каці прыбраць са стала.

**Наташа.** Калі хворых вы корміце гэтак жа сытна, дык псуеце іх фігуры. За каго ў вас замуж выходзяць?

**Каця.** Дыверсанты з-за мяжы пранікаюць, кантрабандысты...

**Наташа** *(усміхаючыся).* А вы не дурная.

**Каця** *(трывожна пазірае ў акно).* Студэнтка?

**Наташа.** Педагог. «Синий чулок». Хочацца быць добрым другам дзяцей... Сапраўдным. Але цяпер гэта не модна, і кажу — хачу добра ўладзіцца. З Марозавым лёгка працаваць?

**Каця.** Цікава. Скажыце, з вашай сястрою ў іх усё вырашана?..

**Наташа.** А!.. Сам чорт не разбярэ. Шкада, што бацька на балотах — спецыяліст па асушэнні. Нават буйны. Дома ў нас два лагеры: я з бацькам і яны.

Уваходзіць Юлія Паўлаўна, трымае корч.

**Юлія Паўлаўна** *(разглядаючы корч).* Барыса не бачыла?

Наташа маўчыць. Каця выходзіць.

Тамара знікла. Нядобра.

**Наташа.** Толькі за кошык марожанага я магла

б зрабіцца сышчыкам. «Экстаз» — так я назвала б гэтую кампазіцыю.

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Калі Андрэй недзе тут, то яны...

Н а т а ш а. Табе б дыспетчарам... Прадаваць карціны — не тваё прызванне.

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Калі ў цябе будуць дзве дарослыя дачкі...

Н а т а ш а. Божа, на што ты мяне штурхаеш!..

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Барыс — гэта фігура. У Марозава — бліскучая перспектыва. Але каго яна больш кахае?

Н а т а ш а. Вядома, Барыса. У яго такая шыя — як у Неферціці!

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Андрэя не магу зразумець. Добры ці прыкідваецца? Хацелася б ведаць тайныя спружыны паводзін... Гэта вельмі важна, што кіруе чалавекам...

Н а т а ш а. Абодва — сябры. Ці так важна, каму яна аддасць перавагу?

Ю л і я  П а ў л а ў н а. У твае гады можна быць разумнейшаю. Андрэй, бадай, някепскі чалавек, але наўрад ці з яго выхаваеш добрага мужа.

З'яўляецца Ч а м а л а е ў з часопісам у руцэ. Яго не бачаць.

Н а т а ш а. Значыць, можна быць кепскім чалавекам і добрым мужам?

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Не трэба так часта казаць глупства. Апантаныя ідэямі — кепскія мужы. Як твой любімы татачка: я ведала, што Тамара паедзе не толькі шукаць вышыўкі.

Н а т а ш а. Яна ж дала вам слова — пакуль не гаварыць Марозаву.

Ю л і я  П а ў л а ў н а. Па-мойму, яна яшчэ не разабралася. І без маёй падтрымкі не адважыцца парваць з Андрэем.

Чамалаеў кашляе.

Ю л і я  П а ў л а ў н а *(ажывіўшыся)*. Доктар, а ці здаралася ў псіхіятрыі...

Ч а м а л а е ў. У медыцыне бывала ўсё. Аднойчы безнадзейнаму хвораму на галаву ўпала дошка. І, уяўляеце, вярнуўся розум.

Наташа смяецца. Уваходзіць М а р о з а ў.

М а р о з а ў. Вам пасцялілі. Моладзі на сенавале.

Ю л і я П а ў л а ў н а. Спадзяюся, не ў шостай палаце? Наташа, пажадай усім добрай ночы.

Н а т а ш а. Мамачка, трэцюю частку свайго жыцця я ўжо праспала.

Ю л і я П а ў л а ў н а. Хадзем, паглядзім, дзе гэта. А там — на галаве хадзі. *(Чамалаеву.)* Кажуць, вы некалькі кніг напісалі. Калі праўда, хацелася б пачытаць.

Ч а м а л а е ў. Аб псіхіятрыі здаўна ходзіць шмат легенд і міфаў.

Ю л і я П а ў л а ў н а *(какетліва)*. Ах, мужчыны пайшлі...

Ч а м а л а е ў. Не хвалюйцеся, мадам. Я ваш саюзнік. Хоць і па іншых матывах.

Уваходзіць К а ц я.

К а ц я. Гэта праўда, што раніцою выпісваем Яновіча?

М а р о з а ў. Праўда. Падрыхтуйце рэчы.

К а ц я. Але ён не зусім...

М а р о з а ў *(адмоўна ківае галавою)*. Канфлікт з начальнікам уладжаны, я ездзіў. А дома ён паправіцца хутчэй. Каця, праводзьце гасцей.

Ю л і я П а ў л а ў н а, Н а т а ш а і К а ц я выходзяць. Заклаўшы рукі за спіну і нізка схіліўшы магутную галаву, Чамалаеў рухаецца па пакоі.

Трагічнае светаадчуванне. Жахлівае апавяданне.

Маўчанне.

Калі я прачытаў упершыню, мне здалося, што прысутнічаю пры забойстве чалавека.

Ч а м а л а е ў *(пасля доўгай паўзы)*. Скажыце, ён... яшчэ... яшчэ піша?

М а р о з а ў. Ён памёр.

Ч а м а л а е ў. Няшчасны выпадак.

М а р о з а ў. Так. Яго жонка мне пісала. Пераходзіў вуліцу і папаў пад машыну. У Мюнхене, здаецца.

Ч а м а л а е ў. О!.. *(Кідае часопіс на стол, энергічна ходзіць па пакоі.)*

М а р о з а ў. Паўгода назад.

Ч а м а л а е ў. Няшчасны выпадак... Сяргеевіч, даўно прачыталі?

М а р о з а ў. Яшчэ ў рукапісе. Мы былі блізкія. Нават вельмі.

Ч а м а л а е ў. Выходзіць... вы ведалі...

М а р о з а ў. Што ведаў? Ён даўно казаў аб гэтым апавяданні. Яшчэ ў папярэдні прыезд. Доўга пісаў. Не атрымлівалася. Паранены быў у галаву, кантузія. Вы лічыце...

Ч а м а л а е ў. Так! Варыянт Хемінгуэя.

М а р о з а ў. Глупства якое.

Ч а м а л а е ў. Гэта не апавяданне — завяшчанне.

М а р о з а ў. Чаму ж... Чаму ён даў мне яшчэ ў рукапісе?

Ч а м а л а е ў. Гэта была спроба ўтрымацца... Ён прасіў вас, урача, працягнуць руку...

М а р о з а ў. Якую лухту вы вярзеце!.. Што ў іх — спецыялістаў няма, медыкаментаў не хапае? Не, не... Ваша інтуіцыя...

Доўгая паўза.

Ч а м а л а е ў. А ён таленавіты. Але ўражанне — пісаць страшэнна цяжка... Сяргеевіч, я лічыў вас здольным урачом... Ці дрэнна ведаеце нямецкую?

М а р о з а ў *(праглядаючы часопіс)*. Па чым вы мяркуеце? Гэты абзац? Ці тут?..

Ч а м а л а е ў. Пры чым тут — абзац? Увесь лад, уся вобразная сістэма, падтэксты... За імі — аўтар.

М а р о з а ў. Па адным апавяданні?.. Аляксей Міхайлавіч... Несур'ёзна!

Ч а м а л а е ў. Галубок, каб я прачытаў больш, ведаў бы, што ела яго бабуля, ці заляцаўся ён да дзяўчатак у трэцім класе... Так! Яшчэ нюанс: ён моцна выпіваў — гумар па алкагольнаму тыпу.

М а р о з а ў. Не, глупства, немагчыма... Пры знясіленні нервовай сістэмы можа згаснуць цікавасць да жыцця, але...

Ч а м а л а е ў. Вы падазравалі! А ўрэшце, калі пакідаеце псіхіятрыю... Забудзьце.

М а р о з а ў. Гэта думкі героя! Не аўтара!.. Зразумейце ж!

Ч а м а л а е ў. Чаго вы крычыце? Я магу і памыліцца.

М а р о з а ў. Безумоўна!.. Хаця і не памятаю, каб вы памыляліся.

Ч а м а л а е ў. Таблеткі ад жывата, ад галавы і фельчар можа даць. А ўрач шырэй павінен бачыць.

Вядома, калі ён пазбаўлены абыякавасці. Хаця б падсвядомай. Зуб зноў...

Чамалаеў выходзіць. Марозаў бярэ часопіс, гартае. Уваходзіць Лена. Прыхіліўшыся да дзвярэй, глядзіць на Марозава.

Марозаў *(звоніць)*. Дзяжурны ўрач... Нічога новага?.. Ясна... *(Кладзе трубку, заўважае Лену.)* Ідзіце адпачываць.

Лена. Што б я зрабіла на яго месцы? Да маці махнула б. Яна яго схавае... Трэба дурнем быць — да жонкі... Схопяць як міленькага.

Марозаў. Той выпадак, калі і парадаксальная логіка бяссільная... Няўжо праўду кажа Чамалаеў?

Лена. У вас такі выгляд, быццам даведаліся, што жонка здрадзіла.

Марозаў *(пасля паўзы)*. Дзякуй за вішні. Больш так не рызыкуйце... Калі праўду, дык на маім сумленні...

Лена. Вішні?

Марозаў. Драбіны слабыя, сарвецеся. І да акна далёка.

Лена. Хм!.. Кажуць, язычнікі таксама купаліся голымі. Праўда?

Марозаў. Здзіўляе ваша настойлівасць. Стэнічнасць, як кажуць у гэтых кельях.

Лена. Мой дэвіз — ні дня без пацалунку. Француженка сказала б — без палюбоўніка.

Марозаў. Дзіўна — бацька ў вас строгі...

Лена. Калі сабаку доўга трымаць на ланцугу, а пасля адразу спусціць, ён напэўна каго-небудзь пакусае.

Марозаў. Пайду на пенсію — напішу трактат аб карысці наморднікаў.

Лена. У вас сапраўды няшчасны выгляд. Нявеста побач...

Марозаў. Ці нельга ясней?

Лена. Вы дрэнны псіхолаг. Слава аказалася дутай.

Марозаў *(уздыхае)*. Слава!..

Лена. Пра вішні спытайцеся ў Каценькі.

Уваходзіць Антон.

Антон. Доктар, дзядок бабку прывёз. Такая... буйная... Мо ў машыне паглядзіце? Пасля — у палату...

Марозаў ківае. Антон выходзіць.

Марозаў. Ці бачыце, Алена, псіхіятр і псіхолаг — крыху розныя рэчы, на жаль. *(Ідзе да дзвярэй.)*

Лена. Заўтра прыязджае мой жаніх.

Марозаў *(прыпыняецца)*. Вы вар'ятка.

Лена. Доктар, гэтая ноч не прынясе вам шчасця.

Марозаў. Гадалі на рамонках?

Лена. У мяне бабка цыганка. Прымайце хворую і прыходзьце.

Марозаў выходзіць. Адчыняецца акно, паказваецца рука, шукае, за што б зачапіцца, пасля ўлазіць Барыс.

Лена. Ой, як вы мяне напалохалі!

Барыс. Дзверы былі замкнёныя.

Лена. Разважаеце, як хворы. «Чаму з'еў пачак цыгарэт?» — «Запалак не было». Не спіцца дачнікам?

Барыс. Заплюшчу вочы і бачу вашых хворых. Адзін не засну.

Лена. Раніцою ў парку перахапіла некалькі позіркаў Тамары. Яна глядзела на вас.

Барыс. Так, у нас сяброўскія адносіны.

Лена. Нават калі б вы яе не пацалавалі... Я зразумела. Усё.

Барыс *(памаўчаўшы)*. Хочаце — здзіўлю вас. Я жанюся з Тамараю.

Лена. Вядома, Марозаву расказалі.

Барыс. Пасля даведаецца.

Лена. Ён ваш друг?

Барыс. Хіба ў геніяў могуць быць сябры? Ад'язджаючы, ён папрасіў мяне забаўляць Тамару... Не помню, як пачалося.

Лена. Мабыць, вы яе вельмі кахаеце.

Барыс. Эфектная жанчына, праўда? З такой — поспех на любым прыёме.

Лена. І яшчэ прыемна — надзіва добрасумленая.

Барыс. Ну, гэта... Вышэйшы пілатаж. Цяжэй утрымаць прыгожую.

Лена. Можаце ўявіць, чаго мне каштавала не расказаць Марозаву.

Барыс. О, прыйдзецца вас ліквідаваць. М? Як ліквідуюць непажаданых сведак. Кх!..

Лена *(нявесела ўсміхнулася)*. Навошта вы тут?

Барыс. У горадзе мы страшэнна стомленыя. Вечна спяшаемся, не паспяваем, злуем. Шум і атручанае паветра. Велізарны паток інфармацыі. І нервы не вытрымліваюць. Калі ўдаецца вырвацца... А ведаеце, у вас штосьці ёсць... *(Пільна глядзіць.)*

Л е н а. Элементарны секс. Я медык, ведаю свае моцныя бакі. Прывезці яе сюды — як вы адважыліся?

Б а р ы с. Выпрабаванне. Калі на гэты раз не знойдуць агульнай мовы... Пераможцаў не судзяць.

Л е н а. Ідзіце да Марозава і раскажыце.

Б а р ы с. З вамі можна галаву згубіць. *(Кратае яе валасы.)*

Л е н а *(адхіляецца)*. Насіце яе ў авосьцы.

Б а р ы с. Вы адзічэлі. Сястра павінна быць міласэрнай.

Л е н а. Па хуткай дапамозе. А Марозаў кажа...

Б а р ы с. Марозаў, Марозаў... Лена, няўжо гэтае жыццё для вас? Пераязджайце ў Мінск... Дзесяткі паклоннікаў! Паэты, кіношнікі. Хочаце ў інстытут?

Л е н а. Гэта проста?

Б а р ы с. З вашай прывабнасцю?.. Дарэчы, мой будучы цесць — буйная персона. Перад ім адчыняюцца самыя высокія дзверы. Калі вам спатрэбіцца. Кінем нудныя праблемы. Некалі я марыў стаць археолагам... Агледзім руіны замка?

Л е н а. З Тамараю вы такі ж шчыры?

Б а р ы с. Нібы з далёкіх часоў язычніца.

Л е н а. Марозаў неяк сказаў, што маральны патэнцыял чалавека...

Б а р ы с *(раздражняючыся)*. Кашмар!.. Вы ніколі не думалі, што часам элементарна выгадна быць добрым, справядлівым... Але, здаецца, ён хлусіць нават сабе.

Лена адмоўна ківае галавою.

Здайся Марозаў — і праз месяц вы астынеце да яго. Хто раней гэта зразумее — больш атрымае ад жыцця. Цвяроза глядзіце!

Л е н а. У бальніцу падпалкоўнік прыязджаў... Бачылі?

Б а р ы с. Лена, вы закруцілі мяне... Вас любіць можна доўга, доўга.

Л е н а. «Бярыце губы, але не чапайце сэрца». Па вечарах я прыходжу да Чамалаева, саджуся ў крэсла, падкурчыўшы ногі, а ён пачынае расказваць... Мой стары, добры універсітэт.

Б а р ы с. Калі мне стукне семдзесят... *(Гладзіць яе руку.)*

Л е н а. У Марозава, напэўна, гэта лепш атрымліваецца.

Барыс. Леначка, ён пазёр, выскачка... Я ведаю хлопцаў, якія гадамі ўкалвалі і не могуць прабіць абарону. А гэты праведнік накрэмзаў артыкульчык, і наце — завуць у Маскву! Чорт! Усё жыццё пакутую ад шчырасці і адкрытасці... Паплывём на той бераг. У вас нешта экзатычнае.

Лена. Так, я ведаю, густы цяпер сапсаваліся.

Барыс. Правільна заўважылі турысты — у Беларусі вельмі прыгожыя дзяўчаты.

Звоніць тэлефон. Барыс бярэ трубку.

Алё? Паслухайце, а другога часу вы не знайшлі? Вам не прыходзіла ў галаву, што ўрачы — таксама людзі?.. Прабачце.

Барыс апускае трубку на рычаг.

Лена. Божачка, яны ж забыліся папярэдзіць яе хахаля!

Барыс. Якога хахаля?.. Я буду чакаць!

Лена выходзіць. Паяўляецца Марозаў.

Марозаў. Сумуеш?

Барыс. Дарэчы, стары, каб не забыць. Мужыкі з аблздрава — праўда, не з майго аддзела — нізка табе кланяюцца. *(Перадае пісьмо.)* Даведаліся, што еду па цябе.

Марозаў. Што гэта?

Барыс. Скарга. У пенсіянераў тут тры да́чкі. Прасілі хворых у лес не пускаць.

Марозаў. Я ж адказаў. Хіба не дайшло?

Барыс. Паспяшаліся, доктар. Такі легкадумны адказ... Сюжэт для «Фіціля».

Марозаў. А ў чым, уласна, справа?

Барыс *(усміхаецца)*. Ды ты не крыўдуй — у нас адзін прафсаюз. Хто гарантаваны ад памылак?

Марозаў. Я падрабязна выклаў свой пункт гледжання.

Барыс *(праглядаючы пісьмо)*. «Інтраверты»... «Гіперкінэзы»... «Ультрапарадаксальная фаза»... *(Паківаўшы галавою.)* Прагулкі ў лес прыйдзецца спыніць.

Марозаў. Я ім пісаў — на прыродзе хворыя робяцца спакайнейшыя, паляпшаецца настрой, хутчэй вяртаюцца да жыцця.

Барыс. У вас цудоўны парк!

Марозаў. Для такой бальніцы — мала! Небяс-

печных у лес не пускаем. Хворыя ходзяць пад кантролем сясцёр.

Б а р ы с. Уяві — незнаёмы з псіхіятрыяй чалавек сустракае ў лесе...

М а р о з а ў. Я ж пісаў ім — толькі неўротыкаў водзім,— людзей, з расстроенымі нервамі.

Б а р ы с. Пакінь.

М а р о з а ў. У другой палавіне дваццатага стагоддзя сорамна адчуваць жах перад душэўнымі хворымі.

Б а р ы с. Ведаеш, хто жыве на гэтых дачах?

М а р о з а ў. Не цікавіўся. Лесу хопіць усім.

Б а р ы с. Там жывуць заслужаныя людзі, знатныя.

М а р о з а ў. А трымаюць сябе, як...

Б а р ы с *(з перасцярогаю падняў руку)*. Аказваецца, можна быць здольным доктарам і дрэнным палітыкам.

М а р о з а ў. Ва ўрача свае абавязкі. Няхай кожны сваёю справаю займаецца.

Б а р ы с. Доктар, не будзем. Напішы паперу — прасі прабачэння. Што табе — ад'язджаеш.

М а р о з а ў. Барыс, я гатовы напісаць найдалікатнейшае пасланне, пакаяцца за іронію... Але няхай — усё па-ранейшаму.

Б а р ы с *(уздыхае)*. Ну што ты ерапенішся? Быў час, калі тваіх хворых трымалі ў чатырох сценах. І абыходзіліся.

М а р о з а ў. Быў час, што іх трымалі на ланцугах! А калі ланцугі знялі, упэўніліся — хворыя сталі папраўляцца!.. Ну што — лесу для ўсіх не хопіць?

Б а р ы с. Ты добра разумееш, спатрэбіцца — галоўны дасць патрэбнае распараджэнне. Будзь рэалістам! Але хацелася, каб сам адказаў на скаргу.

М а р о з а ў. Каму — патрэбнае?

Б а р ы с *(уздыхае)*. Любенькі, пенсіянеры — гэта сіла!

М а р о з а ў. Хто павінен рашаць такія пытанні — спецыялісты ці пенсіянеры? Барыс Іванавіч, пакінем хворых у спакоі. Павер, за сваё жыццё гора яны паспыталі...

Б а р ы с *(усміхаецца)*. Доктар Марозаў, гэта абстрактны гуманізм... Так, палітвыхаваннем галоўны ўрачоў не балуе.

М а р о з а ў *(раззлаваўшыся)*. Вось аб гэтым ты і дакладвай!

Б а р ы с. О, так даўно не пісаны дзённікі? Доктар!

М а р о з а ў. Мяркуеш, хворым стане лягчэй, калі я запоўню гэтыя тамы?

Б а р ы с. Добра, стары, падумай. А я выкупаюся. *(Выходзіць.)*

Уваходзіць К а ц я.

К а ц я. Андрэй Сяргеевіч... на кухні знік нож.

Марозаў з прыкрасцю б'е далонню па стале.

*Заслона.*

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Тая ж дэкарацыя. Прайшло некалькі гадзін. М а р о з а ў і Ч а м а л а е ў гуляюць у шахматы. К а ц я стаіць ля акна, праглядае газеты.

К а ц я. Зноў спрэчкі аб Нэсі... Нехта зноў бачыў гэтую жывёліну... На пясчаным беразе возера...

М а р о з а ў. Ты нешта сказала?

К а ц я *(прыслухоўваючыся)*. Па-мойму, на гарышчы нехта ходзіць.

М а р о з а ў *(памаўчаўшы)*. Кажаны.

К а ц я. А мне шкада гэтую Нэсі. Многа, многа год таму вымерлі сваякі, сябры, знаёмыя... Навокал толькі рыбы. Зрэдку паяўляюцца істоты на дзвюх нагах, палююць на яе. І тады яна зноў знікае ўглыбіні... Адзінота...

Ч а м а л а е ў. Каб хоць тэлевізар... на дно апусцілі.

Каця складвае газеты, рыхтуе шпрыцы.

Раскажыце раніцою на палітінфармацыі: такі лёс кожнага, хто не ўступіць у прафсаюз.

К а ц я. Ці ёсць на свеце рэчы, якіх нельга было б абсмяяць?

Ч а м а л а е ў. Няма. Самы, самы, самы вялікі для адных, у той жа час для другіх... Ведаеце, у чым бяда абажацеляў фюрара? У іх бракуе гумару. Плюс параліч чалавечай годнасці. Вазьміце Германію трыццатых гадоў... Д'ябальшчына! Не люблю, калі жанчыны ўцягваюць мяне ў дыскусію...

К а ц я. Андрэй Сяргеевіч, адкуль у людзей абыякавасць? *(Маўчанне.)* Калі добра падумаць, усе беды на зямлі — ад абыякавасці. Да чужога лёсу, чужога гора, чужога жыцця.

Ч а м а л а е ў. Уся справа ў дыханні. Многія дыхаюць вельмі павярхоўна. Дыхалі б глыбей — пазбавіліся б ад многіх хвароб.

Уваходзіць Л а п і ц к а я.

Дзесяць тысяч год галоўнаму... Не спіцца, Мар'я Аляксееўна?

Л а п і ц к а я. З міліцыі — нічога?

Марозаў адмоўна ківае галавою.

Жонку папярэдзілі? Маці далі тэлеграму?

Марозаў сцвярджальна ківае.

Ч а м а л а е ў. Кажуць, свету пагражае недастатковасць руху. *(Размінаючыся, адыходзіць убок.)*

Л а п і ц к а я. Ну, што ж, тады можна быць спакойным.

М а р о з а ў. Чаму вы так, Мар'я Аляксееўна?

Л а п і ц к а я. Важна прапанаваць прыгожую і эфектную ідэю.

М а р о з а ў. Усе сучасныя бальніцы пераходзяць на сістэму расчыненых дзвярэй.

Л а п і ц к а я. Ваша перайшла? *(Маўчанне.)* Што рабіць, што рабіць? Аблздраў нас з'есць.

Ч а м а л а е ў *(Лапіцкай)*. Прыміце мае спачуванні.

Л а п і ц к а я. Собіла ж мне, старой дурніцы, наслухацца вашых пражэктаў...

Ч а м а л а е ў *(Марозаву)*. Што ж вы галоўнага падводзіце? Нядобра!

Л а п і ц к а я. Кпіць на такім узроўні і я магу. Вы б справай дапамаглі!

М а р о з а ў. Мар'я Аляксееўна, у выніку аўтакатастроф гіне больш людзей, чым памірае ад цяжкіх хвароб. Але нікому не прыходзіць у галаву паламаць аўтамабілі.

Л а п і ц к а я. Не пашкодзіла б ведаць думку тых, хто загінуў пад коламі.

М а р о з а ў. Спыніць прагрэс проста немагчыма.

Л а п і ц к а я. Прагрэс!.. Колькі ў яго дзяцей,— памятаеце?

М а р о з а ў. Я не думаю, каб здарылася.

Лапіцкая. Вы распуцілі персанал — ліберальнічалі! Ну, я ім... *(Сціскае пальцы ў кулак.)* Пад суд! Раніцою змену — да мяне ў кабінет!

Марозаў. Мар'я Аляксееўна! Я мог бы крыху затрымацца...

Лапіцкая. Не ўжо! Лепей — едзьце. Я, вядома, паспрабую абараніць вашы ідэі... Але калі прымусяць... Мне во як патрэбны дазвол на новае абсталяванне!

Лапіцкая выходзіць.

Чамалаеў. Паедзеце, і цудоўныя ўспаміны ад вашых пачынанняў...

Каця. Зноў дзверы замкнуць, краты на вокны...

Уваходзіць Наташа.

Наташа. Марозаў, гэта праўда — нервы лечаць музыкай, галасамі птушак?

Чамалаеў *(паклікаўшы Кацю пальцам, паціху).* Кацечка, у нас ёсць тэлефон Патаніна?

Каця. Вайсковай часці? Ёсць. Лічбы, потым «Сокал».

Чамалаеў ківае і выходзіць з Кацяй.

Марозаў. Дзіця маё, чаму не спіш?

Наташа. Бяссонніца, татачка,— праблема веку.

Марозаў. Штосьці ў Тамары змянілася. Ты не заўважаеш?

Наташа. Я? Спяць хворыя?

Марозаў. Не ўсе. Некаторыя галюцыніруюць.

Наташа. Няшчасны род чалавечы... Што ты да іх адчуваеш?

Марозаў. Спачуванне. Малодшыя браты.

Наташа. Малодшыя?

Марозаў. Пакуль не паправяцца. Тамара заснула?

Наташа. Усё хацела спытаць. Што такое... псіхахімічная зброя?

Марозаў. Амерыканскія вучоныя шукаюць сродкі. Каб людзі вар'яцелі.

Наташа. Яны, вядома, нармальныя. *(Паўза.)* Значыцца, калі вайна — у цябе будзе шмат работы...

Марозаў. Што з Тамарай?

Наташа. Марозаў, мая сястрычка — такая дурніца...

М а р о з а ў. Другі раз убачу, што п'еш — адлупцую!

Н а т а ш а. Я не такая дурная, каб прыгожы арганізм труціць алкаголем.

Уваходзіць Б а р ы с са стрэльбаю для падводнага палявання, з маскай.

Б а р ы с. Ого! Сямейная ідылія! Мясціны для палявання, скажу вам... Уражанне, нібы трапіў у краіну няпуджаных птушак!

Н а т а ш а. Чаму мяне не паклікаў?

Б а р ы с. Ты не спала?

Н а т а ш а. Мы з Тамарай былі на мосце.

М а р о з а ў. Далёка плаваў?

Б а р ы с *(не адразу)*. У чароце. Спрабаваў падстрэліць рыбку. Пры месяцы яны вельмі добра ідуць. Але тут такія дзікія... Блізка не падпускаюць.

М а р о з а ў. Паспі, выгляд змучаны.

Б а р ы с. Разумею, чаму ты ні разу не прыехаў у Мінск.

Н а т а ш а. Барыс, калі ты плаваеш — падграбаеш вушамі?

М а р о з а ў. Прабачце, я павінен зрабіць абход.

М а р о з а ў выходзіць.

Н а т а ш а. Тамара спіць. І сніць, што плыве ў лодцы, а побач...

Б а р ы с. Вялікі крываногі заяц.

Н а т а ш а. Я вылічыла, з кім ты пайшоў купацца. Ніштаватая.

Б а р ы с. Яна паказала цудоўны пляж!

Н а т а ш а. Не трэба, не скажу. Няўжо ў мяне будзе гэтак жа?

Б а р ы с. Тамара... бачыла?

Н а т а ш а. Сёння адзін, заўтра другі...

Б а р ы с *(памаўчаўшы)*. Калі не лепш. Цывілізацыя расце.

Н а т а ш а. Дзесьці ўкрадзеш кавалачак цяпла, а ў другім месцы страціш сонца.

Б а р ы с. Дай бог, дзяўчынка, каб ты была шчаслівая.

Н а т а ш а. Не турбуйся, буду.

Б а р ы с. Хм! Заўтра прыязджае лётчык, а яна ідзе са мной купацца. Куды коціцца свет? Упэўнены — яна і з Марозавым.

Н а т а ш а. Барыс, чаму ты ніяк не можаш абараніць дысертацыю?

Б а р ы с. Таленту няма! Хіба я жыву не цікавым жыццём?

Н а т а ш а. Паслухай, я толькі цяпер зразумела... Ты зайздросціш Марозаву. І ўсё робіш — каб яму нашкодзіць... Але нашто, скажы, нашто? І Тамара ж табе не патрэбна....

Б а р ы с *(закурвае)*. Спытай у Марозава, з чаго пачынаецца трызненне... Я нікога так не кахаў...

Уваходзяць М а р о з а ў і А н т о н.

М а р о з а ў. Ты ўпэўнены?

А н т о н. Калі ён пайшоў пасля абеду, дык начаваць будзе ў Куліках. На паўдарозе да станцыі. Дазвольце! Туды і назад. Га?

М а р о з а ў. Васемнаццаць кіламетраў?

А н т о н. Ну што мне прабегчы! Я мігам. Далібог ён там.

М а р о з а ў. Скора развіднее!

Уваходзіць К а ц я.

А н т о н. Паспею. У вёсцы не маглі не бачыць яго.

Б а р ы с. Дачакайцеся світання.

А н т о н. Нельга, збяжыць! Доктар, можна?

М а р о з а ў *(падумаўшы)*. Добра. Шпар!

К а ц я. Антон, пачакай. Толькі што Чамалаеў пазваніў Патаніну і той паслаў ужо салдат.

Б а р ы с. Салдаты?

М а р о з а ў. Ідзіце ў аддзяленне.

А н т о н і К а ц я выходзяць.

Б а р ы с. Уяўляю сабе, як яны будуць яго браць! Паляванне на зайца. Спалоханыя вочы, спацелы лоб, губы дрыжаць!

М а р о з а ў. Ты ж урач!

Б а р ы с. Ды кінь ты! Вось ён, твой гуманізм — парасчыняў дзверы, а цяпер палюеш на іх...

М а р о з а ў. Вельмі добра, Барыс, што ты больш не лечыш хворых.

Б а р ы с. Ну і хто ён быў, гэты Мацвей?

М а р о з а ў. Хто — чалавек!

Б а р ы с выходзіць.

Да століка на авансцэне (магчыма, з аркестравай «ямы»), хістаючыся і трымаючыся за галаву, падыходзіць Н е в я д о м а я, жанчына год трыццаці, у доўгім цёмным убранні. Пачынае гучаць танцавальная музыка. Святло ў дзяжурным пакоі прыглушаецца.

Невядомая. Калі ў горадзе ёсць хоць адзін праведнік, горад будзе выратаваны.

Павагаўшыся, яна набірае нумар — доўгія гудкі. Невядомая набірае другі нумар, хтосьці, смеючыся, гаворыць: «Вас слухаюць, гэта заапарк»... Невядомая кладзе трубку. Доўга шукае, каму б пазваніць, нарэшце набірае нумар.

Невядомая. Алену, калі ласка.

Голас. У камандзіроўцы. *(Кароткія гудкі.)*

Невядомая кладзе трубку, абыякава глядзіць. Раптам таропка шукае нумар па даведніку, звоніць. Марозаў здымае трубку.

Марозаў. Бальніца.

Невядомая. Доктара Марозава.

Марозаў. Я слухаю.

Невядомая *(злосна)*. Вось як... «Я слухаю...» Малады, самаўпэўнены... Вы далёка пойдзеце.

Марозаў. Прабачце, з кім я гавару?

Невядомая *(не адразу)*. Марозаў... Чаму ў вас такое халоднае прозвішча?

Марозаў. Прабачце, у мяне няма часу.

Невядомая. Вядома. На лекцыі — клопаты аб чалавеку, медыцына на варце... Божа, як мне...

Марозаў. Аб якой лекцыі вы гаворыце?

Невядомая. Для працоўных! Увесь ваш спіч аб аптымізме — гэта няўдалы сеанс гіпнозу... Я званю, каб сказаць вам... Душэўная гармонія, станоўчыя эмоцыі — лухта!

Марозаў. Ах, вось што... Вы былі тады...

Невядомая. Кемлівы. У школе, відаць, сядзелі на першай парце... Страшэнна баліць галава, расколваецца. Я нават узышла на эстраду.

Марозаў. Выключыце музыку, я кепска чую.

Невядомая. Увы!.. Наверсе весяліцца зялёная моладзь. Усю ноч... Чорт з імі!.. А ў нас на кухні газ. А ў вас?.. Навязаліся дурацкія вершыкі.

Уваходзіць Чамалаеў.

Марозаў. Вы многа выпілі.

Невядомая. Паўбутэлькі каньяку. І хоць бы хны.

Марозаў. Кладзіцеся спаць.

Невядомая. Дзякую. Чатыры таблеткі прыняла. Прыняць астатнія?

Марозаў *(не адразу)*. Не трэба. Заплюшчыце вочы, і сон прыйдзе да вас.

Невядомая. Пакіньце для іншых, блакітнае і

ружовае. Ну, не смешна? У апошнюю ноч — няма каму пазваніць... Дрэнныя запісы, чуеце?

М а р о з а ў. Што вы збіраецеся рабіць?

Н е в я д о м а я. Калі заўтра запросяць на экспертызу... Пасля ўсяго... Такі ўпэўнены, усё ведаеце... Жах! Да сённяшняга вечара і я была ўпэўнена, што ведаю жыццё.

М а р о з а ў. З кім вы збіраецеся паквітацца?

Н е в я д о м а я. Даведаецеся з запіскі. Галава... Ці скора стануць перасаджваць галовы?

М а р о з а ў. Заўтра раніцою канчаецца тэрмін маёй камандзіроўкі. Я буду далёка адгэтуль...

Н е в я д о м а я. Ну і ліха з вамі. Але хаця б сумленне... Марозаў, а людзі памятаюць, што такое сумленне?

М а р о з а ў. І ўсё ж такі — што вы збіраецеся рабіць?

Н е в я д о м а я. Вам жа няма часу. Займайцеся сваімі... *(Кладзе трубку.)* Усе надзеі на гэтай зямлі не маюць сэнсу. *(Выходзіць.)*

Ч а м а л а е ў. Што за асоба?

М а р о з а ў. Месяц назад мяне папрасілі прачытаць... Вы ведаеце, як гэта робіцца — сеанс гіпнозу, расказ аб снабачаннях... Што ж у яе здарылася?

Ч а м а л а е ў. Істэрычка?

М а р о з а ў. Калі б так.

Ч а м а л а е ў. Адна з маіх нявест — гэта не ўчора было — на дзень па дзевяць разоў пагражала пакончыць з сабою. Гучыць сітуацыя?

М а р о з а ў. Па-мойму, тут звязана з мужчынам. Ніяк не магу ўспомніць яе твар...

Спяшаючыся, уваходзіць А н т о н, за ім ідуць Н а т а ш а і Б а р ы с.

А н т о н. Доктар! *(Шэпча на вуха.)*

М а р о з а ў. Ні ў якім разе! Хадзем. Аляксей Міхайлавіч! Не адыходзьце ад тэлефона.

М а р о з а ў і А н т о н выходзяць.

Б а р ы с. Работка!

Ч а м а л а е ў. Спецыфіка. Цяперашні Мінск — вялікая вёска?

Б а р ы с. Вельмі. Двароў гэтак... Вас там пакрыўдзілі?

Ч а м а л а е ў *(шумна дыхае)*. Ажаніць збіраліся.

Б а р ы с. Доктар, з хворым здарыцца горшае — хто адкажа? Дзяжурны ўрач?

Ч а м а л е ў. Існуе яшчэ маральная адказнасць. Напрыклад, ці вінаваты сусед хворага? Хто вызначыць меру віны жонкі? Дырэктар завода мог перавесці яго на другое месца. Каб не меў кантакту са спіртам... Сабутэльнікі... Кола асоб бясконцае. На выніку гэтай справы маглі мець уплыў многія.

Б а р ы с. Дык што ж — вінаватыя ўсе і ніхто?

Ч а м а л а е ў *(пільна глядзіць)*. Адміністрацыйную адказнасць будуць несці ўрач, сястра, санітар. Так што... мушу вас засмуціць.

Н а т а ш а. Доктар, а як вы разумееце адказнасць перад грамадствам, перад часам...

Ч а м а л а е ў. Прабачце, з жанчынамі на гэтую тэму я не прывык.

Н а т а ш а. Дарэмна. У вас была б яснасць і па іншых пытаннях.

Б а р ы с. Наташа!

Н а т а ш а. Трагічны лёс чалавецтва — недаацэнка жаночага інтэлекту.

Ч а м а л а е ў. Мілае дзіця, наша галоўная вырошчвае дзівосныя ружы... Нічога падобнага вы не бачылі — блакітныя пялёсткі...

Уваходзіць Л е н а.

Н а т а ш а. Аб ружах я гавару з мужчынамі блізкіх са мною гадоў. *(Змякчае ўдар.)* Аляксей Міхайлавіч, чаму Лена называе вас Кантам?

Ч а м а л а е ў. Кантам? Гм... Магчыма таму, што я — пераканаыы халасцяк?

Н а т а ш а. І не былі жанатым?

Ч а м а л а е ў. Спрабаваў.

Н а т а ш а. Божа, як вы сябе абрабавалі!

Ч а м а л а е ў. На прыкладзе знаёмых, якія загінулі ад інфарктаў, інсультаў і іншых стыхій... Вось у фільмах — шчаслівыя шлюбы... Магчыма таму, што сеанс ідзе паўтары гадзіны? Лена, не адыходзьце ад тэлефона. Мы ў ружоўнік.

Наташа падае руку. Затрымаўшы позірк на Лене, Ч а м а л а е ў выходзіць з Н а т а ш а й.

Б а р ы с. Шкадую няўдачнікаў.

Л е н а. Ды што вы! У яго столькі надрукавана! Зараз галоўную кнігу піша. Нешта аб душэўнай гармо-

ніі. Баіцца — не хопіць год. А вось у лячэнні хворых Марозаў мацнейшы. Дзіўна, праўда?

Барыс. Ты трымала сябе недарэчна.

Лена. Такая цудоўная ноч. Хочаце сапсаваць?

Барыс. Што нам замінае жыць — забабоны.

Лена *(пасля паўзы)*. Прыёмнік сапсаваны. Разбіраецеся?

Барыс. І што мне за гэта будзе?

Лена. Ах, які... Дзейнічайце на грамадскіх пачатках.

Барыс. Згода. Толькі няхай заплоцяць. Дзетка, нашто з сабою змагаешся?

Лена. Вы разумееце ў жанчынах, як Фрэйд у каханні.

Барыс. А калі Фрэйд у чымсьці меў рацыю?

Лена *(пасля паўзы)*. Толькі не падганяйце мяне. Згода?

Барыс. А ты не блазнуеш?

Уваходзіць Марозаў.

Марозаў *(Барысу)*. Юлія Паўлаўна прасіла зайсці.

Барыс. Страсці па Мацвею не сціхаюць? Пардон! *(Выходзіць.)*

Марозаў *(звоніць)*. Станцыя? Гавораць з псіхіятрычнай бальніцы. Магчыма, нам будзе званіць жанчына. Калі ласка, запішыце яе тэлефон... Якія жарцікі? Прашу вас, гэта вельмі важна!.. *(Кладзе трубку.)*

Лена. Хочаце ўдзельнічаць у эксперыменце? Вам — карысна.

Уваходзіць Наташа.

Марозаў *(да Лены)*. Вы штосьці сказалі?

Лена. Ілюзіі, доктар, ілюзіі. *(Выходзіць.)*

Наташа. Марозаў, у яго такія кнігі... Звар'яцець можна.

Марозаў *(пасля паўзы)*. Наташа, можа палягчэць тое, чаго з такой цяжкасцю дамогся... Чорт! Усе хочуць цішыні. Толькі б іх не чапалі!.. Калі сёння дзесьці камусьці дрэнна — таму... Наташа, калі пазвоняць, я ў галоўнага.

Марозаў выходзіць. Наташа глядзіць у акно. Уваходзіць Каця, робіць запісы ў журнале.

Наташа. Каця, школа далёка адгэтуль?

К а ц я. У бліжэйшай вёсцы — сем кіламетраў. Чаму вы спыталі?

Н а т а ш а. Нешта мяне на сон пацягнула... Як вы церпіце?

К а ц я *(уключае радыёпрыёмнік, музыка).* А цяпер?

Н а т а ш а. Дзесьці жыццё... Што такое добры ўрач?

К а ц я. Боль чалавечы востра адчувае.

Н а т а ш а. Можна спытаць? Якія неспалучальныя рысы вам падабаюцца ў Марозаве?

К а ц я *(падумаўшы).* Не баіцца быць добрым. І ўмее дабро бараніць. Калі што вырашыў — нібы танк ідзе... *(Усміхнулася.)* А я не магу сябе прымусіць нават на ранішнюю гімнастыку.

Н а т а ш а. Я таксама не раблю зарадкі. Магнітафон — і танцую шэйк перад люстэркам. Што робіцца з мамачкаю...

Наташа ўключае радыё гучней і танцуе. Уваходзяць М а р о з а ў і Т а м а р а.

М а р о з а ў. Брава! Дарэмна становішся настаўніцаю. Не званілі?

Т а м а р а. Што гэта ў вас так весела?

Н а т а ш а. Успомнілі адны хаўтуры. *(Робіць непрыкметны жэст Каці, абедзве ідуць да выхада.)*

Т а м а р а. Уяўляю, чаму дзяцей навучыш!

Н а т а ш а. Цяперашнія дзеткі мяне могуць навучыць.

Н а т а ш а і К а ц я выходзяць.

М а р о з а ў. Цудоўная сястрычка.

Т а м а р а. Колькі ты прыняў хворых?

М а р о з а ў. Адну бабульку. Што яна вычмурала! Зрабілі ўкол — спіць, як дзіця. Гадоў дваццаць назад такіх сродкаў не было... *(Усміхнуўся, спрабуе абняць. Тамара ўхіляецца.)*

Т а м а р а. Чаму ты пісаў такія кароткія пісьмы?

М а р о з а ў. Лёс вялікіх! Хацеў быць побач... Вельмі... Але пісьмы... Не вельмі спадзяюся на словы...

Т а м а р а. Сказаў псіхіятр. Як жа ты лечыш?

М а р о з а ў *(глядзіць на сукенку).* Густ у цябе выдатны.

Т а м а р а. Цішыня... Не думала — у такой бальніцы...

М а р о з а ў. Прыедзем у Маскву, павяду цябе да скульптара.

Т а м а р а. Андрэй, цябе так доўга не было...

М а р о з а ў. Чырвоная шапачка, зараз я цябе з'ем... Разумееш, не змог.

Т а м а р а. Не перапыняй! Я ведаю, спатрэбіцца жыццё — ты аддасі яго мне. А гэтага не трэба. Я хачу ўвагі, каб мяне балавалі, патакалі капрызам... Кветка пры сустрэчы для мяне, калі хочаш, даражэй за подзвіг... Дзень, калі не чую «кахаю», прападае для мяне. Вось Барыс... З ім надзіва лёгка. У маёй прысутнасці ён заняты толькі мною... Мяшчанка, праўда? А можа, проста жанчына. Мне патрэбны муж, а не карысная для грамадства адзінка. Ты ўсё зразумеў?

М а р о з а ў. Тамара, гэта несур'ёзна. Хто не ведае Барыса...

Т а м а р а. Ты ўпэўнены, што ведаеш яго?

М а р о з а ў. Успомні яго дзяўчат!..

Т а м а р а. Позна, Андрэй. Вось білет да Масквы. Адзін.

Тамара перадае білет. Доўгая паўза.

Гэта здарылася раптам. А...

М а р о з а ў. Ён кахае цябе?

Т а м а р а. Я нічога не хачу мяняць.

М а р о з а ў *(памаўчаўшы)*. Што зрабіць, каб ты была шчаслівая?

Т а м а р а. Як ты сказаў?

М а р о з а ў. Тамара, гэта часовае... Гэта пройдзе!

Т а м а р а. Ты ж разумны.

М а р о з а ў *(не адразу)*. Мабыць, я страшэнна адстаў. Чагосьці не разумею. Калі нельга верыць, спадзявацца...

Т а м а р а *(зрываючыся)*. Чаму ты не прыязджаў?.. Чаму не прыехаў на свята?

М а р о з а ў. Я рваўся к табе. Адзін урач зламаў нагу, другая ў дэкрэт, трэці... Застаўся я адзін. На мне была бальніца!..

Т а м а р а. Свет на маіх плячах...

Т а м а р а шпарка выходзіць. Звоніць тэлефон, але Марозаў не рухаецца — заплюшчыўшы вочы і прытуліўшыся да сцяны, ён ківае галавою з боку ў бок. Уваходзіць Ж у к.

Ж у к. Доктар, я хацеў... *(Са здзіўленнем глядзіць на Марозава, дакранаецца да пляча.)* Доктар, а маім малым ён нічога?... Ад гэтых...

Уваходзіць Ч а м а л а е ў.

Чамалаеў *(Жуку)*. А, гэта вы... Колькі цяпер каштуе опіум для народа? Сяргеевіч, юнае стварэнне, нібы здань, блукае ў развалінах. І наогул, папярэдзьце гасцей.

Марозаў глядзіць на Чамалаева, выходзіць.

Жук. Пра што гэта вы — не разумею.

Чамалаеў. Спірт па якой цане, таварыш Жук?

Жук. Нядобра жартуеце. За такое...

Чамалаеў. Богам прашу, адыдзіце — перагару не выношу. Мілы мой, як вы па начах спіцё? Ці мучае вас сумленне?

Жук *(прыкрыўшы рот рукою)*. Якое сумленне?

Чамалаеў. Хоць разумееце, што вядзеце супраць народа хімічную вайну? Дыверсія ў маштабах дзяржавы. Прабачце за параўнанне — дзеянні агрэсара... Недзе там...

Жук. Гэта... Гэта ўжо занадта... Як вы... Прадукцыя нашага завода... Пераходны сцяг атрымалі... Прэміі.

Чамалаеў. Віншую. Вы ніколі не задумваліся, колькі сем'яў разбурана, колькі нарадзілася ідыётаў, колькі загублена жыццяў...

Марозаў вяртаецца з Наташай.

Жук *(лагодна)*. Бывае — люблю праўду. Ну, а колькі гэтага, радасці, весялосці... Згуляйце вяселле без гарэлкі... Ды вас на смех!.. Ну, а самі — не ўжываеце?

Чамалаеў. Шклянкамі. *(Марозаву.)* Сто грамаў гарэлкі пазбаўляюць мяне здольнасці абстрактна мысліць на працягу месяца.

Жук. Весялосць Русі — піці...

Чамалаеў. Гэта ўсё, што вы ведаеце пра Русь. Мая вам парада — пераходзьце на сухое віно. Жонку гэта не верне, але самі...

Жук *(перасмыкнуў тварам)*. Ну, што вы... Вада! А прыбытак! Ведаеце, колькі дае гарэлка?

Чамалаеў. Калі Мацвей зарэжа жонку альбо заб'е дзяцей, гэта зробіць гарэлка.

Жук *(памаўчаўшы)*. Выходзіць, я адзін вінаваты? Адзін яе раблю?

Наташа *(нявесела)*. О-хо-хо... *(Пстрыкае пальцамі.)*

Жук. Чаму моладзь стала горшая? Бацькі порткі без папругі сталі насіць! *(Ідзе да выхада. Раптам.)*

А праўда — вы злавілі чалавека, думалі, што ён выдумляе незразумелыя словы, лячылі яго, а пасля даведаліся, што ён іншаземец і не ўмее па-нашаму?

Ч а м а л а е ў. Праўда. Усё праўда.

Ж у к выходзіць.

М а р о з а ў. Накінуліся! Розум свой ён даўно прапіў.

Ч а м а л а е ў. Гэта нават я заўважыў... Ліквідуй спіртзаводы — пачнуць гнаць самагонку... *(З болем.)* Сяргеевіч, ніколі столькі не пілі, ніколі... Самы час біць у званы!..

М а р о з а ў. Чаму вы сказалі, што п'яце?

Ч а м а л а е ў *(разводзіць рукамі).* Не мог! Дажыліся, праваслаўныя! Дзейнічайце, Сяргеевіч. Хоць вы алкагалізму рады дасцё! І нашчадкі вам помнік з золата! Магу падказаць комплекс мерапрыемстваў... Вы — малады! Зможаце пераадолець супраціўленне, неразуменне...

М а р о з а ў *(не адразу).* З гэтай гарэлкай нейкі псіхалагічны парадокс. Разумеюць, што шкодна,— п'юць!

Н а т а ш а *(памарудзіўшы).* Без паўлітра не разбярэшся.

Ч а м а л а е ў. У свой час земскі ўрач — гэта дзеяч! І нейкай там завоблачнай лабараторыяй яго нялёгка было прывабіць.

Уваходзяць Л е н а і К а ц я.

Л е н а. Доктар Марозаў, Юлія Паўлаўна непакоіцца за Тамару. Памажыце яе знайсці.

М а р о з а ў выходзіць.

К а ц я. Леначка, не магу.

Л е н а *(шэптам, малітоўна склаўшы рукі на грудзях).* Сястра Каця, ахвяруйце кроплю спірту. Хрыстом-богам прашу!

Чамалаеў пачуў, засмучана глядзіць у акно. Лена, заўважыўшы гэта, дробнымі крокамі набліжаецца да яго.

Ч а м а л а е ў. Ведаеце, чаму загінуў Рым? Яго прапілі!

Л е н а. Буду шкадаваць, Аляксей Міхайлавіч, што ў мяне няма ад вас дзіцяці. Вы б перадалі нашчадку гуманізм старой рускай медыцыны...

Чамалаеў абыякавы. Лена праводзіць рукою па яго шыі, абдымае.

Апошнімі днямі вы зусім на мяне не глядзіце...

Ч а м а л а е ў *(у бок дзвярэй грамавым голасам).* Санітары! Узяць яе ў палату!..

Ніхто не ўваходзіць. Развёўшы рукамі, Ч а м а л а е ў выходзіць.

К а ц я *(засмучана).* Леначка, будзь разумніцай.

Л е н а. Розум для жанчыны не з'яўляецца прадметам першай неабходнасці. Ключ!

К а ц я. Навошта рабіць балюча таму, хто нас любіць?

Л е н а. Прафсаюзнае табе даручэнне: мінут праз трыццаць адшукай Тамару і скажы — Барыс чакае вас у пакоі старшай сястры... *(Адчыняе шафку, бярэ бутэльку са спіртам.)*

К а ц я. Дзіўна жартуе прырода — спаткацца б вам раней...

Л е н а. Я іх усіх — на чыстую ваду.

Н е в я д о м а я падыходзіць да тэлефона, звоніць.

Н е в я д о м а я. Марозава.

Л е н а. Марозава няма. Пазваніце зранку. *(Збіраецца пакласці трубку.)*

У дзвярах паказваецца М а р о з а ў.

М а р о з а ў. Лена!.. *(У некалькі скачкоў апынуўся каля тэлефона).* Прабачце, я выходзіў...

Н е в я д о м а я. У мяне застаецца не так многа... Я павінна некаму расказаць...

М а р о з а ў. Вам нездаровіцца?

Марозаў жэстам просіць сясцёр выйсці. Т ы я выходзяць.

Н е в я д о м а я. Мы пазнаёміліся... Хаця, ці было гэта? Нас лічылі шчаслівай парай... Адзін без аднаго... Не тое. Скажыце, доктар, куды знікае каханне?.. Сем год, толькі сем год... Час, які мінуўся, як... Лухта! Мая бяда ў тым, што ў мяне не было іншых мужчын... Тады б я змагла гэта перанесці... Няўжо каб верна кахаць — патрэбны талент? Усё ўшчэнт... Усё ляціць к чорту! Тое, што на працягу стагоддзяў было светам людзей... Вы чуеце? Мабыць, гэта трызненне. Ну і няхай. Уяўляю, з якой радасцю вы надзелі б на мяне вашу кашулю...

М а р о з а ў. Ваша ўяўленне аб псіхіятрыі стогадовай даўнасці. Вам бы заснуць. Раніцою многае ў іншым святле.

Невядомая. Толькі не хлусіце... А то кіну трубку.

Марозаў. Пакінуў муж... Цяжка, што і казаць. А калі б ён памёр?

Невядомая. Памёр? Ну, не — аддала б кроў да кроплі, сагрэла б сваім дыханнем... Для мяне ён быў больш, чым муж. Замяніў маці, сяброў, знаёмых... Выбіта з каляіны... Нікога... Нават сказаць няма каму... Наогул, як у індыйскім фільме, застаецца заспяваць.

Марозаў. Вы працуеце?

Невядомая. У адпачынку.

Марозаў. Схадзіце заўтра да таварышаў па рабоце.

Невядомая. У мясцовы камітэт? Памёр... Ведала б — няшчасны выпадак, хвароба... Абрабавалі!.. Лепшае, што было ў душы... Прыходзіць вечарам і кажа: «Мы павінны расстацца...» Тры словы, тры кулі. І пайшоў — да каго? Да маёй лепшай сяброўкі.

Марозаў. Што ж зробіш, трапіўся дрэнны чалавек.

Невядомая. Не! Спрабую знайсці хоць што-небудзь недастойнае ў ім... Было б лягчэй... Куды знікаюць пачуцці? Марозаў, ён не даваў мне мыць падлогу... Калі госці — пасуду прыбіраць толькі ўдваіх... Альбо чытаў мне ў гэты час... Прыходзіла з работы — сустракаў на прыпынку... У холад, любы вецер, снег... Пасля сталі пасылаць у камандзіроўкі. З гэтай... прабачце.

Марозаў. Напэўна, многім, хто перажыў гібель блізкіх, ваша гора здасца лягчэйшым.

Невядомая. Заўсёды знойдуцца тыя, каму яшчэ горш. Я стамілася. Дайшла да мяжы... За адну ноч...

Марозаў. Другія скажуць, што мужа, урэшце. можна і замяніць...

Невядомая. Не для мяне. Палюбоўнікі — гэта пошла. Не ўмею. Ды і не хачу. Што са мною?

Марозаў. Жыць можна дзеля дзіцяці.

Невядомая *(пасля доўгага маўчання)*. Пакідаць яе сіратой... На гэтым свеце... *(Адмоўна ківае галавой.)* Было б жорстка. Галава, зноў...

Марозаў. Вы... Вы — пачвара! З часоў Гебельса людзі не ведалі падобнага... Толькі ён мог сваіх дзяцей... Вы хворая!

Невядомая. Свет хворы! Чытаеце газеты? Слухаеце радыё? Бывалі за мяжой? Глядзелі фільмы? Гвалт і садызм, секс і наркотыкі... А жывапіс, літаратура! Разгром інтэлекту, расшчэпленая свядомасць... З дапамогай псіхааналізу вывальваюць у мастацтва самае нізкае... Біце ў званы, доктар!.. Тое, што іншы раз робіцца ў свеце — хіба гэта не псіхічная эпідэмія? Ды ці толькі... Вы ўпэўнены, што нармальныя людзі пасылаюць да нашых граніц самалёты з вадароднымі бомбамі? Лячыце вар'яцтва свету, доктар!..

Марозаў. Шкада, што вы не бачыце добрага.

Невядомая. Разумная, не па гадах развітая дзяўчынка... Вельмі ўражлівая... Чытаю замежныя часопісы і жахаюся — куды коціцца свет! З цягам часу гэта прасочваецца і да нас. Чуеце віск пад музыку? Не хачу, каб яна... Не ведаю... Яшчэ не рашыла — з дзяўчынкай...

Марозаў. Вы мне здаліся інтэлігентнай жанчынай.

Невядомая. Сем год жыццё здавалася мне інтэлігентным. Не хачу, каб дачка калі-небудзь прайшла праз гэта... Колькі часу? Ён прыйдзе ў восем. У знак пратэсту! Супраць усяго гэтага!

Уваходзіць Чамалаеў.

Марозаў. Навошта спяшацца? Урэшце, ад вас гэта нікуды не ўцячэ. Узважце ўсё на халодную галаву.

Невядомая. Толькі гэта ўсю ноч...

Марозаў. Заўтра вы будзеце думаць іначай, запэўніваю вас.

Невядомая. Толькі не трэба агітаваць.

Марозаў. Клянуся вам, як на споведзі. Гэта пройдзе! Вы яшчэ будзеце шчаслівая. Вы сустрэнеце любімага чалавека! Пасля ночы заўсёды... Ваш муж — нікчэмнасць!.. І не пераконвайце мяне... Паверце, я на вашым месцы... Алё... алё...

Невядомая кладзе трубку, выходзіць. Марозаў глядзіць на гадзіннік, набірае нумар.

Скажыце, нам толькі што званілі... Адкуль?.. Я ж прасіў!..

Марозаў кладзе трубку. Чамалаеў падкідае манетку.

Ч а м а л а е ў. Спадзяецеся, у вас што-небудзь атрымаецца? Ну-ну. Я ведаў некалькі падобных выпадкаў.

М а р о з а ў. Чаму я не магу ўспомніць яе твар? Пенсіянер, салдат, яшчэ двое...

Ч а м а л а е ў. Ваша знаёмая спала на сеансе?

М а р о з а ў. Не, не ўдалсся ўсыпіць. Ледзь-ледзь. Але іншыя...

Ч а м а л а е ў. Шкада, значыцца, цяжка паддаецца ўнушэнню. Суцешце сябе тым, што ў Злучаных Штатах штодзённа семдзесят чалавек канчаюць тым жа.

М а р о з а ў. Зайздрошчу вам.

Ч а м а л а е ў. А што вы можаце? Па тэлефоне! Можа я і памыляюся, але робім мы дзесьці ў выхаванні вялікі пралік. Што нам кажуць ледзь не з ясляў? «Чалавек нараджаецца для шчасця, як птушка для палёту». «Зямля створана для радасці». «Перад табой адкрыты ўсе шляхі». Прыгожыя словы! Але, напэўна, усё ж такі не варта забываць, што жыццё — не ёлачная цацка і на шляху чалавечым — не толькі радасці.

М а р о з а ў. Чаму кідаюць добрых жанчын?

Ч а м а л а е ў. Спытайцеся пра што-небудзь больш лёгкае.

М а р о з а ў. Ну, калі б я яго спаткаў...

Ч а м а л а е ў. І што — вярнулі б мужа?

М а р о з а ў. Хоць морду набіў бы.

Ч а м а л а е ў. Абажаю цяперашніх інтэлігентаў! *(Паўза.)*

Уваходзіць Б а р ы с.

Б а р ы с. Ну як — напісаў адказ?

Маўчанне. Ч а м а л а е ў не спяшаючыся выходзіць.

Надумаў не падпарадкавацца аблздраву? Ты што — дзівак ці ідыёт? Анрэй, я хачу табе дабра.

Маўчанне.

Пазіруеш? Што такое добрае становішча? Не мець ворагаў! А пенсіянеры ў Маскву накатаюць. Пабачыш!

М а р о з а ў. Табе што-небудзь трэба?

Б а р ы с. Гэтыя прагулачкі хворых — мура сабачая. Начытаўся замежных часопісаў... Небяспечна ў тваe гады заставацца дурнем. Ты і раней рабіў не самыя разумныя рэчы.

М а р о з а ў. Дык дзе ж ісціна?

Б а р ы с. Няма абсалютнай ісціны, дружа мой. Ёсць інтарэсы.

М а р о з а ў Ну, а якія былі інтарэсы тых, хто ішоў на касцёр, добраахвотнікам на фронт?..

Б а р ы с. Вайна — гэта выключны стан. А ў звычайныя дні трэба кахаць жанчын, хадзіць у філармонію, чытаць дэтэктывы... Дарэчы, чаму ты ідзеш у лабараторыю? Дзеля прынцыпаў? Ці ў цябе на падыходзе геніяльнае вынаходніцтва? Для ўрача ісці ў навуковую працу — адзіны сродак дасягнуць матэрыяльнага дабрабыту.

М а р о з а ў. Раскусіў.

Б а р ы с. Толькі не ведаю, разумееш гэта ці крывіш душою. Ёсць у мяне прыяцелька, эканаміст,— цынік да мозгу касцей. Ведаеш, што яна гаворыць? Усё па формуле: тавар — грошы — тавар.

М а р о з а ў. Ці ўсё?

Б а р ы с. О! Ледзь не забыў. Мая дысертацыя ў Маскве. На апрабацыі ў твайго Фёдарава. Па магчымасці — закінь слоўца.

М а р о з а ў. Ці варта было так далёка ехаць?

Уваходзіць Л е н а, спынілася паміж мужчынамі. Выразна паглядзеўшы то на аднаго, то на другога, выходзіць.

Б а р ы с *(збіраючыся ісці)*. Ну, я пайду...

М а р о з а ў. Куды?

Б а р ы с. Шукаць светлячкоў... Такія малюпасенькія крспачкі лётаюць каля берага, а наколькі больш радасным робяць жыццё простага чалавека...

М а р о з а ў. Нікуды не пойдзеш.

Б а р ы с. Мяркуеш, магу за-блу-дзіць?

М а р о з а ў. Там агрэсіўны хворы. Ці мала што... Будзеш на тэрыторыі бальніцы.

Б а р ы с. А калі рызыкну? Машыну агледзець...

М а р о з а ў. Папрашу санітараў. *(Усміхаецца.)* Ваша жыццё нам даражэй за любую машыну.

Б а р ы с. Псіхічная атака? Скажу ёй — і прыляціць у Мінск.

М а р о з а ў. Тады тое і будзе. А тут за парадак адказвае дзяжурны ўрач.

Б а р ы с. Ці не перабольшваеш ты місію дзяжурнага ўрача?

М а р о з а ў. Барыс, не трэба. Для цябе — чарговая інтрыжка. Для яе... Дай зразумець: хачу на адну ноч. Але не хлусі!

Б а р ы с. Каханне — гэта катэгорыя суб'ектыўнага ідэалізму.

М а р о з а ў. Дзякуй за такі марксізм. А ў Алене ты не разабраўся.

Б а р ы с. Усё ж такі ўрачу добра было б займацца хворымі.

М а р о з а ў. Хто ж будзе дбаць аб душэўным здароўі грамадства? Пашкадуй псіхіятраў — гэтыя жанчыны прыйдуць пасля лячыць нервы. Альбо пачнуць званіць...

Б а р ы с. Кінь... Твая дзеўка?

М а р о з а ў. Я сказаў — загадаю замкнуць у вострую палату.

Барыс ідзе да выхада. Марозаў здымае трубку. Барыс спыняецца, глядзіць. Марозаў трымае трубку. Памарудзіўшы, Барыс вяртаецца. Марозаў кладзе трубку.

Б а р ы с *(бярэ крэсла, рэзка ставіць, садзіцца)*. Ты звар'яцеў!.. Дзе логіка? Хворым расчыняеш дзверы...

М а р о з а ў. Памыляешся. Сацыяльна-небяспечных усё ж такі не выпускаем. *(Падыходзіць да дзвярэй, прыпыняецца)*. Можаш ісці.

М а р о з а ў выходзіць. Уваходзіць К а ц я.

К а ц я. Вы б пагулялі. Чуеце, совы крычаць.

Б а р ы с. Вы не баіцеся... «страціць розум»?

К а ц я *(весела)*. У мяне няма для гэтага падстаў.

Б а р ы с. Ат... цыгарэты пакінуў... *(Выходзіць.)*

З другіх дзвярэй уваходзіць Л е н а.

К а ц я. Пайшоў за цыгарэтамі.

Лена марудзіць, нервова кусае травінку. Уваходзіць Т а м а р а, падыходзіць да століка ў кутку, перабірае букет руж. Лена прымае новае рашэнне, робіць непрыкметны жэст, К а ц я выходзіць.

Л е н а. Мяне завуць Лена. Даўно хацела пазнаёміцца. Вы — шчаслівая! Такія, як Марозаў... Тры месяцы бачу. *(Весела.)* Сястрычка адна — ёсць у нас адна круцёлка — спакусіць надумала. Дзе там! Гэта не Барыс. Смешны Борка, праўда? *(Смяецца.)* Тэлефончык даў... Кожны пальчык перацалуе... Геній адной ночы. Пасля яму стане нудна.

Тамара адыходзіць убок, адварочваецца.

Прабачце, забалбаталася. Памагу Каці ін'екцыі зрабіць. *(Пасля паўзы.)* Дурныя мы, бабы. Ой, якія дурныя...

Лена паспешліва выходзіць. Тамара глядзіць на кветкі, пасля выкідае іх праз акно. Уваходзіць Барыс.

Барыс. Тамара?

Тамара. Лена — палюбоўніца Марозава?

Барыс. Лена? Не думаю... Хаця цяперашнім светам...

Тамара. Дорага дала б, каб ведаць... Што з табой?

Барыс. Світае. А так і не прылёг. Бяссонніца.

Тамара. Душная ноч... Я ўсё яму расказала.

Барыс. Што?

Тамара. Пра нас з табою.

Барыс *(цмокае языком ад прыкрасці)*. Я ж прасіў... Не тут!

Тамара. Не магла іначай.

Барыс. Дык вось чаму... Ну і вытрымка ў яго!

Тамара. Цыгарэту.

Барыс. Ты не ўяўляеш, што нарабіла.

Тамара. Лепш бы не ведаў, так?

Барыс. Не іранізуй. Прыехалі госці — і вось...

Тамара. Яшчэ трошкі — і мяне пакінуць у гэтых мурах.

Барыс. Прабач, пасля пагаворым. Я не хачу страціць цябе, ведай.

Уваходзіць Марозаў. Барыс выходзіць. Тамара накіроўваецца да акна.

Тамара. Вось так. Зараз дождж пойдзе. Першыя кроплі.

Марозаў. Каву зараз згатую. Табе з малаком?

Тамара. Ты казаў, валяр'янка зноў уваходзіць у моду. Смешна. Слухаю дождж...

Памарудзіўшы, Марозаў налівае лякарства, падае. Тамара п'е.

Як я сябе ненавіджу — калі б ты толькі ведаў...

Марозаў. Усё будзе добра. *(Марозаў сеў побач, трымае яе за руку.)* Вось убачыш. Рэдка ў каго жыццё ўдаецца роўнае... *(Глядзіць на яе далонь.)* Гэтая лінія гаворыць — ты будзеш шчаслівая... Лепшае наперадзе...

Тамара. Гэта ўсё, чаму вас навучылі ў інстытуце?

Марозаў. Нічога не было, Тамара!

Тамара *(гнеўна)*. Чаму ты такі добры — аж агідна, моташна... У табе сабралася горшае, што ёсць у бе-

ларусах — бязмежная, бяздумная, дурная дабрата... Да цябе па-спажывецку, а ты і рады...

М а р о з а ў. Памятаеш, мы доўга шукалі мадэль для дзяцей, і раптам цябе асяніла. «Сонейка»! Мы сядзім на дэманстрацыі мод, выходзіць малюпасенькая дзяўчынка ў тваёй сукенцы, і зала... Няўжо магла забыць апладысменты, захапленне?.. Дарыць радасць — тваё прызванне!

Т а м а р а. Якой цаной... Колькі нерваў, бяссонніц...

М а р о з а ў. Цябе падмянілі. Ты не забыла — устаўшы зранку, трэба ўсміхнуцца сабе ў люстэрка? Ты памятаеш — жанчына мінут дваццаць у дзень павінна заставацца дзіцем?

Т а м а р а. Калі ты не перастанеш...

Уваходзіць Б а р ы с. Маўчанне.

*(Барысу.)* Забыла сказаць — Лена шукала. Простая сястрычка, а ходзіць — прынцэса Маргарэт...

Б а р ы с. Марозаў, ваш шафёр добра разбіраецца ў маторах?

М а р о з а ў. Ёсць хворы. Размовы не атрымаецца, але машыну ведае...

Б а р ы с *(паглядзеў на гадзіннік)*. З вострай палаты?

М а р о з а ў. Па начах ён не спіць — размаўляе з марсіянамі. *(Тамары.)* Калі пазвоняць — заві. *(Выходзіць.)*

Б а р ы с марудзіць, пасля выходзіць за Марозавым. Уваходзіць Н а т а ш а.

Н а т а ш а *(напявае мелодыю хаўтурнага марша)*.

«Ту-104 — самы лепшы самалёт.
Ён вельмі хутка на край свету данясе.
Беражыце грошы!
Ашчаджайце час!
Ту-104 — самы лепшы самалёт».

Т а м а р а. Наташа! Увесь дзень даймаеш і маці і мяне.

Н а т а ш а. Ды што ты! Вы — мае любімыя сваячкі.

Т а м а р а. І без цябе...

Н а т а ш а *(парыў замілаванасці)*. Томік, мілая, хто больш за мяне жадае табе шчасця? *(Абдымае сястру.)*

Т а м а р а. Наташка, Наташка...

Н а т а ш а. Вы абедзве ў мяне такія дурненькія!.. Тамара, пакуль мужоў мы выбіраем самі, а не паўправаднікі, даверся... *(Паказвае на сэрца.)*

Т а м а р а. Ты ведаеш, што кажа маё сэрца?

Н а т а ш а. Забыла, як сумавала па Марозаву?.. Паглядзі на Барысавы вочы — людаед!

Т а м а р а. Я зараз закрычу. *(Заплюшчвае вочы.)*

Н а т а ш а. Калі даведалася, што ты з ім... Павесіць мала! Гэта найгоршая мадэль, якую ты калі-небудзь стварала.

Т а м а р а. Паслухай, а ты не закахалася? Ён не для цябе, малышка.

Н а т а ш а. Ты разумніца. Ну, не павеpу, што выходзіш замуж за яго машыну!

Т а м а р а. І гэта не апошняе пытанне.

Н а т а ш а. Не блазнуй. Хаця вы з маманькай... Развесціся з вамі, ці што?

Т а м а р а. Вось гэта ночанька!

Н а т а ш а. Ведаеш, за каго я хацела б замуж? Каб я была яму патрэбна. Работа ў яго цяжкая, страшная... А ён прыходзіць дамоў да мяне... Дзе трое, не, пяцёра малых... І столькі ласкі, столькі пяшчоты ва мне, што ўсе непрыемнасці, турботы аб хворых — як рукой... *(Раптам асеклася, глядзіць на Тамару.)*

Т а м а р а. Дай табе божа такой і застацца.

Н а т а ш а *(глядзіць угору).* Чуеш, божачка? Не дай маху!.. Гэта мой прыяцель. Тамара, Марозаў даруе.

Т а м а р а. Дараваць можна іншым.

Н а т а ш а *(шэптам).* Ты кахаеш яго... Я ж бачу!

Т а м а р а. Хацела праверыць, ці правільна зрабіла. Прымчала, дурніца...

Н а т а ш а. Але Барыс, Барыс...

Т а м а р а. Не, варта было прыехаць! Упэўнілася, што Барыс застаўся Барысам...

Н а т а ш а. Любая ты мая. Ахвяра агрэсіі. Вы памірыцеся! Далібог, памірыцеся... Табе трэба ў Маскву.

Т а м а р а. Ты думаеш?

Вяртаюцца М а р о з а ў і Б а р ы с.

М а р о з а ў. Не бядуй. Пазвонім у калгас, дадуць трактар.

Н а т а ш а. Што там такое?

М а р о з а ў. Матор нешта грукае. Ніхто не званіў?

Н а т а ш а. Майстар не памыліўся?

М а р о з а ў *(раптам пільна разглядае ўпрыгожан-*

*ні на Тамары).* Шалёна замахаў рукамі — выключай, выключай...

Н а т а ш а. Што ж цяпер — на буксіры да Мінска?

М а р о з а ў. Да асфальту дацягне трактар. А там поўна машын. *(Падыходзіць да Тамары, дакранаецца да ланцужка з металу.)* Я ўспомніў яе твар!..

Т а м а р а. Што з табою, Андрэй!

М а р о з а ў. Як я мог забыць... *(Выходзіць.)*

Н а т а ш а. Аказваецца, у гэтай калымазе далёка не паедзеш. *(Выходзіць за Марозавым.)*

Т а м а р а. Матор — гэта не душа. Не баліць.

Б а р ы с. Каб жа! Добры матор знайсці — цяжэй, чым...

Т а м а р а. Заканчвай.

Б а р ы с. Прабач. Новая машына. З даўгамі не разлічыўся!..

Б а р ы с выходзіць.

Н е в я д о м а я ў хатнім халаце падыходзіць да тэлефона. Званок. Тамара доўга не здымае трубку.

Т а м а р а. Алё!

Н е в я д о м а я. Марозава.

У дзвярах паказваецца М а р о з а ў.

М а р о з а ў. Я тут! *(Падбягае да тэлефона.)* Слухаю.

Т а м а р а выходзіць.

Н е в я д о м а я. Бывайце, доктар. Надыходзіць змярканне. Час запальваць свечкі і рыхтавацца да ночы. Няхай пашле вам лёс...

М а р о з а ў *(расшпільвае каўнер кашулі).* Вы гэтага не зробіце!

Н е в я д о м а я. Калі-небудзь, праз многа год... А...

М а р о з а ў *(цвёрда).* Вы не смееце... Чуеце? Я забараняю!

Н е в я д о м а я. Слухаю і выконваю.

М а р о з а ў *(настойліва).* Я вам загадваю... Вы слухаеце толькі мяне, толькі мой голас... Аб усім, што вы казалі, паспрачаемся другім разам. У вас прыгнечаны настрой — таму такія думкі.

Н е в я д о м а я. Я не ўпэўнена, што сучасныя людзі больш шчаслівыя, чым першабытныя. Зямля астывае — астываюць пачуцці. Памятайце выкладчыка музыкі, клас фартэпіяна...

М а р о з а ў. Вы вельмі стаміліся. Вам страшэнна хочацца спаць...

Н е в я д о м а я. Пакіньце, доктар...

М а р о з а ў. Вы ледзь трымаецеся на нагах. Вас хістае ад стомы...

Н е в я д о м а я. Марозаў, не трэба, час канчаць. Куды ні глянеш, усюды ён... Ноты — ён, кнігі — ён...

М а р о з а ў. Я ўспомніў ваш твар. Жанчына з такім тварам не смее... Не павінна. Вам хочацца легчы. Вам ужо цяжка падняць руку...

Н е в я д о м а я *(ціха)*. Што вы ад мяне хочаце...

М а р о з а ў. Больш за ўсё вам хочацца легчы. Вы ўжо адчуваеце сябе ў пасцелі, цёпла, утульна... Зараз вы пойдзеце і ляжаце... Будзеце спаць доўга, спакойна... Потым устанеце... Галава будзе ясная, настрой добры... Пасля пазвоніце мне...

Н е в я д о м а я *(вяла)*. Доктар, што ж вы...

М а р о з а ў *(уладна)*. Спіце!.. Я загадваю спаць!.. У пасцель... Зараз жа ў пасцель... Ідзіце і кладзіцеся.

Невядомая адмоўна ківае галавой, шукае рукой на століку, знаходзіць шклянку, з размаху разбівае яе.

М а р о з а ў. Што здарылася?

Н е в я д о м а я *(выходзячы са здранцвення)*. Я не хачу... Я не хачу жыць!

М а р о з а ў *(робіцца ўсё больш жорсткім)*. Не хочаце? Ну што ж. Рабіце, як... Толькі выслухайце... Калі бацьку скінулі на парашуце, ён трапіў у акружэнне... У нагане застаўся патрон — апошні! Бацька стрэліў. Але не ў сябе!.. І ўсё ж такі дабраўся да партызан — галодны, змёрзлы, з перабітымі нагамі...

Н е в я д о м а я. Мне здрадзілі блізкія людзі — гэта страшней!

М а р о з а ў. Пасля вайны ў нас нічога не было — жылі на папялішчы. Я хадзіў на полі і збіраў мёрзлую бульбу...

Н е в я д о м а я *(жорсткі паядынак)*. Я не хачу гэтага ведаць!

М а р о з а ў. Вучыўся на першым курсе — і раптам захварэла маці... Каб не кінуць інстытут, па начах грузіў вагоны... Да знямогі, да болю ў касцях...

Н е в я д о м а я. Гэта не мае да мяне...

М а р о з а ў. Чалавек таму і чалавек, што не здаецца... Калі Бетховену, зусім глухому... Здаецца, яго вы больш любіце?

Н е в я д о м а я. Няпраўда — Шапэна!

М а р о з а ў. Шапэна? Дык успомніце,— далёка ад

радзімы, хворы, кінуты любімай жанчынай, пісаў геніяльную санату...

Невядомая. Дайце сказаць...

Марозаў. Не! Не думайце, што мне лёгка. Гадзіну назад я страціў... Пайшла да нікчэмнага чалавека... Я сцяў зубы. Жыццё — гэта змаганне. Няхай ведае ваша дачка. Яна будзе шчаслівая! Толькі не трэба разумець шчасце, як ціхае і цёплае... А калі ў яе слабыя нервы — пакажыце яе мне.

Невядомая. Я стамілася, выдыхалася...

Марозаў. Вы — эгаістка. Забыць сваіх вучняў! *(Зноў жорстка.)* Сярод іх — напэўна, таленты! Хочаце пакінуць? Праз каго — праз гэтую нікчэмнасць?

Невядомая. Ён бацька маёй дачкі — не забывайце!

Марозаў. Ну, паглядзіце на яго іншымі вачамі! Сапраўдныя мужчыны паводзяць сябе інакш...

Невядомая. Хопіць! Не хачу... Таму што...

Марозаў *(перабіваючы)*. Рабіце як хочаце! Толькі ведайце — заўтра ўжо не будзе сонца. Для вас! Не будзе ўсмешкі дзіцяці, музыкі... Кветак на акне... І галоўнае — вы не ўбачыце перамогі розуму, гармоніі ў будучым! А ў гэтым я абсалютна ўпэўнены — у сэрцы ёсць здаровыя сілы... Усё!

Кінуўшы трубку, Марозаў у знямозе садзіцца, заціснуўшы галаву далонямі. Невядомая, знясіленая, кладзе трубку, выходзіць. Паступова світае. Контуры будынка ў акне робяцца цьмянымі. Уваходзіць Каця.

Каця. Трубка чамусьці ляжыць. *(Бярэ трубку, кладзе яе на рычаг.)*

Марозаў. Цяпер я выпіў бы...

Уваходзіць Наташа.

Наташа. Я спадзявалася, што гэтай ноччу здарыцца што-небудзь каласальнае. Часта бываюць спакойныя дзяжурствы?

Уваходзяць Юлія Паўлаўна, Тамара, Барыс. За імі ідуць Лена, Чамалаеў, Антон.

Юлія Паўлаўна. Андрэй, тут цудоўна... Але дома як дома.

Тамара. Не забудзь чарот. *(Марозаву.)* А вышыўка — выдатная! Цікавы ансамбль прапаную.

Юлія Паўлаўна. А я такі букет складу... Ікэбана... Прыгожыя словы ёсць у японцаў. Андрэй, да-

рога не блізкая. Лепш у лесе спынімся. Снеданне на траве — абажаю.

Марозаў *(пасля доўгай паўзы)*. Я праводжу вас. Дзённікі не паспеў запоўніць.

Барыс. Не блазнуй. Спадзяюся, гэта не сур'ёзна.

Марозаў *(не адразу)*. А можа кар'еру зрабіць? Галоўны прапануе месца начмеда.

Тамара *(губляючы надзею)*. Ён звар'яцеў у гэтай бальніцы!

Барыс. Чаму ж? Раптам зразумеў — патрэбны хворым, патрэбны бальніцы... Гэта добра, калі адчуваеш сябе неабходным грамадству.

Юлія Паўлаўна *(глянуўшы на Тамару, раптам палка)*. Барыс, спыніся. Марозаў, не трэба донкіхоцтва. Вас чакаюць у Маскве. Няшчасця ж не здарылася! Прашу вас.

Марозаў. Проста нельга мне ехаць. Хаця б цяпер.

Тамара *(у роспачы)*. А пасля ён не выберацца. Вечныя дзяжурствы.

Наташа. Вечныя? Бадай што. Каб чалавецтва не ашалела, хтосьці павінен дзяжурыць вечна.

Юлія Паўлаўна *(засмучана)*. Значыць, вучоным быць...

Марозаў. Лабараторыя высотных палётаў — нядрэнна, што і казаць... Але на зямлі для мяне яшчэ шмат работы. І тыя, што лётаюць, мяне зразумеюць. Да восені застануся. Пасля ў аспірантуру паспрабую. Па псіхіятрыі.

Барыс. У вочную аспірантуру набору сёлета не будзе. Я міністра нядаўна бачыў.

Наташа. Урэшце, завочная аспірантура — таксама нядрэнна.

Тамара. Ведаеш розніцу паміж вераб'ём і салаўём? Верабей — гэта той жа салавей, але скончыў кансерваторыю завочна.

Юлія Паўлаўна. Вы жартуеце, а тут я зразумела — людзі, будзьце ўважлівыя адзін да аднаго... Бо пасля ніякая медыцына...

Барыс. Трактарыст чакаць не будзе! Цалуйцеся.

Наташа. Ну што ж... Калі ўжо так... Дзед Марозаў, дай я цябе... *(Цалуе.)* Чакай мяне. Мы надзіва падыходзім адзін да аднаго!

Юлія Паўлаўна. Гэта, вядома, жарт.

Наташа *(усміхнулася)*. Але так яно і будзе!..

Б а р ы с. Хутчэй, хутчэй. Ён ужо... Ах, чорт! Спыніце!..

Г о с ц і, спяшаючыся, выходзяць.
Т а м а р а ідзе апошняю, на хвіліну прыпыняецца, глядзіць на Марозава. М а р о з а ў праводзіць гасцей.

Ч а м а л а е ў. У пакоі ў мяне цесната. Прыйдзецца гэтаму хлапчуку падарыць бібліятэку... І некаторыя запісы. Чагосьці я не паспеў. Магчыма, у яго... адбудзецца...

Л е н а *(з удзячнасцю)*. Нарэшце.

Уваходзяць М а р о з а ў і К а ц я.

Ч а м а л а е ў *(ажывіўшыся)*. М-да... А турнір мы ўсё ж такі даіграем. Паглядзім, хто мацнейшы, калега! *(Паціраючы рукі, адыходзіць убок.)*

Уваходзіць П а т а н і н.

П а т а н і н. Дазвольце? А мы яго знайшлі.

К а ц я. Каго?

П а т а н і н. Мацвея, вашага хворага.

К а ц я. Мацвея? Аёечкі!

П а т а н і н. Калі доктар Чамалаеў пазваніў, я падняў хлопцаў. Ля горада ўзялі. Пры ім быў кухонны нож. *(Разглядае руку.)* Абышлося. Прабачце, служба.

Марозаў падыходзіць да Патаніна.

М а р о з а ў. Канстанцін Пятровіч. Я паспрабую...

П а т а н і н. Вы застаецеся? *(Памаўчаўшы.)* Я рад, вельмі рад. Разумею, чаго гэта вам каштавала. Але мы з вамі, доктар, салдаты. А салдат там, дзе трэба больш мужнасці. Да пабачэння.

Моцны поціск рук. П а т а н і н выходзіць.
Н е в я д о м а я, акуратна прычасаная, падыходзіць да тэлефона. Званок. Прытуліўшы галаву да вушака дзвярэй, Лена глядзіць на Марозава.

М а р о з а ў. Вас слухаюць.

Н е в я д о м а я *(не адразу)*. Добрай раніцы, доктар.

М а р о з а ў. Добрай раніцы. Вы так нядоўга спалі...

Н е в я д о м а я. Дачку ў сад трэба весці. Я вам яшчэ пазваню, доктар. Можна?

М а р о з а ў. Званіце. Абавязкова званіце. *(Кладзе трубку.)* А раніца сапраўды добрая!..

*Заслона.*




Гульні дарослых, або Камедыя-карнавал
у дзвюх дзеях з музыкай, танцамі, сардэчным прыступам

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Бабачкін Леў Іванавіч — старшы навуковы супрацоўнік НДІ аховы нервовай сістэмы, апантаны работай, па знешніх даных яўна не цягне на ролю першага палюбоўніка, 46 гадоў.

Кацярына Васільеўна — яго жонка, урач, інтэлігентная і сімпатычная, 46 гадоў і восем месяцаў.

Туманава Ала Пятроўна — дырэктар НДІ, вельмі мілая, добра выхаваная жанчына, узрост у межах наменклатуры.

Рубайла Назар Цярэнцьевіч — намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы, энтузіяст у грамадскай рабоце, сабаку з'еў на гэтым, і не аднаго, 60 гадоў.

Іванская Наталля Сяргееўна — навуковы супрацоўнік, чароўная, ніколі не ведаеш, што яна адпаліць, 30 гадоў.

Шахматаў Віталь Валянцінавіч — навуковы супрацоўнік, вельмі інтэлігентны, высока эрудзіраваны, 50 гадоў.

Люся — сакратар, вельмі мілая, рыхтуецца паступаць у тэатральны інстытут (да ўвагі галоўных рэжысёраў! Магчыма, вашаму тэатру не хапае актрысы менавіта такога плана), 22 гады.

Маёрыкава Ганна Іванаўна — бібліятэкар, вядома ж, таксама мілая, але... даўно не трыццаць.

Чыжык Юрый Сцяпанавіч — інжынер, член бюро райкома, добры, па сутнасці, хлопец, але з-за кахання ўжо так дасканала хоча дакапацца да карэнняў..., 32 гады.

Нянечка — як усе нянечкі, 55 гадоў.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Вечар у лесе. Пасля легкадумнай уверцюры, выкананай аркестрам, з'яўляецца шчуплы, невысокі мужчына — Леў Іванавіч Бабачкін з Наталляй Іванскай, маладой прывабнай жанчынай, на руках. Асцярожна кладзе яе на траву, ляпае па шчацэ, робіць штучнае дыханне — не дапамагае. Тады ён звяртаецца да спосабу, якім карыстаюцца выратавальнікі — прыціскаецца губамі да яе губ... Збоку гэта падобна на працяглы пацалунак — можа быць, у казках менавіта так ажыўлялі памерлых?..

Іванская (*расплюшчвае вочы*). Дзе я?

Бабачкін. Не хвалюйцеся. На гэтым свеце.

Іванская сядае. Бабачкін збірае галінкі, з дапамогай запальнічкі спрабуе развесці вогнішча.

Іванская. Галава кружыцца. Што са мной?

Бабачкін. А вы ляжыце. Хутка пройдзе.

Іванская (*прылегла*). Я выпіла, напэўна, цыстэрну вады.

Бабачкін. Не хвалюйцеся — узровень ракі не панізіўся. Я праверыў.

Іванская. Як гэта здарылася?

Бабачкін. Стары папярэджваў — лодка няўстойлівая. А вы сталі на ўвесь рост, паднялі рукі і заспявалі чайкам: «Ляту я...»

Іванская. Вы мяне выцягнулі?

Бабачкін. А што было рабіць? Вы адразу пайшлі на дно. Вакол — ні душы! Да бліжэйшай вёскі — вёрст пятнаццаць. Вы, паважаная, зусім не ўмееце плаваць?

Іванская. Ну чаму? Толькі не ў сукенцы! Калі на табе прыгожы купальнік... Як мне кепска... (*Раптам сядае.*) Матэрыялы?!

Б а б а ч к і н. Не хвалюйцеся. Матэрыялы экспедыцыі адправілі поштай.

І в а н с к а я. Ах так... *(Нечакана.)* Сумка... Вы яе не выратавалі?

Б а б а ч к і н *(адмоўна ківае галавой)*. Сутыкнуўся з альтэрнатывай — вы ці сумка. Грошы, дакументы?

І в а н с к а я. У ёй была памада.

Б а б а ч к і н. Памада?

І в а н с к а я. Фірмы Каці! За гэту памаду... Там глыбока? Пацягнуў мяне чорт садзіцца ў гэту пасудзіну!

Б а б а ч к і н. А іншага транспарту тут няма. Толькі на лодках. Усё жыццё. І жывуць па сто гадоў! Разгадаць бы — чаму?

І в а н с к а я *(бярэцца за галаву, спалохана)*. Як вы мяне цягнулі?

Б а б а ч к і н. Адгадалі — за валасы.

І в а н с к а я. Панчоха падралася... Не, у такім выглядзе нікуды не пайду!

Б а б а ч к і н. Ноччу ісці па балоце? Пасядзім ля вогнішча, да світанку.

І в а н с к а я. У кожным лесе павінен быць дом лесніка.

Б а б а ч к і н *(безнадзейны ўзмах рукой)*. Пагаварыце з мядзведзямі. А можа, на ноч бярлогу здадуць.

І в а н с к а я. Чулі? Там штосьці хруснула! *(Падсоўваецца да Бабачкіна.)*

Б а б а ч к і н. Не палохайцеся. Гэта рысь або дзік. Думаю, яны ўжо павячэралі. Распранайцеся і бліжэй да агню.

І в а н с к а я. У вашай прысутнасці?

Б а б а ч к і н. Я пайду. *(Устае.)*

І в а н с к а я. Гэй, не, не! Адвярніцеся. Мерсі. *(Здымае сукенку, развешвае ля вогнішча.)*

Б а б а ч к і н *(весела)*. Дзіўна, што я жывы!

І в а н с к а я. Як гэта разумець?

Б а б а ч к і н *(распранаецца)*. Быў момант, вы пацягнулі мяне на дно.

І в а н с к а я. Як русалка? Па-вашаму, жанчынам уласціва тапіць сваіх выратавальнікаў?

Б а б а ч к і н. Калісьці цыганка прадказала: «Загінеш, залатая галава, з-за жанчыны...» Не холадна?

І в а н с к а я. У такую ноч? Вам не здаецца, што мы — Адам і Ева?

Бабачкін. Калі б не лятталі самалёты, а за ракой не працаваў трактар.

Іванская. Такі ж лес, месяц... Божа, як даўно гэта было... *(З галінак майструе ўбор дзікункі.)*

Бабачкін. Я ўспамінаю, што ў мяне было ў партфелі: пашпарт, пасведчанне, камандзіроўка, копія рэцэнзіі «на гарадскія шумы»... Слава богу, рэцэнзію паспеў перад ад'ездам...

Іванская. Аб гарадскіх шумах?

Бабачкін. «Уплыў гарадскога шуму на паходжанне неўрозаў». Падрабязны, але пусты твор... Зразумела, ваш слуга яго пахаваў.

Іванская. Забаўна! Ведаеце, чый гэта опус? *(Танцуе вакол вогнішча.)*

Бабачкін. Закрыты конкурс!

Іванская. Нашай дырэктрысы.

Бабачкін *(засмучана).* Што вы кажаце!

Іванская *(напявае).* А калі б ведалі, чыя работа — напісалі б інакш?

Бабачкін *(пазіраючы на Іванскую).* Адмовіўся б рэцэнзаваць.

Іванская. Ваша шчасце, калі да Алы Пятроўны нічога не дойдзе.

Бабачкін. Ха! Туманава — вельмі добрая жанчына. Вы дрэнна яе ведаеце.

Іванская. Самазабойца. Калі б не ваша рэцэнзія, Туманаву ўключылі б у змешаную савецка-амерыканскую камісію па ахове асяроддзя. Вось як! І ездзіла б яна па ўсякіх заграніцах.

Бабачкін. Так, нарабіў!

Іванская. Наадварот! Добрую справу зрабілі.

Бабачкін. Не разумею.

Іванская. З амерыканскага боку камісію прадстаўляюць салідныя вучоныя. З сусветнымі імёнамі!

Бабачкін. Што ж рабіць, калі ў Алы Пятроўны пакуль няма сусветнага імя?

Іванская. Яна наогул не вучоны.

Бабачкін. Гм! Я не рызыкнуў бы. Па адной рабоце...

Іванская. Пасля з'яўлення Туманавай у інстытуце — юбілеі, урачыстасці, шум і звон!.. А інстытут па сутнасці трымаецца на вас, на Віталю Валянцінавічу.

Бабачкін. Ай-ай-ай! Зямля і тая трымаецца, як мінімум, на трох кітах.

І в а н с к а я. Так, я пляткару. Але вы асуджаны. Рана ці позна Туманава даведаецца. І тады... Як вам дапамагчы?

Б а б а ч к і н. Давайце адпачываць. Мяккіх галінак прынясу.

І в а н с к а я *(перастае танцаваць)*. Гэй! На губах у вас памада. Адкуль?

Б а б а ч к і н. М... Калі плылі... Выпадкова.

І в а н с к а я *(пільна яго разглядае з усмешкай)*. Ну-ну! Вы дзе ляжаце?

Б а б а ч к і н. Па гэты бок вогнішча. *(Нечакана.)* Фігура ў вас прыгожая...

І в а н с к а я *(дурасліва грозіць пальцам)*. Дацэнт Бабачкін!..

Б а б а ч к і н *(хапатліва)*. Так, так, зразумела. На досвітку пойдзем.

Кожны укладваецца як мага зручней.

І в а н с к а я. Кахаеце жонку?

Б а б а ч к і н. Мы выхавалі сына. І якога сына! А хіба без кахання...

І в а н с к а я. Але прыгоды ўсё ж былі, га?

Б а б а ч к і н. Ведаеце, у гады маёй маладосці людзі паводзілі сябе сціпла. Жыццё цяжэйшым было, ці што.

І в а н с к а я. Ёсць такія мужчыны, спакойныя, упэўненыя. З імі лёгка, хочацца расказваць аб сваім жыцці, раіцца... Даўно мяне займае — за што вас любяць супрацоўнікі? Не толькі ж за талент!

Б а б а ч к і н. Заўтра дзянёк... Невядома, ці паспеем дабрацца. Добрай ночы.

І в а н с к а я. Арэвуар. *(Доўгая паўза. Ускоквае.)* Чуеце?

Б а б а ч к і н. Што?

І в а н с к а я. Зайчык! Так крычыць зайчык. Дапамажыце! Вы мужчына!

Б а б а ч к і н. Позна. Я дапамагаю да дзесяці вечара. Спім, Наталля Сяргееўна.

І в а н с к а я *(пасля паўзы)*. Леў Іванавіч, былі выпадкі, што мядзведзі кралі жанчын? А потым зацягвалі ў бярлогу...

Б а б а ч к і н. Былі.

І в а н с к а я. І... што потым?

Б а б а ч к і н. Жанчыны стваралі ў бярлозе райскае жыццё, і мядзведзі пераваяліся.

Доўгая паўза.

І в а н с к а я. Вы бачыце каляровыя сны?

Б а б а ч к і н. Не, Наталля Сяргееўна! Толькі глуханямыя.

І в а н с к а я *(кідае ў яго галінкай)*. Не злуйцеся! Гэта злачынства — спаць у такую ноч. Раскажыце пра сваё першае каханне.

Б а б а ч к і н. О божа! Усё жыццё пакутую з-за жанчын...

І в а н с к а я. Гэта так цікава!

Б а б а ч к і н. Спіце. У мяне не хапае тэмпераменту на вашы выхадкі.

І в а н с к а я. Справа не ў тэмпераменце. Гульню люблю! Жанчына ў дзень мінут дваццаць павінна заставацца дзіцем.

Б а б а ч к і н. Здзіўляюся — як вам удаецца пісаць праблемныя артыкулы?

І в а н с к а я. А вяселле ў мяне было на дрэве.

Б а б а ч к і н. Як — на дрэве?

І в а н с к а я. На галінках вярбы, велізарнай, раскідзістай! Ён быў майстрам спорту. Па акрабатыцы.

Б а б а ч к і н. А...

І в а н с к а я. Госці на галінках сядзелі. Адзін крыкнуў «горка» і паляцеў... У ваду.

Б а б а ч к і н. Наталля Сяргееўна, да заўтра.

І в а н с к а я *(пасля паўзы)*. Сямейнага шчасця не было. Разышліся. Быў яшчэ, эпізод... Не тое. І кінулася ў навуку. Леў Іванавіч, бывае каханне — вялікае-вялікае?

Б а б а ч к і н *(не адразу)*. Калісьці ў школе дэсантнікаў...

І в а н с к а я *(смяецца)*. Вы — дэсантнік?! Навіна!

Б а б а ч к і н. Калі я быў у школе дэсантнікаў, поварам... Узрост утаіў. У нас працавала дзяўчына, радыстка... *(Паўза.)* Потым я папрасіўся ў тыл. Вяртаюся праз два гады з задання — нарадзілася дачка. Радыстка не вярнулася... Я хацеў узяць дзяўчынку — бабуля нізашто... Пачаў дапамагаць... Дзяўчынка даўно вырасла...

І в а н с к а я. Вось гэта гісторыя! А прыгоды — прыгоды былі?

Б а б а ч к і н *(глуха)*. Давайце спаць.

І в а н с к а я. Не, раскажыце!

Б а б а ч к і н *(сядае).* Наталля Сяргееўна! Бачыце тую крапіву?

І в а н с к а я. Вы грубы, анфан тэрыбль. Нават не ведаю — чаму вы мне падабаецеся! Я люблю пяшчотнасць, увагу... Вось французы... *(Змаўкае. Раптам дзіка крычыць.)* Дапамажыце!

Б а б а ч к і н *(падхопліваецца).* Што здарылася?

І в а н с к а я. Напэўна, кракадзіл... цапнуў.

Б а б а ч к і н. Дзе?

І в а н с к а я. Вось тут... зубамі.

Б а б а ч к і н *(уздыхае).* Звычайная мурашка. Кампанотус геркуланус. *(Устае.)* Хадземце!

І в а н с к а я. Куды?

Б а б а ч к і н. Шукаць дарогу.

## Карціна другая

Навукова-даследчы інстытут аховы нервовай сістэмы. Агульны пакой. Дываны, у вазе кветкі. Перыядычна, у самы непадыходзячы час, на табло высвечваецца: «Памятайце! Нервовыя клеткі не аднаўляюцца», «Кожная сварка — удар па нервах», «Захоўвайце ўсмешку», «Спяшайцеся абрадаваць», «Трохмінутны смех замяняе пятнаццацімінутную гімнастыку». Музыка, зменлівае каляровае асвятленне. Л ю с я, напяваючы, друкуе на машынцы. Тэлефонны званок.

Л ю с я. Так?.. Не, гэта не птушкафабрыка. *(Кладзе трубку, друкуе, зноў званок.)* Ало? Паслухайце, гэта нервовы інстытут! Нервовы! То-та ж. Чаго? Дзядзька! А етага я...

Уваходзіць Т у м а н а в а А л а П я т р о ў н а, дырэктар інстытута, цікавая жанчына. За модай не ганіцца, але і не адстае. Чуе апошнія словы, засмучана ківае галавой.

Т у м а н а в а. Люсенька, родная, у якім інстытуце вы працуеце?

Л ю с я. Навукова-даследчы інстытут аховы нервовай сістэмы. Я разумею, Ала Пятроўна, але гэты тып такі някемлівы...

Т у м а н а в а. Інстытут унікальны. Працуем над праблемамі дваццаць першага стагоддзя! Інстытут будучага. І ён павінен стаць узорам паводзін супрацоўнікаў. Пасля візіту ў наш інстытут, Люсенька, або пасля званка ў чалавека павінен узняцца настрой,

узнікнуць станоўчыя эмоцыі. Галубачка, я вам расказвала — у Токіо, у велізарным універмагу, стаяць ля ўвахода дзве дзяўчыны і кожнаму — разумееце, кожнаму! — робяць паклон у пояс: «Дзякуем вам за тое, што наведалі нас...»

Люся. Ала Пятроўна, але яны ж дзеля...

Туманава (перапыняючы). А мы павінны гэта рабіць дзеля здароўя народа. Я хачу, каб у нашым інстытуце ўсё было на вышэйшым узроўні! Калі ласка, меладычным і сонечным голасам дакладна і ясна адказвайце на ўсе тэлефонныя званкі.

Люся (уздыхае). Паспрабую, Ала Пятроўна.

Туманава. Вам, будучай актрысе, тым больш неабходна. Не падабаецца чалавек, а вы іграйце... Люся, не ў службу, а ў дружбу — бутэльку шампанскага і цукерак. (Перадае грошы.)

Люся. Шампанскага?

Туманава. Не кожны дзень мы выратоўваем блізкіх. Гэта свята, Люсенька! А святы павінны запамінацца.

Люся. Але які Леў Іванавіч! Не чакала!

Туманава. Мілая, Бабачкін у вайну такія цуды рабіў... Ведаеце, колькі ў яго ўзнагарод? А дэсантнікам за прыгожыя вочы іх не даюць...

Люся. Ала Пятроўна, ён такі дасціпны! Друкавала яго рэцэнзію на адну работу, аб гарадскіх шумах... І рагатала! Божа мой, столькі іроніі! У навуковай рабоце. Калі вучоны дазваляе сабе вастрасловіць, значыць, у яго каласальны запас ведаў!

Туманава (не адразу). Даўно гэта было?

Люся. Незадоўга да экспедыцыі. Ну, я вам скажу — нашчэнт! Хацела б я мець мужа з такім пачуццём гумару! Што з вамі, Ала Пятроўна?

Туманава. Га?? (Здымае стому.) Схадзіце за шампанскім.

Люся выходзіць. Туманава спяшаецца ў свой кабінет, таропка шукае рэцэнзію, бегла праглядае.

Божа! Сама не здагадалася... Гэта ж яго стыль! Выснова: «Указаныя недахопы сведчаць аб нізкім тэарэтычным узроўні работы і нязначнай яе практычнай каштоўнасці». Вось так... Год работы — без выхадных, без водпускаў... Казе пад хвост... З гумарам, з іроніяй?.. Добра, добранька... (Ускоквае, пачынае перасоўваць мэблю.)

Вяртаецца Люся з бутэлькай шампанскага, накіроўваецца да дзвярэй кабінета, чуе шум, спыняецца. Уваходзіць Рубайла, пажылы, масіўны, пануры, з велізарным партфелем.

Рубайла. Люся, ідуць! Дзе Ала Пятроўна?

Люся. Тс-с! Дырэктрыса не ў гуморы. Штосьці здарылася!

Рубайла. Адкуль сігнал?

Люся. Перасоўвае мэблю! Гэта яе метад заспакойваць сябе.

З'яўляюцца шумная Наталля Сяргееўна, Леў Іванавіч.

Вось яны, героі! Чалавек з таго свету і яе выратавальнік!

Уваходзіць Туманава. Люся падносіць Іванскай і Бабачкіну кветкі.

Туманава. Мілая Наталля Сяргееўна, дарагі мой чалавек... *(Абдымае, цалуе.)* Віншую... *(Падыходзіць да Бабачкіна, паціскае руку.)* Дзякуй! Велізарнае. Да вашых доблесцей дабавілася яшчэ адна.

Бабачкін *(адчувае сябе няёмка)*. Ну што вы... Любы на маім месцы...

Люся. Вы так думаеце? Паглядзім... *(Падыходзіць да рампы, глядзіць у глядзельную залу.)* Там... жанчына патанае. *(Абводзіць залу вачыма, уздыхае, горка ківае галавой, вяртаецца, разлівае шампанскае.)*

Туманава. О, як гэта цудоўна! Гляджу на наш калектыў — і душа радуецца. Да чаго ж дружна жывём!

Іванская. Мне кропельку! Інакш нараблю бязглуздзіцы — не ўмею піць!

Уваходзіць Шахматаў, інтэлігентны, іранічны.

Шахматаў. Добра б кожны дзень каго-небудзь выратоўваць.

Іванская. Гэта залежыць ад вас, Віталь Валянцінавіч! *(Падае бакал.)*

Туманава. Было страшна?

Іванская. Нічога не памятаю! Апрытомнела толькі на беразе.

Туманава. Жах падумаць — калі б адна... А! Як экспедыцыя?

Бабачкін. Выдатныя вынікі! Здаецца, знайшлі, чаму яны жывуць так доўга. Дзеці прыроды!

Ш а х м а т а ў. Дзеці прыроды паміралі ў трыццаць гадоў.

Т у м а н а в а. Родныя мае, добрыя. Я рада. І таму, што наша мілая Наталля Сяргееўна жывая, зноў з намі... І таму, што ў нас ёсць такія людзі, як Леў Іванавіч... Будзьце здаровыя!

Чокаюцца, п'юць. Б'юць званочкі. Голас па радыё: «Дарагія супрацоўнікі! Час вытворчай зарадкі!» Гучыць танга «Кармэнсіта». Іванская кладзе рукі на плечы Бабачкіну і ідзе з ім танцаваць. Шахматаў запрашае Туманаву. Люся танцуе з Рубайлам, партфель ён трымае ў свабоднай руцэ.

Б а б а ч к і н. Ведаеце, Ала Пятроўна, пасля таго як замест зарадкі вы прапанавалі танцы, я памаладзеў. Так!

Т у м а н а в а. Расшыраюцца сасуды! Тут яшчэ — шукаць і шукаць! Правесці фізіка- ды і радыётэхнічныя вымярэнні.

Ш а х м а т а ў. І што зменіцца? Думаеце, у перапынках усе кінуцца танцаваць?

Т у м а н а в а. Віталь Валянцінавіч! Нельга быць такім песімістам.

Ш а х м а т а ў. Чытайце Мантэня. Там усё сказана!

Танец заканчваецца.

Л ю с я. А ў нас таксама вялікая радасць. Дадзена ўказанне спыніць на Бярозаўскім заводзе лакавы цэх. Да таго часу, пакуль не паставяць ядаўлоўнікі.

Б а б а ч к і н. Дык гэта ж перамога!

Л ю с я. Заслуга Алы Пятроўны. Толькі дзякуючы яе бясконцым хаджэнням, прабіванням, настойлівасці...

І в а н с к а я. Чаго не зробіш дзеля здароўя людзей! *(Налівае шампанскае.)* За майго выратавальніка! *(Падыходзіць да Льва Іванавіча.)* Вяртаю доўг... *(Цалуе яго, доўга не адпускае.)*

Усе заўважаюць гэта, пераглядваюцца, апускаюць вочы або глядзяць убок.

Т у м а н а в а. Леў Іванавіч, Наталля Сяргееўна, вы сядайце, сядайце, калі ласка. Жывіце доўга, як людзі ў вашай вёсачцы!

Б а б а ч к і н. Ну, у горадзе, пры гэтых перагрузках — нерэальна.

Т у м а н а в а. Дарагія мае, я павінна вас пакінуць... Калегія!

Р у б а й л а. За работу, таварышы.

Супрацоўнікі разыходзяцца. Бабачкін бярэ Алу Пятроўну за руку, адводзіць убок. Іванская слухае, усміхаецца.

Б а б а ч к і н. Ала Пятроўна... Не ведаю... Адбылася недарэчная гісторыя. Пакарайце! Мне далі рукапіс без імя аўтара. На рэцэнзію. І я... Ох, гэтыя гарадскія шумы...

Т у м а н а в а *(весела).* Дык гэта ваша рэцэнзія?

Б а б а ч к і н. Вінаваты.

Т у м а н а в а. Галубчык, усё правільна! Вельмі дакладна вызначаны недахопы. Паспяшалася, згодна. І пачала перарабляць.

Б а б а ч к і н. Паверце, мне ў галаву не прыйшло...

Т у м а н а в а *(кладзе руку на яго плячо).* Веру, родны мой. Сама вінавата — не параіўшыся, хацела сюрпрыз зрабіць...

Б а б а ч к і н *(захапіўся).* Ну вось. Замер шуму ў заводскім раёне. Зусім невядомая работа. Тэма актуальная, шум, нябачны забойца, сапраўды прыводзіць да неўрозу. Глабальная праблема! Катастрафічная! Але чытаю — такі дылетантызм, такі... *(Асекся.)*

Т у м а н а в а *(пасля паўзы, рассмяялася).* Правільна, правільна! Забылі. Лады? *(Поціск рук, выходзіць.)*

Б а б а ч к і н. Чорт! Такую жанчыну пакрыўдзіў! *(Выходзіць.)*

Застаюцца Іванская і Люся.

Л ю с я. Нацярпеліся страху?

І в а н с к а я. Апамятацца не паспела. Захлынулася — і камнем на дно!

Л ю с я. Ён добры. Уважлівы, клапатлівы.

І в а н с к а я. Развялі такое вогнішча, распраналіся... О!..

Л ю с я *(танцуе).* Дзіўная штука — жыццё! Яшчэ ўчора — проста супрацоўнікі. Ноч на востраве — і ўсё ў іншым святле.

І в а н с к а я. Даруйце, вы аб чым?

Л ю с я *(спявае).* «Ночь была с ливнями и трава в росе...» Збіралі ландышы?

І в а н с к а я. Люся, вы такая маладая...

Л ю с я. Не спрабаваў заляцацца?

І в а н с к а я. Ні ў якім выпадку! І ў гэтым чароўнасць ночы, чыстай, празрыстай, якойсьці тургенеўскай...

Л ю с я. Дзіўна. А мне здавалася, вы падабаецеся мужчынам.

І в а н с к а я. Справа ў прыстойнасці, Люсенька. Розныя рэчы.

Л ю с я. Нават Леў Іванавіч... Наталля Сяргееўна, мая вам парада — кідайце навуку! Калі сёння мужчыны да вас раўнадушныя...

І в а н с к а я. Люся! Не аднымі хлопчыкамі жыве жанчына! Калі кнігу пераклалі на французскую...

Л ю с я *(паціснуўшы плячыма)*. Ноч... Двое ў лесе... Неапранутыя... І — нічыя? Нуль-нуль? Калі ўсе даведаюцца...

І в а н с к а я. Кашмар!

Л ю с я. Будуць расказваць як анекдот — нават Леў Іванавіч... Мамачкі, яшчэ столькі друкаваць, а мне абяцалі... *(Глядзіць у сумачку.)* Жах! Застануся без капейкі!

І в а н с к а я *(раптам неяк загадкава)*. Люсенька, не гэта галоўнае. Была дзіўная, ні на што не падобная ноч... *(Заплюшчвае вочы.)* Цёплы, як малако, туман... Пыркі месячнага серабра на лісці... А пахі, п'янлівыя пахі... Прыгажосць гэтай ночы — у непаўторнасці. Як я яму ўдзячна... *(расплюшчвае вочы)*, што не было трывіяльнага.

Павольна І в а н с к а я выходзіць.

Л ю с я. Ну і ну! А я ўпэўнена — паміж ёю і старым нічагусенькі не было. Навошта яна спрабавала мяне пераканаць, што яны палюбоўнікі? *(Паціскае плячыма, друкуе.)*

Устае Маёрыкава, бібліятэкар, шумная, дзелавая. Мужчынская стрыжка, акуляры, нязграбныя манеры, курыць. Салдат у спадніцы. Дастае ведамасць.

М а ё р ы к а в а. Ну! Ты падумай — медыкі! А ведаеш, колькі падпісаліся на «Медицинскую газету»? Трое. З усяго інстытута! А пападзе каму? Маёрыкавай! Выкладай шэсць сорак. Не пайду, пакуль не атрымаю. *(Сядае.)*

Л ю с я *(глядзіць міма)*. Яна доўга не магла адважыцца... Нервы...

М а ё р ы к а в а. Хто? Падпішыся на газету.

Л ю с я. І тады ён, каб заспакоіць яе, пачаў ірваць крапіву і хвастаць... Па голым целе...

М а ё р ы к а в а. Гэта што — кіно? Табе «Медгазету» або яшчэ што?

Л ю с я. Потым схапіў яе ў ахапак і пацягнуў на дрэва.

М а ё р ы к а в а. Без лесвіцы?

Л ю с я. Усю ноч на галінках. Яна спачатку ўцякла на верхавіну, але ён узляцеў...

М а ё р ы к а в а. Хто? Слухай, магу для цябе «Здоровье» зрабіць.

Л ю с я. Потым упалі... Добра, што ў балота. Але ён схапіў яе за валасы...

М а ё р ы к а в а. У балота... Леў Іванавіч?! Дарэчы, ён таксама не падпісаўся!..

Л ю с я. І зноў на верхавіну... О! Так бывае раз у жыцці.

М а ё р ы к а в а. Леў Іванавіч! А здавалася, у такім кволым целе...

Л ю с я. Гэта не мужчына — вулкан, тайфун, землятрус...

М а ё р ы к а в а. Не чакала! Хоць ён даўно мне падабаецца.

Л ю с я. А які пяшчотны, ласкавы... Яна гаворыць, так умеюць любіць толькі французы...

М а ё р ы к а в а. Іванская?! *(Устае.)* Ніколі б не падумала... *(Згортвае ведамасць.)*

Л ю с я. Гаворыць, калі пачнецца чацвёртая сусветная вайна...

М а ё р ы к а в а. Пачакай, — яшчэ трэцяй не было!

Л ю с я. Праўда? Яна ўспомніць гэту ноч.

М а ё р ы к а в а. Толькі падумай! І сама прызналася?

Л ю с я. Хто? Хіба я назвала імёны?

М а ё р ы к а в а. Ясна! Чаго ж я ішла да цябе? Выскачыла.

Л ю с я *(гледачам)*. Кожны дзень — па эцюду. Інакш праваліш экзамены!

М а ё р ы к а в а. Што я — не разумею? Маёрыкава — магіла!

Л ю с я. Спяшаюся. *(Выбягае з пакоя.)*

М а ё р ы к а в а. Справы! *(Здымае трубку, звоніць.)* Маша? Дай слова, што нікому ні гуку... Не, дай слова!.. Дык вось — наш Леў Іванавіч, якога ты лічыла святым... Не, ты гаварыла... Дык ён ужо даўно сустракаецца з Наталляй Сяргееўнай... Так! *(Усхліпвае.)* Бач як? Добра, што я не выйшла замуж! Усе мужыкі —

нягоднікі, падонкі, паскуднікі... Што?! Хоча кінуць сям'ю?! Леў Іванавіч? Ты адкуль ведаеш? Ну, пакуль... *(Кладзе трубку, сумна глядзіць на ведамасць.)* Гэй, а газету?!

### Карціна трэцяя

Кабінет Туманавай. Ала Пятроўна здымае трубку, звоніць.

Туманава *(напеўна).* Інстытут аховы нервовай сістэмы жадае Пал Сцяпанычу добрага настрою, унутранай гармоніі і масу станоўчых эмоцый... *(Рассмяялася.)* Так! Толькі так. А медыкі самі ствараюць сабе добры настрой, гэта ад іх залежыць... Пал Сцяпаныч, частка нашых супрацоўнікаў мае намер перайсці ў новы даследчы цэнтр. Жыцця не даюць — калі закончаць будаўніцтва? Ах так? І яшчэ пытаюцца — хто будзе дырэктарам? Для вучоных далёка не абыякава, хто ўзначальвае даследаванні... Была размова? Так? *(Усміхнулася.)* Проста я не думала... Ён таксама так лічыць? Сапраўды, не ведаю... Да інстытута прывыкла, любяць мяне тут, баюся, не адпусцяць... А наогул там ёсць дзе разгарнуць даследаванні. Ох, як можна рушыць навуку! *(Какетліва.)* Не ведаю, Пал Сцяпаныч, падумаю. Гэта ж не сёння? І няўжо няма іншых прэтэндэнтаў? З мужчын... *(Ускоквае.)* Бабачкін? Наш Бабачкін? Не, чаму ж... Так, здольны, цікавы... І анкета... Вось толькі... Не, не, забудзьце... Га? Калі пачала, так? Пацягнуў мяне чорт... Проста я лічу, Пал Сцяпаныч, Бабачкіну трэба моцна дапамагчы. У якім сэнсе? Па сутнасці, дробязь. Жанчын любіць. Ніводную не прапусціць. Так! На жаль, не плёткі. Чаму ўтойвалі? Пал Сцяпаныч! Таленавіты чалавек! Калектыў у нас здаровы. Я гэтыя штучкі на караню спыняла. А вось калі пойдзе ў кіраўнікі... Хто яму там запярэчыць? Не ведаю, вам рашаць. Добра, зайду, пагутарым. *(Кладзе трубку, глядзіць на газету.)* «Маральнае аблічча»...

Уваходзіць Рубайла, падае паперы на подпіс.

Рубайла. Заяўкі на прыборы...

Туманава *(праглядае).* Бабачкін просіць цэлых восем? Ну, што ж, трэба дык трэба. *(Падпісвае, рассмяялася.)* Забаўную гісторыю расказвала мне Ганна Іванаўна. Быццам Бабачкін і нашы жанчыны... Бязглудзіца якая!

Р у б а й л а *(сумна)*. А мне не смешна, Ала Пятроўна. Калі там, разумееш, даведаюцца...

Т у м а н а в а *(усміхаецца)*. Я не зусім улоўліваю...

Р у б а й л а. У інстытуце шу-шу і шу-шу... Падставіш вуха — так і ёсць. Пра яго шэпчуцца!

Т у м а н а в а. Дзіцячыя свавольствы.

Р у б а й л а. Не кажыце! Памятаю, у МТС за гэтыя свавольствы дырэктара з партыі выключылі.

Т у м а н а в а. Калі гэта было? Погляды на каханне, Назар Цярэнцьевіч, змяніліся. Я не кажу — добра гэта ці кепска. Але калі ты перасадзіў сэрца... То жанчыны — колькі б іх ні было...

Р у б а й л а. Уплыў Захаду! Праз кіно, кніжкі.

Т у м а н а в а. І тэма настолькі інтымная...

Р у б а й л а. Амаралку — гарачым жалезам з нашага быту!

Т у м а н а в а. Навошта такія словы? *(Штосьці выкрэслівае.)* Нейтронныя датчыкі закупляць не будзем, дастаткова гэтых.

Р у б а й л а. Дык вы лічыце — пытанне ўзнімаць не варта?

Т у м а н а в а *(хітра)*. Не ведаю. Вырашаць павінны вы — старшыня мясцовага камітэта, мой намеснік...

Р у б а й л а. Ха! Па гаспадарчай частцы.

Т у м а н а в а. Але вы мужчына. А жывёлы — дзе заяўка?

Р у б а й л а. Дык прывезлі ж нядаўна.

Т у м а н а в а. Я вас не разумею.

Р у б а й л а. Шкада! Жывёлу. На паляванні іншы раз не страляю.

Т у м а н а в а *(устае, ходзіць)*. Назар Цярэнцьевіч, хачу вас папярэдзіць. Супрацоўнікі скардзяцца.

Р у б а й л а *(дастае блакнот)*. Хто?

Т у м а н а в а. Прашу вас — будзьце больш уважлівым да запатрабаванняў вучоных. Інакш...

Уваходзіць М а ё р ы к а в а.

М а ё р ы к а в а. Ала Пятроўна, вашы медыкі — горш за дзяцей. Прывезлі кніжкі. Па спецыяльнасці. Кажу, пачакайце, не запісала. Не, дай паглядзець. Хапаюць, як хлеб у вайну. Хочаце глянуць? Ці сюды прынесці?

Т у м а н а в а. Навошта ж, галубачка? Назар Цярэнцьевіч, я на хвілiначку выйду.

Рубайла. Не хвалюйцеся — усё застанецца на месцы!

Туманава. Газеты праглядзіце. Перадавы артыкул вельмі цікавы! Раніцай пагартала...

Туманава і Маёрыкава выходзяць. Рубайла спакойна гартае газеты. Праглядзеў адну газету, другую, трэцюю... Раптам спыніўся, здрыгануўся. Вярнуўся да першай, паспешліва праглядае другую. Месца за сталом не хапае. Апусціўшыся на калені, паспешліва раскладвае газеты на падлозе. Не, не так, гэту сюды, а гэту тут. Уважліва вывучае матэрыялы, параўноўвае. Устае, павольна ідзе да акна, апусціўшы галаву, затым рэзка паварочваецца, некалькі скачкоў у бок газет... Яшчэ раз прагна ўглядаецца. Раптам паспешліва здымае трубку, звоніць.

Рубайла. Сямёныч? Рубайла турбуе. Паслухай, раніцай у аўтобусе ты гаварыў... Сход, персанальная справа... Можаш у двух словах сутнасць пытання?.. Так... Так, так... Дзякуй! Дзякуй, Сямёныч! *(Кладзе трубку.)* Так! Сумненняў быць не можа...

Уваходзіць Туманава з кнігай, кладзе на стол.

Туманава. Што з вамі, Назар Цярэнцьіч?

Рубайла. Ала Пятроўна, вы чыталі сённяшнія газеты?

Туманава. Не паспела.

Рубайла. Тады глядзіце.

Туманава *(прагледзеўшы)*. Не разумею.

Рубайла. Ну як жа? Перадавы артыкул, так? А тут — рэдакцыйная. У гэтай — падвал.

Туманава. Ну і што?

Рубайла. Як, разумееш, «ну і што»? «Маральнае аблічча савецкага чалавека». Далей «Маральныя ідэалы нашага грамадства». А ў гэтай — «Маральны кодэкс — закон для кожнага».

Туманава. І ўсё ж я не зусім...

Рубайла. Кампанія, Ала Пятроўна! Кампанія пачалася!

Туманава. Кампанія?

Рубайла. Менавіта! За чысціню.

Туманава. Вы не памыляецеся?

Рубайла. У такіх пытаннях — ніколі! У Рубайлы на гэтыя штукі — нюх. Ніводная кампанія без мяне не праходзіла! Верны салдат усіх. Бясплатна, бескарысліва. Думаю, і на гэты раз не падвяду.

Туманава. Што ж вы збіраецеся рабіць?

Рубайла. Ударыць першымі!

Туманава. Як — ударыць?

Р у б а й л а. А вось — калі пазвоняць... Маўляў, праводзіцца аздараўленне... Так, разумееш, і так... Што ў вас па дадзенаму пытанню? А мы — калі ласка! Не дрэмлем, пільныя. У нас і прыклад ёсць — Бабачкін Леў Іванавіч! Матэрыяльчык сабраны.

Т у м а н а в а *(не адразу)*. Гэта жарт?

Р у б а й л а *(збянтэжыўся)*. Як гэта?

Т у м а н а в а. Часам мне здаецца, Назар Цярэнцыч, што вы праспалі... некалькі дзесяцігоддзяў.

Р у б а й л а. Ала Пятроўна! Я вам здзіўляюся — кіраўнік такога інстытута... А могуць сказаць — хто разбэсціў супрацоўнікаў? Нядобра ў калектыве! Я тут нядаўна. Але заўважыў... *(Загінае пальцы.)* Іванская... Пасля паездкі за мяжу — наогул падмянілі, не наш чалавек! Ну пра яе размова асаблівая... Не тут. Люся — у рабочы час рыхтуецца да экзаменаў у тэатральны. Цяпер Бабачкін. «Не цярплю дылетантаў у навуцы!» Ды калі б я так пра кіраўніцтва інстытута...

Т у м а н а в а. Ну, пажартаваў.

Р у б а й л а. Калі б! Навукай, гаворыць, не павінны кіраваць выскачкі...

Т у м а н а в а. Я не злапамятная. Чаго па п'янцы не скажаш!

Р у б а й л а. Па п'янцы? Стаялі ля туалета з Іванскай і курылі. Я, разумееш, паўгадзіны не мог выйсці — усё слухаў. І хто толькі ў дырэктары яго штурхае?

Т у м а н а в а. Аб чым вы?

Р у б а й л а. Чутка ідзе — дырэктарам навуковага цэнтра! Што за гарадок пабудавалі! А абсталяванне? Вязуць і вязуць. Паказальны цэнтр будзе. Куды там нашаму інстытуту!

Т у м а н а в а *(перастаўляе мэблю)*. Дробязь. Дык кажаце, справа ідзе аб кампаніі?

Р у б а й л а. Упэўнены.

Т у м а н а в а. Ах, гэты Бабачкін. Ведаю пэўна — першы нецярпімы да гэтых сваавольстваў. Колькі яму гадоў?

Р у б а й л а. Сорак шэсць. Гэткая ўспышка перад заслонай!

Т у м а н а в а. Да заслоны, дапусцім, далёка.

Р у б а й л а. Трэба правучыць, на сходзе.

Т у м а н а в а. Публічна? З працаколам? *(Смяецца.)* Апамятайцеся, родненькі! У фельетон хочаце?

Р у б а й л а. Існуюць маральныя нормы, якія трэба захоўваць.

Т у м а н а в а. Але ёсць і этыка. *(Уздыхае.)* Таленавіты вучоны, здольны вырашаць буйныя задачы... Артыкул ідзе ў часопісе, зноў... Вельмі здольны!

Р у б а й л а *(з'едліва)*. Так, ён здольны... На ўсё...

Т у м а н а в а *(падыходзіць да газет, праглядае)*. Як быць?

Р у б а й л а *(натхнёна)*. Дзейнічаць! У інтарэсах навукі. Чаму рак да гэтага часу не вылечваюць? Чаму белакроўе не могуць перавесці ў звычайны колер? Чаму нервовыя клеткі — да сённяшняга дня! — ніхто не рамантуе? Не тым вучоныя займаюцца! Не тым! Калі б усю энергію, якую яны затрачваюць на ўсякія шуры-муры, накіраваць у навуку... Ала Пятроўна! Ніхто б сёння не паміраў! Жыў бы кожны за сто!..

Т у м а н а в а. А штосьці ў гэтым ёсць.

Р у б а й л а. Ударыўшы, велізарную справу зробім! Пачын. Найвялікшы.

Т у м а н а в а. Але ж адных чутак мала?

Р у б а й л а *(цвёрда)*. Будуць доказы! Засумаваў без сапраўднай работы. Рукі свярбяць...

Т у м а н а в а. Назар Цярэнцьіч, родны мой, займіцеся гэтай непрыемнай справай. Энергіі ў вас дастаткова. Але дзейнічайце далікатна. Памятайце, у якім інстытуце мы працуем.

Р у б а й л а. Я яго... *(Сціскае кулак.)*

Т у м а н а в а. Ну навошта?! Разбярыцеся, з ім пагаварыце. Вы мужчына. Няхай будзе больш асцярожным. Зразумелі?

Р у б а й л а *(разгублена)*. Не зразумеў. Прабачце.

Т у м а н а в а *(усміхаецца)*. Ведаеце, што такое НАП?

Р у б а й л а. Як жа — навуковая арганізацыя працы.

Т у м а н а в а. Не толькі. Калі супрацоўнікі разумеюць кіраўніка з паўслова. Скажу больш — з лёгкага жэста, з паўзы...

Р у б а й л а. Зразумеў, Ала Пятроўна!

Т у м а н а в а. Вось і цудоўна. А мне гэта недарэчы — я жанчына, работы па горла. Ваюю з праектным інстытутам — ім важней вытворчасць... А хто будзе думаць пра нервы работніц? Займайце кабінет, я ў бібліятэку. *(Выходзіць.)*

Рубайла, трыумфуючы, сядае за стол, звоніць.

Р у б а й л а. Наталля Сяргееўна? Чакаю вас у кабінеце дырэктара. *(Збірае газеты, складвае.)*

З'яўляецца І в а н с к а я, напяваючы, кладзе рукапіс.

І в а н с к а я. Для Алы Пятроўны. Пераклад артыкула Леона Шэвалье... Які таленавіты мужчына! «А цяпер дадзім слова чароўнай рускай даследчыцы...» І дзе? На сусветным форуме вучоных!

Р у б а й л а. Так! Перакладзікі? Аб чым?

І в а н с к а я. Хіба вам гэта... цікава?

Р у б а й л а. Грамадскасць павінна ведаць работу вучоных.

І в а н с к а я. Аб сувязі некаторых асаблівасцей мыслення з шызафрэнічным працэсам.

Р у б а й л а. Так, да якога ж вываду прыходзіць аўтар?

І в а н с к а я. Пры аналізе карэляцыі вывучаемай асаблівасці актуалізацыі ведаў з іншымі клінічнымі параметрамі выяўляецца, на думку аўтара, пэўная сувязь з некаторымі псіхапаталагічнымі характарыстыкамі структуры асобы, у якіх, можна меркаваць, адлюстроўваюцца і прэмарбідныя яе рысы. Ваша думка, Назар Цярэнцыч?

Р у б а й л а. Тапельніца, як вы сябе адчуваеце?

І в а н с к а я. Успомнілі! Усё забыла.

Р у б а й л а. Так ужо і ўсё?

І в а н с к а я. Так. Жыць трэба лёгка, гуляючы!

Р у б а й л а. Бач ты! Гэта штосьці новае.

І в а н с к а я. Чаму ж? Тэма маёй работы — фізіялогія гульняў.

Р у б а й л а. І што ж — атрыманы першыя вынікі?

І в а н с к а я *(усміхнулася)*. Так! Усё наша жыццё — гульня!

Р у б а й л а *(сурова)*. Што вы маеце на ўвазе?

І в а н с к а я. Няма свету без гульні. Няма радасці па-за гульнёй.

Р у б а й л а. Ці патрэбна нашаму чалавеку так званая гульня?

І в а н с к а я. Несумненна! Са старажытнейшых часоў, дарагі Назар Цярэнцыч, чалавецтва шукае і культывуе радасць, свядома імкнецца да станоўчых эмоцый. Няшчасны чалавек, які не разумее жарт. Злачынна стрымліваць і падаўляць добры настрой — на гэта здольны толькі вельмі абмежаваныя людзі. Вы

калі-небудзь задумваліся, чаму так любяць цырк? «Прыбыццё паяца ў горад значыць для здароўя яго жыхароў значна больш, чым дзесяткі нагружаных лякарствамі мулаў»,— пісаў разумніца-ўрач яшчэ ў семнаццатым стагоддзі. Ці ведаеце вы, што ў Польшчы ўведзены «Ордэн усмешкі»? Ім узнагароджваюць тых, хто дорыць людзям радасць. Калі вызначаць фізіялагічна, гуляючы, мы расшыраем сасуды, узнімаем жыццёвы тонус. Хочаце быць шчаслівым — гуляйце! Хочаце жыць доўга — гуляйце! Гульні — лепшая гімнастыка для сасудаў!

Р у б а й л а. Стоп! Наталля Сяргееўна, хочаце, прапаную гульню, новую?

І в а н с к а я. Калі ласка!

Р у б а й л а. Леў Іванавіч вас выцягнуў. Гонар і хвала. Але цяпер ён гуляе краплёнымі картамі — расказвае кожнаму сустрэчнаму... Разумееце?

І в а н с к а я. Не.

Р у б а й л а *(уздыхае)*. Як быццам у лесе вы напрошваліся, былі настойлівыя, і ён, разумееш, не вытрымаў.

І в а н с к а я. Мужчынская гульня? Але гэта ж чысты блеф!

Р у б а й л а *(разводзіць рукамі)*. Зразумейце становішча кіраўніцтва. У нас шмат моладзі, студэнты бываюць... Ала Пятроўна робіць усё, каб інстытут стаў узорам, заняў вядучае... І раптам, разумееш, усе пачынаюць шушукацца, скланяць ваша імя... Навошта ён выхваляецца?

І в а н с к а я. Так, гульні бываюць розныя... Я пагавару з ім.

Р у б а й л а. Ну і што? Будзе ўсё адмаўляць — гульня!

І в а н с к а я. Але, можа быць, мы самі разбярэмся?

Р у б а й л а. Напрамілы бог! Толькі што гэта зменіць?

І в а н с к а я. Перабор. Яўны.

Р у б а й л а. Цяпер мала мужчын, якія ўмеюць маўчаць.

І в а н с к а я. Ды аб чым маўчаць?

Р у б а й л а. Веру. Вам веру. Ну, а тыя, хто вас не ведае?

І в а н с к а я. Які выдумшчык! Таленавіты!

Р у б а й л а. Наталля Сяргееўна, а калі націснуць

на грамадскую думку такім чынам... Не, не падыходзіць. А што, калі... Напісаць тлумачальную запіску?

Іванская *(смяецца)*. Маўляў, нічога не было?

Рубайла. Правільна. Каго гэта пераканае? Наадварот! Было! Але ён вас маральна прымусіў!

Іванская. Жамэ дэ ля ві!

Рубайла. Ведаеце, я нямецкай...

Іванская. Гэта па-кітайску. Ніколі ў жыцці. У гэтую гульню я — пас!

Рубайла. На жаль! Ён дае такія падрабязнасці...

Іванская. Асноўная тэарэма тэорыі гульняў — прыняцце рашэнняў ва ўмовах няпэўнасці. Дзіўна! Упершыню не магу зразумець сэнсу гульні.

Рубайла. Паперу ніхто не ўбачыць. Я яго выклікаю... І, паверце, любому паклянецца, што выдумаў...

Іванская. А калі не?

Рубайла. Не такіх абломваў... Ды што тут гаварыць, ёсць артыкул у крымінальным кодэксе — за выкарыстанне службовага становішча... Аналагічны выпадак.

Іванская *(уся — пакорлівасць, усходняя рабыня)*. Вы мне прадыктуеце?

Рубайла *(падае паперу)*. «У мясцовы камітэт аховы нервовай... Прашу мяне абараніць ад прыставанняў Бабачкіна Л. І. У экспедыцыі ён мяне прымусіў да сумеснага жыцця...»

Іванская *(заігрываючы)*. Можа — да інтымнай сувязі?

Рубайла. Давайце... «І цяпер не дае спакою, настойваючы на прадаўжэнні нашых адносін». Подпіс.

Іванская дапісвае, згортвае, перадае Рубайлу, склаўшы рукі кліночкам і нізка нахіліўшы галаву.

Дзякую вам. Вы дапаможаце аздаравіць абстаноўку.

Іванская *(млеючы)*. Гэта мой абавязак. *(Накіроўваецца да дзвярэй.)*

Рубайла *(задаволены, разгортвае паперу, чытае)*. «У мясцовы камітэт НДІ... Прашу мяне абараніць ад гнюсных прапаноў Рубайлы Н. Ц. узвесці паклёп на Бабачкіна Л. І.». Ну бестыя!.. Пачакайце!

Іванская вяртаецца.

Жартаваць надумалі? Са мной? Не выйдзе! Я да вас дабяруся! Катаецеся па ўсякіх заграніцах... Панабраліся, разумееш.

Іванская. Так, я няўдала пакпіла, Назар Цярэнцьевіч. Давайце перайграем.

Рубайла. Што значыць — перайграем?!

Іванская. Відаць, нагрубіла. Прабачце.

Рубайла. Наталля Сяргееўна, буду з вамі шчыры. Пакуль па сакрэту — пачынаецца кампанія!

Іванская. Кампанія!

Рубайла *(радуючыся)*. Так! Па ўсёй краіне! У ячэйках і калектывах, на фабрыках і заводах!.. Мітынгі і дэманстрацыі! Пісьмы пратэсту і гнеўнае асуджэнне...

Іванская. Вайна? Дзе?

Рубайла. Пры чым тут вайна... За чысціню! Маральную... Каб ніхто — ні з кім!.. Разумееце? Без загса, вядома.

Іванская. Вы гэта сур'ёзна?

Рубайла. Таварыш Іванская! У такіх справах я не жартую.

Іванская *(не адразу)*. А можа, наогул — забараніць гэту справу? Усім! Пагалоўна!

Рубайла. Нельга. Кветкі жыцця перавядуцца.

Іванская. Правільна. Не падумала.

Рубайла. То-та ж! Гэта вам не ў лабараторыі — ручкі, кольцы, кнопачкі... Тут мазгаваць трэба!

Іванская. Адкуль вы даведаліся пра кампанію?

Рубайла. Учуяў! Нюх у мяне... *(Шумна ўцягвае паветра.)*

Іванская. Ну калі так... Я гатова. Можаце на мяне спадзявацца, паэт кампаній.

Рубайла. Я напішу — вы падпішаце.

Іванская. Угаварылі — падпішу. Вам адмовіць немагчыма.

Рубайла. І не надумайцеся потым увільнуць!

Іванская. Не адмоўлюся. *(Выходзіць.)*

Рубайла *(звоніць)*. Бухгалтэрыя? Мар Фёдараўна, мясцкому патрэбны звесткі... Пашукай за мінулыя гады, колькі грошай прасіў пералічваць Бабачкін?.. Так помніш? Трыццаць рублёў? Заўсёды трыццаць. Гэта дакладна? Ну-ну. Дзякуй. Падрыхтуй даведку. *(Кладзе.)*

З'яўляецца Туманава.

Ала Паўлаўна, гаварыў з Іванскай. Цяжкі арэшак! Але раскалоў. Згодна напісаць любую паперу.

Туманава. Ну, добра, добра: Іванская згодна. І гэта ўсё?

Рубайла. Можа, вы пагаворыце з Люсяй?

Туманава. Добры мой! Будаўніцтва новай школы ў мікрараёне зноў адклалі! Уяўляеце? Дзеці вучацца ў тры змены! Нядаўна глядзела... Класы перапоўнены. Бедненькія сядзяць і клююць галоўкамі, засынаюць... Выходзяць ачмурэлыя... Звар'яцець можна!

Рубайла. Наверсе ведаюць пра трэцюю змену.

Туманава. Але не ведаюць, наколькі гэта шкодна для дзяцей! Мы, медыкі, павінны напісаць абгрунтаванае заключэнне і прадставіць ураду.

Рубайла. Школу так хутка не пабудуеш.

Туманава. Штосьці трэба рабіць... Хоць бы: у цэнтры ж школы пустуюць!.. Вось і вазіць іх аўтобусамі ў гэтыя школы, а потым назад... Трэба думаць... Трэба думаць, мой дарагі, шукаць... І ўсё атрымаецца. Падазраю, Люся, сакратар, можа расказаць шмат цікавага... *(Выходзіць.)*

Рубайла націскае на кнопку. Уваходзіць Люся.

Рубайла *(доўга глядзіць ва ўпор)*. Люся, раскажыце мне тое, што маме роднай не гаварылі. Бабачкін і вы! Было?

Люся *(пасля паўзы імгненна ўключаецца ў гульню)*. А!.. Дык вы... ведаеце? *(Ледзь не падае.)*

Рубайла паспявае яе падхапіць.

Рубайла. Праўду, адну праўду. Вы камсамолка. Утойваць няма чаго.

Люся. Вады...

Рубайла падае шклянку. Люся п'е, зубы стукаюць аб край, паступова заспакойваецца.

Рубайла. Значыць, дамагаўся?

Люся. Дапамажыце! Ох, змучылася я, ох, спакуталася я...

Рубайла. Усё будзе залежыць ад вашай шчырасці.

Люся. Гэта страшная гісторыя цягнецца шмат гадоў...

Рубайла. Шмат гадоў?!

Л ю с я. Яшчэ дзяўчынкай... Кветкі любіла, гербарый... Што я ведала? І раптам... з'явіўся ён...

Р у б а й л а. Бабачкін?

Л ю с я *(ківае)*. Цяпер я распусная жанчына... Страсць з'ядае... Божа! Гэта мацней за мяне... Кожная мая клетачка падпарадкавана яго волі...

Р у б а й л а. Замуж вам трэба. За праверанага чалавека.

Л ю с я *(уздыхае)*. Хіба ён дазволіць? Са мной знаёмяцца, прапануюць...

Р у б а й л а. Няма ў яго правоў на вас! Няма!

Л ю с я. Аднойчы ўцячы вырашыла. Сярожа, афіцэр з Кушкі. Ведаеце, самы паўднёвы пункт... Поезд ужо крануўся, чую: «Люсьена, Люсі...» Пасля гэтых слоў станаўлюся бязвольнай, паслухмянай...

Р у б а й л а. Спыніў поезд?

Л ю с я. Што поезд!.. З Радзівонам у Магадан хацела памчаць самалётам... Золаташукальнік, прыгожы мужчына — Ціханаў! І што вы думаеце? Гляджу — бяжыць Бабачкін па ўзлётнаму... Але самалёт ужо адарваўся ад бетонкі. Я з палёгкай уздыхнула! А далей... Самалёт робіць круг над горадам і садзіцца... Можаце ўявіць мой стан! Што ён сказаў дыспетчарам, чаму вярнулі самалёт — да гэтага часу... *(Паціскае плячыма.)*

Р у б а й л а. Люся, мясцком вам дапаможа.

Л ю с я *(адмоўна ківае галавой)*. Я, гаворыць, стварыў з цябе жанчыну, і ніхто мяне не заменіць. І гэта праўда...

Р у б а й л а. А глядзіш — вясёлая, жыццярадасная...

Л ю с я *(уздыхае)*. Навошта, каб ведалі? Тэатр. Тэатр адной актрысы... Нябачныя свету слёзы...

Р у б а й л а. Даю вам слова — я пазбаўлю ад гэтых слёз!

Л ю с я *(адлучана)*. Ніхто мне не дапаможа...

Р у б а й л а. Ха! Люсечка, вы яшчэ маладая і не ведаеце сілу грамадскасці.

Уваходзіць Б а б а ч к і н, трымае ліст паперы.

Б а б а ч к і н. Прашу прабачэння. Люсьена, Люсі, я вас шукаю.

Л ю с я. Праўда? Зараз... *(Заплюшчыўшы вочы, расшпільвае верхнія гузікі.)*

Б а б а ч к і н. Пазванілі з міністэрства, тэрмінова патрэбна... Што з вамі?

Л ю с я *(«апрытомнела»).* Га?.. Добра, я надрукую.

Б а б а ч к і н. Вы не хворая?

Л ю с я. Не, не... *(Забірае паперу.)*

Б а б а ч к і н выходзіць.

Р у б а й л а *(з шырока расплюшчанымі вачыма).* У наш час?.. Люся, я вырву вас з лап гэтай пачвары!

Л ю с я. Бацькоў шкада. Чакаюць, калі замуж выйду, дзіцяткі пойдуць... Не будзе, ніколі не будзе...

Р у б а й л а. Убачыце — я яшчэ пагуляю на вашым вяселлі!

Л ю с я. Калі даведаецеся, Назар Цярэнцьіч, што рукі на сябе...

Р у б а й л а. Гэта вы кіньце! Кіньце! Сядайце і пішыце заяву.

Л ю с я *(разгубілася).* Заяву?

Р у б а й л а. У мясцком. Крык аб дапамозе. *(Падае паперу, ручку.)*

Л ю с я *(абыякава).* Як ведаеце. *(Робіць спробу напісаць, але рукі моцна дрыжаць, не атрымліваецца.)* Можа, у другі раз?

Р у б а й л а. Добра. Даю вам слова — усё зменіцца!

Л ю с я *(накіроўваючыся да дзвярэй, гледачам).* Ну калі і цяпер не прымуць у тэатральны... *(Выходзіць.)*

Р у б а й л а *(бярэ папку, надпісвае).* «Бабачкін Леў Іванавіч. Персанальная справа». Які ж падзагаловак? Спакусіцель?.. Думай, Рубайла, думай... Хіба Люся гэтаму дракону не жонка? І ёсць законная... Мнагажэнец! Гучыць? І для кампаніі. «Справа аб мнагажонстве». Матэрыялаў пакуль няма. Але будуць.

Уваходзіць Т у м а н а в а.

Т у м а н а в а. Божа, як цяжка кіраваць інстытутам! Не жаночая гэта справа. План патрабуюць удакладніць... Лекцыю просяць...

Р у б а й л а. Ала Пятроўна! Тое, што ён вычварае з гэтай дзяўчынкай... Жудасная гісторыя! Валасы дыбам!

Т у м а н а в а *(узрушана).* Няўжо!.. Не можа быць!

Р у б а й л а. Можа! А ў мяне тры ўнучкі, чырвоныя шапачкі... *(Паказвае на метр ад падлогі і ніжэй.)* Як падумаю, што потым прыйдзе шэры... З валасатымі лапамі...

Т у м а н а в а. Калі так — гэта ж страшная справа! Трэба неяк утрэсці, уладзіць. Ну што ж, мясцкому і карты ў рукі.

Р у б а й л а. А можа... абгаварыла?

Т у м а н а в а. Ну не! Хто ж стане на сябе такое?

Р у б а й л а. Тады будуць і іншыя доказы!

Т у м а н а в а. Мне яны навошта? Злітуйцеся! Але навокал скептыкі... Сумняваюцца.

Р у б а й л а. Зраблю ўсё магчымае.

Т у м а н а в а. Скажуць, а дзе думка калектыву, мас?

Р у б а й л а. Усё будзе ў ажуры. Людзі такое напішуць...

Т у м а н а в а *(жартаўліва грозіць пальцам).* Не захапляйцеся прыпіскамі!

Р у б а й л а. Невялікія прыпісачкі будуць. Як і ў любую кампанію.

Т у м а н а в а. Не дай бог, калі ў райком напішуць.

Р у б а й л а. У райком?

Т у м а н а в а. Працвітае распуста, а кіраўніцтва — скрозь пальцы...

Р у б а й л а. Як жа гэта — на сябе, ці што?

Т у м а н а в а. Столькі ананімак, гавораць, прыходзіць... Ціхі варыянт. Праўда, ходу ім не даюць... Як раней... Але калі напісана пераканаўча...

Р у б а й л а. Гэта думка!

Т у м а н а в а *(быццам не чуе).* Божа, калі я, нарэшце, напішу заключэнне? *(Выходзіць.)*

Р у б а й л а. Геніяльна! Ананімку — на сябе!

## Карціна чацвёртая

Сучасная лабараторыя. Гучыць музыка. Б а б а ч к і н і Ш а х м а т а ў, вальсіруючы, працуюць у белых халатах.

Б а б а ч к і н. Уяўляеце? Цяпер яны гэта робяць па начах, калі ніхто не бачыць. Адкрываюць трубы. І ўся гэта хімія ідзе ў раку. Мярзотнікі! Я паспрабаваў прабрацца да труб... Дзе там! Завалена, засмечана!

Ш а х м а т а ў. Спакойна, калега. Беражыце нервы.

Б а б а ч к і н. Нервы! Праз пяць кіламетраў вёскі — адна, другая... І ўрачы ламаюць галовы, адкуль у жыхароў бяссонніца!

Ш а х м а т а ў. Гэта цяжка даказаць.

Б а б а ч к і н. Віталь Валянцінавіч, дапамажыце. Сёння апоўначы я вазьму пробы вады, зраблю аналіз...

Ш а х м а т а ў. Шахматаў — не паклоннік дэтэктываў.

Б а б а ч к і н. Мне патрэбен памочнік і сведка.

Ш а х м а т а ў. Вайна? З такім заводам! Бацечка, навошта?

Б а б а ч к і н. Прашу вас.

Ш а х м а т а ў. Нават не прасіце. Ну, зловіце парушальнікаў. А што зменіцца? Як лілі хімію ў раку... Ды і не любіць Шахматаў канфліктных сітуацый. *(Напявае.)* Памятайце, у якім інстытуце мы працуем. Папрасіце... каго-небудзь з жанчын. *(Усміхаецца).* Вам не адмовяць.

З'яўляюцца Л ю с я, кладзе часопісы на стол. Выходзіць.

Б а б а ч к і н. Не самы ўдалы жарт. *(Пакідае прыборы, падыходзіць да стала, раскрывае часопіс.)* Калі ж мой опус надрукуюць? Калі ў сёмым, перад сімпозіумам... Такая бура ўзнімецца...

Ш а х м а т а ў. Навошта злаваць акадэмікаў? Сёйтой спрабаваў. Нічым добрым гэта не закончвалася.

Б а б а ч к і н *(звоніць).* Уладзімір свет Пятровіч? Вітаю, Бабачкін... Ці здаровы, князь? Дзякуй богу. Валодзя, калі мой пойдзе? Калі да нарады... Як — не пойдзе?.. Ты жартуеш... Дазволь... Было вырашана, узгоднена... Званок?.. Пачакай... Чаму нельга па тэлефоне?.. *(Павольна кладзе трубку.)*

Ш а х м а т а ў. Знялі?

Б а б а ч к і н. Не разумею. Цуд!

Ш а х м а т а ў. Усё ў прыродзе ўзаемазвязана і ўзаемаабумоўлена. Шукайце матэрыялістычнае тлумачэнне.

Б а б а ч к і н. Заеду ў канцы дня.

Ш а х м а т а ў. Вам шанцуе ў іншым.

Б а б а ч к і н. Так, у картах. Рубель дваццаць выйграў. У суботу.

Ш а х м а т а ў. За што вас любяць жанчыны?

Б а б а ч к і н. Калі артыкул не пойдзе — як жа пачаць дыскусію?

Ш а х м а т а ў. Чуткі па ўсім інстытуце. Дамы ў захапленні!

Б а б а ч к і н. Якія дамы? Бязглуздзіца!

Залятае М а ё р ы к а в а.

Маёрыкава. Пакой! Людзі, мне далі пакой! Ура!

Бабачкін. Віншую.

Шахматаў. Вы так крычыце, быццам атрымалі палац.

Маёрыкава. Гаспадыня! Усё жыццё па прыватных... Вам не зразумець.

Бабачкін. Будзем суседзямі. Мне даюць тры пакоі.

Маёрыкава. Вам? Не, у гэтым спісу... не бачыла.

Бабачкін. Што значыць ап'яненне шчасцем! Слана не заўважыла.

Маёрыкава. Гэтак. Вас бы, Леў Іванавіч, запомніла.

Бабачкін устае, паспешліва выходзіць.

Шахматаў. Цяпер час і пра сям'ю падумаць.

Маёрыкава. Яшчэ чаго! Усе халасцякі падонкі. А разбіваць чужую сям'ю... Мне б дзяўчынку, крошачку, удачарыць. Вось мая мара! Як вы думаеце: запрашу Льва Іванавіча на наваселле — прыйдзе?! Ведаеце, па інстытуце гавораць: «Бабачкін — гэта леў, леў — гэта Бабачкін». Праўда, у ім штосьці магнетычнае?

Шахматаў. Праўда? Не заўважыў.

Вяртаецца Бабачкін.

Бабачкін. Што адбываецца ў свеце?

Шахматаў. На Блізкім Усходзе ці на Далёкім?

Бабачкін. Быў першы, па чарзе... Адсунулі.

Шахматаў. Праверылі спісы?

Маёрыкава. А вось у наступны раз — абавязкова!

Шахматаў. Пайдзіце да Алы Пятроўны.

Бабачкін. Паехала.

Шахматаў. Не перажывайце. Пабываеце ў Закаўказзі, развеецеся.

Бабачкін. Выкрэслілі. Зараз даведаўся.

Шахматаў. Вас?! Галоўнага дакладчыка?

Бабачкін *(Маёрыкавай)*. Восенню ў Ерэване канферэнцыя... Усе. Акрамя мяне.

Шахматаў. Ну, гэта значыць... Зразумела.

Маёрыкава. Проста нешанцаванне, Леў Івана-

віч. Але потым пойдзе паласа ўдач. У мяне заўсёды так.

Б а б а ч к і н. Бог з ім, з Закаўказзем... Але кватэра... Сын ажаніўся... дзіця... Працаваць няма дзе!

М а ё р ы к а в а. У бібліятэцы — за стэлажамі! — свабодны кут. Ціхі, светлы... Паглядзіце?

Б а б а ч к і н і М а ё р ы к а в а выходзяць. З'яўляецца Р у б а й л а.

Ш а х м а т а ў. У вас ёсць цыгарэты, Назар Цярэнцыч?

Р у б а й л а. Я частую ворагаў — нікацін забівае нават каня.

Ш а х м а т а ў *(падыходзіць да Рубайлы, бярэ пад руку, адводзіць убок)*. Назар Цярэнцыч, да мяне дайшла чутка... Вас цікавіць Бабачкін?

Р у б а й л а. Што вы маеце?

Ш а х м а т а ў *(азірнуўшыся)*. Абавязак Шахматава вам дапамагчы. Хто ведае яго лепш? Такога нагледзеўся, такога наслухаўся!..

Р у б а й л а. Праўда? І вы можаце...

Ш а х м а т а ў *(нягучна)*. Як вы думаеце — колькі ў яго дзяцей?

Р у б а й л а. Сын. Дачка на баку.

Ш а х м а т а ў. Ці толькі гэта? Называйце любую разумную лічбу.

Р у б а й л а. Трое!

Ш а х м а т а ў. Не здрабняйце!

Р у б а й л а. Няўжо — пяцёра?

Ш а х м а т а ў. Назар Цярэнцыч!

Р у б а й л а. Дзесяць?!

Ш а х м а т а ў *(уздыхае)*. Бацька горада! Невялікага, запалярнага.

Р у б а й л а. Значыць, праўда... Адкуль сігнал?

Ш а х м а т а ў. Ашаламляльныя матэрыялы магу даць! Прозвішчы, яўкі, паролі...

Р у б а й л а. Вы для мяне — залатая жыла! Самі напішаце?

Ш а х м а т а ў. Які я пісьменнік! Раскажу. А ўжо вы...

Р у б а й л а. Дзякуй! *(Працягвае руку.)* Ад мясцкома.

Ш а х м а т а ў *(хавае руку)*. Пры адной умове — кватэру!

Р у б а й л а. Як так?

Шахматаў. Інакш атрымліваецца цкаванне. Вы змагаецеся — гэта цудоўна! Але навошта ўшчэмліваць жыццёвыя інтарэсы вучонага? Як Бабачкін можа працаваць, калі няма кабінета? За гэта вас...

Рубайла. Так, інтарэсы навукі... Ёсць магчымасць! Прафесар Лагуновіч адмовіўся. Ну, ну, дык што ў вас?

Шахматаў. Пасля таго як убачу ордэр. На імя Бабачкіна.

Рубайла. Віталь Валянцінавіч!

Шахматаў. Ордэр. Я стары цынік, страляны верабей.

Рубайла *(уздыхае)*. Народ пайшоў! Не, каб за ідэю. Выгаду падавай!

Шахматаў. Згодзен. Але Шахматава ўжо не перавыхаваеш.

Рубайла. Тры дні даеце?

Шахматаў. Па руках!

Поціск рук, выходзіць. З'яўляецца Бабачкін.

Бабачкін. Спрабую высветліць, што адбываецца ў свеце.

Рубайла. Шырыцца нацыянальна-вызваленчы рух... У Афрыцы...

Бабачкін. Бліжэй. У мяне ўражанне, быццам трапіў у ліпкае павуцінне...

Рубайла. Жанчыны загубілі нават міністра абароны. У Лондане, сталіцы Англіі.

Бабачкін. Дазвольце, пры чым тут жанчыны?

Рубайла. Маральна-бытавое. Сабралі мясцком, калі па-нашаму, і паляцеў. Міністр абароны!

Бабачкін. Ведаеце, ніколі не бачыў усмешкі на вашым твары...

Рубайла. Выбіраць трэба адно — або спакусы, або навуку. На вашым месцы я выбраў бы нервовыя клеткі.

Бабачкін. Няўжо — жанчыны?.. *(Усміхнуўся.)* А добра вы мяне разыгралі!

Рубайла. Смех, вядома, справа карысная.

Бабачкін *(весела)*. Дайце доказы!

З'яўляецца Іванская, праходзіць, быццам у сне, напявае.

Рубайла. Наталля Сяргееўна, адну мінуту. *(Бабачкіну.)* Вось, першы доказ. Важкі, семдзесят кілаграмаў... Наталля Сяргееўна, тут усе свае...

Іванская. Хто гэтыя людзі? Што яны хочуць? Ад жанчыны закаханай...

Бабачкін *(весела)*. Чароўная Наталля Сяргееўна, усе нясуць нейкую лухту... Будзеце смяяцца... Не ведаю, як сказаць!.. Проста няёмка!

Іванская. Вось як! Ужо няёмка...

Бабачкін. Развейце міфы.

Іванская *(інтымна)*. Лапачка, навошта ўтойваць? Была чароўная ноч... Непаўторная!.. І больш — ні слова...

Рубайла, трыумфуючы, выходзіць. Бабачкін перастае ўсміхацца.

Бабачкін. Вы што — звар'яцелі?

Іванская *(жартаўліва)*. Так дзіўна спявалі птушкі, туман з ракі каціўся... Што вы перажываеце?

Бабачкін. Гульні — гэта ваша тэма. Я не прэтэндую на сааўтарства!

Іванская. О! Слава такая прыемная... Жанчыны зайздросцяць, мужчыны глядзяць з захапленнем...

Бабачкін. Ашалелая!.. Вы ўяўляеце, што нарабілі? У яго — ні кроплі гумару!

Іванская *(смяецца)*. З-за кахання жанчына здольна на ўсё.

Бабачкін. Я вас задушу!..

Іванская. О! *(Заплюшчыла вочы, раскрывае абдымкі, чакае.)* Нарэшце...

Бабачкін. Спусціцеся з воблакаў!

Іванская *(расплюшчваючы вочы)*. Нізашто! Забаўна!.. Пасля той ночы хтосьці штосьці западозрыў. І раптам да мяне абудзілася такая цікавасць!.. Не разумею людзей! Дабрадзейнасць іх прыцягвае менш.

Бабачкін. Вы ўкралі маё добрае імя. Сярод белага дня.

Іванская. Добрае імя... Вы эгаіст! Лёс адзінокай жанчыны вам абыякавы?

Бабачкін. Не трэба было выратоўваць... Пакараны!

Іванская. Вось гэта лепш — з гумарам адносіцеся да гэтай бязглуздзіцы. *(Таямніча.)* Кампанія! *(Рассмяяўшыся, у павольным танцы адплывае.)*

Бабачкін. Значыць, жанчыны... *(Весела.)* Яна мае рацыю... Гэта сапраўды смешна... Ці ён сур'ёзна хоча штосьці задумаць? Лухта! У наш час? Так, а кватэры няма...

Вяртаецца Ш а х м а т а ў.

І ўсё ж непрыемна. Як даказаць, што я не вярблюд?

Ш а х м а т а ў. Немагчыма.

Б а б а ч к і н. Як зразумець?

Ш а х м а т а ў. Ніхто не паверыць.

Б а б а ч к і н. Паслухайце... Клянуся вам!

Ш а х м а т а ў. Не веру! Грошы не возьмеце, пальчаткі не ўкрадзеце. А жанчыну...

Б а б а ч к і н. Гэта ж недарэчна!.. Што рабіць?

Ш а х м а т а ў. Ёсць у мяне слушная парада. *(Абдымае Бабачкіна за плечы, адводзіць убок і, агляну́ўшыся, нягучна гаворыць.)* Падыміцеся ліфтом на апошні паверх і плюньце. Зверху. *(Выходзіць.)*

Б а б а ч к і н. А па сутнасці — чаму гэта мяне хвалюе? І сапраўды, куды знікла пачуццё гумару — ужо ці не старэю? Ну не! Хочаце разыграць мяне? Дык я вас яшчэ больш падману! Ха-ха! *(Весела пацірае рукі.)*

Тэлефонны званок. Бабачкін здымае трубку.

Слухаю! Кацярына?

З'яўляецца Р у б а й л а, падыходзіць да стала з прыборамі ў кутку, пералічвае штатывы.

Не, дарагая... Сёння прыйду позна, вельмі позна... Кладзіся, не чакай. Аналіз проб вады... Гэта надоўга... Цалую. Усяго!

З'яўляецца І в а н с к а я, Бабачкін толькі цяпер заўважыў Рубайлу. Нягучна, але так, каб чуў Рубайла, інтымна, як могуць гаварыць гарачыя палюбоўнікі, прызначаючы спатканне, звяртаецца да Іванскай.

Наталі! Вы ідэальная памочніца, пра такую можна толькі марыць... Сёння апоўначы вы маглі б са мной пайсці?.. Пробы вады ля хімічнага завода... Возьмем разам... Вельмі прашу... Умаляю... Ад гэтага — маё шчасце...

І в а н с к а я. Добра, Леў Іванавіч. Я дапамагу вам... *(Выходзіць.)*

Рубайла назірае, схаваўшыся за паліцай са штатывамі. Бабачкін задаволены, пацірае рукі, здымае трубку, звоніць, непрыкметна для Рубайлы націскае рычаг, адключае тэлефон.

Б а б а ч к і н. Бора? Парадак! На дачы буду гадзін у дзевяць. А ты давай на таксі... Дзяўчынкі — люксік! Абедзве даўганогія. Ужо дагаварыўся! Запі-

шы адрасок: Сёмы дачны, Зялёная, дваццаць тры... *(Кладзе трубку, напявае.)* «Сердце красавицы склонно к измене...» *(Быццам не заўважыўшы Рубайлы, выходзіць.)*

Р у б а й л а. Да чаго стаў нахабны! Сёмы дачны, Зялёная, дваццаць тры... Твая зорная гадзіна, Рубайла! Магнітафон, кінакамеру... *(Паспешліва выходзіць, сутыкаючыся ў дзвярах з Наталляй Сяргееўнай.)*

Уваходзіць Ч ы ж ы к, малады чалавек у круглых акулярах, моцна блізарукі, картавіць на літару «р»...

Ч ы ж ы к. Ні адлегласць, ні час не спыняць сюды ідучых...

І в а н с к а я. Юра! Чыжык! *(Кідаецца на шыю, абдымае).* Адкуль?

Ч ы ж ы к. Месяц на мантажы... Раніцай з поезда... Наташа, як я насумаваўся...

І в а н с к а я. Ты мала пісаў, Чыжык!

Ч ы ж ы к. О! Спаў па пяць гадзін... Замежны заказ! Прыспешваюць... Але я зразумеў — без цябе... Добра, аб гэтым... Бягу. Наташа, убачымся вечарам...

І в а н с к а я. Але сёння... не магу.

Ч ы ж ы к. Нічога не хачу ведаць!

І в а н с к а я. Разумееш, паабяцала калегу зрабіць аналіз...

Ч ы ж ы к. Аналіз... Наташа!

І в а н с к а я. Давай заўтра.

Ч ы ж ы к. Гадзіны без цябе не магу... Мілая! Я пайду з вамі.

І в а н с к а я *(сумелася).* Ведаеш, няёмка.

Ч ы ж ы к. Але чаму?

І в а н с к а я. Не! Не! У нас у інстытуце не падводзяць адзін аднаго.

Ч ы ж ы к. «У нас у інстытуце»!.. Дарэчы, заглянуў у райком. І мне — кучу ананімак... «Перашкаджаюць рабоце шашні, любоўныя захапленні»... «Чыжык, разбярыцеся!» Чаму я павінен гэтым займацца? Я — інжынер!

І в а н с к а я. Ты яшчэ і член бюро райкома. *(Уздыхае).* Трэба, Юра, трэба. Калі такі абарот.

Ч ы ж ы к. Хто такі Бабачкін?

І в а н с к а я *(жартаўліва).* М... Мужчына!

Ч ы ж ы к. І гэта ўсё?

І в а н с к а я. Цікавы вучоны... Інтэлігентны, сціплы, крышачку сарамлівы. *(Пайшэптам.)* Але чым

бліжэй яго пазнаеш, тым больш паддаешся абаянню. З ім сёння мы дослед праводзім. *(Жартаўліва.)* Між іншым, ён мяне выратаваў.

Ч ы ж ы к. Малады?

І в а н с к а я. Ды не стары... Далёка не стары!

Уваходзіць Б а б а ч к і н. Заўважае, што за ім ценем ідзе Р у б а й л а.

Б а б а ч к і н *(інтымна, паўшэптам)*. Наталі, значыць, вечарам!..

Іванская ўсміхнулася, апусціла вочы. Уваходзіць М а ё р ы к а в а.

М а ё р ы к а в а. Нат Сяргееўна! Я верыла ў вас як у бога! А вы? Не падпісаліся на газету!..

Б а б а ч к і н *(мякка бярэ Маёрыкаву пад руку, тонам спакусіцеля)*. Ганна Іванаўна, падарыце мне некалькі мінут... Гавораць, на кніжнай базе... *(Пяшчотна ўводзіць яе.)*

Абодва выходзяць. За імі знікае Р у б а й л а.

Ч ы ж ы к. Хто гэта?

І в а н с к а я. Гэта?.. Леў Іванавіч Бабачкін.

Ч ы ж ы к *(раўнівa)*. Сціплы, нават сарамлівы?..

І в а н с к а я. Юра, час зарадкі!

Іванскі і Чыжык танцуюць іспанскі танец, поўны кахання і рэўнасці.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна пятая

Лабараторыя. Б а б а ч к і н паказвае Шахматаву вынікі начнога эксперыменту.

Б а б а ч к і н *(усхваляваны)*. Вось! Бачылі? У дзевяць разоў вышэй за норму! Гэта ж трэба! Нашы савецкія людзі... Каго атручваюць! Адзін аднаго. Як вы гэта растлумачыце?

Ш а х м а т а ў. Раўнадушшам. Чым больш Шахматаў жыве, тым больш пераконваецца — чалавечая прырода захавалася такой, як і тры тысячы гадоў назад.

Думаеце, чалавек стаў лепшы, чым першабытны дзікун? Але піць кроў і есці мяса ворага цяпер няма чаго. Гэтыя прадукты ёсць у гастраноме. Барацьба стала больш тонкай, завуаляванай.

Б а б а ч к і н. Бацечка, апамятайцеся — у імя чаго барацьба?

Ш а х м а т а ў. Чытайце Мантэня, там усё сказана.

Б а б а ч к і н. Сумна глядзіце. Не, я выведу іх на чыстую ваду!

Ш а х м а т а ў. Барацьба за пасады, аклады, кватэры, стаўкі... Дарэчы, вам званілі з медыцынскага інстытута...

Б а б а ч к і н. Ці не забыў пра лекцыю? Памятаю, памятаю. Або зноў расклад мяняюць? *(Звоніць.)* Леначка, вітаю, Бабачкін. Дачка, падымі прыгожыя вочы на расклад — нічога не змянілася?.. Нават чую шорах вейкаў. Што? Як знялі?! Зусім?.. Чаму?.. А хто ведае? *(Кладзе трубку.)*

Прыадчыняюцца дзверы, М а ё р ы к а в а з захапленнем глядзіць на Бабачкіна.

М а ё р ы к а в а. Які мужчына!.. Жан Марэ...

Бабачкін пасылае ёй паветраны пацалунак. М а ё р ы к а в а знікае.

Ш а х м а т а ў. Пагаварыце з Алай Пятроўнай.

Б а б а ч к і н. Яна ж пры чым? Лекцыі ў медыцынскім інстытуце.

Ш а х м а т а ў. Прыгледзьцеся. Гэты туман вакол вас...

З'яўляецца Т у м а н а в а.

О! Прыборы! *(Выходзіць.)*

Т у м а н а в а. Леў Іваныч, дарагі, што з заводам?

Б а б а ч к і н. Выдатныя вынікі, Ала Пятроўна! Атрымалі такія доказы... Ноч не спалі! А Наталля Сягееўна наогул паводзіла сябе малайцом!

Т у м а н а в а *(хаваючы ўсмешку)*. Так, яна цудоўная.

Б а б а ч к і н *(не адразу)*. Вось доказы. *(Паказвае.)*

Т у м а н а в а. Віншую! Напішыце заключэнне. Пашлём куды трэба. У дзевяць разоў? Ах, мярзотнікі!

Б а б а ч к і н. Ала Патроўна, вакол мяне... Размовы ўсякія, інтрыгі...

Т у м а н а в а. А ў чым справа?

Б а б а ч к і н. Жанчын прыпісваюць...

Т у м а н а в а. Галубчык, калі я вымотваюся да канца, у мяне таксама неўроз пачынаецца — з'яўляюцца ідэі адносін, недаверлівасці. І нават трывога!

Б а б а ч к і н. Лічыце, я не маю рацыі?

Т у м а н а в а *(смяецца).* Ды кіньце!.. Вы проста стаміліся. Адпачнуць трэба.

Б а б а ч к і н. Дробныя непрыемнасці — бог з імі. Аднялі гадзіны ў інстытуце... А там хлопцы задумалі серыю найтанчэйшых эксперыментаў! Добра, калі новы кіраўнік ім дапаможа.

Т у м а н а в а. Праўда? Трэба разабрацца. Што ж вы маўчалі? Родны мой, усё будзе ў парадку. Спакойна працуйце, ні аб чым не думайце. Ну, усміхніцеся! Той дзень, калі мы не смяёмся, прападае для нас — дэвіз інстытута!

Б а б а ч к і н. Вы — як бальзам. Дзякуй!

Т у м а н а в а. Пачакайце. А ў вас не павышаны артэрыяльны ціск? Дазвольце... *(Пальцамі абедзвюх рук дакранаецца да скроняў Бабачкіна, слухае пульс скроневых артэрый.)*

З'яўляецца стомлены, нявголены, у пакамечаным адзенні Р у б а й л а, увешаны кінакамерай, магнітафонам, фотаапаратам. Убачыў Туманаву і Бабачкіна ў сумніцельнай мізансцэне, аслупянеў.

Што з вамі, Назар Цярэнцыч?

Б а б а ч к і н. З палавецкага палону? Прабачце, справы. *(Выходзіць.)*

Р у б а й л а *(прастуджаным голасам).* Лепш бы я аслепнуў... І вы?! Святая жанчына!.. Таварышы! Што ж будзе з нашым інстытутам? З навукай? *(Гаротна ківае галавой.)*

Т у м а н а в а. Мінутная слабасць. Абяцаю — больш не паўторыцца. Што-небудзь даведаліся?

Р у б а й л а. Ніякага Сёмага дачнага... не існуе!

Т у м а н а в а. Сляды замятае?

Р у б а й л а. У дошку разаб'юся! Рубайла ні адну кампанію не правальваў!

Т у м а н а в а. Няўжо жонка ні аб чым не здагадваецца? Дзіўна, што ніхто да гэтага часу не паведаміў. Калі жонкі пачынаюць скардзіцца...

Р у б а й л а. Гэта каштоўнае ўказанне!

Т у м а н а в а. Указанне? Я толькі думаю ўголас.

З'яўляецца М а ё р ы к а в а.

Маёрыкава. Ха! І вы здымаліся ў кіно? Мае суседзі страцілі розум на гэтым. За траяк — з раніцы да вечара ў масоўцы маршыруюць.

Туманава. Назар Цярэнцьевіч, пераапраніцеся, далібог.

Рубайла паварочваецца, ідзе да дзвярэй. І цяпер відаць, што штаны яго парваныя знізу даверху.

Маёрыкава. А! Назар Цярэнцыч! Бедалага!

Рубайла *(аглядае штаны)*. Паразводзілі сабак... Аднаго я ўкусіў, дварняка... А вось бульдога... *(Уздыхнуў.)* Для карысці справы! *(Выходзіць.)*

Маёрыкава праходзіць з Туманавай у яе кабінет.

Маёрыкава. Ала Пятроўна! Не кватэра — палац! Шлюбу.

Туманава. Колькі метраў?

Маёрыкава. Шмат! Больш як шаснаццаць. Купляю мэблю ў крэдыт, падпішыце.

Туманава. Рада за вас, галубачка.

Маёрыкава. Вады пакуль няма, газ не падключылі, але прыбягаю з работы, распранаюся і хаджу вобмацкам... У цемры — святла пакуль няма. Свой дом! Вам гэтага не зразумець... Цяпер бы дзяўчынку ўдачарыць, немаўлятку.

Туманава. Ганна Іванаўна! Вы маладая, сімпатычная жанчына.

Маёрыкава. Што вы, што вы! Лепшыя гады ўпусціла.

Туманава. Вам бы толькі... знешні выгляд крышачку змяніць. Ці трэба бравіраваць мужчынскасцю, нязграбнасцю?

Маёрыкава. Так мне з дзяцінства — баба нічым не павінна ад мужыка адрознівацца! Роўныя правы, роўныя магчымасці... Я і цягнуся!

Туманава. Усё ж мужчыны любяць жаноцкасць.

Маёрыкава. Пайсці за каго-небудзь... А дзе знайсці добрага?

Туманава. Ну, не скажыце. Я сваім мужам задаволена. Пяшчотны, уважлівы, дачушку любіць... Адзінае — рэдка бачу. У лабараторыі прападае — фізік! Розумазаключаны.

Маёрыкава. Сядзіць?! Надта разумным аказаўся?

Туманава. Ды што вы! Гэта значыць, разумны. Але не сядзіць. Розумазаключаны — заключаны ідэямі, тэрміналогія фізікаў. Але на гэта цяпер скардзіцца неразумна. Ганна Іванаўна, а чаму б вам не радзіць?

Маёрыкава. Бог з вамі!

Туманава. Дзіця вам патрэбна! Разбураць чужую сям'ю вы не збіраецеся... Так? Дык у чым жа справа? Мы, медыкі, без забабонаў. Цяжка адной. Згодна. Але колькі радасці дае дзіця.

Маёрыкава. Мне ў галаву не прыходзіла.

Туманава. Жанчыны нярэдка так робяць... Важна, каб бацька не быў алкаголікам, хваравітым.

Маёрыкава. І не балбатун.

Туманава. Само па сабе. Язык за зубамі. Як Леў Іванавіч.

Маёрыкава *(ускрыквае)*. А! *(Закрывае рот рукой.)*

Туманава. Легенды пра яго не выпадкова ходзяць. Але я ўпэўнена — сам ён нікому ні слова. Сапраўдны мужчына. Бачылі яго сына? Які хлопец! У дваццаць сем гадоў — доктарскую! *(Перадае паперу.)* Ну вось, жадаю шчасця ў новым доме.

Маёрыкава. Дзякуй. Раіце... пагаварыць з Бабачкіным?

Туманава. Ганна Іванаўна! Ваша асабістая справа! Мой клопат — каб у кожнага супрацоўніка было будучае, добры настрой... І тады ў рабоце — ён горы зверне!

Разгубленая Маёрыкава выходзіць. Уваходзіць Кацярына Васільеўна Бабачкіна, высакародная жанчына з сівізной.

Кацярына Васільеўна. Добры дзень. Я Бабачкіна. Мяне прасіў...

Туманава *(устае)*. Кацярына Васільеўна? Добры дзень! Рада пазнаёміцца. Ала Пятроўна, дырэктар.

Кацярына Васільеўна. Вы не ведаеце, навошта мяне запрасіў Рубайла?

Туманава. Не ведаю! *(Звоніць.)* Выйшаў. Можа быць, у сувязі з юбілеем, які набліжаецца? Назар Цярэнцьевіч — прафсаюзны бог.

Кацярына Васільеўна. Я падумала — ці не здарылася чаго?

Туманава. Кіньце! Леў Іванавіч у нас мае добрую рэпутацыю. На работах такіх вучоных узво-

дзіцца будынак навукі. А зараз разам з нашай любіміцай, чароўнай Наталляй Сяргееўнай, яны задумалі вялікую справу. Ночы не спяць, але вынік плённы. Так, дзе ж Назар Цярэнцьевіч? Вось і ён.

З'яўляецца Рубайла, Туманава выходзіць.

Рубайла. Добры дзень. Я з вамі гаварыў па тэлефоне?

Кацярына Васільеўна. Назар Цярэнцьевіч, здарылася што-небудзь?

Рубайла. Як жывяце? Сэрца?

Кацярына Васільеўна. Дзякуй, сама ўрач.

Рубайла. Дзе? Кім? *(Налівае шклянку вады.)*

Кацярына Васільеўна. У дыспансеры.

Рубайла. У якім? *(Падсоўвае шклянку да Кацярыны Васільеўны.)*

Кацярына Васільеўна. У неўралагічным.

Рубайла. А! Так, так, задачка спрошчваецца. Паколькі ў вас моцныя нервы...

Кацярына Васільеўна. А ў чым справа? Шчыра!

Рубайла. Дапамажыце нам. Леў Іванавіч стаў парушальнікам спакою. *(Падсоўвае шклянку.)*

Кацярына Васільеўна. Зноў прынцыповасць паказвае?

Рубайла. Калі б! Працуюць у нас пераважна жанчыны. І ў апошні час многія з іх пачалі скардзіцца... Невыносны!

Кацярына Васільеўна. Так, у яго цяжкі характар. Ужо калі яго захапіла ідэя... Прымусіць усіх гарэць!

Рубайла *(уздыхае)*. Не тым полымем... Даўні раман з Іванскай. Але яму, ці бачыце, мала. Пераключаўся на лабарантак. Хват! А ў апошні час студэнткі, разумееш, пачалі пагаворваць... *(Падсоўвае шклянку.)*

Кацярына Васільеўна *(не адразу)*. Вы запрасілі мяне для гэтага?

Рубайла. Лічыце — прычына дробязная?

Кацярына Васільеўна *(усміхнулася)*. Я спадзяюся — гэта добраахвотна?

Рубайла. Што — добраахвотна?

Кацярына Васільеўна. З дзяўчынкамі... Без прымусу?

Рубайла. Кацярына Васільеўна. Ці ў гэтым справа?

Кацярына Васільеўна. Тады ў чым?

Рубайла *(з пагрозай)*. Мне ваша пытанне зразумелае! *(Глядзіць у папку.)* Бабачкін Леў Іванавіч, сорак шэсць гадоў,— ваш муж?

Кацярына Васільеўна. Мой таксама.

Рубайла. «Мой таксама»? Што гэта значыць?!

Кацярына Васільеўна. Усё жыццё ў яго былі жанчыны. І якія жанчыны!

Рубайла. Што-о-о?! Значыць, усё ж праўда... І вы так спакойна...

Кацярына Васільеўна *(апусціўшы вочы)*. Мы, калі ажаніліся, вырашылі гэтаму не надаваць значэння. Важна, каб не было духоўнага здрадніцтва.

Рубайла. Што я чую!..

Кацярына Васільеўна *(падсоўвае да яго шклянку з вадой)*. Леў Іванавіч такі ўлюблівы... Варта яму ўбачыць... Ён у мілых адносінах з многімі маімі сяброўкамі. Але Іванская мне падабаецца больш. Гэта добра, што ён пераважна з ёю.

Рубайла. Лепш бы я аглохнуў... Ці я сплю? Значыць, каму — адна, усё жыццё цярпі... А каму — колькі хочаш?

Кацярына Васільеўна *(падсоўвае да яго шклянку)*. Калі ён сумуе, я сама прыводжу ў дом жанчыну.

Рубайла *(закрывае вушы)*. Вай-вай-вай! Асінае гняздо... Прытон! Ну а вы?

Кацярына Васільеўна. Спачатку было няёмка. А вось нядаўна мы купілі трохспальны ложак.

Рубайла *(глытае ваду, захлынаецца)*. Вы сказалі... Паўтарыце...

Кацярына Васільеўна. Трохспальны ложак. Арабскі. У камісіёнцы схапілі.

Рубайла *(сціскае галаву, ківае ёю)*. Зараз я звар'яцею і мяне адвязуць у дыспансер. *(Напявае.)* «Сама садзік я садзіла...»

Кацярына Васільеўна. Даруйце, а хіба ў вашай сям'і інакш?

Рубайла *(танцуе шэйк у нарастаючым тэмпе, павязвае галаву ручніком)*. З'еду з глузду! І ніхто гэта не выкарыстае! *(Набірае нумар тэлефона.)* Ала Пятроўна, кантузія... Дазвольце дамоў. Зрушэнне мазгоў. *(Кладзе трубку, устае.)* Згарэў Рубайла на грамадскай рабоце! У кампаніі. Падрабязнасці ў некралогу. *(Па-*

*кутваючы, войкаючы і напяваючы, Рубайла накіроўваецца да выхада.)*

У гэты момант дзверы расчыніліся, з'явіліся Іванская і Бабачкін. Ён падтрымлівае яе за локцік і ажыўлена расказвае штосьці вясёлае. Іванская смяецца. Рубайла ўскрыквае, падымае рукі, аббягае іх і, азіраючыся, накіроўваецца ў адчыненыя дзверы. Кацярына Васільеўна смяецца, паступова заспакойваецца.

Бабачкін. Кацярына! Што здарылася?

Паўза. Іванская зразумела, што ёй лепш пайсці. Выходзіць.

Кацярына Васільеўна. Хто гэта?

Бабачкін. Супрацоўніца, Наталля Сяргееўна Іванская. Шалёная, узбаламучаная, але ў рабоце — звер! Ты тут — чаму?

Кацярына Васільеўна. Ды гэты ваш Рубайла... Балаган нейкі... І смешна, і недарэчна... А што, Іванская замужам?

Бабачкін. Вось яно... Ты паверыла ў гэтую лухту?

Кацярына Васільеўна. Не, не, заспакойся! Я толькі падумала... Старэйшая за цябе...

Бабачкін. На восем месяцаў!

Кацярына Васільеўна. Але старэйшая. І калі ў цябе... Хто-небудзь ёсць...

Бабачкін. Кацярына!

Кацярына Васільеўна *(паспешліва)*. У мяне водпуск. Я еду да сястры Шуры. На месяц. А ты разбярыся ў сабе.

Бабачкін. Інтэлігентная жанчына!

Кацярына Васільеўна. Але жанчына. І калі... Застанёмся сябрамі... Добра?

Бабачкін. Кацярына, памятаеш, як мы сустрэліся?

Кацярына Васільеўна. У шпіталі. Ты паміраў...

Бабачкін. Памятаеш, з чаго мы пачалі?

Кацярына Васільеўна. У нас нічога не было — толькі твой шынель.

Бабачкін. Памятаеш, што было з сынам?

Кацярына Васільеўна. Дзяжурылі па чарзе ля ложка... Так даўно... Якое гэта мае значэнне?

Бабачкін *(падыходзіць, бярэ яе за плечы)*. А ведаеш, табе падыходзяць зморшчынкі. *(Цалуе.)*

Лёгкія, як павуцінне восенню. Ты памятаеш, як мы... *(Рассмяяўся.)*

Кацярына Васільеўна *(засаромелася).* Пакінь!

Бабачкін. Чаму — усё гэта было! І было цудоўна. Калі на вуліцы я бачу дзяўчыну, я ўспамінаю цябе...

Кацярына Васільеўна. Ты немагчымы!

Бабачкін. А на душы светла, святочна... Не было б цябе, ці змог бы я напісаць столькі работ? *(Цалуе.)* Чаму мне падабаецца цалаваць менавіта гэта вуха?

Кацярына Васільеўна. Таму што ты ляўша! Схаваны.

Бабачкін. Нічога падобнага! *(Азірнуўся.)* Кацярына Васільеўна, я запрашаю вас у кафэ. Зараз жа!

Кацярына Васільеўна. Але я павінна яшчэ трапіць на работу.

Бабачкін. Ніякай работы! У мяне сёння свята: дырэктару завода — аплявуха! Гэта трэба адзначыць.

Кацярына Васільеўна. Пасля работы. Добра?

Бабачкін. Згодзен.

Кацярына Васільеўна. Лёва... але я... павінна ехаць да Шуры. Я абяцала.

Бабачкін *(не адразу).* Калі абяцала — трэба.

Кацярына Васільеўна *(усміхнулася.).* Мяне чакаюць у дыспансеры.

Бабачкін. Не спазняйцеся на спатканне, мадам! *(Абдымае яе, цалуе ў шчаку.)*

Уваходзіць Маёрыкава.

Маёрыкава *(ускрыквае).* А! Яшчэ адна... *(Убягае.)*

Кацярына Васільеўна *(весела).* Так табе і трэба! *(Выходзіць.)*

Бабачкін, апусціўшы галаву, насвіствае сумны матыў.

## Карціна шостая

Агульны пакой. Іванская і Чыжык.

Іванская. Такім чынам, што ж удалося даведацца камісару Мегрэ?

Чыжык *(пасля паўзы).* Тое, што ён безнадзейна закаханы.

Іванская. Чыжык, цябе паслалі расследаваць злачынства!

Чыжык. Наташа...

Іванская. Столькі шуму, размоў... Ох, гэты Бабачкін! Сэрцаед, лавелас... Шматгрэшны.

Чыжык. Ёсць толькі адзін сродак спыніць размовы.

Іванская *(з цікавасцю).* Праўда?

Чыжык *(абдымае яе).* Выходзь за мяне.

Іванская. І ўсё стане на сваё месца? На жаль! Дантэс ажаніўся на сястры Наталлі Мікалаеўны, але гэта яшчэ больш падліло масла ў агонь. А затым адбылася і дуэль.

Чыжык. Каго мне выклікаць на дуэль?

Іванская. Ты лічыш, што Бабачкін бязгрэшны?

Чыжык. Не сумняваюся. Справа тры грошы не варта.

Іванская. Вось і цудоўна. Чыжык, я даўно збіраюся... Пасля той ночы, калі мы апынуліся ўдваіх... у лесе... Ён усё больш і больш мне падабаецца. Цудоўны чалавек! Правільна? З табой, а думаю пра яго... Як ты думаеш — узрост можа быць перашкодай?

Чыжык. Добра, што твая тэма — толькі гульні. А не забойствы.

Іванская. Мой дарагі Шэрлок Холмс! Пакуль ты грунтоўна не разбярэшся ў гэтай гісторыі, пра жаніцьбу маўчы.

Чыжык. Наташа!

Іванская *(задуменна).* А ён — Наталі...

Чыжык. Чаму б табе самой не расказаць, што ў вас адбываецца?

Іванская. А не! Я не аб'ектыўная. І цікава, ці зможаш ты разабрацца. Невялікі конкурс. Для будучага мужа.

Чыжык. Наташа, ставіць свой лёс у залежнасць...

Іванская. Хто ведае, у чым наш лёс!

Чыжык. Калі разбяруся...

Іванская. Памятай: памылішся — крыўдуй на сябе.

Чыжык *(складвае рукі на грудзях).* Божа! Што мне прыходзіцца цярпець... Пойдзем па крузе зноў. Запрасі Шахматава.

І в а н с к а я. Следства працягваюць знаўцы! *(Выходзіць.)*

З'яўляецца Ш а х м а т а ў.

Ч ы ж ы к. Віталь Валянцінавіч, што ж мне ўсё ж думаць?

Ш а х м а т а ў. Вы яшчэ сумняваецеся? З мухі стварылі слана!

Ч ы ж ы к. Але муха ўсё ж была? Вось пісьмо лабарантак... Гэта напісалі студэнткі... «Прозвішчаў не падпісваем, а будзеце правяраць — дапаможам».

Ш а х м а т а ў. Ананімкі!

Ч ы ж ы к. Даведка з бухгалтэрыі...

Ш а х м а т а ў. У яго гады захапіцца дзяўчынкамі?

Ч ы ж ы к. Лірычны ўзрост. У Чарлі Чапліна ў семдзесят дзіця нарадзілася.

Ш а х м а т а ў. То фокуснік, ілюзіяніст. Або кінатрук.

Ч ы ж ы к. Вядома, што каўказскія стогадовыя старыя...

Ш а х м а т а ў. На Усходзе любяць легенды! Як урач раю — не спакушайцеся!

Ч ы ж ы к. Значыць, ваша думка, што гэта ліпа?..

Ш а х м а т а ў. Ліпавая алея! Парк!

Ч ы ж ы к. І я так думаю. Але каму гэта патрэбна? Віталь Валянцінавіч, нечакана я знайшоў... Скажыце, чаму ў вашым інстытуце так многа ўходаў па ўласнаму жаданню?

Ш а х м а т а ў. Хіба?

Ч ы ж ы к. За апошнія два гады — калі дырэктарам стала Туманава — з інстытута пайшло больш супрацоўнікаў, чым за папярэднія пятнаццаць гадоў. Як растлумачыць узмацненне міграцыі?

З'яўляецца Т у м а н а в а.

Т у м а н а в а *(Шахматаву).* Выдатную справаздачу напісалі, Віталь Валянцінавіч!.. Глыбока абгрунтавана. Не вельмі перашкоджу?

Ч ы ж ы к. Значыць?

Ш а х м а т а ў *(не адразу).* Мікраклімат неспрыяльны.

Ч ы ж ы к. Мікраклімат?

Ш а х м а т а ў. Наш інстытут знаходзіцца ў паўночнай частцы горада. Усе астатнія — у паўднёвай.

Вось і бягуць на поўдзень! Мікраклімат — гэта вельмі важна для работы!

Ч ы ж ы к. Вы свабодны.

Ш а х м а т а ў выходзіць.

Т у м а н а в а. Усё бачыць, усё ведае, а вось разумеемая таварыскасць даволі дзіўна...

Ч ы ж ы к. Што ж нам думаць, Ала Пятроўна?

Т у м а н а в а. Я вам гаварыла. Не веру. Проста не веру! Цудоўны чалавек. Столькі сіл аддае навуцы... Да жанчын, праўда, заляцаецца, расказвае анекдоты, пагладзіць, ушчыкне... Але... Не думаю... Сустракаюцца, праўда, эратычныя працаўнікі, якіх хапае на многіх... Але ён... Тут прыбаўлена. Можа быць, толькі з Наталляй Сяргееўнай.

Ч ы ж ы к *(падхопліваецца)*. Што?!

Т у м а н а в а. Пасля экспедыцыі яна ажыўлена, штодзённа мяняе ўборы... І так закахана глядзіць! Усе звярнулі ўвагу. А зрэшты, я магу памыляцца.

З'яўляецца Р у б а й л а, галава абвязана ручніком.

Р у б а й л а. Час вырваць з карэннем!..

Т у м а н а в а. Лягчэй, лягчэй.

Р у б а й л а. Не магу! Ужо калі я, разбіты паралічам, з'явіўся, каб дапамагчы справе...

Т у м а н а в а. Назар Цярэнцыч у нас заўзята змагаецца за высокую маральнасць.

Р у б а й л а. Навошта так вузка? Я супраць таго, што стрымлівае нашу навуку... Ці можа, разумееш, нармальная жанчына нарадзіць столькі работ, як Іванская? Адказваю — не можа! Без Бабачкіна. У бязгрэшнае зачацце не веру! А каб вучоныя не адцягваліся на пісанне прац для палюбоўніц, наша навука зрабіла б крок... *(Паказвае кудысьці далёка.)* Ага!

Т у м а н а в а. Спакойна, галубчык, спакойна. Калі чалавек злуецца, адрэналін паступае ў кроў, звужвае сасуды, павышае ціск.

Р у б а й л а. Не магу маўчаць! Тры ўнучкі, чырвоныя шапачкі!.. А калі б да вашай дачкі, Ала Пятроўна, пачаў чапляцца выкладчык?! Робіцца нахабным з кожнай гадзінай! Я б такіх — да сценкі! Нават у мірны час. Без кампаніі.

Т у м а н а в а. Назар Цярэнцыч, не забывайце, у якім інстытуце мы працуем... Раніць лёгка — вылечыць цяжка. Дарэчы, з жонкай гаварылі?

Р у б а й л а *(сціскае скроні, паморшчыўся).* Не ўспамінайце! Хопіць іншых сведак. З Іванскай, разумееш, усякі сорам страцілі!

Ч ы ж ы к *(зноў ускоквае).* Як вы сказалі?

Р у б а й л а. На вачах! Памятаеце, як яна яго цалавала? А ў дочкі ж яму гадзіцца!

Т у м а н а в а. А калі гэта каханне? Можа быць, я разважаю па-жаночаму. Але ніколі не спяшайцеся асуджаць.

Рубайла разводзіць рукамі — такое сказала дырэктрыса...

Ч ы ж ы к *(нервова трасе каленам).* Цікава, цікава... Запрасіце Бабачкіна!

Р у б а й л а выходзіць.

Пра якую кампанію ён гаварыў?

Т у м а н а в а. Назар Цярэнцыч колькі жыве, столькі змагаецца. Жыццё для яго — суцэльная кампанія.

Ч ы ж ы к. Значыць — мыльная бурбалка?

Т у м а н а в а. Вы так думаеце? *(Загадкава.)* Не ведаю, не ведаю. Ваш першы званіў. Цікавіўся нашымі рэкамендацыямі гарсавету. Цудоўны чалавек! Высокамаральны. Не любіць усякіх гэтых штучак. Відаць, працаваць з такім — адно задавальненне.

Ч ы ж ы к. Ала Пятроўна, з Бабачкіным хачу па-мужчынску. Шчыра.

Т у м а н а в а. Калі ласка. *(Выходзіць.)*

З'яўляецца Б а б а ч к і н, з недаверам глядзіць на Чыжыка.

Ч ы ж ы к. Леў Іванавіч, вам могуць помсціць?

Б а б а ч к і н. Не разумею.

Ч ы ж ы к. Ёсць у вас ворагі?

Б а б а ч к і н. Як ва ўсіх — праклятыя імперыялісты.

Ч ы ж ы к. Гэта правільна, што ад вас паехала жонка?

Бабачкін маўчыць.

Даруйце. Амаль усё сведчыць супраць вас. Нейкі карнавал, калектыўны розыгрыш. Або хтосьці пляце інтрыгі? Але хто? Леў Іванавіч, дапамажыце. Вам перашкаджаюць працаваць. Хто і чаму? *(Паўза.)* Маё будучае залежыць ад вас.

Б а б а ч к і н *(кладзе руку на сэрца, пагладжвае).*

Калі шчыра, як мужчына мужчыну — зайздросцяць!

Ч ы ж ы к. Зайздросцяць?

Б а б а ч к і н *(паўшэптам)*. Жанчыны мне лёгка дастаюцца!

Ч ы ж ы к. Як так?

Б а б а ч к і н. Напрыклад, Іванская... Шыкоўная! Ці не праўда? А я кроку не зрабіў, каб яе заваяваць. Сама!

Ч ы ж ы к *(п'е ваду, не адразу)*. Прабачце, я сёння запрацаваўся... Можна мне пайсці?

Б а б а ч к і н. Гуляйце. *(Выходзіць.)*

Чыжык націскае кнопку. Уваходзіць Л ю с я.

Ч ы ж ы к. Люся! Тэрмінова спіс супрацоўнікаў, якія звольніліся з інстытута.

Л ю с я. Ад Івана Грознага ці...

Ч ы ж ы к *(раззлаваўся)*. Усе вастрасловяць! Як у вар'яцкім доме... За апошнія два гады!

Л ю с я. Усякла.

Ч ы ж ы к. Люся, а вы ж так нічога і не сказалі.

Л ю с я. Вы жанаты?

Ч ы ж ы к. На выданні! Якое гэта мае значэнне?

Л ю с я. Баюся, застанецеся ў дзеўках.

Ч ы ж ы к. Гэта яшчэ чаму?!

Л ю с я. Пачуцця гумару не хапае. Мяркуючы па апытанню, дзяўчаты на першае месца ставяць менавіта гэтую якасць. *(Выходзіць.)*

Ч ы ж ы к. Так табе, Чыжык, і трэба. *(Складвае паперы.)*

З'яўляецца Р у б а й л а.

Назар Цярэнцьіч, чаму з інстытута пайшоў доктар навук Анішчук?

Р у б а й л а. Як вам сказаць. Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек...

Ч ы ж ы к. Семнаццаць гадоў прарабіў!

Р у б а й л а. Асабістыя матывы.

Ч ы ж ы к. А Лабанаў? Кандыдат навук?

Р у б а й л а. Не ведаю. Але пастараюся высветліць. Юрый Сцяпанавіч... *(Азіраецца.)* Пры ўсіх не хацеў... Бабачкін і Туманава... *(Падыходзіць, шэпча на вуха.)*

Ч ы ж ы к *(кладзе руку на яго лоб, напеўна)*. Рабочы дзень закончаны, ідзіце дамоў...

Р у б а й л а. Не магу! Не маю права. Парадак у інстытуце цяпер на мне трымаецца! Цяпер ужо абавяз-

кова — не Бабачкін, а Туманава ўзначаліць новы цэнтр... А тут... Страшна падумаць, што будзе з навукай, калі я... Калі са мной... *(Шчыра праслязіўся.)*

Ч ы ж ы к. Новы цэнтр?.. *(Раптам.)* Эх, яблычка!.. *(Прайшоўся чачоткай.)*

Р у б а й л а *(збянтэжыўся)*. Выклікаць «хуткую»?

Ч ы ж ы к. Не трэба! Язджайце трамваем... Ажанюся я, Назар Цярэнцыч! Цяпер ужо без сумненняў! Загадка сфінкса адгадана. *(Танцуючы, выходзіць.)*

З'яўляецца І в а н с к а я.

І в а н с к а я *(як кошка, ласіцца, праводзіць рукой па шчацэ Рубайлы)*. Назар Цярэнцыч, любімы прадмет майго абажання!

Р у б а й л а *(здрыгануўся)*. Я вам не прадмет!

І в а н с к а я. Так? Гэта ж стыль нашага інстытута. Я сумую па славе. Усе шэпчуцца... Давайце збяром мясцком, пагаворым.

Р у б а й л а. Мясцком?

І в а н с к а я. Раскажу ўсё, як было. З пікантнымі падрабязнасцямі! Каючаяся Магдаліна. Няхай грамадскасць асудзіць.

Р у б а й л а. Не лічыце мяне за інтэлектуала! Хочаце выручыць?

І в а н с к а я. Жанчына ніколі не ведае, чаго яна хоча.

Р у б а й л а. Усяму свету выхваляліся аб сваіх прыгодах, а цяпер, відаць, задумалі замуж... Але хто ж такую возьме?

І в а н с к а я. Дзякуй... Калі збяром народ? Я член мясцкома.

Р у б а й л а. Спадзяецеся што-небудзь змяніць?

І в а н с к а я. Не спрачайцеся з жанчынай. Падарыце мне сход. А я вам — кавалачак сонца... *(Заплюшчыўшы вочы, цягнецца.)*

Р у б а й л а. Не выйдзе! *(Крычыць.)* Людзі! Супрацоўнікі...

І в а н с к а я. А з выгляду такі магутны... *(Уздыхнуўшы, выходзіць.)*

Р у б а й л а *(выціраючы ўспацелы лоб)*. Таварышы! За што пакутую?

З'яўляецца Т у м а н а в а.

Т у м а н а в а. Дзе Чыжык?

Р у б а й л а. Ала Пятроўна, здаецца, ён за Бабач-

кіна... Блізарукі, а ўніклівы! Пытаўся, хто пайшоў з інстытута... У райком паехаў. І гэта шалёная, Іванская, ваду каламуціць... Заставацца з такой сам-насам... Бр!

Туманава *(пасля доўгага маўчання).* Бабачкіна. Неадкладна!

Рубайла знікае. Туманава перасоўзае мэблю. З'яўляецца Бабачкін.

Бабачкін. Дапамагчы?

Перасоўваюць мэблю ўдваіх на працягу ўсёй сцэны.

Туманава. Леў Іванавіч, дарагі мой чалавек... Абставіны змяніліся... Я абараняла вас як магла... Але...

Бабачкін. Здарылася што-небудзь?

Туманава. Чыжык пайшоў у райком, да першага. Высновы, мякка кажучы, не ў вашу карысць. Калі шчыра — рэкамендуюць здымаць. Чыжык вам спачувае, але... Мілы, родны, што я магу для вас зрабіць? Што? Падкажыце? Стол паставім тут...

Бабачкін. Ала Пятроўна, не хвалюйцеся. Можа, абыдзецца?

Туманава. Калі за справу бярэцца грамадскасць? Што рабіць? Што рабіць? Будзе сход, публічная экзекуцыя... Галава трашчыць. А можа, заяву аб уходзе?

Бабачкін. Пайсці?! Куды? Навошта?

Туманава. Не, не! Хоць гэта адразу заглушыла б... Новыя людзі... Стол лепш сюды...

Бабачкін. У мяне пачата серыя доследаў... Ведаеце, методыку Ленца давялося змяніць!.. Як жа...

Туманава. Дапусцім, адпушчу. У мяне пойдуць такія непрыемнасці... Га! Вельмі хочацца дапамагчы. Вас усюды прымуць. У акадэмію, напрыклад. Пазваніць? *(Кладзе на стол паперу, ручку.)*

Бабачкін. Ала Пятроўна, столькі сіл аддаў інстытуту... Пачынаць работу на новай базе — месяцаў восем дарэмна... Не менш!

Туманава. Ці мне вас не зразумець? Але ўсё ж абарочваецца, родны мой, што лепш пайсці. Не даказваючы, што маеш рацыю. Падавайце заяву. Заўтра я ўжо не змагу падпісаць загад аб вызваленні.

Бабачкін. А калі я гэта не зраблю?

Туманава. Задзяўбуць, з'ядзяць. О, гэтыя ханжы! На жаль, яшчэ не параўняліся.

Бабачкін. Скажыце шчыра: гэты шум — з-за «шумоў»?

Туманава. Я вас не разумею.

Бабачкін. Рэцэнзія...

Туманава. Леў Іванавіч! Я магу пакрыўдзіцца. Мае адносіны да вас вядомыя.

Бабачкін. Даруйце, калі ласка... Галава кругам.

Туманава. Трапілі пад кампанію — вось ваша бяда.

Бабачкін. Якое ж выйсце?

Туманава. Верце мне, самае разумнае — заява аб звальненні. Па ўласнаму. Або... Хочаце — прыму ўдар на сябе? Заставайцеся! Атрымаю вымову! Прабяруць на калегіі!

Бабачкін. Не, не.

Туманава выходзіць, Бабачкін каля стала, глядзіць на ліст паперы. З'яўляецца Маёрыкава — неверагодная прычоска, звышмодная сукенка. Не ходзіць — дэманструе мадэль.

Маёрыкава *(паўшэптам, пад Дароніну)*. Гэта я... Такая цішыня ў бібліятэцы... Летам ніхто не заглядвае... За горадам, на дачах... *(Уключае музыку.)* А я ў сваім палацы ўпіваюся шчасцем. Не кватэра — мара!.. Толькі адной... сумна!

Бабачкін *(пасля паўзы)*. Вы штосьці сказалі?

Маёрыкава *(у руху)*. Даўно запрасіць збіраюся... Але ў вас заўсёды хто-небудзь ёсць. Ведаеце, усё жыццё перашкаджала сарамлівасць... «Ганначка, нельга! Ганначка, як можна?!»

Бабачкін. Даруйце, вы да мяне?

Маёрыкава. Не ведаю, як пачаць... Столькі пяшчотнасці, цяпла накапілася... І ўсё да аднаго чалавека.

Бабачкін. Што з вамі, Ганна Іванаўна?

Маёрыкава. Прыходзьце сёння...

Бабачкін. Куды, навошта?

Маёрыкава. На наваселле. *(Танцуе вакол яго экзатычны танец.)* Я буду чакаць. Няхай вас гэта ні да чаго... Сустрэліся — разышліся. Дзіця сама... Я ніколі не адважылася б. Дзякуй Але Пятроўне. Ён добры, гаворыць, зразумее...

Бабачкін. Ай ды баба!

Маёрыкава *(радасна).* Гэта вы мне? Маёрыкава — магіла, нікому ні слова...

Бабачкін уключаецца ў танец, але раптам спыняецца. Закаціўшы вочы, эфектна хапаецца за сэрца, адкрывае рот, шумна дыхае.

Бабачкін. Усё... Канец! Крыўдна — столькі жанчын недакахаў... Бывайце. *(Адной рукой трымаецца за сэрца, другой пасылае Маёрыкавай паветраны пацалунак. Паспешліва кладзецца на падлогу, акуратна склаўшы рукі на грудзях.)*

Маёрыкава. Што з вамі?.. Леў Іваныч... Леў Іваныч... Родненькі... Які ж вы леў?.. А яшчэ дэсантнік... О божа!..

Бабачкін, крыху расплюшчыўшы вока, назірае за Маёрыкавай.

Доктара! Доктара-а-а! *(Кідаецца да тэлефона, паспешліва набірае.)* «Хуткая»! Неадкладна... Нервовы інстытут! Гэта значыць аховы нервовай... Ну і мужыкі пайшлі... А столькі гаварылі... *(Пераступіўшы цераз Бабачкіна, рашуча выходзіць.)*

## Карціна сёмая

Інстытут. Рубайла з магнітафонам у руках мітусіцца па пакоі, нарэшце ставіць яго за прыборамі, прыкрывае абрусам. Доўга вагаецца. Пачуўшы крокі, раптам адважыўся, уключае магнітафон.

Рубайла *(шэпча).* Божа! Не пагубі... атэіста. Усе кампаніі я з табой змагаўся. Але гэта не ад душы...

Уваходзіць Туманава.

Туманава *(склаўшы рукі на грудзях).* Не магу апамятацца... Неверагодная, найдзічэйшая гісторыя — у нашым інстытуце, у інстытуце аховы нервовай... Супрацоўніка схапіў інфаркт!

Рубайла. Свавольны — не па гадах! Сардэчка і не вытрымала.

Туманава. Толькі б выжыў! Не ведаю, што аддала б.

Рубайла. Не турбуйцеся — дапамога па першаму разраду. Пуцёвачку. Кватэру знайшлі. Адначасовую дапамогу. Урачы што кажуць?

Туманава. Жудасныя болі. Зняць пакуль не ўдаецца. Назар Цярэнцыч, як гэта магло здарыцца?

Рубайла. Наша віна, Ала Пятроўна, у тым, што своечасова яго не спынілі. Я як старэйшы таварыш павінен быў сказаць: «Лёва! Падумай пра сэрца...»

Туманава *(не адразу)*. Назар Цярэнцыч, у цэлым я была задаволена вашай дзейнасцю... Зорак з неба не хапалі, але вызначаліся стараннасцю, добрасумленнымі адносінамі.

Рубайла. Ала Пятроўна!..

Туманава *(настойліва)*. Зразумейце, мне нялёгка развітвацца з вамі. Я шкадую, што вы не прыжыліся ў нашым калектыве.

Рубайла. Пайсці? Мне? Я старшыня мясцовага камітэта!

Туманава *(уздыхае)*. Уладзім.

Рубайла. А за што? *(Паварочвае галаву ў бок магнітафона.)* За тое, што Рубайла — у першых радах?.. Душа ўсіх кампаній? З дзяцінства там, куды кідала яго грамадскасць?

Туманава. Куды вы цягнеце галаву?

Рубайла. Вось! Нервовае, ад ператамлення — усё жыццё для народа...

Туманава. Вы арганізавалі цкаванне вучонага. Давялі яго.

Рубайла. Я? *(Паварочвае галаву да магнітафона.)* А колькі публікі з'елі вы? Калі перашкаджаў або спрабаваў крытыкаваць... Лабанава — не ўзяў у сааўтары. Дудкіна — адмовіўся працаваць на вашу дысертацыю... А хто нацкоўваў мяне на Бабачкіна? Толькі я, як сумленны, прынцыповы...

Туманава. Куды вы? Што з вамі сёння?.. Вазьміце для заспакаення нерваў. Наш інстытут прапанаваў. *(Перадае цацку «закаці шарык»)*. Галубчык, вы ўсё ставіце з ног на галаву... Успомніце — памяць у мяне выдатная,— я папрасіла вас разабрацца, параіць Бабачкіну паводзіць сябе больш сціпла. Глядзіце ў вочы. Ці я сказала больш?

Рубайла *(спрабуе закаціць шарык)*. Прама нічога не сказалі. Але паміж словамі... Моўчкі...

Туманава. Даруйце, дарагі, гэта ўжо містыка. Назар Цярэнцыч, вы састарэлі. Недарэчнасць, блазната... Ну, адкуль вы ўзялі, што ідзе кампанія?

Рубайла. Была кампанія, Ала Пятроўна! Была. Чаму спынілі — не магу ўявіць сабе! Можа, што за мяжой? Вядома! Дзе-небудзь абісінцы напалі на эфіопаў. І нам пакуль не да Бабачкіных.

8 Зак. 1227

Т у м а н а в а. Увесь інстытут не дамаўляючыся, вырашыў вас разыграць. Каралём блазнаў аб'явілі! Каўпак надзелі! А вы нават не заўважылі. Толькі падумаць — як выраслі людзі! Смяюцца над тым, што калісьці... Так, сёння ўжо нельга на вачах ва ўсіх сфабрыкаваць справу, з'есці чалавека... Людзі настолькі змяніліся, што іграць сабой...

Р у б а й л а *(не зладзіўшы з цацкай, яшчэ больш засмучаны, кідае яе)*. Значыць, гэта я сам, адзін, давёў яго да інфаркту? Так?!

Т у м а н а в а. І ведаеце, што крыўдней за ўсё ў гэтай сумнай гісторыі — вы працавалі ў такім інстытуце побач з урачамі...

Р у б а й л а. Талент! Куды мне да вас... *(Успомніў пра магнітафон.)* Вы з'елі Бабачкіна, Ала Пятроўна. За рэцэнзію. За што яшчэ? Бабачкіна, а не вас, маглі назначыць дырэктарам новага цэнтра. Рубайла ўсё ведае! Вось вы яго і скампра... скампрамета...

Быццам пеўні, у дзіўным танцы кружаць адзін супраць другога.

Т у м а н а в а *(жорстка)*. Дапусцім! Неверагоднае. Але адказваць давядзецца вам. І не спрабуйце са мной жартаваць. Вы старэйшы. Але па метадах — хлапчук... Хто цяпер так працуе? Дурні! За месца пад сонцам трэба змагацца... Ой як змагацца!.. Не шкадуючы нікога, нічога... Але рабіць гэта... З добразычлівай усмешкай, у пальчатках... Прыкрываючыся словамі, словамі, словамі... Уступіце месца маладым, гібкім...

Р у б а й л а. Ха-ха! Здаецца так лёгка? За праўду, за інтарэсы навукі — буду змагацца!

Т у м а н а в а. Па кім б'юць званы? Яны б'юць па вас, таварыш Рубайла. *(Дастае з сейфа чорны блакнот, чытае.)* «Рубайла Н. Ц. Пятага жніўня. Своечасова не даставіў рэактывы. Сарваў эксперымент. Дваццаць пятага кастрычніка. Нагрубіў лабарантцы Зубовіч, давёў да слёз, пайшла з інстытута. Трэцяга лістапада...»

Р у б а й л а. Хопіць! І што — на кожнага супрацоўніка ёсць?

Т у м а н а в а *(захлопвае блакнот, хавае ў сейф)*. Карысна, каб людзі віну адчулі. Калі ў чалавека плямачка, ім лёгка кіраваць.

Р у б а й л а. Па ўласнаму жаданню — як звычайна?

Т у м а н а в а. Навошта ж. Узрост у вас пенсійны. Паўтараю — не ўздумайце... Я магу быць і злоснай.

Р у б а й л а. Што адбываецца? З-за аднаго чалавека! Не разумею — краіна ж у нас вялікая! Людзей не хапае, ці што?

Т у м а н а в а. Спадзяюся, абыдзецца. Гэтымі днямі праводзім вас на пенсію. Я пастараюся, каб на выгадных умовах.

Р у б а й л а. На пенсію, так? *(Дастае магнітафон.)* А гэта бачылі? Кожнае ваша слова запісана... На каленях будзеце поўзаць! Ніякай пенсіі! Такія вопытныя каштоўныя кадры павінны працаваць, прыносіць карысць народу... *(Уключае магнітафон.)* Што такое? *(Гуку няма.)* А! Заела...

Туманава ўсміхаецца. Уваходзіць І в а н с к а я.

І в а н с к а я. Ала Пятроўна, вас чакаюць.

Т у м а н а в а. Чаго?

І в а н с к а я. Сход! Столькі народу прыйшло! Іншы раз бегаеш-бегаеш, а тут — самі!

Т у м а н а в а. Які сход? Хто дазволіў?

І в а н с к а я. Вытворчы сектар інстытута аховы нервовай сістэмы павінен разабрацца ў сваіх хваробах.

Забягае Л ю с я.

Л ю с я. Ала Пятроўна, на сход прыйшлі Чыжык і яшчэ двое, з гаркома.

Т у м а н а в а. Чаму з гаркома? Навошта?

Л ю с я. Такія імпазантныя! Але, па-мойму, без пачуцця гумару. Паспрабавала пажартаваць — нават не ўсміхнуліся.

Т у м а н а в а *(не адразу).* Гэта дрэнная прыкмета, Люсечка, калі людзі не ўсміхаюцца... *(Робіць практыкаванне па сістэме ёгаў.)*

## Карціна восьмая

Бальніца. Хол.

Н я н е ч к а *(ля тэлефона).* Вар, а Вар, дык ты прыходзь, не бойся. Яго ўсе глядзець ходзяць. Забяжы хоць на мінутку. Тое, што пра яго гавораць... Не мужчына, а цуд!.. Столькі жонак, столькі палюбоўніц... А з выгляду не скажаш — слабаваты... Таму я думаю вось што. Мужыкі цяпер замотаныя, у рабоце... А пра яго

чутка прайшла — маўляў, пяшчотны, уважлівы... Вось бабы і накінуліся... Сэрца як? Урачы кажуць, лепш. А вось жанчын пачаў баяцца. Убачыць — задрыжыць увесь, уцякае. З сабой, значыць, змагаецца.

З'яўляецца Бабачкін у бальнічным халаце, на хаду ў блакноце робіць паспешныя запісы.

Ну, давай, Вар, прыходзь... *(Кладзе трубку, працягвае прыбіраць.)*

Бабачкін *(глядзіць на пакункі, сурова).* Гэта што?

Нянечка. А ўсё вам. Класці, кажу, няма куды!.. Нясуць і нясуць.

Бабачкін. Хто? Не падыходзьце блізка — гаварыце адтуль.

Нянечка *(уздыхае).* Вядомая справа — жанчыны.

Бабачкін *(злосна).* Мяне няма. Я памёр. *(Праглядае пошту.)* Іванова. Трыкатажная фабрыка. Чарнамордзікава — трэст ачысткі. Кукішава... Не ведаю такіх! *(Шпурляе пісьмы.)*

Нянечка. Можа, забылі. А жанчыны — яны памятаюць. Усё памятаюць. Аднясу ў халадзільнік. *(Забірае пакункі, выходзіць.)*

Бабачкін глядзіць у блакнот, паспешліва піша, падыходзіць да тэлефона.

Бабачкін. Сяргей Сцяпаныч? Бабачкін. Вітаю маладога і шматабяцаючага... Цудоўна! Які там інфаркт... Бальніца — адзінае месца, дзе можна спакойна папрацаваць. Вось менавіта. Слухай, Сярожа, мне прыйшла ў галаву цікавая думка — палепшыць мадэль... Ты мог бы прымчацца сюды? Ад'язджаеш? Вось яно што! Ну, тады пасля прыезду... Пра мяне? Што чуў? Ах, вось як... Значыць, у горадзе ўжо гавораць... Ну-ну... А ты ад каго чуў? Ад Алы Пятроўны?! Не, не, я ўжо нічаму не здзіўляюся. Паслухай, а куды ты едзеш у экспедыцыю? У тундру? За Палярны круг? Няўжо нічым не хварэюць? Не бывае склерозу? Неверагодна! Скажы мне... *(Азіраецца, нягучна.)* Ці многа ў экспедыцыі жанчын? Ніводнай?! Сярожа, я еду з табой! Ніякіх пярэчанняў... Хачу месяц спакойна папрацаваць. Сярожа, ты зробіш гэта дзеля сябра свайго бацькі... Калі нас скінулі ва Усходняй Прусіі... Не хвалюйся, я здаровы як бык! *(Спалохана аглядваецца.)*

Гэта значыць, як конь. Хлопчык мой, буду мыць прабіркі, варыць кашу. Нічога не гавары — праз паўгадзіны буду ў цябе. *(Кладзе трубку, адыходзіць, вяртаецца, зноў звоніць. Змененым голасам, гугнявіць.)* Ала Пятроўна? Гаворадь з клінікі. У нас несуцяшальнае гора. Толькі што *(глядзіць на гадзіннік)*, на пяцьдзесят дзевятай мінуце перастала біцца сэрца вашага супрацоўніка... Памёр Бабачкін Леў Іванавіч. Медыцына аказалася бяссільнай... Добры чалавек? Не ведаю. Таленавіты вучоны? Пра нябожчыкаў заўсёды... Будзеце скардзіцца? Ваша права. Хто гаворыць? Загадчык аддзялення Магільніцкі. Запэўніваю вас, яго смерць і маё прозвішча амаль не звязаны. Будзьце здаровы. *(Націскае на рычаг, звоніць, тонам старшыны-салдафона.)* Назар Цярэнцьіч? Дакладвае дзяжурны ўрач. У даверанай мне бальніцы не хапае адной адзінкі асабовага саставу. Што? Ніяк не. Бабачкін Леў Іванавіч. Шчасліва памёр. Пахаванне, аркестр за кошт мясцкома. Дзяжурны ўрач Грабаўшчыкоў! *(Вешае трубку, страявым крокам адыходзіць ад тэлефона.)*

З'яўляецца нянечка.

Нянечка. У садочку пагулялі б. Такая цеплыня...

Бабачкін *(у цудоўным настроі)*. Добра тут у вас! *(Паглядзеў у акно, паспешліва.)* Пайду паляжу. *(Пазяхаючы, паспешліва выходзіць.)*

З'яўляецца Люся з кветкамі.

Люся. Добры дзень. Можна да Льва Іванавіча?

Нянечка. А вы хто будзеце?

Люся. Супрацоўніца.

Нянечка. У якім гэта сэнсе?

Люся. У самым прамым.

Нянечка. А!..

Ледзь нянечка сабралася пайсці, як з'яўляецца Іванская.

Іванская. Добрай раніцы. Як наш Бабачкін?

Нянечка. І вы да яго?

Адчыняюцца дзверы, і залятае Маёрыкава.

Маёрыкава *(выпальвае)*. Ну і людзі! У тралейбусе ўсе ногі адціснулі... Ну што, Лёвушку лепш?

Нянечка падыходзіць да дзвярэй на вуліцу паглядзець, ці няма яшчэ адной. Ледзь яна адчыніла дзверы, як з'яўляецца Шахматаў, элегантны, ажыўлены, радасны.

Ш а х м а т а ў *(жартаўліва).* Ну што — можам мы бачыць нашага сябра? *(Папраўляе гальштук.)*

Н я н е ч к а *(разгублена).* А... І вы да яго?

Ш а х м а т а ў. Мы супрацоўнікі.

Н я н е ч к а. Супернікі? Ну і часы!.. Раней учапіліся б адзін аднаму ў валасы, парвалі б адзенне... А цяпер — нічога, усміхаюцца... *(Накіроўваецца запрасіць Бабачкіна.)* Люблю ветлівых! Да інфаркту давядуць, але з усмешкай. *(Выходзіць.)*

Ш а х м а т а ў. Навіна незвычайная! Алу Пятроўну пераводзяць на іншую работу! *(Жэст уніз.)* Уяўляеце?

М а ё р ы к а в а. Ты падумай. Такую душэўную жанчыну.

Ш а х м а т а ў. А Назар Цярэнцыча — на пенсію. Сам папрасіўся.

Л ю с я. Што вы гаворыце!

Ш а х м а т а ў. А ведаеце, хто будзе дырэктарам новага цэнтра?

Л ю с я. Няўжо...

Ш а х м а т а ў. Так! Бабачкін! Толькі пакуль не гаварыце — не варта хваляваць.

І в а н с к а я. Як у фільме-казцы.

Ш а х м а т а ў. Аказваецца, пад месяцам магчымы і змены.

Забягае Ч ы ж ы к.

І в а н с к а я. Ну што ж. Радуйся, Чыжык! Прыйдзецца стрымаць слова.

З'яўляецца разгубленая н я н е ч к а, на выцягнутых руках нясе складзенае адзенне, зверху запіска.

Н я н е ч к а. Вось...

І в а н с к а я. Што з ім? *(Бярэ, чытае.)* «Не шукайце. Бескарысна. Цю-цю! Бабачкін».

Ш а х м а т а ў. Цю-цю?

І в а н с к а я. Цю-цю!

Ш а х м а т а ў. Нядрэнна пачынае новы дырэктар!

М а ё р ы к а в а. Уцёк?! Без мяне... Але з кім!

Уваходзіць Т у м а н а в а ў жалобным адзенні. За ёю ў чорным касцюме Р у б а й л а. Першым пачынае нястрымна рагатаць Шахматаў, за ім Іванская, Чыжык, Люся... Калі яны крыху ачуналі, танцуюць вакол Туманавай і Рубайлы.

*Заслона.*




Гарэзлівая камедыя ў дзвюх дзеях

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Таццяна — начальнік экспедыцыі па біёніцы, выглядае гадоў на 30.

Людміла — навуковы супрацоўнік, выглядае гадоў на 25.

Зоя — навуковы супрацоўнік, ёй можна даць 23 гады.

Павел — кандыдат матэматычных навук, 36 гадоў.

Дзяніс — інжынер, кіраўнік группы геолагаў, 32 гады.

Васіль — механік, 28 гадоў.

Сяргей — тэхнік, 22 гады.

Іваніха — пажылая калгасніца.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Летні ранак. Толькі што ўзнялося сонца. На беразе маляўнічага возера ля самага лесу размешчаны дзве палаткі, малая і крыху большая. Побач прыгожы аўтамабільны знак — заезд забаронены, на ім напісана: «Комплексная экспедыцыя па біёніцы». З малой палаткі вылазіць Павел, шчуплы, барадаты, у акулярах — тыповы навуковы работнік, які аддаў навуцы лепшыя гады. Б'е ў кавалак рэйкі.

Павел. Дзяўчынкі — пад'ём, калі ласка!

З вялікай палаткі адна за адной, пацягваючыся і пазяхаючы, вылязаюць дзяўчаты — Таццяна, Людміла, Зоя,— на хаду надзяваюць штаны і світэры. У дзяўчат упэўненая размашыстая паходка. Незалежнасць духу і мыслення праяўляецца нават у іх знешнім выглядзе і адзенні.

Таццяна *(кароткая стрыжка, рашучы валявы твар)*. Божа, якая раніца! Паснедаем і за работу.

Зоя *(пяшчотная, летуценная, схільная да пайнаты)*. Сон не далі даглядзець... І які сон!..

Людміла, жывая, спартыўная, абаяльная, здымае начны халат, нацягвае штаны.

Таццяна *(нягучна)*. Пал Цімафеіча пасаромелася б.

Людміла. Хіба П. Ц. мужчына? Ён — доктар навук. Без мінуты.

Зоя *(нягучна)*. Хочаце пары? Не пройдзе і трох дзён, як ён зробіць мне прапанову... *(Гучна, каб чуў Павел.)* Дзяўчаткі, які сон! Быццам мы былі ў экспедыцыі на поўдні, і мяне выкралі...

Таццяна. Зноў? Хіба не дамовіліся?

Людміла. Няўжо нельга праграміраваць сны на іншыя тэмы? Трэба ёй павялічыць нагрузку.

З о я. Ужо ці не хочаце зрабіць з мяне амазонку?

Л ю д м і л а. На зарадку — станавіся!

Побач з Людмілай усе выстрайваюцца ў адну лінію тварам да гледачоў. Павел стаіць апошнім, з боязззю косячыся на дзяўчат.

Л ю д м і л а. Раўняйцеся!.. Не бачу грудзі чацвёртага чалавека!..

Павел спрабуе падацца наперад і, не здолеўшы захаваць раўнавагу, вывальваецца са строю. Людміла неадабральна ківае галавой. Павел разгублены, сарамліва кашляе.

Л ю д м і л а. Адзін мужчына... А калі б было некалькі?

Т а ц ц я н а. Не дай божа! Толькі і працаваць, калі іх няма.

Л ю д м і л а. Смірна! Вольна... Ану — давайце танец... Наш!

Людміла ўключае магнітафон, і ўсе ў адпаведнасці са сваім тэмпераментам і складам цела імправізуюць вельмі рухомы танец старажытных качэўнікаў — гімн сонцу, раніцы, не ўтойваючы яўнага задавальнення, якое дзяўчаты атрымліваюць ад сваёй маладосці...

Т а ц ц я н а. На сёння праграма такая. Пал Цімафеевіч — пошук і навядзенне на малой глыбіні, без акваланга. Людміла — семнаццатая серыя доследаў.

Л ю д м і л а. Ёсць, таварыш начальнік! *(Выходзіць да берага.)*

Т а ц ц я н а. Я апрацую інфармацыю ўчарашняга дня, зафіксую сілавыя лініі. Пал Цімафеевіч, чаму так дзіўна змяніўся характар дэфармацыі электрычнага поля?

П а в е л. Пакажыце характарыстыкі. Зразумелі нарэшце, што без матэматыка вам не абысціся? *(Бярэ ў Таццяны запісы.)*

З о я *(уздыхае).* Пал Цімафеевіч, вам сняцца сны?

П а в е л. Дарэмна, Зоінька. Матэматыка ўсемагутная! Любое ўзаемадзеянне можна запраграміраваць. Выкласці матэматычна.

З о я. А пачуцці як — колькасна або графічна?

П а в е л. Пачуцці? Хіба гэта штосьці рэальнае?

З о я. Чалавек здаўна імкнуўся матэматычна выказаць свае адносіны. «Павел плюс Зоя раўняецца»... І высякаў чарцёж — сэрца, праколатае стралой.

П а в е л. Бачыце... Калі Гаус прапанаваў...

З о я . Можна з ім гаварыць аб чым-небудзь, акрамя матэматыкі?.. Ты б палічыў, колькі мы недакахалі ў мінулым месяцы.

Павел паглыбляецца ў разлікі. Зоя падыходзіць бліжэй.

З о я *(буркае)*. Вазьмі на бераг. Вершы пачытаю.

П а в е л. Эксперымент нескладаны — спраўлюся адзін.

З о я. Таццяна, Павел просіць маёй дапамогі. Можна?

П а в е л. Уласна кажучы... Аднаму там зручней.

Бліснуўшы вачыма, Зоя паварочваецца, адыходзіць.

Т а ц ц я н а. Зоя, дзяжурыш па кухні і лагеры.

З о я. Ну, што ж. Я жанчына слабая, люблю падпарадкоўвацца. *(Напяваючы, адыходзіць убок.)*

Т а ц ц я н а *(Паўлу)*. Не разумею. Яна ж падабаецца вам.

П а в е л. Я падлічыў розніцу... Мне нават не трыццаць.

Т а ц ц я н а. Усе матэматыкі крыху таго...

З'яўляецца Л ю д м і л а, трымае перфастужку.

Л ю д м і л а *(са злосцю)*. Ні фіга не разумею! Адкуль гэтыя дабавачныя зубцы — забі мяне гром!

З о я. Самалёт не пралятаў?

Л ю д м і л а. Не, прыборы паказваюць — значна больш.

З о я. Можа, дзікія турысты на матаролеры? Вось і дае хібы.

Л ю д м і л а. Каго панясе ў гэтыя балоты?

Падыходзіць Павел, разглядае.

П а в е л. Дзяўчаты, біце мяне, рэжце — дзесьці недалёка працуе рухавік. З няспраўнымі свечамі.

Т а ц ц я н а. Тут? Адкуль?

З о я. Выбралі, называецца, запаведнае месца...

Т а ц ц я н а *(прыслухоўваючыся)*. Цішэй...

Чуецца гул рухавіка.

П а в е л. Ну вось, чатырохтактны. *(Радасна.)* Мужчыны!

З о я. Глядзіце — трактар!

Л ю д м і л а. Чорт бы іх пабраў! Ну я ім...

П а в е л. У мяне ж прыборы ўключаны! *(Паспешліва ідзе да лесу.)*

Шум набліжаецца, і раптам, рэзка зароўшы, рухавік змаўкае.

Л ю д м і л а. Самі ідуць? Цудоўна, цудоўна...

Т а ц ц я н а. Няўжо буравікі? Сарвуць доследы.

Л ю д м і л а. Гэта яшчэ паглядзім. Дэвіз парашутыстаў — ніколі, ні пры якіх абставінах не губляцца.

З'яўляецца С я р г е й, сімпатычны хлапец, які стараецца здавацца старэйшым, у спяцоўцы, доўгія, як у дзяўчыны, валасы, стракатая хустка на шыі.

З о я *(насмешліва)*. Дзяўчаты, ратуйце! Гэта ён мне сніўся...

Л ю д м і л а. Ты дала ёй дабавачную нагрузку?

Т а ц ц я н а. Не паспела.

З о я *(жартуючы)*. Страціце каштоўнага супрацоўніка.

С я р г е й *(з лянотай)*. Так, хто будзеце — турысты?

Л ю д м і л а. Гэта яны вітаюцца.

С я р г е й. Салют. Што робім — адпачываем?

З о я. А ён і гаварыць умее!

С я р г е й. Вось што, дочкі. На гэтым пятачку мы паставім буравую.

Л ю д м і л а. Толькі цераз нашы трупы.

С я р г е й. Адна, дзве, тры... Закажу тры труны.

Ляніва падыходзіць Д з я н і с з картай, з кветкай у зубах, у кішэнях тырчаць кнігі. Не па сезону цёпла апрануты, прастуджаны, часта карыстаецца насоўкай.

Д з я н і с *(пазіраючы на карту)*. Мір вам, добрыя лю... Апчхі... Даруйце. *(Сяргею.)* Так, гэта тут. Якая цудоўная панарама!.. Вунь там паставім домік.

Л ю д м і л а. Таварыш, вы інтэлігентны чалавек, напэўна, нават чытаць умееце. *(Паказвае на знак.)* Комплексная экспедыцыя па біёніцы.

З о я. Не гавары незразумелых слоў!

Л ю д м і л а. Пра заечую капусту чулі? Дык біёніка — гэта зусім іншае!

Д з я н і с *(усміхаючыся)*. Дзяніс Давыдавіч, інжынер-геолаг.

Т а ц ц я н а. Таццяна, начальнік экспедыцыі.

С я р г е й. А мы вызначаем запасы нафты. Растлумач таварышам іншаземцам папулярна.

Т а ц ц я н а. Вызначайце побач.

Д з я н і с. Спакойна. Беражыце нервы. *(Падносіць ёй кветку.)* Разумныя людзі заўсёды могуць дагаварыцца, так? Геолагі нам указалі менавіта гэтыя каардынаты.

Людміла. А біёлагі вызначылі, што менавіта ў гэтым унікальным возеры трэба праводзіць даследаванні.

Сяргей. Біялагіні? Гэта правільна, што каханне перадаецца вірусамі?

Таццяна. Амёбамі. Хлопцы, калі нафта толькі пад намі, а крыху ўбок яе няма, дык грош цана такому месцанараджэнню.

Сяргей. А гэта, валавокая, не наша справа. Заданне!

Дзяніс. Мінутку, Сяргей. Спецыялісты мяркуюць, што тут нафта бліжэй за ўсё падыходзіць да паверхні. А лішнія дзесяткі метраў — чагосьці варты.

Зоя. Нам бы яшчэ два-тры тыдні. Ну, хлопчыкі?

Сяргей. А хто нам будзе грошыкі плаціць?

Людміла. Калі пачынаеце работу?

Сяргей. Сёння. Можам даць час на зборы.

Людміла. Што?! Толькі дэмантаваць апаратуру — дзён пяць...

Зоя. Дэмантаваць. Рыбы памечаны звышадчувальнымі датчыкамі... А калі ўсё спачатку...

Сяргей. Дысертацыі кропаеце? Букашачкі, конікі... Што ж, гэта больш патрэбна, чым нафта.

Зоя *(Таццяне)*. Сказаць ім, што працуем... на космас? Шукаем шляхі зносін з іншапланетнымі сістэмамі.

Сяргей. А толку што? Вы нават нас, зямлян, зразумець не можаце.

Таццяна *(закурвае)*. Ёсць дазвол на работы?

Дзяніс *(закашляўся)*. Які дазвол? Пробнае бурэнне.

Таццяна. Гэта ж запаведнік. Знаёмыя з крымінальным кодэксам? *(Выпускае дым.)*

Дзяніс *(адмахвае дым)*. Вы можаце не курыць?!

Сяргей *(раздражняючыся, Дзянісу)*. Чуў? Яны ўжо хочуць зрабіць нас крымінальнікамі!

Дзяніс. Трэба высветліць.

Сяргей *(крычыць)*. Вечная неразбярыха! Колькі можна?

Дзяніс *(выходзячы з сябе)*. Я ж сказаў — разбяромся?! Мы ж не здабычу... Выяўляем запасы.

Сяргей. А што было ў мінулы раз? Дудкі! З мяне хопіць!

Таццяна. Мужчыны, спыніцеся.

Сяргей. Працаваць не буду! То ваенныя ледзь не падстрэлілі, то...

Таццяна. Можна без істэрык? Хто ў вас вырашае гэтыя пытанні?

Дзяніс. Аленкін, галоўны геолаг. Паехаў у мястэчка.

З'яўляецца Васіль, гігант, пад камбінезонам нацельнік, выцірае рукі анучай.

Васіль. Браткі, загараем. Паляцела шасцярня ў... *(Убачыў Людмілу, застыў з раскрытым ротам.)*

Сяргей. Хто паляцеў? Куды? Эй! Вася!

Васіль. Га?.. Шасцярня ў счапленні. *(Не адводзіць вачэй ад Людмілы.)* Мама міа... Божа...

Людміла. Веруючы?

Васіль *(збянтэжана)*. Я? Сапраўды, веру ў адну святую рэч...

Таццяна *(насмешліва)*. У што ж?

Васіль *(раптам смела)*. У гэта!.. З першага позірку!

Людміла. Сектант! Здаецца, пяцідзесятнік.

Таццяна. Раней у гэта верылі жанчыны.

Людміла. Дык вы не зможаце працаваць?

Васіль *(не адчуваючы падэсці)*. Ясная справа. Сталі на якары.

Людміла *(радуючыся)*. Як мы вам спачуваем!

Дзяніс. Добра. Прывязу счапленне.

Таццяна. Толькі ўлічыце — шкодзіць прыродзе не дазволім.

Дзяніс *(Сяргею)*. Ключ... Заадно чціва прывязу.

Дзяніс бярэ ключ ад усюдыхода, збіраецца ісці.

Таццяна. Гэй, мінутачку.

Дзяніс спыняецца.

Я з вамі. Павязеце да Аленкіна.

Дзяніс. Майце на ўвазе — сваіх рашэнняў Аленкін не мяняе.

Таццяна. Дзяўчаты, працягвайце работу. *(Людміле, нягучна.)* Паглядай за нашай авечкай... *(Дзянісу.)* Едземце!

Дзяніс. Хлопцы, пачынайце падрыхтоўку.

Дзяніс і Таццяна выходзяць. Уваходзяць Васіль з Сяргеем. Дзяўчаты прымаюцца за работу.

З о я. Ну і ахламоны! Ім бы ў цырку... Праўда, гэты... Стройны, як таполя!

Л ю д м і л а *(не адрываючыся ад прыбораў).* І такі ж разумны. Як гэта стройнае дрэва. А ты звярнула ўвагу — вочы ў гэтага... мядзведзя? Глыбокія, як вір...

З о я *(усміхнуўшыся, напявае).* Гэтыя вочы насупраць, ля-ля-ля-ля-лі...

Л ю д м і л а *(спачатку падпявае, затым усхопліваецца, рэзка абрывае мелодыю).* Хопіць лірыкі! Падумаеш — веруючы!.. Ну-ка, займі маё месца, бярозка! І каб без памылак!

З о я. А дзе ж Паўлік? Ён кепска плавае. Павел!.. Павел!..

## Карціна другая

Людміла спрабуе павярнуць цяжкую скрыню, але даецца ёй з цяжкасцю. Заўважае праходзячага В а с і л я, пранізліва свішча. Васіль здрыгануўся, павярнуўся. Людміла пальцам кліча яго.

Л ю д м і л а. Малы, колькі кілаграмаў ты зможаш падняць?

В а с і л ь. Ну, семдзесят... Чао!

Л ю д м і л а. Адна конская... Цудоўна. Бяры гэтую скрыню і цягні да берага. Так, асцярожна... Цяжка?

В а с і л ь. Калі вучыўся, на спіне плаваў. Першая спіна інстытута!

Л ю д м і л а. З галавой, як відаць, больш сціпла?

В а с і л ь. Як вам сказаць, дыплом з адзнакай...

Л ю д м і л а. Дэльфін ніколі б не стаў выхваляцца.

В а с і л ь. Дэльфін? Гэта імя?

Л ю д м і л а. Быў у мяне прыяцель на поўдні. Ласкавы, ветлівы, заўсёды ў добрым настроі... Увогуле, ідэал, да якога павінен імкнуцца кожны мужчына...

В а с і л ь. Хто вы такія?

Л ю д м і л а. Тсс! Шпіёны. *(Прымацоўвае правады да клемаў, ізалюе кантакты.)* Падслухоўваем чужыя размовы.

В а с і л ь. Па... хто тут можа гаварыць?

Л ю д м і л а. Тсс!.. Рыбкі. Унікальныя блакітныя рыбкі.

В а с і л ь. Санта Марыя! Хіба яны гавораць?

Л ю д м і л а. Верыш прыказцы «нямы як рыба»? Дык вось. Рыбы гавораць, маюць зносіны, папярэджваюць аб небяспецы... Цяпер паціхеньку, трымаючы за

вяроўку — справа гэта жаночая, але, можа, і ў цябе атрымаецца — апускай у ваду... Так, не дыхай... Гэтыя прыборы каштуюць больш, чым уся ваша тэхніка... Асцярожна!.. Ой, мядзведзь... Як усе мужыкі...

Васіль. Улоўліваю — не вельмі паважаеце мужчын.

Людміла. Які пранікліва! Ведаеш, на што вы годныя? Толькі на такую работу — цягні, валачы...

Васіль. Сакрамента! Усё лепшае, што створана ў свеце, гэта — наша, мужчынскае...

Людміла. Дэльфін ніколі б так не сказаў!.. Мілы, а хто падаваў ідэі? Архімед сам дадумаўся? У яго прыгожанькая рабыня... А Ньютан? Думаеш, ён адзін ляжаў пад яблыняй і глядзеў, як падаюць яблыкі? Цяпер Эйнштэйн! Прызнаўся ў каханні адной даме, а яна яму: «Ведаеце, Алік, усё ў свеце адносна...» Пайшоў з гора ў навуку, пачаў ламаць галаву над гэтай фразай...

Васіль. Адкуль, мудрая, як гаворыць Сяргей, такая антымужчынская настроенасць?

Людміла. З чаго ты ўзяў? Калі ў прыродзе гэта ёсць, як жабы, сараканожкі — няхай жывуць.

Васіль. Колькі смецця ў прыгожанькай галоўцы! *(Заўважае кнігу, бярэ.)* «Легенды аб амазонках»... Ваяўнічыя жанчыны? Абыходзіліся без мужчын?

Людміла. А жылі на поўдні нашай краіны,— мы там у экспедыцыі былі. Я лічу — гэта настольная кніга любой сучаснай жанчыны.

Васіль *(пацягнуў носам)*. Ведаю, што на абед гатуеце. Грыбны суп. Перац паклалі, цыбулю, пятрушку, кроп... Морквы малавата. *(Непрыкметна хавае кнігу за пазуху.)*

Людміла *(здзіўлена)*. Правільна!

Васіль. Любіце гатаваць?

Людміла. Цярпець не магу! У біёніцы — адкрываць і адкрываць... А кухня...

Васіль *(непаважліва)*. Вось, вось! Усеагульная сусветная тэндэнцыя — жанчыны гатуюць усё горш і горш. А я люблю паесці! Гурман, эстэт кавалка мяса!.. Што заставалася рабіць?

Людміла. Самому.

Васіль. Гэтак. Я дастаю найрадчэйшыя кнігі па кулінарыі, адшукваю ў часопісах вытанчаныя рэцэпты ўсіх часоў і народаў... Ведаеце, што любіла паесці Клеапатра? А палкаводзец Цімур? Кардынал Рышэлье?.. Сіньёры! Усё магу прыгатаваць! Толькі дайце

пячонку кракадзіла, салаўіныя язычкі і ныркі грымучай змяі.

Л ю д м і л а *(у захапленні).* Цудоўна!

В а с і л ь. Я нават дастаў... Не паверыце! Чулі пра кнігу рэцэптаў Сафі Ларэн? Ёсць! Скажу вам больш — спецыяльна вывучыў італьянскую мову! *(Напявае.)*

Юн кабальеро
Ин кабинетто
Пьето мадера
Оне монетто.

Гранде скандалио
Ин милициа,
Биа мордалио
Санта Лючия!..

Л ю д м і л а. Звар'яцець можна!

В а с і л ь. Дома ў мяне — батарэя соусаў, падліў, найрадчэйшых спецый... Не кухня — лабараторыя! Куды там жанчыне...

Л ю д м і л а. Ведаеце, каму я зайздрошчу? Вашай жонцы.

В а с і л ь. Ха! Калі было жаніцца? Або ў бібліятэцы шукаеш рэцэпты, або на кухні варожыш... над кавалкам мяса.

Л ю д м і л а. Цудоўна! Скажыце, а вы ныраць умееце?

В а с і л ь. У флоце пад вадой плаваў. Толькі вельмі глыбока... Разумееце?

Л ю д м і л а *(з захапленнем).* На атамнай?.. Вось гэта... Калі ласка, на той бераг. Дапамажыце выцягнуць невад.

В а с і л ь *(горда).* То-та! А як без мяне спраўляліся?

Л ю д м і л а. Лавілі на лузе коней, запрагалі.

Л ю д м і л а і В а с і л ь выходзяць. Ахоўваючы лагер, з паляўнічай стрэльбай праходзіць З о я. З'яўляецца С я р г е й з ручніком на плячы, ідзе за ёй следам, заблытаўся ў правадах.

З о я *(паварочваецца).* Стой! Буду страляць!

С я р г е й. Калі ласка! Як мне лепш стаць?

Падыходзіць П а в е л, забірае ў Зоі стрэльбу.

П а в е л. Дзякуй, дарагі. На паўдня работы.

С я р г е й. Даруйце. Зараз распутаюся...

Павел папраўляе правады, адыходзіць убок, але раўніва сочыць за Сяргеем. Зоя забаўляе рэўнасць Паўла, яна ўсміхаецца.

**Сяргей.** Гэта што — сілкі для мужыкоў?

**Зоя.** Асцярожна! Антэны... *(Дапамагае Сяргею распутацца.)*

**Сяргей.** Як жа прайсці да возера?

**Зоя.** Вунь па той сцежцы. Купацца?.. Людміла дослед праводзіць. *(Паглядзела на Паўла.)* Лепш мне дапаможыце, добра?

**Павел** *(Сяргею).* Хадземце, праводжу вас да ручая.

**Сяргей.** Дзякуй. Я перадумаў *(сядае на купіну).* Не сумна ў экспедыцыі?

**Зоя** *(какетліва).* Туга ў дажджы. Але і тады слухаем «Юнацтва», вершы чытаем. А пакуль укалваем ад світання да захаду.

**Сяргей.** Бялогія, значыць?

**Зоя.** Біёніка, калі дакладней. *(Робіць выгляд, што захоплена Сяргеем.)*

Павел нервова ходзіць, пазіраючы на Сяргея. Дастае патроны, разраджае іх, зноў устаўляе — як бы выпадкова хто-небудзь не выстраліў.

**Сяргей.** Біёніка... Так можна называць каханую.

**Зоя** *(з захапленнем).* А між тым гэта навука. Калі прасцей — выкарыстанне ведаў аб жывых сістэмах у тэхніцы. Біёніка, мой сябар, старая, як свет. Самі таго не ведаючы, ёю карысталіся многія. Глядзеў чалавек, як лятае сокал, і марыў пабудаваць такі ж лятальны апарат. Плаваюць рыбы? Ага! Пачаў думаць пра падводную лодку. Задумаўся — кажаны «бачаць» у цемры... Вынайшаў лакатар. А што наперадзе — страшна падумаць!

**Сяргей** *(любуючыся ёю).* Тэлевізар, спадзяюся, змайстравалі без усякага ўдзелу біёнікі?

**Зоя** *(інтымна).* І тут біёніка яшчэ штосьці падкажа, упэўнена.

Падыходзіць Павел, усміхаецца.

**Павел.** Жоначка, ноччу ты варочаешся, жорстка было спаць, пайду нарву мяккай траўкі, дарагая.

Чмокнуўшы аслупянелую Зою ў шчаку, **Павел** пакідае стрэльбу, выходзіць.

**Сяргей.** Вы... Вы замужам?

**Зоя.** Упершыню чую. Які нахабнік!

**Сяргей** *(паглядзеў на ружжо, на адыходзячага*

*Пайла, губляе да яе цікавасць).* А сяброўкі без спадарожнікаў, адны?

Зоя. Што такое два месяцы? У мінулым годзе на Чорным моры працавалі. З дэльфінамі. Паўгода! Адны дэльфіны... Яны, вядома, сімпацягі. Але...

Сяргей. Цяжкая рабацёнка?

Зоя. Цікавая. За Палярным кругам былі. Дзень, суцэльны дзень... Уяўляеце? Адзін гадзіннік затануў, другі сапсаваўся, і ўяўляеце, перасталі арыентавацца — калі спаць, калі працаваць... *(Смяецца.)* Жах! Добра, што побач ваенныя стаялі... За тры кіламетры бегалі час даведвацца...

Сяргей. Пастаянна ў экспедыцыях. Ну, а асабістае жыццё? Сям'я?

Зоя. Сям'я? Навошта яна сучаснай жанчыне? Дзіця патрэбна. А муж... Так лічаць дзяўчаты.

Сяргей. Вось гэта нумар!

Зоя. Вы пад якім сузор'ем нарадзіліся?

Сяргей. Не ведаю. У маі, пятага.

Зоя *(ускрыквае).* А!.. Аптымальны варыянт... Саюз Быка і Скарпіёна. *(Пільна разглядае Сяргея.)*

З'яўляюцца Таццяна і Дзяніс, за імі ідуць Людміла і Васіль, падыходзіць і Павел.

Таццяна. Аленкін уцёк у Мінск! Вось як! Дні праз два вернецца.

Дзяніс *(стомлена).* Паверце. Аленкін нічога не зменіць. *(П'е ваду.)* Кіпячоная?

Павел. Дзяўчаты, навошта нам псаваць кроў? Звернемся да заказчыка. Умомант уладзяць. Фірма больш чым салідная.

Людміла. Правільна! Тыя іх хутка ўціхамірацъ.

Таццяна. Дэманстраваць сваё бяссілле? Самі дагаворымся.

Людміла. Ох ужо гэтая гордасць!.. Усё жыццё пакутуеш з-за сваёй незалежнасці.

Васіль. Счапленне прывёз, дарагі сіньёр?

Дзяніс. Можаш ставіць.

Васіль *(паглядзеў на Людмілу).* Але... Калі? Заўтра.

Дзяніс. Пачнём падрыхтоўку. Хадземце.

Васіль. Цягаць на сабе? Грацыо! І так рукі баляць.

Дзяніс. Дзе гэта ты перапрацаваўся?

В а с і л ь. Правёў... разведку мясцовасці. *(Нягучна.)* Падабаецца Таццяна?

Д з я н і с. Што ты! Яна падобная на маю жонку. Былую.

С я р г е й. Браткі, з дзяўчынкамі — без цырымоній. Паменш сентыментаў. Зразумелі?

В а с і л ь *(неадабральна паківаўшы галавой).* Ты што?

С я р г е й. Пакуль я ў будатрадзе... Тры месяцы не змагла пачакаць!.. Таму што ён — грубы, нахабны!.. Вось такога мужлана трэба ў сабе выхоўваць!

Д з я н і с, В а с і л ь і С я р г е й выходзяць.

Т а ц ц я н а. Дзяўчаты — савет. Розуму не дабяру — што рабіць?

З о я. Падпаліць машыну! А хлопцаў перастраляць і на дно!

Дзяўчаты прапускаюць яе словы міма вушэй.

Т а ц ц я н а. І зусім бы нямнога, дзён дзесяць.

Л ю д м і л а. Бабачкі, а затрымаць іх работы можна інакш. *(Паўза.)* Вунь той, нязграбны, падобны да мядзведзя — мой.

З о я. Ну і густ!

Л ю д м і л а. Размова ідзе аб выратаванні работы! Можаце разыграць астатніх. *(Дастае манетку.)* Арол — Дзяніс. *(Падкідвае манетку, наступае нагой.)*

З о я *(заплюшчыўшы вочы).* Рэшка.

Дзяўчаты глядзяць на манетку.

Т а ц ц я н а *(уздыхае).* Дастаўся мне?.. Арол! Ну-ну...

З о я. Сяргей?! Гэта лёс!.. Бык і Скарпіён.

Л ю д м і л а. Рабіце выгляд, што захоплены імі. Біёніка — наша любімае дзіця. А дзеля дзіцяці маці ідзе на ўсё.

З о я. Грудзьмі абаронім біёніку! Каб забылі сваю нафту.

П а в е л. Вы што — звар'яцелі? Дзе вашы прынцыпы? Зоя!

Дзяўчаты рагочуць.

Толькі прашу вас — не рабіце бязглуздзіцы.

Л ю д м і л а. Мужчынская логіка... Ану, уключы магнітафон... Дзяўчаткі, наш баявы, рытуальны!

З о я. На штурм!

Т а ц ц я н а. На штурм, ваяўнічыя амазонкі!..

Дзяўчаты танцуюць баявы рытуальны танец амазонак.

## Карціна трэцяя

Побач з палаткамі экспедыцыі, дзе пануюць чысціня і ўтульнасць, цяпер уладкаваўся домік на колах буравікоў, тэрыторыя жудасна захламленая. Вялікі куст каліны раздзяляе сцэну на дзве часткі. Дапусцім, што адлегласць паміж лагерамі большая, чым дазваляе сцэна.

За столікам працуе Т а ц ц я н а. Шматлікія правады ідуць да пульта кіравання доследамі. Таццяна паглядвае на паказанні прыбораў, робіць запісы. Штосьці яе непакоіць. Таццяна недаўменна глядзіць на экран, потым на неба, аглядаецца. Рашуча падыходзіць да доміка, спатыкнулася аб кацялок. Падвязаўшы фартух, В а с і л ь па кнізе гатуе абед, прыгожа наразае цыбулю, з артыстызмам дабаўляе ў каструлю спецыі. Сяргей, напяваючы «Сама садик я садила, сама буду поливать...», вынаходліва мые бялізну, хоць няўмела выкручвае, вешае на дрот. Таццяна стукае ў сценку.

Т а ц ц я н а. Гэй! Што вы там робіце?

У дзвярах з'яўляецца Д з я н і с, працягвае вязаць світэр, спрытна арудуючы спіцамі.

Д з я н і с. Пачакайце... Сінус на косінус... І пастаянная... Так?

Т а ц ц я н а *(прыйшоўшы ў сябе)*. Вы?!

Д з я н і с. Ледзь скразняк — хаджу з насмаркам. Слаўная штучка, праўда? Махер.

Т а ц ц я н а. Але... папрасілі б старую.

Д з я н і с. Смяецеся? Глядзіце, які складаны рысунак... Вышэйшая матэматыка! І нервы добра заспакойвае.

Т а ц ц я н а. Расстроены?

Д з я н і с. З-за жонкі. Яна ў мяне любіла камандаваць...

Т а ц ц я н а. Вось што — зрабіце паўзу. Вы працуеце з махерам, а ў мяне на экране такія разрады! Быццам гром над галавой.

Д з я н і с. Вось гэта апаратура! *(Шэптам.)* Дазвольце спытаць — дыхаць можна?

Т а ц ц я н а. Калі вашы рэбры не рыпяць.

Д з я н і с. Спадзяяцеся, што Аленкін перадумае? Мая парада — перабірайцеся ў іншае месца. Машыну дам. *(Бярэ адвёртку, іншыя інструменты.)*

Т а ц ц я н а *(насцярожана).* Што вы збіраецеся рабіць?

Д з я н і с. Я хацеў... Ну добра. *(Кладзе інструменты назад.)*

Таццяна заўважае мальберт, падыходзіць.

Т а ц ц я н а *(здзіўлена).* Ваша мазня?

Д з я н і с. Спячая біялагіня. Пакуль яна загарала, я накідаў. Эскіз. Потым вышыю. Гладдзю, бадай.

Т а ц ц я н а. Чаму адно вуха?

Д з я н і с *(глядзіць на Таццяну).* Сапраўды. Але гэта вобраз. Уяўленне мастака.

Т а ц ц я н а. Вы і мастак? Асацыятыўнага рада не атрымліваецца.

Д з я н і с. Як можна не любіць жывапіс? *(Паказвае эскізы.)* Учарашні світанак... Семнаццаць адценняў налічыў.

Т а ц ц я н а *(здзіўлена разглядае, але стараецца здавацца абыякавай).* Прырода — лепшы мастак. Дрэва, абпаленае маланкай. Найтанчэйшы малюнак рагоў казулі... Вока філіна... Хадземце. Будзьце перад вачыма, інакш сарвецца дослед.

Падкрэслена іранічна развітаўшыся з хлопцамі, Дзяніс падняў рукі і ідзе перад Таццянай. Таццяна падыходзіць да прыбораў, надзявае навушнікі, уключае пульт.

Д з я н і с. У вас няма капелюша? Галаву напячэ. *(Таццяна падае хустку. Падумаўшы, Дзяніс завязвае.)* Скажыце... *(Таццяна прыкладвае палец да губ, працуе кнопкамі кіравання, засяроджана назірае за паказаннямі. Раптам здымае навушнікі.)*

Т а ц ц я н а. Вось! Зноў... Я ведала!..

Д з я н і с. Эўрыка?

Т а ц ц я н а. Глядзіце!.. Ёсць, аказваецца, яшчэ адзін шлях перадачы інфармацыі... Я даўно падазравала... Цяпер кантроль...

Д з я н і с. Прыемна ўсведамляць, што я маю дачыненне да адкрыцця.

Т а ц ц я н а. Ха-ха! Дазвольце закурыць?

Д з я н і с *(паморшчыўся).* Апантанасць у пошуку — цудоўна! Калі будзеце радавацца жыццю?

Т а ц ц я н а. Жыццё — такое разнастайнае... Сёння свята!.. Вам не зразумець.

Д з я н і с. Чаму ж? Калісьці пісаў дысертацыю. Тэма выдатная была! А потым... Сябры, кампанія... Ды

і здароўе вырашыў пабератчы. Куды спяшацца?.. У гэтай глухамані вы не бачыце мужчын.

Т а ц ц я н а. Мужчын? А што гэта такое?

Д з я н і с. Зноў калені ломіць, дождж будзе.

Т а ц ц я н а. Вы лічыце, што мужчыны яшчэ захаваліся?

Д з я н і с. Зараз пазнаю штосьці страшэнна цікавае.

Т а ц ц я н а. Ведаеце, калі былі мужчыны? Калі яны здабывалі агонь, забівалі мамантаў...

Д з я н і с. Хто ж цяпер? Ну і гарачыня! Дыхаць няма чым.

Т а ц ц я н а. Спачатку ён трымаецца за мамкіну спадніцу, а калі падрасце — учэпіцца за руку жонкі, як патанаючы...

Д з я н і с. Ясна, вымерлі — як маманты.

Т а ц ц я н а. Біёлаг робіць папраўку — выродзіліся.

Д з я н і с. За каго ж выйдзеце замуж?

Т а ц ц я н а. Гэтае шчасце ўжо мела. Няхай іншыя...

Д з я н і с. Адпусціце мяне ў цянёк, га?

Т а ц ц я н а. Ды не ныйце вы!..

Д з я н і с. Навошта курыце? Гэта ж шкодна...

Т а ц ц я н а. За Дзімкам мама глядзіць. Сама ў рабоце! Сумаваць няма калі.

Д з я н і с. Але часам па вечарах, калі адна...

Т а ц ц я н а. І ўдваіх бывае самотна.

Д з я н і с. Як вы церпіце гэтую спякоту? Спакусіў мяне чорт паехаць на прыроду... Мухі, камары... Працаваў бы ва ўпраўленні!

Т а ц ц я н а. Вы ж мужчына!

Д з я н і с. Даруйце, калі ласка... Вы з кім-небудзь сустракаецеся?

Т а ц ц я н а. Толькі не з халастымі. А то паходзіць, паходзіць і раптам з'явіцца з чамаданамі... З імі ой як трэба быць асцярожнай!

Д з я н і с *(ходзіць)*. Так! У чым жа наш недахоп?

Т а ц ц я н а. Перасталі хадзіць на мамантаў. Калі чалавек не ідзе на рызыку, не адчувае вялікіх нагрузак, ён драбнее.

Д з я н і с. Цудоўна! Перад вамі — перакананы халасцяк. І рады, што наша знаёмства не будзе мець вынікаў. *(Чыхае.)*

Т а ц ц я н а. Ужо гэта гарантую. Мы з сяброўкамі абяцанне далі — не заводзіць сем'і.

Д з я н і с. Штосьці мяне нудзіць.

Т а ц ц я н а. Божа! Ці не чакаеце вы дзіця?

Д з я н і с. Выбраўся сюды загартавацца. Ды і эцюдаў набраць. Ведаеце, гадзінамі магу глядзець на туманы, дажджы... Світанні...

Т а ц ц я н а *(з штучнай абыякавасцю)*. Пустое гэта.

Д з я н і с. Што вы! Сёння сонца купалася ў возеры... У такія мінуты... Самая змрочная душа прасвятляецца...

Т а ц ц я н а *(не адразу)*. Прыедзем у горад — адвяду вас у секцыю маржоў.

Д з я н і с. Маржыха?!

Т а ц ц я н а. Там большасць жанчын.

Д з я н і с. Але... гэта ж... бррр!..

Т а ц ц я н а. Нонсэнс! У моцны мароз адна непрыемнасць — вада хутка схопліваецца, і льдзінкамі можна парэзацца. Рыхтуйцеся, Дзяніс Давыдавіч... Адно імя засталося.

Д з я н і с. Дабівайце. Чаго яшчэ не хапае ў мужчынах?

Т а ц ц я н а. Галоўнага — баіцеся прымаць рашэнні і адказнасці пазбягаеце.

Д з я н і с. А дзе цяпер мужчына можа выхаваць характар? За яго ўсё распісана загадзя — дзіцячы сад, школа, інстытут... І калі ён да таго ж нарадзіўся... восьмага сакавіка... Ці можа ён быць шчаслівым?

Таццяна весела смяецца.

Т а ц ц я н а. Вось і кантроль пацвярджае — маю рацыю! Ура!

Д з я н і с. Але паслухайце, мудрэйшая, і мае прэтэнзіі да сучаснай жанчыны — прыглушваюцца адвечныя жаночыя якасці: адчувальнасць, мяккасць, гаспадарлівасць, цяга да ўтульнасці... Таму і эмацыянальны клімат сям'і становіцца больш жорсткім, рацыянальным, знікаюць нейкія паўтоны... Таму ў бедах цяперашніх сем'яў вінаваты і мужчыны, і жанчыны... Разам пашукаць бы выйсце. Га?

З'яўляецца П а в е л, за ім ідзе З о я.

П а в е л. Таццяна Мікалаеўна, на мінуту.

Таццяна падыходзіць да Паўла.

Таццяна Мікалаеўна, немагчыма лёс вашых даследаванняў ставіць у залежнасць ад настрою гэтых хлапчукоў.

Т а ц ц я н а. Што вы прапануеце?

П а в е л. Я еду ў Мінск.

Т а ц ц я н а. Можа быць, здолеем суіснаваць?

П а в е л *(разгортвае фотаплёнку)*. Бачыце штрыхі? Гэта іх тэхніка. Неадкладна адбываю ў сталіцу.

З о я. Ты нікуды не паедзеш.

П а в е л. Вырашаць трэба ў вярхах.

З о я. Тады вазьмі мяне з сабой.

П а в е л. Зоінька, я вярнуся, як толькі ўладжу гэта пытанне.

З о я *(мнагазначна)*. Ах, так! Ты яшчэ пашкадуеш! *(Адыходзіць убок.)*

Т а ц ц я н а *(Паўлу)*. А раптам яна мае рацыю? Хлапец настроены агрэсіўна.

П а в е л. У жыцці яшчэ будзе шмат развітанняў і шмат хлапчукоў. Калі я на тры дні не магу яе пакінуць...

Т а ц ц я н а. Едзем разам! *(Дзянісу.)* Што гэта за шум?

Набліжаецца Людміла, стаіць убаку, Дзяніс яе не бачыць.

Д з я н і с. Ставім буравую.

Т а ц ц я н а. Што?! Гэта ж катастрофа! Не атрымліваецца...

З о я. Яшчэ б! Мы лепшыя, больш разумныя, іранічныя... Хто ж на гэта клюне?

Падбягае Л ю д м і л а, позірк шалёны, жэстыкулюе.

Л ю д м і л а *(шумна дыхае)*. Вы тут балбочаце... А ён, бедалага, сцякае крывёю, рэбры перабіты.

Д з я н і с. Хто?

Л ю д м і л а. Ды Сяргей! З крана сарвалася штучка такая...

Д з я н і с. Што з ім?

Л ю д м і л а. А я што, доктар? Добра, што ляснік ехаў. У Жабінку адправілі, у бальніцу...

Д з я н і с. Дзе ўсюдыход? *(Шпарка выходзіць.)*

Л ю д м і л а *(падмігвае Таццяне)*. Едзь! Будзеце на шашы, скажаш — памылка...

Т а ц ц я н а і П а в е л убягаюць. З'яўляецца С я р г е й з ручніком на плячы.

З о я. А вас шукалі. З ног збіліся.

Сяргей. Хто?

Зоя. Аленкін у мястэчку. Тэрмінова наладзіў лятучку! Бяжыце, можа, паспееце.

Сяргей. Шаснаццаць кіламетраў?!

Зоя. Не раздумвайце. Будуць непрыемнасці.

Сяргей хапае ручнік, выбягае. З'яўляецца Васіль, трымае ў руцэ гаечны ключ.

Людміла. Бачыў?

Васіль. Каго?

Людміла. Хлапчук прыкаціў на веласіпедзе. Гаворыць, Дзяніс з усюдыходам засеў у Падліпках.

Васіль. Цьфу! Гаварыў жа — асцярожней...

Людміла. Трэба дапамагчы.

Васіль. А дзе гэтыя Падліпкі?

Людміла. Кіламетраў дваццаць. *(Паказвае напрамак.)*

Паківаўшы галавой, Васіль выходзіць.

А цяпер, у цішыні... Зойка, за работу!

## Карціна чацвёртая

Людміла і Зоя, напяваючы, з захапленнем працуюць. З'яўляюцца стомленыя, злыя Сяргей і Васіль, адзенне ў гразі, ваўком глядзяць на Людмілу.

Васіль. Та-ак!..

Сяргей. Так-так!.. Значыць, Аленкін у мястэчку наладзіў лятучку?

Дзяўчаты маўчаць.

Васіль. А Дзяніса куды вы падзелі?

Сяргей. Дзе Дзяніс?

Людміла. У Мінску.

Сяргей. У Мінску?!

Людміла. Я... Я, бадай, пайду працаваць на бераг. *(Мае намер пайсці.)*

Васіль *(з цяжкасцю перастаўляе ногі, з пагрозай)*. Пачакайце!

Людміла *(нясмела, з пяшчотнасцю)*. Слухаю вас.

Васіль. Я!.. Я... Я вам дапамагу.

Людміла і Васіль выходзяць.

Сяргей. Так стаміўся, што не засну. *(Падыхо-*

*дзіць да Зоі.)* Зноў другі колер? Спрытна! У сярэднія вякі за такую алхімію — на вогнішча!

З о я *(радасна)*. Праўда? Люблю вогнішчы! Глядзіш на агонь і ўяўляеш старажытныя, старажытныя часы...

С я р г е й *(паглядзеў убок)*. Забаўная ў вас сяброўка.

З о я. Людка! Яшчэ б! Нарадзілася, чартоўка, пад знакам Блізнят. Неўтаймаваны тэмперамент і непрадбачаныя рэакцыі.

С я р г е й. Такая агрэсіўная...

З о я. Гены ваеннага. Бацька — камандзір дэсантнікаў.

С я р г е й. Пад якім знакам нарадзіліся вы?

З о я *(уздыхае)*. Сузор'е Скарпіёна. А Танька, наш мазгавы трэст, пад Казярогам. Вы дакладна ў маі нарадзіліся?

С я р г е й. Па матэрыялах замежнага друку. Любіце казкі?

З о я. Гэта не казкі! Зоркі ўплываюць на нас. А наогул — абажаю таямнічае, загадкавае...

С я р г е й. Умееце захоўваць тайны?

З о я *(з цікавасцю)*. Магіла!

С я р г е й *(аглянуўшыся)*. Вы думаеце — я толькі тэхнік? Гэта практыка. Для адводу вачэй. *(Нягучна.)* Курсант дыверсійнай школы!

З о я. Чырвоныя берэты?! Я адразу адчула ў вас...

С я р г е й. Пасля заканчэння мяне пашлюць у краіну X. І патрэбен сябар, памочнік...

З о я. Калі гэта небяспечна — вазьміце мяне! Ведаю тры мовы.

С я р г е й. Мой профіль — лятаючыя талерачкі.

З о я. Дык яны існуюць?!

С я р г е й. Тсс!.. Дакладней — НЛА — неапазнаныя лятаючыя аб'екты.

З о я. Але я чытала... Ды як раскрытыкавалі!

С я р г е й. Зразумела! Спосаб засакрэціць.

З о я. Жах, як цікава! А вынікі?..

С я р г е й *(разводзіць рукамі)*. Ну, ведаеце... Магу толькі... Наш раён, вось гэты, вельмі спрыяльны для назірання ў за НЛА.

З о я. Ой, зараз памру...

С я р г е й. Мне паведамілі *(аглядваецца па баках)*, што менавіта сёння магчыма іх з'яўленне.

Зоя. Можна, я дапамагу вам назіраць?

Сяргей. Не тут! НЛА ніколі не прызямляюцца там, дзе відаць людзей. Гэта пацвярджае і амерыканская разведка...

Зоя. Абяцаю — нічым не выдам сябе!

Сяргей. І ні слова сяброўкам. Можна, абапруся? Так стаміўся...

Сяргей абдымае Зою за плечы, і яны выходзяць. З'яўляюцца Таццяна і Дзяніс, глядзяць ім услед. Таццяна мае намер вярнуць Зою.

Дзяніс. Паслухайце — яны ж не дзеці!

Таццяна *(робіць крок убок)*. Ой! Здалося, змяя...

Дзяніс. Вас палохаюць змеі? Пасля нарады ў Мінску...

Па сцяжынцы ідзе Людміла з кветкай у руцэ, а за ёй, сагнуўшыся пад цяжарам скрыні, з цяжкасцю перастаўляе ногі ўспацелы Васіль.

Людміла. Так, жонкі маіх сяброў чамусьці мае ворагі. А першы раман у мяне быў яшчэ ў першым класе — да шаленства закахалася ў настаўніка... І цяпер, як Снягурачка, кожную вясну кахаю зноў. *(Заўважае Таццяну.)* Танька! *(Кідаецца на шыю, цалуе.)* З прыездам, мілая! Ну як?

Таццяна *(закурвае)*. У Мінску ўсё завязла. Створана камісія па вывучэнню пытання, яна перадасць матэрыялы ў камітэт па ўзгадненню... Тыя ўвойдуць з хадайніцтвам... *(Уздыхае.)*

Людміла. Значыць, дзейнічаць самім. І актыўна!

Васіль спускае скрынку на зямлю, выцірае пот. З'яўляецца Іваніха, хітраватая пажылая жанчына з паштовай сумкай і бітонам, напявае: «Зачем вы, девушки, красивых любите...»

Іваніха. Вось, мае касатачкі, мае ластаўкі...

Таццяна. Добры дзень, бабуля.

Іваніха. Газеты, часопісы... Танька — пісьмо! І малачка прынесла... *(Пільна разглядае хлопцаў, вывучае.)*

Таццяна *(бярэ пісьмо, пошту)*. Дзякуй.

Людміла. Ну навошта ж малако носіце? *(Васілю, нягучна.)* І грошай не бярэ!

Іваніха. А вось яшчэ масліца... Сыр зраблю... *(Хлопцам, нечакана.)* Жанацікі?

Васіль адмоўна круціць галавой.

Бабнікі, алкаголікі?

Васіль *(пакрыўджана)*. Ну, што вы!

Іваніха *(задаволена паціраe рукі)*. Так! Люблю вяселлі. *(Перадае дзяўчатам яшчэ скрутак.)*

Людміла. Ой!.. Ну як, як мы вам аддзякуем?

Іваніха. Гляджу — худыя вельмі, падсілкавацца трэба. А то ўбачаць мае сыны... Якраз трое... *(Вывучае рэакцыю хлопцаў.)*

Дзяніс *(Таццяне, раўніва)*. Нядрэнна ўладкаваліся.

Іваніха *(Таццяне)*. Вось скажы праўду — што ў цябе ў жыцці такое здарылася, што ты курыш?

Таццяна *(усміхнулася)*. Што ва ўсіх, наіўных, рамантычных.

Іваніха. Ой, глядзі — Сцёпку майму гэта не спадабаецца!

Дзяніс. А іншым мужчынам падабаецца, калі жанчына курыць.

Людміла. Хіба ён прыехаў?

Іваніха. А як жа — вярнуўся з арміі. Ладны такі, прыгожы... «Я, матухна,— гаворыць,— яфрэйтар, і ты мяне пры народзе не цалуй». Дзіця!.. А Мішка з горада прыкаціў. На свята. І цябе, Людка, паглядзець хочу. *(Назірае за Васілём.)*

Людміла. Якое свята?

Іваніха. Вось моладзь... Купала!

Таццяна. Свята Івана Купалы?

Васіль. Дзяўчатам трэба спяшацца з работай.

Іваніха. Усё сяло рыхтуецца. Бегаюць, мітусяцца... Прыходзьце. Весела будзе... І хлопцаў убачыце!

Таццяна. У нас вось, ёсць... суседзі.

Іваніха. Ну што ты, дзіцятка, гэта ж — смаркі. Сапраўдныя толькі ў вёсцы. За іх выходзьце! Не пашкадуеце. Я са сваім век пражыла... Усё бывала, але задаволена! Душэўны! Ну, бывайце здаровы. *(Выходзіць.)*

Дзяўчаты, тоячы смех, разгортваюць газеты, нібы праглядаюць.

Дзяніс. Мы таксама маглі б, з вамі.

Васіль. З чаго ехаць? Наладзім свята! Я ведаю, як гэта — вогнішчы, вянкі, песні... А повар — хоць у лепшыя кафэ Рыма!

Дзяніс. Адсвяткуем разам? Тут.

Людміла *(Таццяне)*. Гэта ў нашых інтарэсах. Да таго ж тваё адкрыццё трэба адзначыць.

Т а ц ц я н а. Хлопцы, за вамі віно. Мы — астатняе.

В а с і л ь. Шашлыкі бяру на сябе! Пальчыкі абліжаце!

Д з я н і с. Вось гэта сабантуй!

Таццяна і Людміла ідуць да палатак.

В а с і л ь. Трэба пастарацца, каб дзяўчаты... Як там Аленкін?

Д з я н і с. У клініцы. Здаецца, з інфарктам.

В а с і л ь. Што?

Д з я н і с. Ну, не зусім. На нараду прыйшла ў шыкоўнай сукенцы, села нага за нагу, закурыла і гаворыць самым пяшчотным голасам, томна паглядзеўшы: «Я слухаю...» А потым наладзіла разнос. Ды які! Аленкін чырванеў, бялеў, зелянеў, стаў фіялетавым... Выклікалі «хуткую». Дзіўная жанчына!

В а с і л ь. Цуды! Пераапрануся і махну за мясам. Колькі напітку?

Д з я н і с. Пабольш. Мы мужчыны ці не?

Д з я н і с і В а с і л ь ідуць у домік.

Л ю д м і л а. Задача гэтага вечара — нейтралізаваць праціўніка. Крышачку хітрасці, томных уздыхаў, загадкавасці — і яны нам не перашкода!..

Т а ц ц я н а *(уздыхае)*. Ад Міхаіла.

Л ю д м і л а. Просіць вярнуцца?

Т а ц ц я н а. Моліць кінуць работу. Піша — усе беды з-за таго, што не бачу дома, пастаянна ў экспедыцыях...

Л ю д м і л а. Але мы, вядома, гордыя.

Т а ц ц я н а. Перастань! Сам жа зноў на зборах. Ох, гэты мужчынскі эгаізм.

Л ю д м і л а. Калі б гэта была не ты, даўно б адбіла. Такіх мужоў пашукаць... Падумаеш, апантаны гонкамі!..

Т а ц ц я н а. Я стамілася баяцца. Бачыла, колькі ў яго шрамаў? Хачу, каб у Зайчыка быў жывы бацька.

Л ю д м і л а. Сапраўдны мужчына павінен рызыкаваць!

Т а ц ц я н а. Зноў гонкі, машыны, зборы... А я люблю світанні... Ты ведаеш, Дзяніс малюе. І вельмі добра.

Л ю д м і л а. Я табе памалюю! Мама не пазнае.

Т а ц ц я н а. Дзяніс такі бездапаможны... Як дзіця. За ім глядзець, клапаціцца... Ёсць гэта ў нас, у ба-

бах... А Міхаіл — усё сам. Як спартанец... Хоць бы аднойчы захварэў!

Л ю д м і л а. Танька, ад жалю да кахання — адзін крок!

З'яўляецца З о я, быццам заваражаная, з дзіўнай усмешкай.

Т а ц ц я н а. Што з табой?

Л ю д м і л а. Яе спалохалі. Ваўка, мядзведзя сустрэла?

Т а ц ц я н а. Дзе ты была?

З о я *(хістаючыся)*. Тсс. Ваенная тайна. Ведаеце, як можна цалавацца?.. *(Бярэцца за талію.)* Нават схуднела... Але для эксперыментаў гэты ўжо небяспечны. Справа за вамі.

Л ю д м і л а *(не адразу)*. А Павел?

З о я. Дык я ж для агульнай справы!

## Карціна пятая

Вечар. Кветкамі, галінкамі і аерам — па народнаму звычаю — упрыгожаны лагер дзяўчат. Гарыць касцёр. Магнітафон іграе «Ой рана на Йвана» ў выкананні ансамбля «Песняры». Апошнія падрыхтаванні дзяўчат. Яны ў доўгіх вячэрніх сукенках — немагчымая раскоша для экспедыцыі. Але чаго не зробіш дзеля біёнікі?

Л ю д м і л а *(папраўляе сукенку, танцуе)*. Я танцаваць хачу... Я танцаваць хачу... Таццяна, ты вельмі пасіўная. А ад Дзяніса шмат залежыць.

З о я *(падыходзіць з талеркай да Таццяны)*. Не перасаліла?

Т а ц ц я н а *(каштуе)*. Перцу дабаў.

Л ю д м і л а. Пасля гэтага вечара станучь шаўковымі!

Т а ц ц я н а. Штосьці ў гэтым ёсць... нясмачнае.

З о я. Памятай пра біёніку! Дзяўчаты, прымусім іх цераз касцёр скакаць, а потым пойдзем шукаць кветку шчасця. Бабуля гаварыла, у гэтую ноч распускаецца папараць-кветка. Хто яе сарве, будзе шчаслівы доўга-доўга, усё жыццё...

Л ю д м і л а. Зойка, у цябе на твары ўсё напісана.

З о я *(танцуе з уяўляемым партнёрам)*. Дзяўчынкі, прабачце, я такая шчаслівая... Няўжо паспеем закончыць доследы? Тады мой даклад — на сімпозіум!

Т а ц ц я н а. Павел Цімафеіч гэтымі днямі прыедзе.

З о я. Ад Сяргея я не пачула ніводнай формулы!

Т а ц ц я н а. Дзе рака больш спакойная, там яна глыбейшая. Не прыспешвай яго. У трыццаць шэсць расстацца з халасцяцкім жыццём...

З'яўляюцца Д з я н і с і С я р г е й, нясуць авоську з бутэлькамі.

Д з я н і с. А вось і мы. Не затрымаліся? *(Дорыць Таццяне маляўніча вытачаную карагу. Таццяна не ўтойвае захаплення.)*

Л ю д м і л а. Што гэта?

С я р г е й. Дзе?.. А... Каньяк.

Т а ц ц я н а. Хіба прыйдзе... уся ваша брыгада?

С я р г е й. Ды не, ніхто не прыйдзе!

З о я *(нервова смяецца)*. А я спалохалася — гатавала на шасцярых.

Т а ц ц я н а. Але тады... Хто ж будзе гэта піць?

С я р г е й. Як гэта хто? Мужчыны! Вы дапаможаце.

Т а ц ц я н а. Столькі каньяку?

Л ю д м і л а. Як жа мужчыны адчуюць свята, калі няма алкаголю?

С я р г е й. Ды хопіць вам.

Л ю д м і л а *(весела)*. У мяне схавана бутэлечка шампанскага!

Паспешліва падыходзіць В а с і л ь, нясе шашлыкі.

В а с і л ь. Тэмпа, тэмпа! Шашлыкі застынуць.

З о я. Прашу да стала.

Т а ц ц я н а *(усміхнулася Дзянісу)*. Месца пад сонцам кожны выбірае сам.

С я р г е й *(Зоі, нягучна)*. Потым змыемся ўдваіх. Добра?

З о я *(хітра)*. Не сёння. Куды спяшацца?

С я р г е й *(холадна)*. Як хочаш.

Дзяўчаты і хлопцы рассаджваюцца на траве, вакол «стала», хлопцы наліваюць шклянкі.

В а с і л ь. Браткі,— няпоўную! На досвітку — за руль, а міліцыя тут — звяры...

С я р г е й. Налілі?

Т а ц ц я н а. Стоп, стоп! За што п'ём, хлопцы?

Маўчанне.

Д з я н і с. Мужчынскі тост: мір, дружба...

Т а ц ц я н а *(Дзянісу, жартаўліва)*. За знаёмства? М?..

Выпіваюць.

З о я. Паспрабуйце салаты. Запэўніваю — такі не каштавалі.

Т а ц ц я н а. Шашлык — цудоўны!

Л ю д м і л а. Смаката!

В а с і л ь. То-та ж! Жанчыны ў кулінарыі — дылетанты. *(Чокаецца з Людмілай.)* Чын-чын... Як у нас у Італіі...

С я р г е й. Пачакайце! На Усходзе гавораць — шклянку налей, кум! *(Налівае.)*

Т а ц ц я н а. Хлопцы, а вы не спяшаецеся?

С я р г е й. Мужчыны! П'ём за дам!

З о я *(з нечаканай смеласцю)*. Можна! *(Падстаўляе шклянку, Сяргей налівае каньяк, Людміла адбірае ў Зоі шклянку.)*

С я р г е й. Эге! Хто тут дэмакратыю заціскае?

Л ю д м і л а. Я вып'ю — не хвалюйцеся. Мы ж яшчэ цераз касцёр будзем скакаць. А вы на шэст узбірацца, бочку каціць... Ці зможаце?

С я р г е й *(глядзіць на яе пільна)*. Зможам. Пойдзем шукаць кветку шчасця?

Л ю д м і л а. Зоя верыць у гэту кветку.

С я р г е й. А язычнікі ў гэтую ноч мяняліся жонкамі.

З о я *(паспешліва)*. Раніцай убачым, як узыходзіць сонца. Яно ў гэты дзень, паводле падання, узыходзіць гуляючы. І вада ў возеры стане серабрыцца асаблівым падманлівым святлом.

Д з я н і с. Не зразумеў — за што п'ём?

З о я. Давайце за каханне! За каханне, якое робіць чалавека лепшым... Абуджае высакародныя пачуцці...

С я р г е й. Ды кіньце вы! Няма кахання! Няма! У тым выглядзе, у якім вы гэта разумееце. Што бога няма — ведаюць усе. А ў каханне яшчэ вераць!.. Уздыхацельніцы... А ўсё паэты! Навыдумвалі, нагарадзілі... Трыстаны, Ізольды, Рамэо, Джульеты... А ў жыцці?.. Тысячы, мільёны абыходзяцца без гэтай ілюзіі. Праўда, каб чалавек табе быў сімпатычны... І якія здаровыя дзеці ў іх нараджаюцца!.. А тыя, хто шукае рамантыкі, набіваюць шышку за шышкай... Ану іх, гэтых паэтаў! Па жыцці трэба ісці лёгка, не кахаючы.

В а с і л ь. А калі камусьці робіш балюча?

С я р г е й *(Васілю)*. Вы, дзяўчына, памаўчыце.

Д з я н і с. Каханне — гэта свабода. Не звязваць рук...

З о я. Якая свабода? Навошта? Калі я кахаю, то хачу даць больш, чым атрымліваю сама. Як сказаў Экзюперы...

Д з я н і с. Стоп! Самы час выпіць.

В а с і л ь. Браткі, думаю, вы памыляецеся.

С я р г е й. Ёсць прапанова спыніць спрэчкі. Галасуем шклянкамі. Суседачка?

Людміла адным махам выпівае каньяк. Дзяніс і Сяргей паморшчыліся, але выпілі. Васіль, Зоя, Таццяна прыгубілі.

В а с і л ь. Раніцай за абсталяваннем — зводьце.

С я р г е й. Дэзерціруеш?

Т а ц ц я н а. Хлопцы, увага! Мы пакажам зараз мюзікл. Не прафесіяналы выступяць тут, улічыце... Мінімюзікл.

С я р г е й. Міні? Цудоўна. Я гэтых максі, да пят,— цярпець не магу.

В а с і л ь. Вай-вай-вай!

С я р г е й. А што? Купала — свята язычаскае. А язычнікі ў гэтую ноч выкрадалі жонак...

Т а ц ц я н а. Паводле змовы з імі.

С я р г е й. Не абавязкова. І блукалі ў лесе, даруйце, у чым маці нарадзіла.

Т а ц ц я н а *(стараецца павярнуць у жарт)*. Мы не язычнікі. Дык вось. Першым нумарам...

С я р г е й *(настойліва)*. Пераапраніцеся ў міні... *(Налівае каньяк.)* Вы ж сучасныя, самастойныя.

Л ю д м і л а. Хлопцы, па-мойму, гэта занадта.

Сяргей штосьці шэпча Людміле на вуха. Людміла дае звонкую аплявуху.

С я р г е й. Ах так? Глядзі, дзёрзкая, што я з табой зраблю... Кіну рыбкам. На доследы.

Сяргей устае. Устае і Людміла.

В а с і л ь *(мае намер перашкодзіць)*. Сярога!

Т а ц ц я н а *(сілком усаджваючы Васіля)*. Сядзі. Трэба яго правучыць.

З о я. Сяргей!

С я р г е й. Адстань! Ідзі, шукай сваю кветку...

Сяргей набліжаецца да Людмілы, працягвае руку. Людміла маланкава праводзіць прыём... Сяргей ляжыць каля яе ног з вывернутай рукой і, сцяўшы зубы, стогне.

Л ю д м і л а *(адпускае руку)*. Прыбярыце гэта...

Д з я н і с і В а с і л ь бяруць С я р г е я і ўводзяць.

Т а ц ц я н а. Гэй! Бутэлькі захапіце.

В а с і л ь. Дзяўчаты, вы нас...

Л ю д м і л а. Знікні!

Д з я н і с *(засмучана).* Патопалі, героі...

Т а ц ц я н а. Сапраўдная мужчынская размова. Выпілі, «пагаварылі», пайшлі па дамах.

З о я. Яму кепска, я пайду...

Т а ц ц я н а. Толькі падумай...

Дзяўчаты сядаюць ля кастра, сумна спяваюць.

Л ю д м і л а. А ў вёсцы свята. Нас чакаюць.

Т а ц ц я н а *(глядзіць на бутэльку).* Выліць гэтую агіду ў возера?

Л ю д м і л а. Хочаш атруціць рыбу?

З о я *(бярэ шклянку).* Дайце мне выпіць! Дайце выпіць... Ну?!

Т а ц ц я н а *(дае ёй лёгкую аплявуху).* Заспакойся.

З о я. Ага! Дабіваліся эмансіпацыі? Цяпер расхлёбвайце! Хто вы — дамы сэрца, багіні?.. Слабы пол? Чорта з два! Свой хлопец!.. Чувіхі! На роўных! А калі так, можна і нахаміць, можна і ў морду... А мне гэта эмансіпацыя вось як абрыдла! Хачу быць жанчынай! Павагі, пакланення!.. Дзяцей выхоўваць!.. Га!..

Т а ц ц я н а. Пакуль будзеш толькі ў каханні, толькі ў шлюбе шукаць трываласць і спакой, застанешся з фігай. *(Падыходзіць да дзяўчыны, абдымае Зою адной рукой, Людмілу другой.)* Дзяўчаты, калі давядзецца туга, давайце збірацца разам... Не забывайце пра дружбу.

Дзяўчаты схіляюцца да яе галовамі.

З о я. Глядзіце, што ён... Божа, нават не язычнік. Значна раней...

Дзесьці побач чуваць крык Сяргея: «Улю-лю-лю-лю!..» Потым раздаецца крык, які падрабляе Тарзана, і, нарэшце, стогн: «Ма-ма!»

Л ю д м і л а. Дзікуны! Няма на іх Макаёнка.

Т а ц ц я н а. Са святам, дзяўчаты. Але як жа з доследамі?

Л ю д м і л а. Пачакайце, я ім наладжу салодкае жыццё!

З о я. Са святам, дарагія... А?! Мы іх выжывем!

Зоя ўключае магнітафон, і дзяўчаты дзёрзка, з выклікам, жорстка танцуюць.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна шостая

Раніца. Над домікам хлопцаў дзяўчаты прымацавалі транспаранты: «Алкашы, гоу хоум!», «Рукі прэч ад нашага возера». На мяжы паміж лагерамі трафарэт: «Забароненая зона. Страляем без папярэджання». А над палаткай плакаты: «Асцярожна! Геолаг падслухоўвае», «Балбатун — знаходка для геолага».
З глыбіні сцэны страявым крокам ідуць Таццяна і Зоя, у Зоі за плячыма ружжо. Людміла крочыць побач.

Людміла. Раз, два, раз, два... Аддзяленне — стой! Узвод — нале-ва!.. Рота — разыдзіся!..

Дзяўчаты разыходзяцца.

Хопіць. Няхай рыбкі таксама адпачнуць. Хадземце купацца.

Таццяна. Праверу сумарную электрычную актыўнасць.

Зоя падыходзіць да апаратуры, дапамагае.

Людміла. Як хочаце *(на хаду раздзяваецца).*

Таццяна. Гэй, купальнік забыла.

Людміла. Навошта? Раней жа плавалі...

Зоя. Але ж... агрэсары яшчэ тут.

Людміла. Для мяне яны не існуюць. *(Выходзіць.)*

Ля доміка Сяргей з кампрэсам на галаве ляжыць на раскладушцы і метадычна стогне. Дзяніс, хістаючыся, падыходзіць да Сяргея, змочвае кампрэс.

Сяргей. Дзянісушка... калі са мной... горшае... напішы маме... Ваш сын... па-геройску... на працоўным фронце.

З'яўляецца Васіль, шпурляе інструменты ў скрынку.

Васіль. Мярзотнікі! Добрыя вы былі!

Сяргей. Што гэта за чалавек? Дзяніс, хіба ён нас ведае?

Васіль. Дакаціліся. Як з'езджу прамеж вачэй...

Дзяніс *(кладучыся).* Ляжачых не б'юць. Жэнеўская канвенцыя.

Васіль. Як людзям паказацца? Сорам, ганьба!..

Сяргей. Упершыню ў жыцці... З кім не бывае?

Васіль. Упершыню?! Ведаю як аблупленага...

*(Налівае ў шклянку квас.)* Піце, гады, квас. Авось палягчае. *(Дзянісу.)* Ты-та ж чаго налізаўся? Не п'еш жа.

Дзяніс. Не хацелася тварам у гразь... Пры Тацяне.

Сяргей становіцца на карачкі, паўзе да Васіля.

Васіль. Ты што — хадзіць развучыўся?

Сяргей. Так... зручней.

Дрыжачымі рукамі Сяргей бярэ шклянку, п'е.

Дзяніс. Васечка, ты павінен пайсці і папрасіць прабачэння.

Васіль. Я?!

Сяргей. Табе гэта... больш бяспечна. *(Кранае плячо.)*

Васіль *(паказвае фігу)*. Бачылі?

Дзяніс *(засмучана)*. Да чаго ж яшчэ нізкая ў нас культура... Ударнік працы! Спартсмен... Хацелі яго рэкамендаваць... у Таварыства Чырвонага Крыжа... Донарам.

Васіль. Самі прасіце! *(Мае намер пайсці.)*

Дзяніс. Пастой! Нас на каго... Падводнікі сяброў у бядзе не пакідаюць.

Васіль. Папрацаваў — хачу выкупацца. *(Выходзіць.)*

Сяргей. Чаго гэта бабы ўз'еліся? Мужчына павінен быць грубым!

Дзяніс. Дужым. Ты пераблытаў. А сіла мужчыны — у адданым пяшчотным каханні да жанчыны.

Сяргей. Што-небудзь нарабіў? Так? Ні фіга не памятаю.

Дзяніс. Прыйдзецца прасіць прабачэння. За свінства.

Сяргей. Мне? Ніколі ў жыцці!

Дзяніс. Дзяўчаты добрыя. Такімі не кідаюцца.

Сяргей. Даўно адны, засумавалі. І першымі пойдуць на адступленне. Мужыкоў жа ў свеце менш!

Дзяніс. Уставай, мужык. Хлопнула шклянку каньяку — і хоць бы што! *(Здымае транспаранты над домікам.)*

Сяргей. Гераізм цяпер не ў тым, каб пайсці за жанчынай, а ў тым, каб адмовіцца ад яе.

Бягом вяртаецца Васіль, спыняецца, позірк шалёны, рот раскрыты ў дзіўнай усмешцы.

Зайчык, што яны з табой зрабілі?

Васіль. Ва... ва... ва... там... яна...

Сяргей. Акулы! Юнгу напалохалі.

Дзяніс. Бач, перакасіла. Як токам. Гэта ўсё Людміла!

Сяргей. А можа, маланкай? Ён жа нічога не бачыць. *(Здымае кампрэс са сваёй галавы, прыкладвае да лба Васіля.)* Бяда з гэтымі нявіннікамі.

Дзяніс. Марачок, ідзём каяцца.

Васіль. Я... нікуды... не пайду!

Сяргей. Не бойся, мілы. Выкруцімся на гумары. Можа, узяць з сабой бутэльку... кветак?

Падхапіўшы Васіля пад рукі, Дзяніс і Сяргей накіроўваюцца да дзяўчат. Дзяніс прымацоўвае да палкі насоўку і ўзнімае, быццам флаг, над галавой.

Дзяніс. На ўсякі выпадак...

Сяргей. Добрай раніцы, дзяўчаты! Такі прыемны дзянёк!

Дзяўчаты не рэагуюць.

Дзяніс. Рыбы і тыя гавораць адно з адным.

Маўчанне.

Дзяніс. Ці вы хочаце падтрымаць шкодную тэорыю аб некамунікабельнасці?

Вяртаецца Людміла, на хаду зашпільвае гузікі. Васіль робіць спробу ўцячы, але хлопцы моцна яго ўтрымліваюць.

Дзяніс. Добрай раніцы, дарагая суседачка!

Людміла. Адкуль гэтыя інваліды?

Сяргей. Просім, добрая, прабачэння. З намі ўчора няшчасце...

Людміла. Няшчасце?!

Сяргей. Ну, не разлічылі... Даруй, о дзіўнабяздзёрая!..

Людміла. Убірайцеся! Перашкаджаеце працаваць.

Дзяніс. Мы з мірам, а вы... Злосць не ўпрыгожвае жанчыну.

Людміла. А што ўпрыгожвае мужчыну? Зматвайцеся!

Сяргей. Дык што — вайна?

Людміла. Пакуль жывыя, увалаквайце домік.

Васіль. Людміла, я-то...

Людміла. Калі б раніцай не трэба было за руль, напэўна, набраўся б... Перасяляйцеся ў вёску.

Васіль. Людміла!..

Людміла *(падыходзіць, падштурхоўвае кожнага)*. Даю дваццаць чатыры гадзіны. На ўпакоўку, перавозку. Інакш...

Сяргей. Ультыматум? Добра! Хацелі па-добраму...

Людміла. Дзяўчаткі, час капаць акопы.

Хлопцы накіроўваюцца да доміка. Дзяніс суе руку ў кішэню і раптам дастае адтуль жабу, кідае яе. Сяргей ускрыквае — з-за пазухі дастае вужа, у жаху шпурляе, стаіць бледны, з дрыжачымі губамі.

Сяргей. Што ж гэта, браткі?

Васіль. Вайна. Біялагічная.

Сяргей. Я гэтых стварэнняў — больш за смерць баюся... Ах так? На вайне — як на вайне!..

Дзяніс. Ваяваць? З такім мілым праціўнікам? Здамся. У першым жа баі!

## Карціна сёмая

Сяргей, напяваючы, гатуе юшку. Васіль сядзіць убаку, трымае ў руках агрэгат, рамантуе. Але перд ім раскрытая кніга, з захапленнем чытае.

Сяргей *(напявае)*. «Кто врёт, что мы, брат, пьяны...» Такую юшку толькі каралі елі! Пах які, га? М-м!.. Што гэта ты за самаадукацыю ўзяўся? Кніга за кнігай! І аблізваецца? Паслухай, давай уголас! Што я — на сябе аднаго гатую?

Васіль. Гэтую рыбу я есці не буду.

Сяргей. Чаму? Думаеш, о дзіця, яны толькі доследы праводзяць?

Васіль. Ты выцягнуў яе з іх сетак.

Сяргей. У стане вайны! Чытай.

Васіль *(чытае)*. «Фалестра, царыца амазонак, з'явілася да Аляксандра Македонскага ў суправаджэнні толькі трохсот узброеных амазонак і сказала:

— Я прыбыла, каб мець ад цябе дзіця. З усіх мужчын ты здзейсніў найбольш вялікія подзвігі, і няма вышэй за мяне жанчыны па сіле і храбрасці. Трэба меркаваць, што ад двух такіх выдатных людзей народзіцца дзіця, якое пераўзыдзе ўсіх смяротных.

Аляксандр прыняў прапанову Фалестры і, правёўшы з ёю трынаццаць дзён, адпусціў яе з вялікімі падарункамі».

Сяргей. Эх, былі жанчыны! Слухай, а што ты чытаеш?

Васіль. «Легенды пра амазонак». Хачу зразумець тактыку нашага праціўніка. Інакш вайну нам не выйграць.

Сяргей. Дык вось адкуль!.. Ну-ну, чытай.

Васіль. Вось што піша Герадот, грэчаскі гісторык: «Грэкі перамаглі амазонак і, захапіўшы іх у палон, адправіліся на трох суднах назад. У адкрытым моры палонныя амазонкі напалі на мужчын, перабілі іх, а затым прысталі да зямлі скіфаў. Сышоўшы з караблёў, амазонкі авалодалі табуном коней і пачалі грабіць скіфскія ўладанні. Скіфы пажадалі мець ад гэтых жанчын дзяцей і з гэтай мэтай, выбраўшы, прыкладна, столькі сваіх юнакоў, колькі было амазонак, загадалі юнакам стаць лагерам побач з амазонкамі і пастарацца...» Што гэта гарыць?

Сяргей. Рыба! Ой! Царская рыба падгарэла... Ай-ай-ай!.. Ну, нічога, сёе-тое можна і з'есці... Пакуль астыне, чытай.

Васіль. Гэта табе нельга, маленькі... ага, тут можна: «Ёсць у амазонак два любімыя месяцы вясной, калі яны падымаюцца на суседнюю гару, якая аддзяляе іх ад племя гаргарэяў. Апошнія таксама, па старажытнаму... звычаю падымаюцца на гару, там прыносяць разам з амазонкамі ахвяры і ўступаюць з імі ў сувязь з мэтай стварэння патомства. Дзяўчынак амазонкі пакідаюць у сябе, а хлопчыкаў адносяць гаргарэям на выхаванне. Такім чынам, у гаргарэяў з амазонкамі толькі агульныя дзеці, жывуць жа яны раздзельна. Амазонкі не жадалі і думаць аб шлюбных сувязях з суседзямі, называючы такія сувязі рабствам, а не шлюбам».

Сяргей. Падобна на нашых. Ідзі еш.

Васіль. Я сказаў — не буду.

Сяргей. Як хочаш. *(Есць.)* Смаката! Жанчына ніколі так смачна не згатуе!

Васіль. Паслухай. «Усім ім у дзяцінстве выпальваюць правую грудзь для таго, каб яны маглі без перашкоды кідаць кап'ё і страляць з лука».

Сяргей. Прапануй гэта суседкам.

Васіль. «Яны ўладарнічаюць над мужчынамі,

выкарыстоўваючы іх толькі для нізкіх хатніх спраў».

С я р г е й. О! З таго часу мала што змянілася.

В а с і л ь. «Амазонкі ездзяць вярхом на паляванне і на вайну і носяць аднолькавае з мужчынамі адзенне. Адносна шлюбаў захоўваецца ў іх наступнае правіла: ні адна дзяўчына не выходзіць замуж, перш чым не заб'е трох ворагаў; некаторыя дажываюць да старасці дзяўчынамі, таму што не маглі выканаць гэта патрабаванне».

С я р г е й. Трох ворагаў? Васечка, нас жа трое! На ноч — ахову... Ай... *(Хапаецца за шчаку, дастае з рота кавалачак металу.)* Жалеза напіхалі!.. Цьфу!..

З'яўляецца Л ю д м і л а. Васіль хавае кнігу.

Л ю д м і л а. Хто вылавіў нашу рыбу ў загародку?

С я р г е й *(ветліва)*. Адкуль нам ведаць? У рыбак спытайце. Яны вам усё раскажуць.

Л ю д м і л а. Дык гэта не вы?

С я р г е й *(мякка)*. Мы б не адважыліся.

Л ю д м і л а. Слава богу. А то я іх начыніла мечанымі атамамі.

С я р г е й. Гэта што — радыёактыўнымі?

Л ю д м і л а. Зразумела.

Сяргей прыкладае руку да жывата, павольна асядае.

С я р г е й. Забойцы! Агрэсары! Вы б адразу напалм на мяне кінулі... Ой!.. Ой!.. *(Адыходзіць, трымаючыся за жывот.)*

В а с і л ь. Ты куды?

С я р г е й. На могілкі.

Л ю д м і л а. Калі не ўберацеся, абяцаю вам вясёлае жыццё.

С я р г е й. Падумаеш — амазонкі!

Л ю д м і л а. Але ж і вы — не скіфы.

С я р г е й *(грозіць пальцам)*. Ну, заяц, пачакай! *(Выходзіць.)*

Л ю д м і л а. Ага! Вось дзе наша кніга! Вы яшчэ і зладзеі...

В а с і л ь. На «вы»? *(Перадае кнігу.)* Па мне гэтай атруты... Ды згарыць яна!

Л ю д м і л а. Вось-вось! А сябрукі сказалі — Вася, кораш, пабольш гарэлкі! І прывалок. Паспрабаваў гэты аболтус мяне... У ваду, а Вася маўчыць!

В а с і л ь. Мне Таццяна...

Л ю д м і л а. Добра! Трэба, птушанё, змагацца са злом. Нават калі гэта зло ў тваіх сябрах.

В а с і л ь. Нядрэнныя яны, далібог. Накіп! Калі б не перапілі... Мужчынамі сябе хацелі паказаць!

Л ю д м і л а. Пакінь! Як — вы жывеце? Адпрацавалі, грошыкі ў кішэню, а потым? Гарэлка або бабы?

В а с і л ь. Дык што, па-твойму, у дом барахло скупліваць, тапіцца ў мяшчанстве?

Л ю д м і л а. Мяшчанства — калі гэта самамэта. Што чытаеце? Аб чым спрачаецеся? Імкнецеся да чаго? Інтэлігенты! Няма куды грошай дзяваць — махнуў бы... Столькі цікавага ў свеце...

В а с і л ь. Людміла, ты... Вось тут зачапіла!.. Я нікога... Ні да флоту, ні пасля... І ты... Для мяне... На ўсё гатовы!

Людміла пазяхае, пацягваецца.

Перастань пазяхаць!..

Л ю д м і л а. Даруй, калі ласка. Калі мне прызнаюцца, заўсёды на сон цягне.

В а с і л ь. Дай тэрмін, выпрабавальны.

Л ю д м і л а. Мне дзіцячы сад не патрэбен.

В а с і л ь. А дэльфініха даўно б зразумела... *(Хутка выходзіць.)*

Л ю д м і л а *(задумліва)*. Няўжо... і гэты на могілкі?

Прыбягае З о я.

З о я. Людка! Сяргей спіліў дрэва, з якога мы вялі назіранне. Гаворыць, сабе на труну... І за жывот трымаецца. Га?

Л ю д м і л а *(памаўчаўшы)*. Не, сілай мы іх не адолеем. Хітрасцю! *(Здымае трафарэт «Забаронная зона. Страляем без папярэджання», на адваротным баку піша крэйдай: «Сардэчна запрашаем, геолаг!»)* Зразумела?

Зоя адмоўна круціць галавой.

Патрэбна... вяселле. Гэта іх адцягне. Выйграем столькі часу.

Зоя паказвае на скроню.

Не палохайся — фіктыўнае. *(Уздыхае.)* Біёніка патрабуе ахвяр. Такім чынам, патрэбны добраахвотнікі.

## Карціна восьмая

Поўнач. Дагарае касцёр у стане дзяўчат. Таццяна слухае ля транзістара апошнія навіны. Л ю д м і л а глядзіць на касцёр. Зоя спіць у палатцы. Ля доміка В а с і л ь і Д з я н і с гуляюць у шахматы.

З гітарай С я р г е й праходзіць каля палатак, накіроўваецца да ўзлеску.

С я р г е й *(спявае)*. «Милая, ты услышь меня, под окном стою...»

Л ю д м і л а *(Таццяне)*. Арфей! А мілая дрыхне. І ў сне бачыць Паўла.

С я р г е й *(спявае)*. Живет моя отрада в высоком терему, а в терем тот высокий нет хода никому...»

З палаткі ў халаце вылязае З о я. Заплюшчыўшы вочы і выцягнуўшы ўперад рукі, яна ідзе да Сяргея.

Т а ц ц я н а. Зоя! Здрадніца!

З о я *(хутка)*. Не будзіце мяне! Я лунацік... *(Выходзіць, паправіўшы прычоску.)*

Т а ц ц я н а. Кашмар. Твая ідэя фіктыўнага вяселля да дабра не давядзе.

Л ю д м і л а. Паглядзім. Калі не знойдзецца нявесты-добраахвотніка — давядзецца цягнуць жэрабя.

Гітара замаўкае.

Т а ц ц я н а. Гэта ўжо прымус! Мяне яшчэ ні разу не білі.

Л ю д м і л а. Нам работы на некалькі дзён.

Т а ц ц я н а *(раптам)*. Ёсць, ёсць добрыя хлопцы!

Л ю д м і л а. Але як мне, вечна занятай жанчыне, іх знайсці? Божа! Калі нарэшце створаць бюро шлюбаў? Запоўніла анкету і чакай... Электроніка падкажа.

Т а ц ц я н а. Але вось бяда. Хто пра сябе ў анкеце скажа праўду?

Л ю д м і л а. Дам аб'яву ў газету: «Ваджу аўтамабіль, езджу вярхом, плаваю, гуляю ў тэніс. Шукаю для магчымага шлюбу маладога чалавека, які ўмее гатаваць».

Т а ц ц я н а. П'янееш ад паху траў... Кроў стукае ў скронях...

Л ю д м і л а. Ай! Электроды не выняла. *(Устае, марудзіць.)* Ідзі пафліртуй з Дзянісам. Калі заўтра пачнуць бурэнне... Гэта канец.

Т а ц ц я н а *(паківаўшы галавой).* Рызыкоўна. Ён лепшы, чым я думала. Прыроду тонка адчувае...

Л ю д м і л а. Паслухай! Калі Васіль да раніцы будзе хадзіць са мной... Ці зможа заўтра працаваць? Яшчэ дзянёк наш!

Людміла падыходзіць да доміка. Васіль устае.

В а с і л ь. Туман над возерам!.. Падобна на дэкарацыю... Вы любіце тэатр?

Л ю д м і л а. Не. Там трэба добра сябе паводзіць. *(Пасля паўзы.)* У мяне... прыборы на плыце. Адной цяжка.

В а с і л ь. Н-н-на плыце?

Л ю д м і л а *(шэптам).* А потым я чакаю цябе на могілках!

В а с і л ь. На могілках?!

Л ю д м і л а. Цішэй! Ля капліцкі. Так больш рамантычна...

В а с і л ь, выціраючы пот з ілба, выходзіць за Л ю д м і л а й. Дзяніс глядзіць у бок Таццяны. Заўважыўшы гэта, Таццяна ідзе ў палатку, залязае, занавешвае полаг.

Д з я н і с. Зводка — страты з абодвух бакоў роўныя... *(Ідзе ў домік.)*

У промні святла, з'яўляюцца З о я і С я р г е й. Ён спрабуе абняць, але дзяўчына адхіляецца.

З о я. Скажы што-небудзь.

С я р г е й. А што гаварыць?

З о я. Вершы пачытай.

С я р г е й. Так адразу не ўспомніш.

З о я. Птушкі крычаць, не спяць.

С я р г е й. Чорт з імі, з птушкамі. Ідзі да мяне.

З о я. Навошта?

С я р г е й. Ну, ведаеш! Дасціпней пытання не знайшлося? *(Зноў спрабуе абняць, Зоя адхіляецца.)*

З о я. Ты мяне кахаеш?

С я р г е й *(уздыхае).* Яшчэ як — у сто мегатон.

З о я. За што?

С я р г е й. Мільёны мужчын развяліся таму, што жанчыны спрабавалі высветліць, за што іх кахаюць.

З о я. Ідзі. Няхай Людка злуецца, але я... Не, не!

С я р г е й. Магу я ведаць — што здарылася?

З о я *(не адразу).* Нічога. Проста не хачу без кахання.

Сяргей *(уздыхае)*. Каханне! Каханне!.. Ты жывеш у выдуманым свеце! Спусціся на зямлю!

Зоя. Ёсць на зямлі каханне.

Сяргей. Я лепш ведаю, што жанчыне трэба.

Зоя. Павел ніколі б так... Не тое, не тое, і ты не той...

Сяргей *(смяецца)*. Я?! Ну, ведаеш...

Зоя. Не ўмееш кахаць... І тады... Радзімкі мае не цалаваў.

Сяргей. Родзімкі? А дзе яны?

Зоя. Дзе яны...

Сяргей. Але гавораць, ад гэтага рак можа... Ты плачаш?

Зоя. Не за сябе... Мы чакаем вас... *(Страсна.)* Мы так чакаем вас, Сярожа! Шмат гадоў. Як свята! А вы... Не тое. Міраж... Лятаючыя талерачкі.

Сяргей. Чокнутая. Што я табе зрабіў?

Зоя. Мне — нічога. Але мы чакаем... У сне бачым... А вы ходзіце — шэранькія, з вузкалобым інтарэсам... Ведаеш, што высякаў на камні дзікун, першабытны чалавек? Не галаву, не вочы жанчыны, а, мякка кажучы, сцёгны... *(Капіруе, утрыруючы.)* «Чорт з імі, з птушкамі! Ідзі да мяне!» Разумееш? Чорт з імі, з птушкамі, кветкамі, каханнем, пяшчотнасцю... І што застанецца? Бывай. Людка мяне з'есць.

Зоя выходзіць. Сяргей доўга глядзіць ёй услед.

## Карціна дзевятая

Поўдзень. Скруціўшыся калачыкам і прыціснуўшы да грудзей падушку, з усмешкай спіць Васіль. Дзяніс і Сяргей, абматаўшы сцёгны ручнікамі, шукаюць штаны пад домікам, за кустом — усюды, дзе можна штосьці схаваць.

Дзяніс. Пойдзем працаваць без штаноў.

Сяргей. Гэй вы! Дыверсанты! Гангстэры! Паўцарства за штаны!

Людміла *(Таццяне)*. Адразу столькі камплімtotаў?

Таццяна. Гэты ўбор ім да твару. Але штаны аддай.

Людміла. Навошта? Будуць цягнуцца за намі.

Зоя. Калі ракетчыкі нам палічаць... За ўсю экспедыцыю?

Л ю д м і л а. Палкоўнік сказаў, што для іх тэхнікі гэта дробязь.

Т а ц ц я н а. Хлопцы зразумеюць гэта па-свойму.

Л ю д м і л а. Часам карысна выклікаць рэўнасць.

Т а ц ц я н а. Ох, Людка! Не знасіць табе галавы.

Л ю д м і л а. Манеўр і абход — зброя дэсантніка... Яны дагэтуль не пачалі бурэнне. Усё рыхтуюцца! Чыя заслуга?

Т а ц ц я н а. Сеткі расставіла. Але ці не трапіла сама?

С я р г е й *(хмура)*. Калі ён прыйшоў?

Д з я н і с. Позна. Гэта значыць рана. Раніцай.

С я р г е й *(штурхае Васіля)*. Гэй! Штаны ўкралі!

Д з я н і с. Чаго такі злосны? Ходзіш, як прыбіты.

С я р г е й. Пара змывацца. Адчыняю дзверы — вылятае казуля... Лёг спаць — адразу на вожыка... А сёння за каўнерам штосьці шкрабае — паглядзі, не кляшчы?..

Д з я н і с *(усміхаецца)*. Заспакойся. Біялагіні працуюць.

С я р г е й. Хачу штаны! Хіба па канстытуцыі мы не маем роўных правоў з імі! *(Глядзіць у бінокль.)* Зноў дыверсію задумваюць! Глядзі!.. Не, больш я тут... Паслухай, мы ўсё рыхтуемся, рыхтуемся... Надакучыла! Калі бурыць пачнём?

Д з я н і с *(памаўчаўшы)*. Калі паправіцца Аленкін.

С я р г е й. Ты цяпер галоўны.

Д з я н і с. Я ўважліва перачытаў новы закон аб ахове прыроды... Не, сібірскі клімат не для мяне. Пачакаем Аленкіна... Сапраўды, праціўнік штосьці задумаў. Ажыўленне ў стане, спяшаюцца доследы закончыць.

С я р г е й. Сукенкі рыхтуюць. Навошта? Га? *(Ледзь не плача.)*

З'яўляецца І в а н і х а з бітонам, напявае.

Д з я н і с. Бабуля, вы куды?

І в а н і х а. А, гультаі... Пошту дзяўчатам нясу. Яйкі, малако. *(Здзіўлена разглядае ўбор хлопцаў.)*

С я р г е й. А туды... Зараз нельга. Яны бомбу ўзрываць будуць. Невялікую, вадародную.

І в а н і х а *(хрысціцца)*. Ай-ёй! От дзякуй, сынкі, што сказалі. А навошта гэта?

С я р г е й. Эксперымент.

І в а н і х а. Во, дзеўкі! Мужыкі дрыхнуць, а яны

жыццём... Маладыя, даўганогія, смелыя... Гляджу і зайздрошчу! У іх гады ўсю вайну ў адным шынельцы... Добра, што яны не пазналі партызаншчыну... Калі паясі, а калі... Заечай капусткі пажуеш... Прыхілішся да сасёнкі, вінтовачку ў рукі і дрэмлеш... Адным вокам. Што ж не ўзрываюць?

Д з я н і с *(не ведаючы, як знайсці выйсце са становішча).* Рыхтуюцца.

І в а н і х а. У вёсцы шум такі... Хацелі коней на выстаўку, а ім хтосьці грывы абрэзаў. Не вы?

С я р г е й *(пакрыўджана).* Мы шыньёнаў даўно не носім.

І в а н і х а. Адну для Мішкі прыгледзела, а каго Сцёпка выбера... Няхай сам. Хачу дзяўчат у госці запрасіць.

Д з я н і с. Бабуля, можаш пакінуць бітон. Мы перададзім.

І в а н і х а. Праўда? Вечарам няхай прыходзяць. *(Глядзіць на ручнікі.)*

С я р г е й. Новая мода. Ідзі вунь туды. Толькі прыгніся. І калі што — падай.

І в а н і х а. Ахламоны! З-пад носа дзяўчат увядуць...

Весела паківаўшы галавой, І в а н і х а пакідае пошту, бітон, выходзіць.

Д з я н і с. Дзяўчатам — ні слова! Пойдзем у разведку. За «языком».

С я р г е й. Я?! Нізашто! Заб'юць!

Д з я н і с *(штурхае Васіля).* Прачніся. Ёсць справа.

В а с і л ь *(не расплюшчваючы вачэй).* Дай... дагледзець... сон...

Д з я н і с. Ну і войска ў мяне!

С я р г е й. Глядзі! Ідзе Людміла! *(Уцякае.)*

Д з я н і с. Разумею — едуць на спатканне да ваенных!

В а с і л ь *(прачынаючыся).* Якіх ваенных?

Д з я н і с. Да ракетчыкаў. Учора тут былі. Аперацыя «Танцы».

Да хлопцаў падыходзіць Л ю д м і л а, яна ў касцюме са штанамі, разглядае рукаў.

Л ю д м і л а. Мужчынкі, у вас павінны быць іголка і ніткі.

В а с і л ь *(ззяючы).* Людачка, зараз знайду.

Д з я н і с. Убор — ад Дзіора!

Л ю д м і л а. Хлопчыкі, падкіньце ў адзін лясок. Заплоцім.

Д з я н і с. Лухта якая! З задавальненнем паедзем разам!

В а с і л ь. Мы хутка! Дзе мае штаны?

Л ю д м і л а. Але... Нас чакаюць ваенныя. Пропуск толькі на нас. Прабачце.

В а с і л ь. На каго — на нас?

Л ю д м і л а. На ўсіх трох. Запрошаны на танцы. Зразумейце, хлопчыкі, прыгожая жанчына — гэта агульнанацыянальнае багацце. Яна не можа належаць аднаму.

Д з я н і с. Так... Чакаць вас да раніцы, а потым назад?

Л ю д м і л а. Назад не трэба. Даставяць на верталёце.

Д з я н і с. Ляціце туды на... мяцёлцы.

Л ю д м і л а. Значыць...

В а с і л ь *(стрымліваючы гнеў)*. Ідзі! Або я зараз...

Л ю д м і л а *(паціснуўшы плячыма)*. Дэльфін ніколі б не нагрубіў. *(Выходзіць.)*

Д з я н і с *(крычыць)*. Ні сораму, ні сумлення! Пагулялі і кінулі. Матрыярхат!

В а с і л ь *(падаўлены, глядзіць на зямлю)*. Не лайся.

Д з я н і с. Ды плюнь! Чым яны вас зачапілі?

В а с і л ь. Што ж ты бегаеш трушком па лесе, купаешся ў ледзяным ручаі?

Чуваць шум матора.

Д з я н і с. Што яны робяць? Глядзі! Усюдыход угналі! Страляй! Страляй па колах...

В а с і л ь. Гэй, спыніцеся!

Чуваць чыйсьці сціснуты голас. Хлопцы аглядаюцца. Звязаны вяроўкай, з хусткай у роце ідзе С я р г е й. Хлопцы развязваюць сябра.

С я р г е й. Бандыткі! Ледзь не задыхнуўся!

Д з я н і с. Дужы мужык. Як жа ты?

С я р г е й. Я думаў... абняць хоча!

Д з я н і с. Хопіць! Трэба на іх — у міліцыю.

С я р г е й. На чым дабярэшся? Пайду і развяжу іх плыт. *(Спрабуе пайсці.)* Няхай ловяць па бярвенцу!

В а с і л ь. Не.

**Сяргей.** Што? *(Працягвае ісці.)*

**Васіль** *(цвёрда)*. Я сказаў — не. Будзьце мужыкамі.

**Сяргей** *(спыняецца)*. Добры быў сябар у мяне — Вася...

## Карціна дзесятая

Дзяўчаты з любоўю частуюць Паўла, які вярнуўся, Зоя стараецца больш за іншых.

**Павел.** Значыць, я пранік у клініку, вылічыў дарожку, па якой ён павінен гуляць.

**Людміла** *(пазіраючы па баках)*. Хто?

**Зоя.** Ды Аленкін!

**Павел.** Падыходжу і пачынаю размову. Калі даведаўся, што я з вашай групы, дык страшна раззлаваўся...

**Зоя.** Яму ж нельга хвалявацца!

**Павел.** Вельмі раззлаваўся і неадкладна пачаў папраўляцца... Адразу з клінікі даў указанне заўтра ж пачаць бурэнне.

**Зоя.** Што?!

**Людміла.** Заўтра?

**Таццяна.** Які кашмар!

**Павел.** Хіба мы мала паспелі! Адно адкрыццё Тацляны чаго вартае.

**Таццяна.** І ўсё ж — яшчэ б два-тры дні...

**Людміла** *(адважыўшыся)*. Вы атрымаеце гэтыя дні *(паглядзеўшы развітальна на кожнага, велічна выходзіць, быццам на подзвіг)*.

**Таццяна.** Я — за работу. *(Хутка выходзіць.)*

**Павел.** Мама твая турбуецца... Як там наша Дзюймовачка?.. А гасцінцаў колькі!.. Ледзьве прыцягнуў.

**Зоя** *(разважліва)*. Павел, час рашыць ураўненне з невядомымі... Прымяніўшы тэорыю пошуку і закон вялікіх лічбаў, я знайшла сабе дыферэнцыял... Цьфу! Хлопца. Ён мне падабаецца. Матэрыял, праўда, сыры. Папрацаваць давядзецца. Пытанні будуць?

**Павел.** Няправільнае рашэнне.

**Зоя.** Чаму? Пошук я праводзіла па спіралі. А тэорыя гульняў падказала лепшы варыянт...

Павел. Зоечка, матэматыка — не тваё прызванне.

Зоя. А ў чым маё прызванне?

Павел. Біёніка і я. Гэты хлапчук не для цябе.

Зоя. Хто гэта рашыў?

Павел *(не адразу)*. Я даўно, вельмі даўно кахаю цябе... І ў Мінску зразумеў, што без цябе... Вось так. Пакуль — за работу!

Павел выходзіць.

Зоя. Што я вам гаварыла? *(Ззяючы, выходзіць.)*

Ля дома Васіль рамантуе агрэгат. Сяргей дапамагае.

Васіль. Матэматык вярнуўся ў свой гарэм. Бачыў?

Сяргей *(задуменна)*. Ты ведаеш, напэўна, жанчыны цяпер сталі іншымі... А мы да іх — па-ранейшаму...

Васіль. І раней трэба было іх паважаць.

Сяргей *(пацягнуў носам)*. У лагеры праціўніка ядуць штосьці смачнае!.. Чуеш? Так далей нельга!.. Вайна пераходзіць у псіхалагічную... Атаманша! Уводзь яе як мага далей! З Зояй пагаварыць трэба. Зараз жа! *(Знікае ў доміку.)*

З'яўляецца Людміла.

Людміла. Добрай раніцы, Васечка. Што гэта ты робіш?

Васіль. Бурэнне пачынаем заўтра!

Людміла. Заўтра?.. А што такі невясёлы?

Васіль *(хмура)*. Дзе вас насіла?

Людміла. На мове людзей, значыць, дзе вы былі?

Васіль. Машыну — хоць у капіталку! Тармазы не працуюць, рулявое — таксама...

Людміла. Гаварыла ваенным — не спайвайце мяне... Як вярталіся, столькі пнёў вырасла...

Васіль *(кідае ключ, рашуча ўстае)*. Я на вас акт напішу.

Людміла *(мякка)*. Гэтага ты не зробіш.

Васіль. Цікава — чаму?

Людміла падыходзіць да доміка, зачыняе дзверы на засаўку, вяртаецца.

**Людміла.** Таму... Таму што... У цябе ёсць старыя?

Васіль ківае.

Можаш даць тэлеграму — жанюся.

Васіль асядае на зямлю.

Напішы — дзяўчына ціхая, спакойная...

**Васіль** *(не адразу).* Пасля ўчарашняга? Пасаромелася б!.. Любы на тваім месцы ад сораму!..

**Людміла** *(пяшчотна праводзіць рукой па яго шчацэ).* Васечка, у мяне ёсць... У гэтага дзівака — самыя сур'ёзныя намеры. Учора паехала і сказала — выходжу замуж.

**Васіль.** А не хлусіш?

**Людміла** *(хітра).* Дарую на першы раз. У далейшым гавары жонцы ласкавыя словы... І наогул, я многаму павінна цябе навучыць! Бедалага! Цяжка табе давядзецца... Ты што — не рады?

**Васіль.** Людміла!.. Не, гэта сон. Ушчыкні.

**Людміла.** Магу і ўкусіць. Ну, вось, родны. Я твая жонка. *(Садзіцца ля яго ног, прыхільваецца галоўкай.)* Дзе мы будзем жыць?

**Васіль.** Я... яшчэ не думаў.

**Людміла.** Ты пяройдзеш у нашу групу ці па-ранейшаму?

**Васіль.** Не ведаю.

**Людміла.** Як будзем будаваць бюджэт?

**Васіль.** Не ведаю.

Доўгая паўза.

**Людміла** *(уздыхае).* Ну, добра. Значыць, так. Перабярэшся ў маю бярлогу. Працаваць будзем у адной экспедыцыі.

Васіль ківае. Сяргей дзёргае дзверы — зачынена.

**Сяргей.** Гэй! Выпусціце мяне!

**Людміла.** Няхай пасядзіць. Я доўга думала і скажу табе вось што. Сям'я ў нас будзе адкрытая.

**Васіль.** Што такое? Без рэгістрацыі?

**Людміла.** Зарэгіструемся. Не ў гэтым справа. Жыццё ў сям'і будзе адкрытым. Разумееш? Кожны з нас, Васечка, частку свайго нерабочага часу будзе праводзіць па свайму ўгледжанню. Добра? Ты на ры-

балку, я ў кіно. Або ты на футбол, а я да сваіх сябровак... У цябе свой круг сяброў, у мяне свой кружок прыяцельніц.

В а с і л ь. Навошта ж так... адразу раздзельна?

С я р г е й *(стукае ў сценку)*. Сябар! Вася!..

Л ю д м і л а. Ведаеш, Васечка, тры чвэрці ўсіх пар, што разводзяцца, належаць да ліку замкнёных.

В а с і л ь. А гэта што за сям'я?

Л ю д м і л а. Калі муж і жонка ўвесь свой нерабочы час праводзяць разам. Усёк? Ні на мінуту не расстаюцца, бедныя. Агульныя сябры, агульныя інтарэсы, адначасовы водпуск.

В а с і л ь. Як я бацькам скажу — у мяне адкрытая сям'я!..

С я р г е й *(пяе)*. «Нас на бабу променял...»

Л ю д м і л а *(заўважыўшы, што ў Васіля ў кашулі слаба трымаецца гузік, адрывае яго, дастае іголку і прышывае гузік)*. Ты ведаеш, што такое псіхалогія зняволенага? Калі двух зусім развітых людзей, нават мужчын, пасадзіць месяцы на тры ў пакой, дзе яны будуць залежаць адзін ад аднаго... О! Праз некаторы час яны... прасякнуцца ўзаемнай нянавісцю! Так! Гэта было праверана на палярных даследчыках. Не выпадкова касманаўтаў доўга правяраюць на сумяшчальнасць. Усякая дробязь дзейнічае на нервы! Раздражняе, як другі кашляе, апранаецца, завязвае шнуркі. Гэтая нянавісць падобна на тую, якую можна бачыць у замкнёных сем'ях. Там адзін з бакоў шляхам тэрору перашкаджае другому боку хоць бы на секунду адысціся.

Сяргей прасоўвае ў акно белую насоўку і махае ёй, быццам флагам.

В а с і л ь. Мілая, бывае якраз наадварот!

Л ю д м і л а. Я ведаю сем'і, якія з'яўляюцца сапраўднымі турмамі. І проста ўпэўнена — калі ў мужа і жонкі няма магчымасці некаторы час адпачнуць адзін ад аднаго, калі яны не выдзеляць хоць бы два разы ў тыдзень некалькі вячэрніх ці пасляабедзенных гадзін, калі яны не будуць разам, увага кожнага пачне сканцэнтроўвацца на недахопах партнёра.

С я р г е й *(свішча)*. Брат, Вася! Успомні, мы часта пілі з адной шклянкі...

В а с і л ь. Выпусці, з Зойкай пагаварыць хоча.

Л ю д м і л а. Ведаю. Бегае за ёй, як сабачка.

**Васіль.** Калі двое кахаюць...

**Людміла.** Калі муж і жонка ведаюць толькі два бакі жыцця — працу і сям'ю, то кожны вымяшчае на другім свае службовыя непрыемнасці.

**Васіль.** Старыя мае пражылі разам доўгае жыццё... Дай божа мне такое!

**Людміла.** З тае пары ў свеце шмат змянілася. Мудрая жонка лічыць за лепшае адправіць раздражнёнага мужа да яго сяброў, чым траціць час на безвыніковую перапалку. І мудрая жанчына забяспечыць і для сябе круг сяброў, сярод якіх яна знойдзе аблягчэнне, каб не мучыць сябе дарэмна думкай пра тое, што муж яе не разумее.

**Васіль.** Паслухай, але адкрытая сям'я на руку больш мужчыне. Калі пойдуць дзеці...

**Людміла.** О! Не турбуйся. Навучу цябе даглядаць малых. Пялёнкі — гэта так рамантычна!.. Толькі не машынай, не — упэўненыя мужчынскія рукі патрэбны...

**Васіль.** Вось! Ты будзеш матацца на танцы, да ракетчыкаў, а я, як учора...

**Людміла.** Дурненькі, мы ездзілі да ваенных палічыць на вылічальных... Вось так. А ты павінен мне давяраць. Адкрытая сям'я, мілы, не ўяўляе з сябе спрыяльную глебу для якіх бы там ні было любоўных прыгод. Статыстыка паказвае якраз наадварот.

**Васіль.** Статыстыка?

**Людміла.** Сацыёлагі сведчаць — чым шчыльней зачыняюць дзверы сям'і, тым больш расце імкненне да недазволенай свабоды.

**Васіль.** Не ведаю, ой не ведаю... *(Глядзіць на домік.)* Што гэта ён прыціх?

**Людміла.** Мая сяброўка ўрач. Ведаеш, што яна гаворыць? Амаль дзевяноста працэнтаў мужоў і жонак, якія звяртаюцца за дапамогай у псіхіятрычныя кансультацыі — з замкнёных сем'яў. З другога боку, шляхам абследавання спакойных, ураўнаважаных мужоў і жонак устаноўлена, што ўсе яны — я паўтараю, усе — жылі ў форме адкрытых сем'яў.

**Васіль** *(цяжка ўздыхнуўшы)*. Паспрабуем... Хіба я магу з табой не згадзіцца?

**Людміла** *(гладзіць)*. У нас будзе дэмакратыя: усе пытанні вырашаеш сам... па маёй парадзе.

**Васіль.** Неяк дзіўна...

Людміла. Ха! Трымайся! Яшчэ не такое ўбачыш...

Васіль. Аб каханні не гаварылі...

Людміла. Дурненькі. Калі б яго не было, хто б з табой... *(Цалуе.)* А цяпер скажы — ці можаш для жонкі... Невялікую дробязь.

Васіль. Для цябе?

Людміла. Цудоўна. Знайдзі любую прычыну. Але два дні не ўключай свае механізмы.

Васіль *(уздыхнуў)*. Добра. А Сяргей?

У доміку пачуўся стрэл.

Васіль. Сярожа! *(Бяжыць да доміка, адчыняе дзверы.)*

Сяргей *(хістаючыся)*. У знак пратэсту...

Васіль. Ты куды страляў?

Сяргей. У сябе. Толькі прамахнуўся.

Людміла. Сярожанька, мы людзі сумленныя і таму шчыра папярэджваем — у гэтую ноч зробім для цябе тарарам.

Сяргей. Гэта яшчэ што такое?!

Людміла. Пасля чаго ты не зможаш не толькі працаваць...

Сяргей. Так? На ноч я тут не застануся! Іду ў вёску.

Васіль. Не блазнуй. Гэта шантаж.

Сяргей. Так? А ты ведаеш, што маё жыццё не застрахавана? Божа, дай мне сілы пражыць ноч!..

## Карціна адзінаццатая

Душная ноч. Цьмянае асвятленне. Хлопцы спяць каля доміка, меладычна пахропваюць, раптам у жаху падхопліваюцца, але потым укладваюцца зноў і бачаць калектыўны сон. Паступова ўзнікае рытмічная музыка, якая выконваецца на ўдарных інструментах.

З розных бакоў да хлопцаў з крыкамі кідаюцца амазонкі (Людміла, Таццяна, Зоя) у шлемах, кальчугах з разрэзамі на сцёгнах, на нагах — сучасныя туфлі з абцасамі. Адна ў руках трымае меч і шчыт, другая нацягвае цеціву лука, трэцяя замахнулася кап'ём. Хлопцы ўскочылі на ногі. Амазонкі накідваюць на іх аркан, хутка звязваюць рукі і выконваюць вакол хлопцаў рытуальны танец пераможцаў, вельмі падобны на шэйк.

Потым Людміла, быццам царыца, займае самае высокае месца. Побач, крышачку ніжэй, сядае Зоя, нага за нагу. Гледзячыся ў невялікае люстэрка, фарбуе губы.

**Т а ц ц я н а** *(пілачкай раўняе пазногці).* Царыца, што з палоннымі рабіць?

**Л ю д м і л а.** Прынясём у ахвяру. Толькі — як мага далей. Не выношу мужчынскіх слёз.

**С я р г е й.** Я хачу дамоў.

**Д з я н і с.** Мама будзе хвалявацца.

**Л ю д м і л а.** Аб чым скуголяць гэтыя варвары?

**Т а ц ц я н а.** Мова іх незразумелая.

**Л ю д м і л а.** Тады вядзі ў лес.

**Т а ц ц я н а.** А можа, зрабіць іх рабынямі? *(Знаходзіць транзістар, здзіўлена разглядае, уключае музыку.)*

**Л ю д м і л а** *(адмоўна ківае галавой).* Утаймоўваць скакуноў яны не могуць — глядзі, як дрыжаць калені. Сеяць ячмень не прывучаны — пяшчотныя белыя далоні. Паляваць на звера... Вельмі лянівыя. Харчы не апраўдаюць. Вядзі!

**З о я** *(падводзіць вочы).* Стоп! Царыца, ты абяцала, калі заб'ю дванаццаць воінаў, падарыць мне мужчыну. Дзяўчынку даўно хачу. *(Глядзіць на Сяргея.)*

Людміла падыходзіць да Сяргея, мацае біцэпсы, бярэ за падбародак. Сяргей з гатоўнасцю паказвае зубы.
Людміла засмучана ківае галавой.

**Л ю д м і л а.** Жыдкаваты. *(Таццяне.)* Канчай.

**З о я** *(тупнуўшы ножкай).* Колькі я буду чакаць? Сёмую бітву абяцаеш!

**Л ю д м і л а.** Хто вінаваты — няма палоннікаў дастойных!

**З о я.** Чаму дастоінства — гэта сіла? Што мне з ім — гіры выціскаць? Можа, ён — інтэлектуал!

**Л ю д м і л а.** Праверым. Няхай рошыць задачку: хто лепшы — мужчыны ці жанчыны?

Таццяна бярэ таблічку, піша «клінапісам», перадае Сяргею. Той паспешліва малюе адказ.

**С я р г е й** *(Дзянісу).* Я заўсёды лічыў, што жанчыны вышэй, разумней, высакародней...

**Т а ц ц я н а.** Так ліслівіць... Нават не заўважыў недарэчнасці пытання.

**Л ю д м і л а.** А што адкажа той? *(Указвае на Дзяніса.)*

Таццяна падае таблічку Дзянісу, той малюе адказ.

**Т а ц ц я н а.** Ён намаляваў раўнапраўе.

**Людміла.** Даведайся, у якім сэнсе — біялагічным ці сацыяльным?

Таццяна малюе пытанне, Дзяніс малюе адказ.

**Таццяна.** Ён намаляваў — ва ўсіх.

**Людміла** *(засмучана)*. Ён блытае юрыдычнае раўнапраўе мужчын і жанчын з біялагічнай аднолькавасцю.

**Дзяніс** *(Сяргею)*. Здаецца, возьмуць нас у наложніцы... Так, матрыярхат — эпоха была цікавая!..

**Людміла.** Слухайце царыцу і запомніце. Паміж поламі не павінна быць спаборніцтва і саперніцтва. Кожны ў жыцці адыгрывае сваю ролю, у кожнага свая місія ў эвалюцыі, кожны дапаўняе адзін аднаго ў агульных інтарэсах. Не саперніцтва, а садружнасць! А калі мужчыны гэтага не разумеюць... Пакараць.

Таццяна знаходзіць бутэльку з-пад гарэлкі, нюхае, чыхае.

**Таццяна.** Зелле спажываюць. Накшталт кумысу, толькі мацней.

**Людміла** *(Зоі)*. Бачыш! Хочаш дзіця, слабога на галаву? *(Таццяна, рашуча.)* Карай хутчэй.

**Сяргей** *(падае на калені)*. Царыца! Кіну піць! Далібог... А да жанчыны — маліцца на яе... Усё з-за чаго? Калісьці мяне першага падманулі... Вось і не верыў... Але цяпер... Няхай возьме мяне ў жонкі... Га?

**Дзяніс** *(цягнецца да рукі Людмілы, спрабуе пацалаваць)*. Злітуйся, царыца!.. Новае жыццё пачну... Займуся спортам... Да дысертацыі вярнуся... Слова гонару! Сям'ю завяду, паказальную...

**Людміла** *(з прыкрасцю)*. Пайду на пенсію — стану вывучаць незразумелыя мовы... Даволі!

Людміла нацягвае цеціву лука, Таццяна замахваецц мячом, Зоя цэліцца кап'ём... Хлопцы дзіка крычаць. Гасне святло. Хлопцы прачынаюцца ў халодным поце.

## Карціна дванаццатая

Палаткі згорнуты. **Людміла** складвае прыборы ў скрыню. Падыходзіць **Сяргей**, насвіствае.

**Сяргей** *(урачыста)*. Дык вось! Прыехаў Аленкін. Сам! І няхай землетрасенне, паводка, патоп — праз

трыццаць мінут пачнём бурыць. Так сказаў вялікі Аленкін.

Людміла. Жадаю ўдачы.

Сяргей. Вас гэта не хвалюе?

Людміла. Мы ад'язджаем.

Сяргей *(устрывожана).* Як — ад'язджаеце?!

Людміла. Работу закончылі.

Сяргей. А Зоя? *(Убягае, крычыць.)* Зоя! Зоя!..

Да Людмілы падыходзіць Зоя.

Зоя. Людміла, самая пара сказаць, што вяселле не адбудзецца, маўляў, ты перадумала.

Людміла *(уздыхаючы).* Не магу я гэта сказаць.

Зоя. Але ад'язджаць так...

Людміла. Лягчэй выйсці замуж.

Зоя. Ты што — звар'яцела? *(Маўчанне.)* Але чаму?

Людміла. Ведаеш, як ён гатуе? Кітайскія стравы, бразільскія, салату па-французску... Ашалець можна! Чалавек, які любіць гатаваць, не здольны прычыніць боль, тварыць зло...

Зоя. А калі сур'ёзна?

Людміла. Вымушанае мерапрыемства.

Зоя запытальна глядзіць.

Да мяне ў яго не было жанчын. Разумееш? І цяпер, як усякі прыстойны чалавек, я не магу яго пакінуць. Пойдзе па руках.

Зоя. З яго можна выхаваць добрага мужа.

Людміла. Не хачу быць амазонкай. Гэта проціналуральна — мужыкі сталі бабамі, а мы... Укалваем, як яны, робім, як яны... Разважаем, апранаемся... Якія мы жанчыны? Хопіць! Нельга супраць прыроды. Эмансіпацыя дала нам шмат. Толькі не трэба перагінаць. Даказалі, што мы ўсё можам. Але зарваліся. А цяпер усе па месцах. Інакш... Прырода адпомсціць. Мы біёлагі, Зойка. Павінны думаць аб жыцці на зямлі...

Зоя. Эх!.. Абабіліся вы з Таняй! Агідна.

Людміла выносіць рукзак. З'яўляецца Васіль, нясе колбы, прабіркі.

Васіль. Куды?

Зоя. У скрынкі.

Васіль. Камар! *(Асцярожна пляскае Зою па лбе.)*

Вяртаецца Людміла.

Людміла. Васіль, куды ты падзяваўся?

Зоя. Каўнер падвярнуўся. Пачакай... *(Абхапіўшы шыю Васіля, распраўляе каўнер.)*

Людміла *(быццам тыгрыца)*. Зойка!..

Зоя. Ого! Кіпцюрыкі? І гэта адкрытая сям'я! *(Выходзіць.)*

Людміла грозіць яму пальцам. Васіль цалуе яе ў шчаку і ўвалаківае прабіркі.
Да Таццяны падбягае Дзяніс.

Дзяніс *(спалохана)*. Ад'язджаеце? Як жа...

Таццяна. Дзякуй, што не вельмі перашкаджалі.

Дзяніс. Адрас... Дайце абавязкова!

Таццяна. Хочаце аграбіць?

Дзяніс. Буду пісаць доўгія-прадоўгія...

Таццяна. Баюся, мужу гэта не спадабаецца.

Дзяніс. Вы... замужам? Разышліся!

Таццяна *(сумна)*. Муж у мяне ідэальны. Па цяперашніх часах... Мы, бабы, часта мудрым, выдумваем... А ёсць проста жыццё... Абараніла кандыдацкую, доктарская на падыходзе... Ведаеце, як мяне да сына пацягнула? І ніякая работа гэтага не заменіць...

Дзяніс. Чым жа вы незадаволены?

Таццяна *(пільна глядзіць)*. Пасля чэмпіянатаў, калі трапляе ў клініку — ён мотагоншчык — даю сабе слова... Усё! Хопіць! Больш не вытрымаю! Або пакіне гонкі, або я... І вось зноў, вяртаюся...

Дзяніс. Аказваецца, гэта быў толькі розыгрыш.

Таццяна разгублена раскрывае сумачку, дастае фатаграфію.

Дзяніс *(не адразу)*. Шчаслівае сямейства?

Таццяна. Хоча, каб пакінула работу... Смешна. Што я без работы? Проста жанчына? Цяпер не дзевятнаццаты век.. Вось так. Дыялектыка.

Доўгае маўчанне, глядзяць адзін на аднаго. З'яўляецца Сяргей. Ён пільна штосьці шукае за каўнерам кашулі, з апаскай правярае кішэні, часам рэзка скача ўбок, аглядаецца. Праходзіць Зоя з сумкай.

Сяргей. Зоя!.. Нікуды не пушчу!.. *(Панізіўшы голас.)* Усе гэтыя дні — сам не свой... Упершыню... Пасля гэтай ночы... Усё зразумеў, усвядоміў.

Зоя *(дзелавіта)*. Якой ночы? Ты што — звар'яцеў?

Сяргей. Тсс!

З о я. Ці прыснілася? То-та ж аралі ў сне! Бывайце, грамадзянін.

С я р г е й. Э... Зоя, ёсць такі горад, Мінск. Чула? Там хачу цябе бачыць. Кожны дзень, кожную гадзіну... *(Хапае яе руку, цалуе пальцы.)*

З о я *(выцірае далонь аб штаны)*. Шкадую. У горадзе ў мяне поўна працы. Ды і наогул пачынаю сумнявацца — ці ёсць яно, гэта каханне?

С я р г е й. Ёсць. Ёсць! Я дакладна ведаю.

З о я выходзіць. З'яўляецца П а в е л.

П а в е л *(Сяргею, нягучна)*. Бачыш гэтую канаўку? Пакуль мы не ад'едзем, ты яе не пераступіш!

С я р г е й. Што? Ды я з цябе... Дзяніс, як шашлык робяць?

П а в е л *(засцерагальна падняўшы рукі)*. Не трэба — малю!.. Разрад па самба.

С я р г е й. Сярод камароў? Дыстрофік... Ты ўмееш біцца?

П а в е л. Бог вайны цяпер — матэматыка.

Павел і Сяргей быццам пеўні, гатовыя на бойкі. Вяртаецца З о я, з ружжом, ацаніла абстаноўку. Бярэ за рукі аднаго і другога.

З о я. Падайце адзін аднаму рукі. *(Злучае.)* Вы мне абодва не патрэбны.

Сяргей кідаецца да Паўла, шукае суцяшэння. Павел абняў яго, паляпвае па плячы.

П а в е л. Нічога... Прыйдзеш на вяселле, заспакоішся.

З о я. Якое вяселле?

П а в е л. Маё і тваё.

З о я. Гэта яшчэ што такое?!

П а в е л. А бацькі твае ўзрадаваліся. Заказалі залу ў «Журавінцы»...

З о я *(з абурэннем)*. Ды я... Ды я.. Не будзе вяселля!

П а в е л. Я ўжо сказаў — будзе.

Узбуджаная Зоя папраўляе ружжо, хоча перавесіць яго на другое плячо, і раптам ружжо страляе.
Павел карцінна хапаецца за сэрца і прыгожа падае.

З о я *(спалохана)*. Гэй, Паўлік! Я пажартавала.

Т а ц ц я н а *(не адрываючы позірку ад Дзяніса)*. А ён памёр, жартуючы.

Зоя кідаецца да Паўла, тармосіць.

Сяргей (*змрочна*). Мы адпомсцім за цябе, таварыш.

Зоя (*разгублена*). Што ж... Доктара!

Таццяна (*гэтак жа*). Паспрабуй пацалаваць.

Зоя. Дапаможа?

Таццяна. Ва ўсіх легендах толькі так ажыўлялі.

Зоя асцярожна цалуе. Павел абдымае яе, таксама цалуе.

Сяргей. Няхай бы я... абараніў сваімі ґрудзямі.

Зоя, адарваўшыся, іншымі вачыма глядзіць на Паўла. Абдымае ружжо, як дзіця, уносіць.
Уваходзяць Дзяніс і Сяргей.

Дзяніс. Таццяна, паспрабуем другі варыянт.

Таццяна. Які ж — цікава?

Дзяніс. Муж увесь час будзе з вамі.

Таццяна (*сумна ўсміхнулася*). Людміла гаворыць, што закрытая сям'я — гэта шкодна.

Дзяніс. Таццяна! У нас толькі адно жыццё... Я не сустракаў такіх жанчын... Нават не ўяўляеце. Я не чэмпіён рэспублікі... Але... Вы таксама любіце світанні! Больш, чым гонкі. Я гэта зразумеў. Забірайце дзіця і пераходзьце да маёй мамы... Любыя ўмовы... Я так хачу! І вас прымушу! Нікуды вы не дзенецеся... Вы мая!

Таццяна (*памаўчаўшы*). Рада, што ў вас з'явіўся характар... Ёсць многа цудоўных жанчын... Вы проста іх не сустракалі. Або праходзілі міма. А калі яны становяцца нецікавымі, дык у гэтым і ваша віна... Калі б вашымі рысамі дапоўніць мужа... (*Паспешліва.*) Даруйце, трэба сабраць рэчы. (*Адыходзіць ад Дзяніса.*)

З'яўляецца Іваніха. Вяртаюцца Людміла і Зоя.

Іваніха. А мае касатачкі, камсамолачкі... Яшчэ не паехалі? Мішка машыну прыгнаў. «Цяжка, гаворыць, ім да аўтобуса». Ну, у каго вяселле?

Людміла. Васіль мяне ўгаварыў, я згадзілася.

Іваніха (*радасна*). Праўда? Ну, малайчына. Ты хоць і вучоная, а Іваніха так скажа: добрая мнагадзетная сям'я — галоўнае. І для бабы, і для чалавека.

Зоя. Як жывуць вашы хлопцы?

Іваніха. Дзіцятка, сыны мае даўно жанатыя. Унукі ёсць. Такія ладныя... А вас з хлопцамі хацела пераражаніць.

Т а ц ц я н а. Прыязджайце да нас. Дзяўчаты, напішыце адрасы. Колькі мы вам павінны?

І в а н і х а. Танька, за што крыўдзіш? Гэта ў вас у горадзе — грошы, грошы... А мы яшчэ па-старому... Па-вясковаму... Ну, збірайцеся... Машына чакае. *(Выходзіць.)*

З о я. Столькі гадоў, а маладая, прыгожая... Добры муж, значыць.

Падыходзіць В а с і л ь, за ім С я р г е й, Д з я н і с.

В а с і л ь *(Дзянісу)*. Сумесь нумар пяць... Гэта аўсяная і грачнёвая? Выскачыла!

С я р г е й. Ага! Экзаменуе? Так табе і трэба.

В а с і л ь. Дзяўчаткі, што яшчэ несці?

Л ю д м і л а *(пяшчотна праводзіць рукой па яго шчацэ)*. Адпачні, родны.

Сяргей і Дзяніс з зайдрасцю глядзяць.

В а с і л ь *(пераможна)*. Ну, калі ўсё цудоўна закончылася, добра б... па маленькай... Га? *(Раптам асекся, спалохана глядзіць на Людмілу.)*

Л ю д м і л а *(падносіць кулачок да яго носа)*. Бачыў? Гэтым будзеш закусваць. Запрасі сабутэльнікаў на вяселле. *(Цалуе, выходзіць.)*

С я р г е й *(Васілю)*. Што, добра кончылася?

Д з я н і с. Для каго?

Васіль усміхаецца.

С я р г е й. Такая дзеўка! Слухай, чаму яна выбрала цябе?

В а с і л ь. Прыродны адбор.

С я р г е й. Ты ведаеш, што цябе чакае?

В а с і л ь *(заплюшчыўшы вочы)*. Яшчэ б!

С я р г е й. Катарга.

В а с і л ь. Салодкая... *(Расплыўся ва ўсмешцы.)*

С я р г е й *(Дзянісу)*. Давай яго паб'ём. Га?

В а с і л ь. Толькі паспрабуйце. Людку паклічу *(выбягае)*.

С я р г е й *(напявае)*. «И влюбился, как простой мальчуган...» У цябе няма адчування — штосьці ўпусцілі?

Д з я н і с. Дай цыгарэтку.

С я р г е й. Толькі цяпер зразумеў... Штосьці вельмі, вельмі...

Дзяніс. Добра, што яны нам сустрэліся...

Сяргей. Што добрага? Сябра страцілі. Я... Ты таксама з носам... Хоць і без насмарку... *(Рэзка скача ўбок, аглядваецца.)*

Дзяніс. Ты не лічыш, што час паказацца псіхіятру? Пойдзем, сябра.

Сяргей. Куды?!

Дзяніс. Шукаць мамантаў...

*Заслона.*




Фарс-вадэвіль!!!
Для дарослых у дзвюх дзеях

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

А в я р' я н — ветэрынарны ўрач, пазаштатны лектар, 54 гады.

А н а с т а с і я — бортправадніца, яго жонка, 28 год.

П е н е л о п а — артыстка філармоніі, яго першая жонка, 45 год.

І г а р — загадчык сектара праблем сям'і, 40 год.

К л а ў д з і я — бібліятэкар, яго жонка, 34 гады.

Б а с у р м а н а ў — дырэктар інстытута сацыялагічных даследаванняў, 40 год.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Трохпакаёвая кватэра ў шматпавярховым доме. К л а ў д з і я, якая пачала трохі паўнець, прасуе бялізну. Па яе знешняму выгляду можна меркаваць, што яна назаўсёды страціла надзею падабацца мужчынам і мець паклоннікаў. З рукапісам у руцэ выходзіць з пакоя І г а р, высокі, худы, у акулярах. Некаторы час глядзіць на тэлефон, здымае трубку, набірае нумар.

І г а р. Уладзімір Сяргеіч, я вас прасіў завізіраваць... Не разумею чаму?.. Але... Дазвольце, Уладзімір Сярге... *(Павольна апускае трубку, глядзіць на рукапіс.)*

К л а ў д з і я. Я прыгатавала каву.

Ігар не рэагуе.

Што ён сказаў?

Ігар раптам хутка апранаецца.

Ігар, білеты ў кіно!

Схапіўшы рукапіс, І г а р выбягае. Клаўдзія глядзіць на гадзіннік, бярэ са стала білеты, павольна рве, плача. Званок. Клаўдзія хуценька выцірае слёзы, адчыняе. Уваходзіць А н а с т а с і я, маладая, зграбная.

А н а с т а с і я. Гуд монін, як кажуць на міжнародных лініях. Дазволіце?

К л а ў д з і я. Добрай раніцы, Анастасія. Праходзьце.

А н а с т а с і я. Клаўдзія, вы не змаглі б пазычыць мне цыбулі? Муж прыйдзе абедаць... Заўсёды нешта забываюся!

К л а ў д з і я. Калі ласка. *(Працягвае цыбуліну.)*

А н а с т а с і я. Дзякую. Прабачце...

К л а ў д з і я. Што вы!

А н а с т а с і я. Дзве гадзіны назад была за тысячу кіламетраў! Адкуль мне ведаць, што дома няма цыбулі? У вас нешта здарылася?

К л а ў д з і я. Чаму вы так думаеце? Не!

А н а с т а с і я. Група замежных турыстаў ляцела. Бачу, аднаму дрэнна! Прайшла адзін раз, другі — міла ўсміхаецца. Пытаюся, хау а ю? Сэнк'ю, ол райт. Але я не першы год працую! Нарэшце прызнаўся: ай філ іл, ай хэв э пэйн ін май хат... Памацала пульс і пахаладзела — валідолам тут не абыдзешся! Добра, што бяру з сабой больш медыкаментаў, чым патрабуе інструкцыя. Зрабіла ўкол. Гляджу, павесялеў. А калі выйшлі з самалёта — купляе велізарны букет руж! Так што ў вас?

К л а ў д з і я. На жаль, ваш прафесійны вопыт мне не дапаможа. *(Паплявайшы на палец, мацае прас.)*

А н а с т а с і я. Астыў?

К л а ў д з і я. Зараз нагрэецца.

А н а с т а с і я. Я пра мужа.

К л а ў д з і я. Чаму вы... вырашылі?

А н а с т а с і я. У вас гэта ў вачах.

К л а ў д з і я *(не адразу)*. Даўно замужам?

А н а с т а с і я. Каля трох год.

К л а ў д з і я. А мы — восем. У гэтым, Анастасія, уся справа. *(Села, шырока расставіўшы ногі, закурыла, рукамі ўперлася ў калені.)*

А н а с т а с і я *(жартуючы)*. Восем год! З адным і тым жа мужчынам?!

К л а ў д з і я. Вучоныя кажуць, Зямля астывае. А пачуцці, высвятляецца, астываюць хутчэй... Цалкам у рабоце — піша доктарскую. Не да мяне. А! Раней-пазней, самі адчуеце.

А н а с т а с і я *(весела)*. Ну, не, са мной гэтага не здарыцца!

К л а ў д з і я *(уздыхнула)*. Пажывём — убачым.

А н а с т а с і я. Мы з мужам не рэгістраваліся. Вечныя палюбоўнікі! Хай кожную хвіліну хвалюецца, што пайду! Трэці год ён дагаджае мне. І кожны раз яму прыходзіцца мяне заваёўваць!

К л а ў д з і я. А дзіцё?

А н а с т а с і я *(пакруціла галавой)*. Можа быць, калі-небудзь, перад пенсіяй, рашуся. У нас пенсія — у сорак год. Страшна падумаць, што некалькі месяцаў жыла б без палётаў... Вецер падарожжаў гоніць мяне ўдалячынь!

К л а ў д з і я. Дзетак люблю. А ён — хопіць аднаго! Крыўдна. Мне б ражаць ды ражаць... Другія скардзяцца — там шчыміць, тут баліць... А мне нават няёмка — з дзяцінства нічым не хварэла! Як вы думаеце — чаму ён стаў абыякавым? Куды падзяваліся кветкі, пяшчоты, пацалункі? Я разумею, прайшло восем год, нам не дваццаць. І ўсё ж такі?

А н а с т а с і я *(мякка ўсміхаючыся)*. У пісанні сказана: калі муж страціў цікавасць — вінавата жанчына. Вы занадта памяркоўная. Такіх... Будзьце бессэнсоўнай, капрызнай, непаслядоўнай! І абавязкова — эмансіпіраванай! Сёння не мае сэнсу залежаць ад мужа. Як сабе хочаце, а я займуся вамі сур'ёзна.

К л а ў д з і я. Магчыма, у сітуацыі вінаваты кіраўнік. Ігар даўно б абараніўся, але шэф ставіць палкі ў калёсы. Баіцца, што Ігар узначаліць інстытут. Вось чым я жыву. А каханне...

А н а с т а с і я *(весела)*. Скажыце, ён кусае вас за вуха, жалее?

К л а ў д з і я. Не прыпомню!

А н а с т а с і я. А... *(Гарэзліва нахіляецца да вуха.)*

К л а ў д з і я *(безнадзейны ўзмах рукі)*. Стане прафесарам, акадэмікам... А толку? Як жанчына, я абабраная. Жыццё без свят!.. Кожная трэцяя сям'я, як вы ведаеце, разыходзіцца. З трывогай чакаю — няўжо і мы... На ўсё пайду, каб вярнуць Ігара.

А н а с т а с і я. Я, здаецца, ведаю, што трэба. Невялікая «культурная рэвалюцыя».

К л а ў д з і я. О!

А н а с т а с і я. Муж растлумачыў бы гэта лепш. Ён урач. Зламаць стэрэатып адносін — звыклы, які механічна паўтараецца.

К л а ў д з і я. Калі б я была прыгожай...

А н а с т а с і я. Глупства! Няма непрыгожых жанчын — ёсць жанчыны, якія не жадаюць падабацца.

К л а ў д з і я. Каб жанчыне элегантна выглядаць, трэба недзе нешта дастаць або мець час на чаргу — у цырульню, атэлье, магазіны... У мяне ж няма гэтага часу, з раніцы да вечара ў бібліятэцы.

А н а с т а с і я. А мне яшчэ здаецца — жанчына прыгожая тады, калі яе кахаюць. Тады яна свеціцца!.. Колькі мы гутарым, а вы ні разу не ўсміхнуліся. Яшчэ ад Евы: усмешка — найбольш моцная наша зброя.

К л а ў д з і я. Не да ўсмешак.

А н а с т а с і я *(памаўчаўшы)*. Ёсць старажытнае лякарства — прыдбайце палюбоўніка.

К л а ў д з і я *(узняла рукі)*. Ну, ведаеце!..

А н а с т а с і я. Уяўнага. Муж раўнівы?

К л а ў д з і я. Гэтым яго не праймеш. Так упэўнены...

А н а с т а с і я. Ваша памылка. Ёсць у вас такі знаёмы?

Клаўдзія пацiскае плячыма.

Тады... папросім майго мужа. У яго адпачынак, і калі я ў палёце, яму сумна.

К л а ў д з і я. Як?! Не, не! І наўрад ці Ігар паверыць, што я захапілася такім... пажылым. Прабачце.

А н а с т а с і я. Пажылым? *(Загадкава ўсміхаючыся.)* Неугамонны!.. Ведаеце, як мы пазнаёміліся? У мяне балеў зуб. Зайду, думаю, у суседні нумар, папрашу лекаў. Прыйшла з балючым зубам, а пайшла з разбітым сэрцам... Я лічу, павінна быць вялікая розніца ва ўзросце. Тады ты для яго цацка! Аб'ект абароны! Мне хлопчыкі кожны дзень прызначаюць спатканні. Але... нецікава! Я раней ведаю, што яны скажуць, што за гэтым будзе далей. І калі што і здараецца, я ўсё роўна вяртаюся да мужа. Аднагодкі рэфлекціруюць. А зрэлыя мужчыны цэняць у жанчыне асобу. Уявіце, мы з мужам ніколі не спрачаемся. Усё, што ты робіш, для яго міла. Ты — як старэйшая дачка. Акрамя таго — увесь час хвалюецца — могуць увесці! І пастаянна закаханы. Вопытны ў жыцці, у справах. Раней сяброўкі смяяліся. Зараз зайздросцяць — стабільнасць і ўстойлівасць. Але галоўнае — з ім незвычайна цікава. Дзіўны чалавек! Столькі фантазіі, прагі жыцця! Ён лічыць, што гульня цікавей, багацей, змястоўней рэчаіснасці. Здаецца, прыйшоў. *(Накіроўваецца да выхада.)*

К л а ў д з і я. Пачакайце! Не трэба!

А н а с т а с і я. Мой муж — спецыяліст па няўдалых сем'ях — да яго прыходзяць, звоняць, пішуць... І ўсім дапамагае! Не ведаю як, па Фрэйду або Паўлаву, у кожным выпадку дзейнічае па-новаму, але ён верне вам каханне Ігара. Вось убачыце!

К л а ў д з і я. Але...

А н а с т а с і я. Не хвалюйцеся — самы інтэлігентны чалавек. Зараз вярнуся. *(Выходзіць.)*

Клаўдзія хуценька папраўляе валасы. З'яўляецца Пенелопа, суровая, дзелавая як у адзенні, так і ў паводзінах. У зубах цыгарэта.

Пенелопа. Санстанцыя. Гаспадыня, мышы ёсць? Не? Распішыцеся.

Клаўдзія распісваецца ў блакноце.

І ў суседзей?

Клаўдзія. Не ўяўляю сабе.

Пенелопа. Вось так гаварылі і ў сярэднія стагоддзі. А потым эпідэміі спусташалі Еўропу... Якое ўражанне ў вас ад суседкі?

Клаўдзія. Самае прыемнае.

Пенелопа. Дзіўна! Ладзіць з мужам?

Клаўдзія. Ён на яе моліцца! А чаму вы...

Пенелопа. Скарга — лётае, з садавінай унесла непатрэбных насякомых.

Клаўдзія. Няўжо... Самі пагаварыце...

Пенелопа. У другі раз. Экстранны сход на санстанцыі. Хто ж завёз ліхаманку?.. Прывітанне! *(Выходзіць.)*

Вяртаецца Анастасія з кнігай у руках, за ёй следам Аўяр'ян Антонавіч, пажылы, буйны, але імпазантны, модна апрануты, з добра пастаўленым голасам.

Анастасія. Знаёмцеся, Авяр'ян Антоныч.

Клаўдзія. Клаўдзія.

Не звярнуўшы на Клаўдзію ўвагі, Авяр'ян кіўнуў, нібы гутарка ішла пра абмен кватэры, абыякава стаў аглядаць усё навокал.

Анастасія. Муж адразу паставіў дыягназ і згадзіўся дапамагчы.

Клаўдзія *(саромечыся)*. Не ведаю, як вас аддзячыць.

Авяр'ян. Пакіньце. Гэта мой прафесійны абавязак.

Анастасія. Я гаварыла, Авяр'ян — урач, ветэрынар. Але людзі — яго хобі.

Авяр'ян. Дзе запасны выхад?

Клаўдзія. У нас няма.

Авяр'ян. У такім выпадку пакладзіце на балкон лесвіцу з вяровак.

Анастасія. Пяты паверх!

Авяр'ян. Жыццё даецца чалавеку толькі раз. Таму і рызыкуюць... *(Аглядае кватэру.)* Тэлефон? Добра: нуль-два — міліцыя, нуль-тры — «Скорая»... *(Накіроўваецца да акна, становіцца ля сцяны.)* Вуліца з

гэтага акна прастрэльваецца?.. Я хацеў сказаць — праглядваецца?

К л а ў д з і я. Так, так.

А в я р' я н *(уважліва глядзіць на Клаўдзію)*. Ложак — там?

Клаўдзія ківае. Авяр'ян рулеткай вымярае даўжыню. Закончыў агляд.

Мае ўмовы — я вылечваю вашага мужа. Вы — выкарыстоўваеце сувязі і знаёмства і дабіваецеся для мяне ў гарвыканкоме месца пад гараж.

А н а с т а с і я *(падыгрывае мужу)*. Але, Авяр'ян, гэта рэчы непараўнальныя! Мужоў — на кожным вуглу! А гараж...

А в я р' я н. Я не дылетант — урач высокай кваліфікацыі. За сваю работу — а работа гэта архіцяжкая, гэта вам не быка на ногі паставіць — павінен атрымаць узнагароду.

К л а ў д з і я. Вельмі шкада, але ў гарвыканкоме я нікога не ведаю.

А в я р' я н *(памаўчаўшы, засмучана)*. Добра. Я станаўлюся вашым «палюбоўнікам», а вы ўладкоўваеце мне падпіску на Сямёна Дуба.

К л а ў д з і я. А хто гэта? Я звязана з тэхнічнай літаратурай.

А н а с т а с і я. О, сёння гэта самы модны паэт! «Я кахала яго пры месяцы...» Талент! Кажуць, пасля Еўтушэнкі ў нас падобны не з'яўляўся.

К л а ў д з і я. Сорамна прызнацца, але ў кніжным у мяне таксама няма знаёмства.

А в я р' я н *(з дакорам глядзіць на жонку, г. зн. чаму ўцягнула мяне ў гэту невыгодную справу... Без надзеі, да Клаўдзіі)*. У вашага мужа ёсць дублёнка?

К л а ў д з і я. Так, нам прывезлі.

А в я р' я н. Цікава. Пакажыце.

Клаўдзія адкрывае шафу.

*(Хутка ацаніўшы.)* Купляю.

К л а ў д з і я. Але мы не збіраліся яе прадаваць!

А в я р' я н. Муж ці дублёнка? Выбірайце.

Клаўдзія вагаецца. Авяр'ян накіроўваецца да дзвярэй.

А н а с т а с і я. Татачка, а нельга што-небудзь іншае?

А в я р' я н. Нельга! Я рызыкую сваім жыццём —

дарэчы, трэба зайсці ў дзяржстрах,— сваёй рэпутацыяй... Хто пойдзе да мяне лячыцца, калі я нават не змагу вярнуць вам мужа? Акрамя таго, я ахвярую сваім адпачынкам. Калі мы станем «палюбоўнікамі»...

Клаўдзія *(папраўляе)*. Фіктыўнымі палюбоўнікамі.

Авяр'ян. Магчыма, гэтым справа і абмяжуецца.

Клаўдзія. Магчыма?!

Авяр'ян. Нічога не магу сказаць загадзя. Гэта той выпадак, калі мэта апраўдвае сродкі. Або, вы лічыце,— лепш назаўсёды страціць каханага чалавека?

Клаўдзія *(жадаючы спыніць рызыкоўную размову)*. Хацелася б ведаць — вы ўпэўнены ў поспеху?

Авяр'ян. На дзевяноста два і шэсць дзесятых працэнта. Такі вынік за мінулы год. Гэта сярод людзей. Сярод жывёлы — вышэй.

Клаўдзія. Дзевяноста два і шэсць дзесятых?.. Я згодна!

Авяр'ян. У працэсе эксперымента ад супрацоўнікаў я патрабую безумоўнага падпарадкавання, жалезнай дысцыпліны.

Клаўдзія. Я не зусім уяўляю...

Авяр'ян. Каму гэта патрэбна — мне або вам?

Клаўдзія. Так, вы правыя.

Авяр'ян. Са сцэнарыем я вас пазнаёмлю. Лячэнне мужа пачынаем заўтра, дваццаць трэцяга, у восем раніцы. *(Паглядзеў на гадзіннік.)* Зверым гадзіннікі — трынаццаць гадзін сем хвілін.

Павярнуўшыся, Авяр'ян выходзіць. Анастасія выходзіць за мужам, пакінуўшы на стале кнігу.

Анастасія. О'кэй! Цяпер я спакойна — муж уладкаваны, гарачага з'ясі... Шчаслівага палёту!

Клаўдзія *(раскрывае кнігу)*. «Сто хвілін для хараства і здароўя».

## Карціна другая

На нашых вачах каля люстэрка Клаўдзія пераапранаецца, робіць прычоску, перыядычна зазіраючы ў кнігу і да нечага прыслухоўваючыся.

Ігар, у тонкіх трыкатажных штанах з вытаркнутымі каленкамі, заняты праўкай рукапісу, вушы закладзены ватай. Недзе за сцэнай перыядычна чуецца гучны і працяглы стогн, нібы крычыць паранены звер, далятае шум мэблі, якую варочаюць.

Клаўдзія. Зноў!

Ігар не рэагуе.

Чуеш?

Ігар папраўляе тэкст. Клаўдзія падыходзіць, паляпвае яго па руцэ. Ігар дастае з вушэй вату, глядзіць запытальна.

Чалавек стогне! Паранены ці хворы!

Ігар *(прыслухаўся)*. Рыкае. Нібы зубр.

Клаўдзія. Як ты можаш?! Ігар!

Ігар. А што я павінен? *(Папраўляе тэкст.)*

Клаўдзія. Пайсці і даведацца. Калі трэба — дапамагчы.

Ігар. Лезці не ў сваю справу... А ці зручна гэта?

Клаўдзія. Я сама пайду і спытаю яго.

Ігар. Калі ласка, пакінь непатрэбную рамантыку. Здаровы як бык. Яму б рэйкі гнуць.

Клаўдзія. За сцяной, можа, памірае чалавек, а ты...

Ігар. Ёсць тэлефон: 03.

Клаўдзія. Я ведала, што ты чэрствы, нячулы. Але не думала, што да такой ступені!

Ігар. Хутчэй за ўсё пасварыўся з жонкай. Я зайду, пачну пытацца... Пашле далей. Мы незнаёмыя.

Клаўдзія. Па-твойму, каб дапамагчы чалавеку, трэба быць з ім знаёмым?

Ігар. Я нават не ведаю, як яго завуць. *(Паглыбляецца ў рукапіс. Зноў чуецца стогн-рыканне.)*

Клаўдзія. Пойдзеш?

Ігар. Злітуйся — дай папрацаваць. Калі заўтра я не здам рукапіс машыністцы, на сімпозіуме мне няма чаго будзе рабіць. І Басурманаў вельмі ж узрадуецца!

Клаўдзія. Дысертацыя даражэй за чалавека! Я даўно заўважала — калі б са мной нешта здарылася...

Ігар. Клаўдзія!

Клаўдзія. Пойдзеш?

Ігар цяжка ўздыхае, але не рухаецца з месца.

Добра, пайду адна.

Як на подзвіг, на вялікую справу ідзе Клаўдзія з высока ўзнятай галавой. Ігар працягвае работу над рукапісам. Раптам чуецца жахлівы жаночы крык. Ігар выбягае, і праз нейкі час яны ўводзяць у кватэру Авяр'яна, апранутага ў піжаму і шлёпанцы

на босую нагу. На яго шыі матлялася пятля, зрэзаная Ігарам. Госця пасадзілі ў крэсла, падалі яму ваду. Авяр'ян адштурхоўвае шклянку, вада разліваецца.

Авяр'ян. Гэта фінал, таварышы, канец... «Ямщик, не гони лошадей, мне некуда больше спешить...» Хто вы? Чаму перашкодзілі? Я буду скардзіцца!

Ігар. Супакойцеся, калі ласка.

Клаўдзія. Ігар, каньяку!

Ігар налівае ў шклянку каньяк, госць залпам выпівае.

Вы, можа, жадаеце прылегчы?

Авяр'ян *(не адказвае)*. Як яна магла! Як магла! І на каго пакваплілася? Заезджы рэжысёр... Ну і што — мэтр, народны!..

Клаўдзія. Расшпіліце каўнер, будзе зручней, *(Робіць спробу зняць пятлю з шыі Авяр'яна, ён не дазваляе.)*

Авяр'ян. Ах, Пенелопа!.. Няўдзячная! Кім ты была да мяне? Выкарыстаў сувязі, знаёмствы... «Я вас любил так искренне, так нежно...» І ўсё — ушчэнт... *(Паглядвае на пустую шклянку. Ігар спяшаецца наліць каньяк. Авяр'ян выпівае.)* Вяртаюся раніцай з камандзіроўкі — чытаў лекцыю «Як пазбегнуць разводу»,— запіска: «Прабач, пакахала іншага...»

Клаўдзія. Я згатую каву. Або чаю?

Авяр'ян. Не трэба пераводзіць харч. Пайду! Назаўсёды! Навошта жыць, калі табе здрадзіў самы блізкі чалавек? Я больш нікому не веру.

Ігар. Вам бы — працай...

Авяр'ян. Што вы! Пакінуты, усімі забыты...

Клаўдзія. Гэта пройдзе. Вы яшчэ сустрэнеце жанчыну, пакахаеце... *(Пяшчотна пагладзіла яго руку.)*

Авяр'ян *(паглядзеў на яе ўважліва)*. Позна пачынаць. Зноў кветкі, сустрэчы, хваляванні?.. Мне ўжо не трыццаць і нават не сорак...

Клаўдзія. А ці для мужчыны гэта ўзрост? Вы цудоўна выглядаеце! Паважны, імпазантны...

Авяр'ян. Мой канёк — маральна-этычныя... *(Горка ўсміхнуўся.)* Як можна чытаць пра сям'ю, калі ўласную... А быў — лепшым лектарам раёна! Кумірам моладзі! Калі Авяр'ян Антоныч — гэта я — чытаў пра сяброўства і каханне, дзяўчаты з суседніх гарадоў прыязджалі... Слухалі, стаіўшы дыханне, са слязьмі

на вачах... Аўтографы! Сік транзіт глорыя мундзі, таварышы.

К л а ў д з і я. Што вы! У вас яшчэ ўсё наперадзе!

А в я р' я н. А я гавару — так праходзіць зямная слава!.. Сярод белага дня, на вачах ва ўсіх — чужую жонку... Нягоднік! Успомніце маё слова — ён яе кіне. Пагуляе і пакіне, блудніцу вавілонскую. Пенелопа! А жаніўся, спадзяваўся: калі Пенелопа, то будзе вернай...

К л а ў д з і я. Яшчэ каньяку?

А в я р' я н. Для смеласці. Не кожны дзень адбываецца самазабойства. У самураяў гэта проста. *(Ігар налівае. Авяр'ян выпіў, зацягнуў пятлю тужэй.)* Бывайце, добрыя людзі. Вы апошнія, з кім я размаўляю на гэтым свеце... *(Паглядзеў некуды ўгару.)* Як там прымуць? А... Што б я хацеў пажадаць народу? *(Зірнуў на канец пятлі.)* Коратка абрэзалі.

К л а ў д з і я *(нягучна)*. Нельга яго адпускаць!

І г а р. А што рабіць?

К л а ў д з і я. Падумай! Няхай пабудзе ў нас. Пакой Аліка вольны.

Авяр'ян імкнецца ўстаць.

Не спяшайцеся.

А в я р' я н. Не, не, я павінен... Вам не зразумець.

К л а ў д з і я. Чаму ж? У Ігара на рабоце непрыемнасці большыя, чым у вас!

А в я р' я н. Так?

І г а р. Я загадваю сектарам праблем сям'і...

А в я р' я н *(з надзеяй)*. Праўда?! Вы вернеце Пенелопу?

І г а р. Я тэарэтык. Але сямейныя непарадкі мне знаёмыя. Такіх выпадкаў у практыцы сацыёлагаў — мноства! Пайшла жонка, у нейкім родзе катастрофа...

А в я р' я н. У нейкім родзе?!

І г а р. Мой шэф Басурманаў наогул разводы лічыць з'явай нармальнай.

А в я р' я н. Басурманаў? Раскошнае прозвішча!

І г а р. На яго думку, развод — гэта натуральны адбор... Дэмагог! Маніць у вочы, усміхаецца... А ты стаіш, як дурань, і не ведаеш, што сказаць... *(Разводзіць рукамі.)*

А в я р' я н *(уважліва выслухаў)*. Ну як можна параўноўваць? У чалавека гора!

**І г а р.** Прабачце, але я лічу — Басурманавы для грамадства больш небяспечныя, чым ваш рэжысёр.

**А в я р' я н.** Сыты галоднага не разумее. Пайду. Гэта лепш рабіць дома. Інакш не будуць запрашаць у госці.

**І г а р.** Авяр'ян Антоныч, прапаную вам застацца ў нас. Разам будзе весялей.

**А в я р' я н.** Не, не, не настойвайце.

**К л а ў д з і я.** Я прашу, вельмі. Муж піша доктарскую, няма з кім словам перакінуцца.

**А в я р' я н.** Паверце, таварышы, гэта не трэба. Раней-пазней...

**К л а ў д з і я.** А пакуль заставайцеся. Ну хто вам будзе гатаваць, мыць?

**А в я р' я н** *(паглядзеў на Ігара, пільна на Клаўдзію).* Ну, раз вы настойваеце... Толькі на адну ноч! Па руках?

**К л а ў д з і я** *(узрадавалася).* Так, так, безумоўна!

**А в я р' я н.** Эх, Пенелопа, няверная! Карцішкі ёсць? Хачу адпачыць...

## Карціна трэцяя

Прайшло некалькі дзён. На сценах з'явіліся бадзёрыя лозунгі і транспаранты з вядомымі ісцінамі — «Берагчы здароўе», «Захоўваць добры настрой», «Верыць у светлае будучае». **К л а ў д з і я**, прыгожа апранутая, з моднай прычоскай, накрывае на стол. **І г а р**, у шкарпэтках, у тым самым трыкатажным касцюме, выходзіць з суседняга пакоя.

**І г а р.** Халат згубіў. Ты не бачыла?

**К л а ў д з і я.** У Авяр'яна Антоныча.

**І г а р** *(заўважае кветкі на століку).* Адкуль гэты венік?

**К л а ў д з і я** *(сарамліва).* Падарунак.

**І г а р** *(шукае).* Дзе шлёпанцы?

**К л а ў д з і я.** Ты што, не можаш купіць іншыя?

**І г а р.** Іншыя? А чаму б яму не купіць іншыя?!

**К л а ў д з і я.** Ён госць.

**І г а р.** Ці не занадта ён гасцюе? *(Звяртае ўвагу на яе вопратку.)* Ці мы некуды збіраемся?

**К л а ў д з і я.** Авяр'ян Антоныч запрасіў у філармонію.

Ігар сядае да стала, спяшаючыся есці.

Ігар!

І г а р. У мяне няма часу! Я ў страшэнным цэйтноце!

К л а ў д з і я. Але нельга ж...

І г а р *(кінуў лыжку).* Гадзінамі ў туалеце! Няўжо няма іншага месца чытаць часопісы?

К л а ў д з і я *(ласкава).* Аўяр'ян Антоныч! Абед на стале.

І г а р. Я хачу ведаць, калі гэты асьміног, гэты спрут нас пакіне! *(Паказвае на сцены.)* Не дом — агіткватэра!

К л а ў д з і я. Цішэй! Няўжо табе цяжка зразумець яго стан? Патрэбен час, каб ён апрытомнеў.

І г а р. І ўвесь гэты час ён будзе тут?!

К л а ў д з і я. А ты хочаш, каб ён стаў самазабойцам?

І г а р. Я ўжо нічога не хачу.

Уваходзіць А в я р' я н у халаце, шлёпанцах Ігара.

К л а ў д з і я *(ласкава).* Калісьці мая мама, Авяр'ян Антоныч, навучыла мяне варыць курыны суп па-французску. І сёння я выварыла...

А в я р' я н *(незадаволена).* Як — зноў суп?

К л а ў д з і я. А вы пакаштуйце!

А в я р' я н. Учора суп, сёння суп... Таварышы, колькі можна? Я здаровы мужчына! Гатуйце мне капусту, боршч, харчо, нарэшце...

К л а ў д з і я. Цудоўна, заўтра зварым капусту.

А в я р' я н *(Ігару).* Чаму не выпусцілі чарговую сценгазету?

І г а р *(папярхнуўшыся).* Я заняты, пагаліцца няма калі!

А в я р' я н. Калі хочаш, усё можна паспець. Гімнастыку рабілі? *(Усе маўчаць.)* Ану, за мною.

Авяр'ян, за ім Ігар, Клаўдзія абягаюць вакол стала некалькі разоў, уздымаюць рукі ў бакі, угару, вяртаюцца на свае месцы. Авяр'ян сядае за стол, водзіць лыжкай па талерцы, неахвотна глытае некалькі лыжак супу.

К л а ў д з і я. Згадзіцеся, смачна?

А в я р' я н *(сярдзіта).* На Захадзе я не змог бы. Мне ежу сапраўдную. Вадою мужык сыты не будзе.

К л а ў д з і я *(пявуча).* Мяняць, мяняць трэба погляды на стравававанне. *(Ставіць на стол каструлю.)* Паглядзім, як вам спадабаецца смажаніна. Палову дня варажыла, але, здаецца, удалося на славу!

А в я р' я н *(пахмурна).* Мяса не прыгарэла?

**Клаўдзія.** Ну, што вы! *(Падкладвае на талерку.)*

**Авяр'ян.** Цвёрдае?

**Клаўдзія.** На кірмашы папрасіла самы мяккі кавалак.

**Авяр'ян.** Спецый дастаткова?

**Клаўдзія.** Можаце паспрабаваць і пераканацца.

Авяр'ян есць мяса, раптам перастае жаваць, вочы шырока раскрытыя. Клаўдзія абмерла. Ігар глядзіць праз акуляры.

**Авяр'ян.** На чым вы гатавалі?

**Клаўдзія.** Мне з вёскі прыслалі тлушч, вельмі добры.

**Авяр'ян.** Свіны?

**Клаўдзія.** Так.

**Авяр'ян** *(кідае нож і відэльцы)*. Я гаварыў! Я прасіў — ні кроплі свінога!..

**Ігар.** Ці вы — мусульманін?

**Авяр'ян.** Пры чым тут... Мой арганізм не можа ўжываць свініну! З дзяцінства! Няўжо цяжка запомніць? Таварышы!

**Клаўдзія.** Я зараз хуценька што-небудзь прыгатую.

**Авяр'ян** *(устае)*. Не трэба. Апетыт безнадзейна знік. *(Выходзіць з-за стала, накіроўваецца ў пакой, грукнуўшы дзвярыма.)*

Клаўдзія ціхенька ўсхліпвае. Ігар маўчыць, жалвакі ходзяць, калені ўздрыгваюць.

**Ігар.** Я хачу ведаць — да якога часу гэта будзе працягвацца!

**Клаўдзія.** Цішэй, прашу цябе!

**Ігар.** Ёсць кафэ, рэстараны... Не падабаецца — свет вялікі!

**Клаўдзія.** Ты забыўся? Мы дасталі яго з пятлі!

**Ігар.** Я завалію работу! Басурманаў толькі і чакае, каб ад мяне пазбавіцца!.. Няхай ідзе!

**Клаўдзія.** У адзіноту? Яшчэ трошкі, і ён стане на ногі.

**Ігар.** Я бачу — табе падабаецца яго песціць!

**Клаўдзія.** А чаму б і не? Мы павінны ганарыцца, што выратавалі чалавеку жыццё.

**Ігар.** Дымам уся кватэра прапахла. З мяне хопіць!

З'яўляецца **Авяр'ян.**

А в я р' я н. Ігар Міхалыч, хачу зрабіць заўвагу. Вы ўвесь час сядзіце дома. Справа не ў тым, што гэта нервуе тых, хто побач з вамі. Вам гэта шкодзіць.

І г а р. У мяне работа.

А в я р' я н. Адгаворкі! Скажыце проста — славянская лянота!.. У вашы гады я лётаў, ніхто не бачыў, каб я сядзеў на адным месцы!

І г а р. Пайду да машыністкі — разамнуся.

А в я р' я н. Ігар Міхалыч, па-сяброўску. Купіце «Неделю» і цыгарэт. Калі ласка.

І г а р *(пасля паўзы)*. А... якіх вам?

А в я р' я н *(з дакорам)*. Пара ведаць — я куру «Апал» або «БТ».

І г а р. Тут такіх няма.

А в я р' я н. У цэнтры павінны быць. Або ў аэрапорце. Вельмі прашу.

К л а ў д з і я *(нягучна)*. І, калі ласка, бутэльку рому. Для Авяр'яна Антоныча. *(Малітоўна глядзіць на Ігара, баючыся, што той адмовіцца.)*

І г а р. Добра. Дачытаю тэкст. *(Накіроўваецца ў суседні пакой, грукнуўшы дзвярыма.)*

А в я р' я н. Ці можна так грукаць? Хлапчук! І нагогул... *(Гучна, для Ігара.)* Гляджу на вас, Клаўдзія, і здзіўляюся! Як вы, тонкая, рамантычная, выйшлі за такога...

К л а ў д з і я *(усміхнулася)*. Што значыць — «такога»? *(Прыбірае са стала.)*

А в я р' я н. Справа не ў камплекцыі. Каля вас ён духоўна не мантыруецца... Статная, прыгожая, увасабленне жаноцкасці, пяшчоты, кахання, нарэшце... Клаўдзія, нашто вам гэты сухар, ахвяра НТР? Патрэбен іншы!

Улятае І г а р, вылупіўшы вочы, глядзіць на Авяр'яна.

А в я р' я н *(спакойна)*. Забыліся на аловак? Ён на стале. *(Клаўдзіі.)* Даўно хачу пагаварыць з вамі. Адыдзем на кухню.

Ігар вяртаецца ў кабінет.

К л а ў д з і я *(таксама наблізілася да дзвярэй кабінета)*. Мы не перашкаджаем. Калі муж працуе, ён нічога не чуе.

А в я р' я н. Вам так ідзе гэта сукенка...

К л а ў д з і я. Праўда? А Ігар даўно не заўважае абноўку.

А в я р' я н. Клаўдзія, вам патрэбен сябра, які разумеў бы вас.

К л а ў д з і я *(уздыхае)*. Хвароба стагоддзя — некамунікабельнасць!

А в я р' я н. Глупства! Як вы думаеце — чаму я прымушаў вас пакутаваць гэтыя дні?

К л а ў д з і я. Прымушалі пакутаваць? Не заўважыла!

Ігар перастаў правіць тэкст, слухае.

А в я р' я н. Гэта была... праверка. І зараз я зразумеў — вы ідэальная жанчына... А кухарка! У «Арагві» так не гатуюць! Соус, прыгатаваны ўчора...

К л а ў д з і я. Спадабалася? Вы ж адмовіліся.

А в я р' я н. Кураня — ежа багоў!

К л а ў д з і я. А вось Ігар да ежы абыякавы.

А в я р' я н. Вы — як бальзам. Рыжскі. Ці ёсць на свеце больш цікавая жанчына?.. За гэтыя дні, што дыхаў з вамі адным паветрам... Прабачце, што кажу блытана... Я ўяўляю вас ціхай бухтаю, дзе мая спакутаваная ў жыццёвых бурах душа зможа залячыць, залатаць прабоіны... Але спатрэбіцца яшчэ адно намаганне, апошні крок, каб я цалкам вярнуўся да жыцця, зноў стаў чытаць лекцыі.

Ігар падыходзіць да дзвярэй, слухае.

К л а ў д з і я. Пра што вы, Авяр'ян Антоныч?

А в я р' я н. Я разумею — старамодны. Сёння маладыя так не гавораць... Яны не могуць гаварыць узвышаныя словы... З даўніх часоў вядома — мужчына любіць вачамі, а жанчына — вушамі. Калі мужчына не гаворыць ласкавых слоў...

К л а ў д з і я *(сумна)*. Або гаворыць іх мала...

І г а р. Правільна! Я пісаў пра гэта... *(Шукае ў часопісе артыкул.)*

А в я р' я н *(прыладжваецца нібы на трыбуне)*. З другога боку, таварышы, што маладыя ведаюць пра каханне? *(З натхненнем, нібы ў залу.)* А яшчэ дзве тысячы гадоў назад старажытныя індусы пра каханне ведалі болей, чым сённяшнія юнцы, якія скончылі ВНУ. Хто з маладых ведае, што жанчыну раней, можа быць, з раніцы, трэба рыхтаваць да святочнага часу кахання?! *(Імітацыя гучнага пацалунка.)*

К л а ў д з і я. О!

А в я р' я н. Мы ханжы, таварышы. Прыкрываючы-

ся паняццем «непрыстойнасць», наклаўшы табу на жыццёвыя рэчы, мы прыйшлі да таго, што ў нас самыя халодныя жанчыны. Акрамя Антарктыды! *(Зноў імітацыя пацалунка.)*

Клаўдзія. О!

Ігар шукае цяжкі прадмет, хапае прас, улятае ў залу, часта дыхае. Клаўдзія адскочыла ад Авяр'яна, паправіла валасы.

Авяр'ян. ...такім чынам, падзеі ў Паўднёва-Усходняй Азіі паказваюць, што агрэсар... *(Ігару.)* Вы што жадаеце прасаваць?

Ігар прыпячатвае прасам стол.

Авяр'ян *(незадаволена, не глянуўшы на Ігара).* Таварышы! Каму нецікава — прашу пакінуць залу.

Ігар вяртаецца ў кабінет.

Клаўдзія *(Авяр'яну).* Не звяртайце ўвагі. Напэўна, у рукапісе шмат апячатак. *(Уся ў марах.)* Як правільна вы гаворыце.

Авяр'ян. Хто вінаваты ў гэтым? Мы, мужчыны. Няведанне элементарных рэчаў, няўменне ўзрушыць жанчыну...

Ігар падняў крэсла, з грукатам паставіў.

Клаўдзія. Ігар, калі працуе, часам нервуецца.

Авяр'ян. Ёсць вобласць жыцця, якая існуе, важная для чалавека, а мы робім выгляд, нібы нічога гэтага няма, па-фарысейску заплюшчваем вочы.

Ігар *(бярэ часопіс, спехам гартае).* Так. Вось!

Клаўдзія. Я чытала ў «Здоровье»...

Авяр'ян. «Здоровье»? Гэта для школьнікаў. Я разумею — не трэба з полу рабіць культ. Але ігнараваць гэта найважнейшае звяно жыцця чалавека — сама менш неразумна. Добра, што я сустрэўся на вашым шляху — раскажу, азнаёмлю... А іншыя жанчыны? Уяўляеце, колькі трагедый?

Уваходзіць Ігар з часопісам.

Ігар *(Клаўдзіі).* Табе цікава? Я пісаў пра гэта!

Клаўдзія *(Авяр'яну).* Калі б вы толькі ведалі — як вы маеце рацыю...

Авяр'ян *(паглядзеў на яе пільна).* Клаўдзія, можа, будзе здавацца дзіўным тое, што я скажу... Я ў пятлю палез не праз Пенелопу — немагчыма маё жыццё з'яднаць з вашым!

Ігар здзіўлена сеў.

К л а ў д з і я. Авяр'ян Антоныч!

І г а р. Або ён з глузду з'ехаў, або... містыфікацыя? Але з якой мэтай?!

А в я р' я н. Клічце мяне проста, Клаўдзія, вы выратавалі мяне адзін раз. Не дайце загінуць у другі.

К л а ў д з і я *(прастадушна)*. Вам нічога не пагражае...

А в я р' я н. Без вас — загіну! З кожнай мінутай я ўсё болей і болей кахаю вас.

І г а р *(нервова засмяяўся)*. Ну-ну! У жонцы я ўпэўнены. Але цікава, як далёка гэты тып можа зайсці!

К л а ў д з і я. Авяр'ян!

А в я р' я н. Я нічога ад вас не патрабую. Занадта вялікая бездань паміж мною, старым, нікому не патрэбным, і вамі, маладой, прыгожай... Прашу трошкі сонца.

К л а ў д з і я. Яшчэ не ўсё згублена. Пенелопа вернецца.

А в я р' я н *(пакруціў галавою)*. Пасля такой здрады паміж намі не можа быць нічога... Ёсць святыя рэчы, таварышы. У перадсмяротны момант з маіх вуснаў прагучыць яшчэ адно імя — Клаўдзія... На Дунаі вас клікалі б Клавіцай.

К л а ў д з і я. Каб так кахаў мой муж!.. Спыніцеся, Авяр'ян Антоныч.

А в я р' я н. У вашых руках — жыццё!

К л а ў д з і я. Але я ў нейкім сэнсе замужам.

А в я р' я н. Гэта — замужжа? Удава! Саламяная!

К л а ў д з і я. Я паўтараю — у мяне ёсць муж.

А в я р' я н. Дапусцім. І што з гэтага? Памятаеце Чэхава, таварышы? «Мы спазніліся год на дзвесце». Гэта гаворыць Трафімаў.

К л а ў д з і я. Авяр'ян Антоныч, спынім гэту размову. Вы мне сімпатычны — «Но я другому отдана и буду век ему верна».

І г а р *(радуючыся)*. Маладзец! Вось гэта жонка!

К л а ў д з і я. Вы засмуціліся? Я магу стаць... вашай палюбоўніцай. Але не больш гэтага.

Клаўдзія заплюшчыла вочы, пакруціла галавой — як далёка зайшла! Але Авяр'ян ледзь бачна кінуў ёй і паказаў «на вялікі», г. зн. выдатна, так трымаць.

І г а р *(ускочыў, пашчыпвае сябе, каб пераканацца, што не спіць)*. Або жыццё — абсурд, або я звар'яцеў...

А в я р' я н. Станьце маёй законнай. Усё або нічога.

К л а ў д з і я. Развод — такая цяганіна... Ігар ніколі не згодзіцца.

А в я р' я н. Калі вораг не здаецца.

К л а ў д з і я. Не, не!

А в я р' я н *(памаўчаўшы)*. Так! Гэта канчаткова?

К л а ў д з і я *(цяжка ўздыхнуўшы)*. Так.

І г а р *(радасна)*. Ага! З'елі? Знайшоўся мне — Цэзар! Прыйшоў, убачыў, перамог...

А в я р' я н. Хвіліначку, зараз вярнуся. *(Выходзіць.)*

І г а р. Што ты сабе дазваляеш? Як ты сябе паводзіш?!

Клаўдзія, нібыта ўсхваляваная размовай з Авяр'янам, ходзіць па пакоі і быццам не чуе Ігара, расціраючы скроні.

К л а ў д з і я *(пра сябе)*. Што рабіць? Што рабіць?

І г а р. Гэты шызафрэнік — няхай! Але ты?!

К л а ў д з і я. Што рабіць? Што рабіць?

І г а р. Клаўдзія!.. Ці ты гэта?!

Тая ж рэакцыя Клаўдзіі. Вяртаецца А в я р' я н з пятлёй з вяроўкі, надзявае сабе на шыю, глядзіць на люстру, прысоўвае стол.

К л а ў д з і я. Што вы думаеце рабіць?!

А в я р' я н *(узлез на стол)*. У маёй смерці, таварышы, прашу нікога не абвінавачваць. *(Замацоўвае канец вяроўкі за люстру.)* Вытрымае, як вы думаеце?

І г а р. Бедлам!

К л а ў д з і я. Не рабіце гэтага! Зараз маладзік.

А в я р' я н. Патрымайце, калі ласка, стол. Хістаецца. Можна раней часу шыю зламаць.

К л а ў д з і я. Вы сур'ёзна жадаеце?..

А в я р' я н. Падаравалі глыток паветра, паказалі, якім цудоўным магло б стаць жыццё... Каб бальней было пайсці...

К л а ў д з і я. Узважце добра!

А в я р' я н. «Пусть камнем надгробным ляжет на жизни моей любовь...» Для чаго жыць, таварышы, калі ідэал недасягальны?

К л а ў д з і я. Не спяшайцеся.

А в я р' я н. Рэчы пашліце дзеду, у вёску. Ды пазваніце ў таварыства — лекцыю на мясакамбінаце я фізічна не змагу прачытаць.

К л а ў д з і я. Божачка! Ігар, пакінь рукапіс, дапамажы! Не чуе.

Засунуўшы рукі ў кішэні, выцягнуўшы ногі, Ігар пазірае з агідлівым выразам твару.

Авяр'ян. Гіну, кахаючы! *(Імкнецца саскочыць, боўтае нагой у паветры.)*

Клаўдзія. Дайце мне час падумаць!

Авяр'ян. «Как соломинкой пьешь мою душу...» А час працуе супраць мяне. Узрост!

Клаўдзія. Вы яшчэ сустрэнеце каханую жанчыну!

Авяр'ян. Ніколі! Я аднaлюб! Грубая вяроўка, можна падрапаць... *(Закладвае насоўку.)* Апошні раз — так ці не? Я чалавек, што перанёс траўму! Ах, не? Скачу!

Клаўдзія. Пачакайце, нельга ж так, адразу...

Ігар. Няхай скача!

Авяр'ян. Пахавайце мяне, таварышы, сціпла, без музыкі... І хоць бы раз у год — кветкі на магілу... Хрызантэмы, любімыя... Скачу на слове «пуск». Пяць, чатыры, тры, два...

Клаўдзія. Хоць у нас з Ігарам рыбіна каханне, падумайце, як жа я яго пакіну...

Авяр'ян. Знайшоўся хлопчык! Дарослы мужык, не загіне! Ведаеце, колькі адзінокіх жанчын!

Клаўдзія. Можа, я яшчэ не пакахала вас?

Авяр'ян. Глупства! Апетыт за сталом прыходзіць.

Клаўдзія. Ну, як жа — пры жывым мужу!

Авяр'ян. Іменна пры жывым гэта трэба рабіць. Калі б ён патануў у ваннай, я б не вырашыў...

Ігар *(выходзіць у кабінет, гартае рукапіс)*. Ён парушае ўсе правілы, усе нормы... Не ўкладваецца!

Авяр'ян *(нягучна)*. Што ж вы цягнеце?

Клаўдзія *(паціскае плячыма)*. Не магу — яму будзе балюча.

Авяр'ян *(разумеючы)*. Успомніце бяссонныя ночы, смутак...

Вяртаецца Ігар з рукапісам, сядае, праглядвае і часам пазірае на Авяр'яна.

Клаўдзія. Я не магу з гэтым згадзіцца!..

Авяр'ян. Таварышы, якія мы не сучасныя! Зразумейце, дзеці нашы будуць смяяцца над тым, як мы жылі! Усё! Арыведэрчы, Рома!.. *(Збіраецца саскочыць.)*

Клаўдзія. Чакайце!

А в я р' я н. Колькі лекцый не паспеў прачытаць! Колькі юных сэрцаў не запаліў!.. Так ці не?!

К л а ў д з і я. Божа мой! Калі б Ігар так мяне кахаў! Так...

А в я р' я н. Ну, вось, разумныя людзі заўсёды могуць дамовіцца. «Свеча горела на столе, свеча горела...» *(Здымае пятлю з шыі, адкідвае ўбок, злазіць са стала, абдымае Клаўдзію.)*

І г а р *(адлучана)*. Клаўдзія?! *(Накіроўваецца да выхада.)*

А в я р' я н *(адарваў галаву ад Клаўдзіі)*. Ігар Міхалыч, не забудзьцеся на цыгарэты! *(Зноў прыціскаецца да жанчыны.)*

Клаўдзія спрабуе павялічыць прамежак паміж імі, злуе, але Авяр'ян трымае яе ўпэўнена.

І г а р *(адчыняе дзверы)*. Ідзіце, калі ласка, адсюль!

А в я р' я н. Позна, дружа! *(Клаўдзіі.)* У тым пакоі, мой сябра, пагаворым пра дзіўныя бакі кахання.

І г а р. Тады пайду я! *(Спяшаючыся, апранаецца. Схапіўшы рукапіс, выскоквае з кватэры.)*

А в я р' я н *(наўздагон)*. «Неделю» купіце!

К л а ў д з і я. Здаецца, перагнулі... Бачылі, з якім тварам ён пайшоў?

А в я р' я н *(уздыхнуў)*. Як кожная аперацыя, гэта не можа не балець. Але вы — малайчына! Так добра адчуваеце партнёра... Не чакаў!

К л а ў д з і я. Мне страшна... Я пабягу, вярну!

А в я р' я н. Ні ў якім выпадку! Вы ўсё сапсуеце!

К л а ў д з і я. А што рабіць?

А в я р' я н *(памаўчаўшы)*. Паехалі на возера. Вада, напэўна, цёплая-цёплая!

К л а ў д з і я. Як вы можаце?! Ігар адзін...

А в я р' я н *(усміхнуўся)*. Я знайшоў у вас цудоўныя пласцінкі! Захапляюся Моцартам! Бачылі, як гартуюць сталь? Даводзяць да белага калення, а потым — у халодную ваду... Гульня толькі пачынаецца!

Музыка.

## Карціна чацвёртая

Прайшло некалькі гадзін. Ігар улятае ў пакой, глядзіць на Клаўдзію, з немым пытаннем імкнецца даведацца, што адбылося за час, пакуль ён адсутнічаў.

Ігар. А?!

Клаўдзія *(трагічна)*. Як ты мог, як ты мог!.. Пакінуць мяне ў такую хвіліну...

Ігар. Што здарылася? *(Ставіць на стол ром, кладзе цыгарэты.)*

Клаўдзія *(узіраючыся ўдалячынь)*. Ігар, ты памятаеш, што Жанна д'Арк выратавала Францыю?

Ігар. Вядома.

Клаўдзія. Што жонкі дзекабрыстаў паехалі за сваімі мужамі ў Сібір?

Ігар. Зразумела. Але ў чым справа?

Клаўдзія *(высока ўзняўшы галаву)*. Мы павінны разысціся!

Ігар *(з палёгкай)*. Нарэшце! За гэтыя некалькі дзён наша жыццё стала падобнае на ад.

Клаўдзія. Ты не зразумеў — разысціся павінны мы з табою. Я ўжо не твая жонка.

Ігар. Клаўдзія!

Клаўдзія. Я люблю Аўяр'яна Антоныча.

Аўяр'ян за сцэнай напявае басам «Я танцевать хочу, я танцевать хочу...».

Ігар. Гэтага?

Клаўдзія *(абражана)*. Што значыць — гэтага?

Ігар. Ён бацькам... Дзедам табе можа быць!

Клаўдзія. Наадварот. Я палюбіла яго, як маці! Слабога, бездапаможнага...

Ігар. Ён слабы, бездапаможны?

Клаўдзія. І ён пакахаў. Такое каханне, кажа, бывае раз у сто год!

Ігар. Хочаш клопатаў — у цябе ёсць сын!

Клаўдзія. Аліка не лічы. І наогул, ён болей прывязаны да бабкі з дзедам. Яму да нас справы няма.

Ігар. Клаўдзія, ты... і ён? Вар'яцтва! Ён мысліць, як дыназаўр, разважанні пецікантрапа... Захапіцца такім!.. Калі б ён быў стройны, як Апалон, прыгожы, як Дэлон...

Клаўдзія. Мы выратавалі сірату. І я хачу паставіць яго на ногі.

І г а р. На ногі? Гэтага бугая?!

К л а ў д з і я *(скрывілася).* Аваяр'ян Антоныч павінен паверыць у людзей, у жыццё. Я стану яму сябрам, апорай.

І г а р. Але ты — мая жонка!

К л а ў д з і я. Ты малады, яшчэ сустрэнеш... А для Аваяр'яна Антоныча я апошні шанц, можа — лебядзіная песня... Калі я яго кіну...

І г а р. Кіну? Якія ў цябе перад ім абавязкі?

К л а ў д з і я *(паціраючы скуру шыі).* Княгіня Валконская паехала за сваім мужам на катаргу.

І г а р. Менавіта — за мужам.

К л а ў д з і я *(незадаволена).* Ты заўсёды ўсё зблытаеш. Выратаваць чалавека — што можа быць больш пачэсна? Але гэтага ты не зразумееш. Вось Аваяр'ян Антоныч — натура тонкая, мастацкая...

І г а р. За абедам па пяць блюд лопае.

К л а ў д з і я. Ты робішся вульгарным. Ён любіць жыццё, эпікурэец. Колькі ласкавых слоў! А ты даўно не гаворыш іх.

І г а р. Няспынна гаварыць пра каханне — мы не школьнікі!

Клаўдзія разглядвае ў люстэрка сваю шыю.

Слухай! Што там у цябе?!

К л а ў д з і я. Ах, гэты жартаўнік...

І г а р *(здзіўлена).* Ты... Ты з ім?! Клаўдзія!

К л а ў д з і я. Святая Агнеса сваім целам плаціла, каб захаваць бацьку. *(Выступае як прамоўца.)* Жыццё чалавека — ці гэта не самае важнае? Самае галоўнае, таварышы!

І г а р. Ён!

К л а ў д з і я. У Аваяр'яна Антоныча ёсць чаму павучыцца! З ім я расту духоўна.

І г а р. Ды ці ты гэта?

К л а ў д з і я. Я заўсёды прагнула подзвігу, самаахвяры дзеля выратавання чалавека... Але табе гэта не было патрэбна.

І г а р. Клаўдзія, як ты магла... Не разумею!

К л а ў д з і я. Я хацела, каб ён паверыў у сябе. Гэта вялікае шчасце — выратаваць тапельца! «Мы ў адказе за тых, каго прыручылі».

І г а р *(пасля паўзы).* Калі яе захапіў нават лектар з кароўніка... якія ж мае справы! Я яго заб'ю.

К л а ў д з і я. Толькі паспрабуй!

Званок. Клаўдзія адчыняе. З цыгарэтай у зубах уваходзіць Пенелопа.

Пенелопа. Гаспадыня, тараканы прыйшлі?

Клаўдзія. Мы іх не звалі.

Пенелопа. А жоўтыя мурашкі?

Ігар *(раз'юшана)*. Толькі жоўтых мурашак нам не хапала!

Пенелопа. Дзіўна! Хто ж іх заманіў — суседка?

Клаўдзія. Наўрад ці — яна ў палёце.

Ігар. Паслухайце, а ці няма ў вас пацучынага яду?

Клаўдзія. Апамятайся! Гэта так не сучасна...

Пенелопа. Значыць, хутка будуць. *(Таямніча.)* Ліхаманка скалістых гор! Папатачы! *(Выходзіць.)*

Ігар. Хто сказаў: мой дом — мая крэпасць?!

З ваннага пакоя выходзіць Авяр'ян, загорнуты ў махровую прасціну з ручнікам-чалмой на галаве.

Авяр'ян *(напявае)*. «Любо, братцы, любо, любо, братцы, жить, с нашим атаманом не приходится тужить!» Ага! Усё ж дасталі «БТ»? Цудоўна! «Апалу» не было? Што вы на мяне так глядзіце?

Ігар не адказвае.

Клаўдзія. Авяр'ян Антоныч, я аб усім паведаміла.

Авяр'ян. Ах, ну. Раней часу. Між іншым... Клаўдзія Васільеўна, калі ласка, пакіньце нас. З былым мужам — без хітрыкаў.

Клаўдзія. Авяр'ян Антоныч!

Авяр'ян. Не хвалюйцеся. Ці маладыя ўжо не паважаюць старэйшае пакаленне?

З пяшчотай паглядзеўшы на Авяр'яна, Клаўдзія накіроўваецца да дзвярэй, але затрымліваецца, каб паправіць у вазе кветкі.

З чаго пачнём? *(Сядае ў крэсла, закідвае нагу на нагу, курыць.)* Белыя пачынаюць і прайграюць.

Ігар. Ведаеце, хто вы?

Авяр'ян. У якім сэнсе — філасофскім, сацыяльным? Біялагічным? *(Жэстам запрашае да дыскусіі.)*

Ігар *(не знаходзячы слоў)*. Вы!.. Вы... Гіпапатам!

Авяр'ян *(разгублена)*. Як вы сказалі?

Ігар. Гіпапатам! Бегемот!

Авяр'ян. Клаўдзія! Вы сведка! *(Рашуча падыходзіць да паліцы, знаходзіць том «Энцыклапедыі»,*

*гартае.)* Ага! «Гіпапатам — рачны конь *(з грэчаскага)*, парнакапытнае, млекакормячае...» *(Уважліва паглядзеў на Ігара.)* «...Даўжыня цела дарослага самца да чатырох з паловай метраў, важыць тры-чатыры тоны». Нічога агульнага! «Тулава падоўжанае, важкае і няўклюднае, скура амаль голая, тоўстая, медна-бурая. Галава масіўная, з шырокай мордай, маленькімі вочкамі і кароткімі вушамі». *(Паглядзеў у люстэрка.)* Рашуча нічога агульнага! *(Раскладвае том.)* А калі так, прыцягваю вас, Ігар Міхалыч, да крымінальнай адказнасці за плётку! Клаўдзія, выступіце на судзе! За краты былога мужа!

Клаўдзія. Гэта жорстка, Аўяр'ян Антоныч!

Аўяр'ян. Мінімум пятнаццаць сутак адсмаліць! У нас будуць два спакойныя мядовыя тыдні!

Клаўдзія. Не, не! Што скажуць суседзі? *(Выходзіць.)*

Аўяр'ян. Давайце без грубасцей, малады чалавек! Усё-такі дваццатае стагоддзе. Развітвацца трэба па-джэнтльменску, без скандалаў. Ведаеце што? Запрасіце мяне і Клаўдзію ў рэстаран. А? Пасядзім пры свячах... Можна і сяброў паклікаць!

Ігар. Жадаеце ўзяць за дачку маю жонку?

Аўяр'ян. Самы вялікі недахоп нашай моладзі — гэта хамства. Відавочнае, непрыкрытае!

Ігар. Як кажуць з даўніх часоў — не пажадай жонку бліжняга.

Аўяр'ян. Хто гаварыў? Царкоўнікі, мракабесы! Папоўскія штучкі! Ведаеце, у колькі чалавечых жыццяў абышлася Еўропе інквізіцыя? *(Пільна паглядзеў.)* Біблію пачытваеце? Не тая літаратура! Глядзіце, могуць і ананімку накатаць, куды трэба...

Ігар. Клаўдзія — мая жонка... Разумееце? Мая, мая!

Аўяр'ян. Мая, мая... Заладзілі! А вы — уласнік! Не магу зразумець — адкуль у вас, маладога пакалення, гэтыя рудыменты мінулага? Нават у мой час часцей карысталіся іншымі словамі — мы, наша...

Ігар. У мяне ў пашпарце штамп, нарэшце!

Аўяр'ян. Ляпнулі штэмпель і думаеце — заарканілі жанчыну? Вы яе не любіце! Таму мае гарачыя пачуцці знішчаць з яе пашпарта гэты сімвал прыгонніцтва.

Ігар. У доме, дзе прыгрэлі...

Аўяр'ян. Вось гэтым папракаць не трэба. Аба-

вязак кожнага выхаванага чалавека. Прыгрэлі! Вы, як я бачу, яшчэ і дэмагог.

І г а р. Не разумею — мая Клаўдзія і вы...

А в я р ' я н. Ну, што вы раскіслі! Паглядзіце на сябе збоку! Мужчына! Моцны пол! *(Азірнуўшыся, ціха.)* Ведаеце, што б я зрабіў на вашым месцы? Клін выганяюць клінам! У горадзе поўна адзінокіх жанчын. Я мог бы... і падказаць некага...

І г а р. Што ж вы... умыкнулі маю жонку?

А в я р ' я н. Давайце разважаць лагічна — а калі гэта каханне? Убачыў жанчыну, пакахаў да труны... Ведаеце, гэта... Як маланка! Але ж і жанчына!

І г а р. Абсурд. Нонсэнс. Бязглуздзіца.

А в я р ' я н. Э! Да чаго ж вы, маладыя, да жыцця не прывучаны! Падумаеш, жонка пайшла! Падзея! Дык што — зямны шар з-за гэтага перастаў круціцца? Раскрыйце газеты, таварышы, паслухайце радыё... І зразумееце, наколькі дробязныя, нікчэмныя вашы перажыванні. Жыць трэба страсцямі стагоддзя.

І г а р. Скажыце яшчэ пра будаўніцтвы часу.

А в я р ' я н. І скажу! Вас, маладых, вучыць трэба!

І г а р. Каго вы мне нагадваеце? Не магу ўспомніць...

А в я р ' я н. Горкага? Рамэн Ралана? Не згодзен. Хоць мне гаварылі.

І г а р *(са смутнай іроніяй)*. У камандзе майстроў падмена, замест Цяпкіна, што выбыў з гульні, на поле выйшаў Ляпкін...

А в я р ' я н. Не дасціпна. Хачу перасцерагчы — як старэйшы таварыш, сябра — не апускайцеся да цынізму.

І г а р. Усе мае ўяўленні пра жыццё... *(Гартае рукапіс.)* Катастрофа... *(Нядбайна адкідвае рукапіс.)*

А в я р ' я н. А гэта ўжо шантаж! Але ўтрымліваць жанчыну такім чынам у эпоху НТР — ганебна для мужчыны.

І г а р. Увялі... З уласнай кватэры!

А в я р ' я н. Сафістыка! Што значыць — увялі? З прыгоннага кірмашу? Або выцягнулі з сераля? Адкуль у вас, маладых, гэтакія рабаўласніцкія замахі? Вам бы пры дамастроі жыць! Адно з нашых грандыёзных заваёў — жанчына стала вольная, сама вырашае свой лёс. Пагартайце жаночыя часопісы.

І г а р. Бясспрэчна, кагосьці нагадваеце.

Авяр'ян. Ігар Міхайлыч, нельга так распускацца! Успомніце, ваш цёзка з палавецкага стана ўцёк!

Ігар. А самі ў пятлю лезлі!

Авяр'ян. Няпраўда. Я проста хацеў звярнуць увагу вашай жонкі на сябе.

Ігар. Думайце як хочаце — Клаўдзію я не аддам.

Авяр'ян. А мы ў свой час маглі ахвяраваць дзеля іншых. Нават знаходзілі ў гэтым радасць!

Ігар. Чаму яна гэта зрабіла?

Авяр'ян. Я вам растлумачу! Папулярна. Жыве на свеце жанчына. З мужам. Шэрым, невыразным жыццём. Але вось на гарызонце з'яўляецца постаць...

Ігар. І засланяе гарызонт.

Авяр'ян. ...з'яўляецца постаць. І жанчына разумее — жыла не так, будзе шчаслівая толькі з прышэльцам. Ён яе разумее, абагаўляе. Ёсць пытанні па дадзенай інфармацыі?

Ігар. Што ж цяпер рабіць?

Авяр'ян. Адкажу. Кахаеце жонку?

Ігар. А вы як думаеце?

Авяр'ян. Не перашкаджайце яе шчасцю. Наступіце на горла ўласнай песні. Сыдзіце з дарогі, таварыш!

Ігар. Пасля абароны спадзяваўся наладзіць для жонкі цікавую паездку, жыццё пачаць па-новаму, са святамі.

Авяр'ян. Доктарскую пра сям'ю. За што толькі грошы плацяць! Дробнасць!

Ігар. З якога гэта часу сям'я стала дробнай тэмай?! Так! Добра, што нагадалі. Мае запісы... *(Выходзіць у кабінет.)*

Авяр'ян устае, скідвае халат, збірае свае рэчы. Уваходзіць Клаўдзія, нібыта задае пытанне поглядам.

Авяр'ян. Пайду.

Клаўдзія. Куды?

Авяр'ян. Я чакаў вострых пачуццяў, а ён не змагаецца.

Клаўдзія *(гнеўна)*. Ах, не цікава?! Прыйшлі забаўляцца?!

Авяр'ян. Я люблю, каб партнёр заганяў мяне ў кут, безвыходныя сітуацыі! А ты з пакутлівай радасцю шукаеш выйсце, зноў кідаешся ў атаку!.. Гэта не барэц.

**К л а ў д з і я.** Я выходзіла замуж за вучонага, а не дзюдаіста!

**А в я р' я н.** Вось і расхлёбвайце! Рэферат — важней!

Зазірнуў у смутныя вочы Клаўдзіі.

Добра, працягнем тэрапію.

К л а ў д з і я выходзіць. З'яўляецца І г а р.

Справа вырашаная — ад жанчыны я не адмаўляюся. Але адкажыце на адно пытанне: у вас ёсць іншая?

**І г а р.** Іншая? Няма!

**А в я р' я н.** Тады я вас не разумею! Яна не толькі хвалюе! Яна... Яна... Паверце — у жанчынах я разбіраюся! Такую на руках трэба насіць!

**І г а р.** Няўжо пакінуў у інстытуце?

**А в я р' я н** *(уздыхнуў).* Ігар Міхайлыч, як вы думаеце — чаму я зрабіў гэты крок? Дзеля каго?

**І г а р.** Сапраўды, дзеля каго?

**А в я р' я н** *(падышоў да шафы, адчыніў, паглядзеў на дублёнку).* Вы, вялікі тэарэтык, ведаеце, што ў сітуацыя з сем'ямі катастрафічная! Трашчаць, развальваюцца... Толькі вы можаце ашчаслівіць чалавецтва! Вырашыць праблему! І гэтым вы жадаеце ахвяраваць дзеля хісткага, прывіднага шчасця з жанчынамі? Ігар Міхалыч! Пакіньце практыку простым смяротным. Вы — арол! Але як вы можаце лётаць, калі жанчына, сям'я ўтрымліваюць вас за крылы! Ваша стыхія — навука! Ваш дом — сектар інстытута. І ведаеце што — пакарайце яе за здраду!

**І г а р.** Якім чынам?

**А в я р' я н.** Пастаўце перад сабою мэту — праславіцца на цэлы свет! Каб пра вас загаварылі — газеты, радыё, паказвалі па цэнтральным тэлебачанні! Уяўляеце, як яна пачне кусаць локці?

**І г а р** *(задумаўся).* Нават інтанацыя знаёмая...

**А в я р' я н.** Так! Дзеля навукі, дзеля вашай карысці — сыдзіце з нашай дарогі.

**І г а р.** Нашай?

**А в я р' я н.** Заўважце, таварышы, я не сказаў — маёй!

**І г а р.** Басурманаў! Ну, канечне.

**А в я р' я н.** Пра што вы?

**І г а р.** Вы — Басурманаў! Як я адразу не зразумеў?

А в я р' я н. Глупства, галюцынацыя. Ёсць добрая песня пра сяброўства мужчын! *(Насвіствае, пасля напявае.)* «Уйду с дороги, таков закон, третий должен уйти».

І г а р *(не паверыў).* Адыходзіце?

А в я р' я н *(дакорліва).* Ігар Міхалыч! Я ў два разы старэйшы за вас! Пасаромеліся б!

Ігар гаротна ківае галавой.

Майцеся, сябра. Што б я вам параіў? Наваліцца на працу. Гэта вялікі лекар. Пра аліменты не хвалюйцеся, аформім пазней. Дачку выхаваем правільна.

І г а р. У мяне сын.

А в я р' я н. Ах, так? Гэта горш. Можаш усе сілы ўкласці ў дзіця, а вырасце сухар і зануда. Накшталт бацькі. Гены — страшная справа.

Уваходзіць К л а ў д з і я, ставіць невялікі чамадан каля ног Ігара, сама сядае каля Авяр'яна на падлакотнік крэсла, паклаўшы руку яму на плячо. Глядзіць толькі на Авяр'яна, чуе толькі яго голас.

К л а ў д з і я. Я сабрала твае рэчы.

І г а р. Клаўдзія, як жа... без цябе?

А в я р' я н. Зноў шантаж! Грамадства ў нас здаровае, не дасі загінуць чалавеку.

І г а р *(Клаўдзіі, ківае на Авяр'яна).* Басурманаў! Ён — Басурманаў!

А в я р' я н. Магу паказаць пашпарт.

І г а р. Ён. Копія!

А в я р' я н. Падобны — не падобны. У нас кожны чалавек індывідуальнасць.

І г а р *(Клаўдзіі).* З Алікам не вырашылі...

К л а ў д з і я *(закахана глядзіць на Авяр'яна).* Хлопчык становіцца дарослым з кожным днём, зразумее.

А в я р' я н. Вы можаце з сынам бачыцца. Раз ці два ў тыдзень. А па нядзелях прыходзьце абедаць. Правільна, Клаўдзія?

К л а ў д з і я. Так! *(З захапленнем сустракае кожную рэпліку Авяр'яна.)*

І г а р. Клава...

А в я р' я н. Ігар Міхалыч, пераканаўча прашу маю жонку называць Клаўдзіяй Васільеўнай. Каб пазбегнуць плётак. Існуюць нейкія рамкі. *(Паглядзеў на гадзіннік.)* Давайце прытрымлівацца рэгламенту.

І г а р *(Клаўдзіі).* Ты добра ўяўляеш, з кім застанешся? Набліжацца да гіпапатамаў небяспечна. Яны нападаюць не толькі на людзей, але і на лодкі — іх магутныя сківіцы раструшчваюць барты, як шкарлупіны...

Клаўдзія закрывае вушы.

А в я р' я н. Прапаганда! Грубая, лабавая, на прасцякоў!

І г а р *(паглядзеў на чамадан).* А кнігі?

А в я р' я н. Трэба быць мужчынам. Вазьміце пару бялізны і адыходзьце высакародна. Сухары, гэта значыць, прадукты, купляйце ў кулінарыі.

І г а р. Чаму я павінен пайсці?

А в я р' я н. Вітаю Вас! Як дарослы чалавек вы павінны зразумець — утраіх заставацца тут мы не можам.

І г а р. У мяне няма другой кватэры.

К л а ў д з і я. Ёсць цудоўнае выйсце: Ігар будзе жыць у вашай аднапакаёвай!

А в я р' я н *(Клаўдзіі).* Жадаеце давесці яго да псіхіятрычнай лячэбніцы? Кожны дзень бачыць вас на лесвіцы, чуць за сцяною ваш голас, смех... Клаўдзія, я лічыў, што вы больш гуманная. Пашкадуйце яго нервы! Бегчы, Ігар Міхалыч, бегчы з гэтага раёна. І далей!

К л а ў д з і я. Тады абмен?

А в я р' я н. Такая нервовасць з абменам... *(Падыходзіць да сцяны, выстуквае, акрэслівае далонню ўяўляемыя дзверы.)* Выдатны кабінет можна было б тут зрабіць!

К л а ў д з і я. Але Ігар!

А в я р' я н. Ігар Міхалыч павінен пажыць у сяброў. Або ў інтэрнаце. Адзінота ў яго стане — верны інфаркт.

К л а ў д з і я. Ігар... У дзядзькі — вялізная кватэра! Дзеці раз'ехаліся.

А в я р' я н. А там можна падумаць і пра кааператыў. Якія дамы сталі будаваць! Як у казцы!

І г а р. Выліты Басурманаў!

А в я р' я н. Вып'ем на дарогу? *(Налівае ў келіхі, падае Ігару.)*

І г а р. Перад карай прысуджаных частавалі ромам?

А в я р' я н. Фізікі жартуюць? Давайце вып'ем за

слова! Якое дае надзею, кліча наперад! Усепераможнае!.. Кім бы я быў, каб не валодаў словам? Стаў чытаць лекцыі — пайшоў угору. Ну? *(П'е.)*

І г а р. Ненавіджу вашыя словы! Чалавек здабыў слова, каб клікаць на дапамогу! Дапамагаць адзін другому. У што вы яго ператварылі?!

А в я р' я н. Не рабіце з сябе казанскую сірату. Хныканнем сёння нічога не даб'ешся! Неразумна быць праведнікам, калі іншыя прадпрымальныя. Мы на вас забывацца не будзем. Як-небудзь наведаем. Калі ў вас дзень нараджэння? *(Напявае.)* «К сожаленью, день рожденья только раз в году».

І г а р. У маі, у дзень памінання памершых.

А в я р' я н. Не падабаецца мне ваш настрой! Спортам займаецеся? Трушком бегаеце?

І г а р. Пачну сёння.

А в я р' я н. Настойліва раю. *(Паглядзеў на гадзіннік, сабраўся абняць Ігара.)* Ну, развітаемся як сябры... *(Абдымае Ігара, цалуе. Ігар гідліва адхіляецца.)* Што гэта ён у вас такі неласкавы? *(Ігару.)* Колькі цудоўных людзей вакол нас! Падабаецеся вы мне!

І г а р. Сказаў удаў кроліку.

А в я р' я н. Ну, чаму так. Не будзьце такім букаю! Да вас з раскрытай душою, а вы... І наогул, вучыцеся ўсміхацца. Гэта ў вас створыць добры настрой і ў акаляючых.

І г а р. Так гаворыць Басурманаў... Вялікі падманшчык!

А в я р' я н. Ну і ну! Вось так вы за мае добрыя адносіны. Пакрыўдзілі вы мяне моцна!

І г а р. Не развітваюся.

А в я р' я н. А вось на гэта, таварышы, не разлічвайце. Сустрэнеце адны шыпы. *(Клаўдзіі.)* Як я шкадую гэтых бесхрыбетных інтэлігентаў, падобных на львоў!

І г а р *(раптам рашуча наліў сабе рому, выпіў)*. Так вось — я не пайду. Тут мой кабінет!

А в я р' я н *(таксама наліў, выпіў)*. І я не пайду.

І г а р *(зноў наліў, выпіў)*. Аб'яўляю вайну. Іду на «вы»!

А в я р' я н *(таксама наліў, выпіў)*. Валяйце!

К л а ў д з і я. Ігар! Ты ж не п'еш!

І г а р *(паглядзеў на бутэльку, але не крануў)*. Вам не прыходзіць у галаву, што я магу вас забіць?

А в я р' я н. Я застрахаваны. На буйную суму.

Ігар выходзіць у кабінет, вяртаецца з паляўнічым ружжом, цэліцца ў Авяр'яна.

Авяр'ян *(адыходзіць назад, узбіраецца ў абутку на крэсла).* Вы што?

Ігар. Лічу да трох. Раз...

Авяр'ян. Чакайце! Я не паспею...

Ігар. Два... Ёсць у вас апошняе жаданне?!

Авяр'ян. Так! Бегчы з гэтай кватэры!

Ігар. З жанчынай?! *(Цэліцца.)*

Авяр'ян. Не! Яна не паспее апрануцца. Але калі вы настойваеце... Клаўдзія! Ратуйце! Ён заб'е. *(Рассмяяўся.)* Такім вы жадалі мяне бачыць?.. Шкада, што ружжо няспраўнае!

Ігар *(панік).* Дурное становішча! Не выклікаць жа міліцыю. Гэта мая кватэра! Мая жонка!

Авяр'ян *(ачомаўся).* Зноў гэты ўласнік! Зразумейце, у нас з Клаўдзіяй мядовы месяц. Няўжо не ясна — маладыя павінны жыць асобна!

Ігар. Клаўдзія, хачу пагаварыць сам-насам!

Клаўдзія глядзіць на Авяр'яна.

Авяр'ян *(пагладзіў яе руку).* Праігрываючы бок папрасіў тайм-аут? Пагаварыце, пагаварыце. Залатыя горы будзе абяцаць. А заўтра... *(Выходзіць.)*

Ігар. Клаўдзія, я быў не правы. Але я кахаю.

Клаўдзія. Ты ў гэтым упэўнены?

Ігар *(уключае музыку).* Ты памятаеш, што ў нас ёсць свая мелодыя... Памятаеш, што на Блакітных азёрах ёсць наш востраў. Там растуць дзіўныя кветкі... Мы пакляліся прыязджаць туды разам.

Клаўдзія. За два гады — ні разу не выбраліся.

Ігар. Пачакай да абароны! Ад спартсмена на дыстанцыі нельга патрабаваць знакаў увагі. *(Цягнецца да яе рукі.)*

Клаўдзія *(прымае руку).* Усё жыццё — дыстанцыя без прыпынкаў.

Ігар. Але не я задаў гэты тэмп! Час гоніць і гоніць. Важна, што мы родныя, блізкія душы, кахаем адзін другога!

Клаўдзія. Гэта не каханне — эрзац. У гонцы мы згубілі адзін другога — эрзац адносін, эрзац пяшчоты. З ім будзе іначай. Авяр'ян Антоныч!

Авяр'ян *(уваходзячы).* Рэгламент, таварышы! *(Выключае музыку.)*

Ігар. Мне будзе не хапаць цябе... Вельмі!

К л а ў д з і я. Раней трэба было думаць.

А в я р' я н. Паспяшайцеся ў ванную. Там вяроўка.

І г а р. Паслухайце, вы! Убірайцеся да чорта!

А в я р' я н. Сілай у наш час ужо нічога не даб'ешся.

І г а р. Дык вось — я нікуды не пайду!

А в я р' я н. І я нікуды не пайду.

К л а ў д з і я. Я таксама нікуды не пайду. Авяр'ян Антоныч, а калі Ігар пажыве з намі? Покуль прызвычаіцца?

А в я р' я н *(зморшчыўся)*. Ёсць у гэтым нешта нездаровае. Але жаданне жонкі — закон.

Мы з Клаўдзіяй будзем у тым пакоі, а Ігар Міхалыч — у гэтым.

І г а р. Нізашто! У крайнім выпадку, Клаўдзія — там, мы з вамі — тут.

А в я р' я н *(уздыхае)*. Утраіх? Нейкая двухсэнсавасць... Паслухайце! Рыцарскі ўчынак! Наладзім здаровае спаборніцтва! За жанчыну! Ігар Міхалыч, я велікадушны! Даю вам апошні шанц... Пажывём утраіх, і Клаўдзія выбера больш вартага!

І г а р. Што значыць — утраіх?!

А в я р' я н. Цудоўны дэвіз у спартсменаў — няхай пераможа лепшы! Бяру на сябе абавязацельства ў тры дні... Не, я перагледзеў, у два дні дасягнуць поспеху.

І г а р. Якога поспеху?

А в я р' я н. Канчаткова вырашыць пытанне ў маю карысць. Буду, Ігар Міхалыч, вашым настаўнікам.

І г а р *(горка)*. А я думаў, што Клаўдзія — крэпасць, скала.

А в я р' я н. Няма такіх цытадэляў, якіх бы... Тарам-пам-пам... Раніцаю палітінфармацыя... Сям'я будучага! Новы пачын!

Клаўдзія становіцца паміж мужчынамі, абняла за плечы аднаго і другога. Авяр'ян і Клаўдзія, раскачваючыся, спяваюць: «Оба парня славные, оба хороши; ой, рябина, рябинушка, сердцу подскажи...» Ігар, заўважыўшы, што рука Клаўдзіі ляжыць і на плячы Авяр'яна, ускіпеўшы, гатовы біцца, але Клаўдзія, не перастаючы пець, утрымлівае яго.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна пятая

Ігар з ручнікам на галаве заўзята піша. Выраз твару гранічна злы. Утульна ўладкаваўшыся ў крэсле, Авяр'ян чытае вершы пра каханне, здаецца, Ахматавай. Клаўдзія, насупраць яго, вяжа, апранута элегантна, прыгожая прычоска. У кабінеце каля тахты з'явілася раскладушка.

Авяр'ян *(чытае)*. «Настоящую нежность не спутаешь ни с чем, и она тиха. Ты напрасно бережно кутаешь мне плечи и грудь в меха». Тады яшчэ былі ў продажы... Вялікая паэтэса! Або вось: «Ты пришел меня утешить, милый...» *(Працягвае букецік, нягучна.)* Як вы спалі, Клаўдзія Васільеўна?

Клаўдзія *(шэптам)*. Не спалася. *(Гучна.)* Прабач, дарагі, калі ты выходзіў, пазванілі — павінен выступіць на сходзе. *(Нюхае букецік.)*

Авяр'ян. Па якому пытанню?

Клаўдзія. Я не спытала. Вось прыкрасць!

Авяр'ян. Даведаюся пазней. Калісьці Антон Паўлавіч сказаў: «Дайце мне чарнільніцу, і я напішу апавяданне». А мне — тэму для выступлення. Яшчэ студэнтам празвалі — штатны выступаючы! Люблю гэту справу! Магу абмеркаваць кнігу, якую не чытаў, выступіць на семінары пра перавагу штучнага асемянення, на пахаванні... Дзе хочаце і пра што хочаце.

Ігар *(азірнуўся)*. Трыбун! Цыцэрон! Зноў кветкі? У мяне ад іх алергія, насмарк!

Авяр'ян. Ты сёння надзіва прыгожая!

Клаўдзія. Дзякую.

Ігар. Колькі можна адно і тое ж?!

Клаўдзія. Калі мне прыходзіцца выступаць — баюся!

Авяр'ян. Дарэмна! Так далёка не прасунешся. Вучыся аратарстваваць. Напярэдадні прачытай перадавіцу, другія матэрыялы і смела выходзь на трыбуну. «Таварышы! Выконваючы... У святле рашэнняў... Крочачы...» Ніякага аналізу, ніякіх прапаноў, набор гучных фраз — але цябе ўжо заўважылі. Калі яшчэ здолееш звярнуць увагу на невялікія недагляды ў рабоце, можаш не сумнявацца — цябе высунуць!

Клаўдзія. Баюся, я так не змагу.

Авяр'ян. Глупства! Выходзь на трыбуну з ха-

лодным сэрцам. У поглядзе — перакананасць. Славесна й эквілібрыстыкай шмат чаго можна дасягнуць! *(Паправіў свае валасы.)*

Клаўдзія. Як ветэрынар стаў лектарам?

Авяр'ян. Пачалося з блытаніны. Была запланавана лекцыя пра сяброўства і каханне, але памылкова запрасілі не сапраўднага лектара, а мяне — падобныя прозвішчы. Я ўвайшоў, з натхненнем расказаў пра хваробы жывёл у вясенні перыяд. Слухачы вырашылі, што так і трэба, што гэта папярэджанне. Пасыпаліся пытанні пра другія хваробы, сяброўства і каханне. Бурныя апладысменты навялі мяне на думку падрыхтаваць уласную лекцыю. Яе зацвердзілі. Так пачалося маё трыумфальнае шэсце па аўдыторыях і залах. І вось — магу гаварыць гадзінамі. З любога повадУ. Сёння кожны другі — аратар! Асабліва люблю моладзь. Вочы гараць, чыстыя погляды, што накіраваны ў будучае.

Ігар. І гэтага дыназаўра трымаюць у лектарах?

Клаўдзія *(Авяр'яну)*. Я задаволена, мілы, што ты зноў у працы. Табе добра са мною?

Авяр'ян *(паправіў гальштук)*. Добра — не тое слова. Калі рай існуе, то ён з табою. Ідзі пацалую.

Клаўдзія *(паглядвае на Ігара)*. Няёмка!

Авяр'ян. Я ўзяў яму білет у кіно. На мульцік.

Клаўдзія. Не пойдзе.

Авяр'ян. Гэта як — не пойдзе? Я патраціў грошы... Надакучыла гэтая пазіцыйная вайна! Калі мы нарэшце застанёмся сам-насам? Дарэчы, што ён строчыць?

Клаўдзія. Што-небудзь праблемнае, па сацыялогіі сям'і...

Авяр'ян. Наўрад ці. Калі б сацыёлагі так агрэсіўна працавалі, у сем'ях не было б праблем. Хутчэй за ўсё, данос. Відаць па выскалу.

Клаўдзія *(летуценна)*. А раптам... раман? Пра нас траіх? Клаўдзія і яе два мужы?

Авяр'ян *(абвёў рукой вакол галавы)*. Што гэта ён з сябе турка строіць?

Ігар *(адхіліўся)*. Турка! Усю ноч храпе! Галава раскалваецца.

Клаўдзія. Як там мой стары муж? *(Накіроўваецца ў кабінет Ігара. Авяр'ян спяшаецца за ёю, падслухоўвае.)* Ігар Міхалыч, чаго жадаеце?

Ігар. Жадаеце?! А з ім — на ты?! Ты сапраўды

стала іншай. Такая прывабная! *(Бярэ яе руку ў сваю.)* Ну і дурань я быў!

Аўяр'ян урываецца ў кабінет.

Аўяр'ян. Ігар Міхалыч, я ўзяў вам білет у кіно. Незвычайны фільм!

Ігар *(устае, ходзіць)*. Бывай, Басурманаў! Скончыўся твой час!

Клаўдзія. Што з табою, Ігар?

Ігар. Заўтра на вучоным савеце — Барадзіно, Ватэрлоо! Басурманава думаюць рэкамендаваць на членкора, даць зялёную вуліцу. Будуць з міністэрства, з Масквы. А я вазьму слова і раскажу, хто такі Басурманаў! Усё пра Басурманава! Я яго нарадзіў — сваёй слабахарактарнасцю — я яго і заб'ю!

Клаўдзія. А сімпозіум?

Ігар. Гэта важней усіх сімпозіумаў!

Аўяр'ян. Заяц захмялеў! Ці ж вам цягацца з Басурманавым? Ведаю яго. Бліскучы аратар!

Ігар. Я часу не губляў! Ноччу вы храплі, а я вывучаў Макіявелі, сафістаў, Цыцэрона! Усіх дэмагогаў!

Аўяр'ян. Басурманаў знішчыць вас іроніяй. Вы разгубіцеся і пачнеце заікацца. На пацеху вучонаму савету!

Ігар. Я ніколі не заікаюся!

Аўяр'ян. Вас пазбавяць слова. «Рэгламент, таварышы!»

Ігар. І гэта прадбачу. *(Трасе пачкаю спісаной паперы.)* Прашу прыкласці да пратакола!

Клаўдзія *(зачаравана)*. Ігар! Ты маладзец!

Аўяр'ян *(кісла)*. Не падабаецца мне гэта. Вучоны, а займаецца чорт ведае чым! *(Паглядзеў на сябе ў люстэрка.)*

Ігар. З такімі, як вы, трэба змагацца! Дай вам волю... Разлічуся з Басурманавым, а потым вазьмуся і за вас.

Аўяр'ян. Гэта значыць?

Ігар. Разам пойдзем у вашу кантору, напішаце заяву, што не можаце чытаць лекцыі.

Аўяр'ян. Гэта яшчэ чаму?

Ігар. Маральная беспадстаўнасць.

Аўяр'ян *(усміхнуўся)*. Вы забыліся — я гаварыць магу! Паспрабуйце ўзяць такога! І палец баліць. *(Падуў.)* Не змагу падпісаць заяву.

Ігар. Пастаўце крыжык.

**А в я р' я н.** Толькі вы раскрыеце рот — Басурманаў кінецца на шыю. Са слязьмі ўдзячнасці, за крытыку. І ашчасліціць пацалункам.

**І г а р.** Не падумаў! А чаму вы даеце мне добрую раду?

**А в я р' я н.** Ну як жа... Адна сям'я!

**К л а ў д з і я** *(пляскае ў далоні).* Хлопчыкі, падзялілі абавязкі. Хто ў прачачную?

**І г а р.** Калі ласка, пасля машыністкі.

**А в я р' я н** *(перабівае).* У прачачную — я!

**К л а ў д з і я.** Хто мые посуд?

**А в я р' я н** *(спехам).* Чур, я!

**К л а ў д з і я.** І апошняе, хлопчыкі — падлогу працерці.

**А в я р' я н** *(уздымае рукі ўгору).* Я! Я! Я!

**К л а ў д з і я.** Па ачках наперад выходзіць Авяр'ян Антоныч! Як заахвочванне — увечары ўдваіх на канцэрт!

**І г а р** *(Авяр'яну).* Заўсёды выскакваеце! Слова не паспееш уставіць!

**А в я р' я н.** Я не вінаваты, што вы такая мямля, размазня. Сказаць каханай жанчыне: *(перадражнівае)* «Калі паспею, пасля машыністкі...» Хлюпік! Няхай пераможа лепшы! *(Глядзіць у люстэрка.)*

К л а ў д з і я, пляснуўшы далонню па стале і гнеўна зыркнуўшы вачыма ў бок Авяр'яна, хутка выходзіць з пакоя. А в я р' я н ідзе за ёй. Ігар раптам пачынае прыбіраць кватэру, напяваючы. Уваходзіць Б а с у р м а н а ў, няголены, зморапы, нецвярозы, шлёпанцы на босыя ногі, у піжамных штанах, зверху накінуты плашч, трымае пачатую бутэльку гарэлкі.

**Б а с у р м а н а ў.** Было адчынена.

**І г а р.** Уладзімір Сяргеевіч?!

**Б а с у р м а н а ў** *(ледзьве трымаючыся на нагах).* Так вось пра нашу спрэчку — я заўсёды ведаю, што трэба рабіць!

**І г а р.** Вы ў гэтым упэўнены?

**Б а с у р м а н а ў.** Ведаю, што ад мяне патрабуюць і чаго ад мяне чакаюць. І пра што я павінен здагадацца сам.

**І г а р.** Вам хто-небудзь пра гэта казаў?

**Б а с у р м а н а ў.** І не скажуць! Я быў бы дрэнным кіраўніком, калі б рабіў толькі тое, што гавораць. Я павінен яшчэ здагадвацца пра тое, што не гавораць!

**І г а р.** Уладзімір Сяргеевіч, калі шчыра — ведаеце, што пра вас думаюць супрацоўнікі?

Б а с у р м а н а ў. Мне не важна, што пра мяне думаюць. У мяне стойкія перакананні.

І г а р. І тоўстая скура. Адціскаць бліжнім ногі і не заўважаць гэтага. Добра, добра!

Б а с у р м а н а ў *(паглядзеў на свае шлёпанцы, знік)*. Не чакаў Басурманава ў такім выглядзе?

І г а р. Шчыра кажучы, не.

Б а с у р м а н а ў *(ставіць бутэльку на стол)*. І я, брат, не чакаў... Чэмпіён горада, важак моладзі... А ў выніку — змучаны, адзінокі... Вып'ем, стары. Другую бутэльку пачаў, а хмель не бярэ.

І г а р. Што здарылася?

Б а с у р м а н а ў. Нічога асаблівага. Ні тайфуна, ні землетрасення... *(Жэст вакол.)* Свет не абваліўся... Скажы, псіхолаг, чаго ёй не хапала?

І г а р. Вы пра каго?

Б а с у р м а н а ў. Сам гатаваў, мыў... Багатварыў! *(Бярэ чаркі, налівае.)*

І г а р. Валянціна пайшла?! *(Збянтэжыўся, потым смяецца гучна і доўга.)*

Б а с у р м а н а ў. Напэўна, гэта смешна — у дырэктара такога інстытута... Шавец без ботаў. Прабач, стары, што заваліўся. Калі на сэрцы скрабуцца кошкі... Ты не забыўся, што разам вучыліся, марылі?.. Блакітныя часы студэнцкага юнацтва... Потым я імкліва пайшоў угору... За што і пакараны. Клаўдзія вып'е з намі?

І г а р. Яна... пайшла пагуляць.

Б а с у р м а н а ў. Сабаку завялі? Якой пароды?

І г а р. Гіпапатам.

Б а с у р м а н а ў. Не чуў. Цудоўная ў цябе жонка. Шчаслівы ты!

І г а р *(спехам)*. Як гэта адбылося?

Б а с у р м а н а ў. Узяла сынка і паляцела, да бацькі. Вып'ем!

І г а р. Я гарэлку...

Б а с у р м а н а ў. А я алкаголік, так?

І г а р. Не, што вы! Але што прывяло да разрыву?

Б а с у р м а н а ў. Па Талстому — усе шчаслівыя сем'і падобны адна на другую, усе нешчаслівыя... Я зразумеў іншае. Калі ў мяне, дырэктара інстытута... Ты быў правы, стары, дрэннае ў нас становішча. Трэба радыкальна мяняць напрамак даследаванняў, методыку, узяцца за галоўнае, хворае... І прабіваць! Настойліва ўкараняць твае рэкамендацыі.

І г а р. Нарэшце! Колькі цудоўных ідэй пахавана — тэлефоны даверу, службы знаёмстваў, кабінеты маладых супругаў... Я даўно казаў, Уладзімір Сяргеевіч,— іншы падыход патрэбен, іншыя крытэрыі! І смела абараняць свае пазіцыі! А то праз некалькі год сярод маладых сямей...

Б а с у р м а н а ў. Потым, Ігар, потым... Сёння я... *(П'е.)*

І г а р. Заўтра вучоны савет. Вас будуць рэкамендаваць.

Б а с у р м а н а ў. Цяпер гэта не мае... Абыякава. Выклікалі на гутарку, да самога. Не пайшоў.

І г а р. Не пайшоў?

Б а с у р м а н а ў. Сёння я ўпершыню задумаўся — што ёсць ісціна?.. Хопіць рабіць кар'еру!

І г а р. А я збіраўся вас крытыкаваць...

Б а с у р м а н а ў. Вось і выступі! Востра, не азіраючыся...

І г а р. Не.

Б а с у р м а н а ў. Як сябра прашу!

І г а р. Нашто, Уладзімір Сяргеевіч?!

Б а с у р м а н а ў. Толькі глабальныя непрыемнасці могуць адцягнуць мяне ад смутных думак, вярнуць да жыцця.

І г а р. Не, не! Ва ўсякім выпадку, не зараз.

Б а с у р м а н а ў. Шкада! Настрой — хоць у пятлю... Прыйду ў пустую кватэру, халодную, няўтульную. Чатыры сцяны, як у труне... Дарэчы, ці няма ў цябе снатворнага?

І г а р. Уладзімір Сяргеевіч, размяшчайцеся ў нас! Тут ужо спыніўся... адзін таварыш... Створым клуб халасцякоў.

Б а с у р м а н а ў. Табе, шчасліваму, мяне не зразумець. Таблеткі.

Ігар дастае таблеткі.

Давай цэлы флакон — не засну.

І г а р. Не, не. Толькі дзве. Дома ёсць прадукты? Я загарну курыную ножку. Разагрэеце, павячэраеце...

Б а с у р м а н а ў. Бывай, стары. Калі ў чым перад табою... *(Паціснуў плячо Ігара.)* Ты сапраўдны. Даўно час рухаць тваю доктарскую. Цяпер у нас усё будзе інакш.

І г а р *(перадае скрутак)*. Не трэба роспачы. Яна вернецца.

Басурманаў. Але! Там у яе сябар дзяцінства.

Басурманаў выходзіць. Ігар падыходзіць да пісьмовага стала, праглядвае запісы, памалу рве, кідае ў кошык, адыходзіць у суседні пакой.

З'яўляюцца Клаўдзія і Авяр'ян.

Клаўдзія (*гнеўна*). Вы жорсткі! Вы яго абражаеце! У апошні час вашы жартачкі даволі злыя. Ігар не заслугоўвае гэтага! Або ўся справа ў дублёнцы?

Авяр'ян (*не адразу*). Гары яна, тая дублёнка...

Клаўдзія. Што з вамі?

З'яўляецца Анастасія, яе ніхто не бачыць.

Авяр'ян. У хвіліны гневу вы цудоўная!

Клаўдзія. Мэты сваёй мы дасягнулі. Ігар заклапаціўся...

Авяр'ян наблізіўся да Клаўдзіі, глядзіць у вочы, папраўляе валасы, пяшчотна праводзіць пальцамі па шыі. Анастасія вачыма шукае Ігара, але бачыць, што яго тут няма. Авяр'ян раптам моцным рыўком прыцягвае Клаўдзію да сябе, палка цалуе. Клаўдзія дае аплявуху.

Авяр'ян Антоныч! Апамятайцеся! (*Вырываецца, прыводзіць сябе ў парадак, імкнецца перавесці ў жарт.*) У сцэнарыі ёсць змены?

Авяр'ян. Толькі дрэнныя сцэнарыі не змяняюцца.

Клаўдзія. У нашыя планы гэта не ўваходзіла!

Авяр'ян. Так шмат хачу сказаць, але... баюся слоў. Хто толькі не гаварыў — «я вас кахаю»... Усё жыццё вымаўляў словы няшчырыя, чужыя... Не я прыдумаў гэтыя гульні — я толькі добра засвоіў правілы... Дзе знайсці чыстыя словы, спрадвечныя?

Клаўдзія. У гэтым ёсць неабходнасць?

Авяр'ян. Так, я цынік. Ведаю людзей, іранічна гляджу на жыццё. Але да вас у мяне іроніі няма. Да сустрэчы з вамі ўсяму ведаў цану. І раптам — усё зблыталася... Лектар не знаходзіць слоў... Дайце пагляджу на вас, моўчкі...

Паўза.

Клаўдзія. Дык вось чаму вы былі з ім такім жорсткім! Часам мне здавалася, вы гатовы яго забіць!

Авяр'ян. Калі б я да вас быў абыякавы, я ніколі не дазволіў бы ўцягнуць сябе ў гэтую гульню.

Клаўдзія. Вы ігрок! Вы і зараз іграеце.

Авяр'ян. Пачну гаварыць пра пачуцці — не па-

верыце. Тады зоймемся арыфметыкай: параўнанне год не паказвае вам замену ў парах? Навошта вам гэты хлопчык? Буду шчыры, вы не толькі падабаецеся мне — вы лепшая! Па ўсіх параметрах: хатняя, утульная, гаспадарлівая... Клаўдзія, спалім масты і пачнём новае жыццё! *(Імкнецца абняць, Клаўдзія ўхіляецца.)*

К л а ў д з і я. Сёння вяртаецца Анастасія.

А в я р' я н. Мяне гэта не радуе.

Анастасія стала так, каб яе не заўважылі.

К л а ў д з і я. Мілая, чароўная жонка!

А в я р' я н. Ёсць нябачныя свету слёзы.

К л а ў д з і я. Слёзы радасці?

А в я р' я н. Я ўжо не кажу пра духоўную розніцу — гэта бачна. Ці ведаеце вы, што значыць быць мужам сцюардэсы? Раніцай тут, увечары — у Іркуцку, заўтра — Львоў, Ашхабад, Алма-Ата. Я ніколі не ведаю, дзе мая жонка! Звоніш — «рэйс нумар трам-там-там затрымліваецца па метэўмовах...» Але хачу, каб хтось быў побач, чуць чыйсьці голас, адчуваць цяпло... Так, люблю смачна паесці. А яна не толькі не ўмее — не хоча гатаваць! Харчуюся канцэнтратамі! Схуднеў, высах!

К л а ў д з і я. Вы трохі перабольшваеце.

А в я р' я н. Толькі ў вас я еў — нібы ў раі! За апошнія тры гады, Клаўдзія, гэта самая светлая паласа ў маім жыцці!

К л а ў д з і я. Годзе вам!

А в я р' я н. Дзяцей не хоча.

К л а ў д з і я. Працуе, вучыцца.

А в я р' я н. А калі ў яе іншыя планы? Я без дзетак не магу! Свае даўно павырасталі.

К л а ў д з і я. Вы ўжо былі жанаты?

А в я р' я н. Так. Але першая жонка, Пенелопа, на шчасце, збегла. Убранні, прычоскі, боты — вось кола яе інтарэсаў! Ведаеце, колькі я на гэта трачу? Мой бюджэт не паспявае за модай! Я нават махлярыць стаў, каб болей зарабляць! Знаходжу ў пацыентаў хваробы, якіх няма.

К л а ў д з і я. У жывёл?

А в я р' я н. Не, я пра прыватных кліентаў. Прыходзіць са скаргай на боль у каленцы, а я знаходжу пазаматачную цяжарнасць.

К л а ў д з і я. Ніяк не можаце пакінуць фарс, у якім толькі што выконвалі ролю?

А в я р' я н. Я не скнара, паверце. Але не бачу душэўнай, сардэчнай аддачы! Клаўдзія, дзе вы былі раней? *(Рывок у яе бок, яна ледзьве паспявае ўхіліцца.)*

К л а ў д з і я. За сцяной.

А в я р' я н. Горка, але павінен прызнаць — наш саюз з ёю быў памылкай. Не такая мне патрэбна жонка. І вам патрэбен іншы... Чароўная Клаўдзія!

К л а ў д з і я. Вы мяне ідэалізуеце. Дрэнная жонка, дрэнная маці. Памятаеце, у Рэрыха-бацькі ёсць карціна «Вядучая». Па схіле гары ў белым убранні... Баючыся, ён усё ж такі ідзе за ёю. Місія жанчыны — весці. Мужчына заўсёды ішоў за ёю, калі яна ўмела весці. А для гэтага жанчына павінна мець жаночы талент. Ва ўсім. Умець настроіць мужа на актыўнасць, на барацьбу, на подзвіг, на каханне... Пры таленавітай жанчыне мужчына не памірае. Напэўна, я не такая. Банальна меркавала пра жыццё: муж захоплены справай — значыць, астыў... Не тургенеўская барышня, разумець павінна!

А в я р' я н. Што вы гаворыце!

К л а ў д з і я. І вас уцягнула ў гэтую недарэчную гульню... Ці сапраўднаму пачуццю патрэбны падобныя допінгі? Дзякуй вам, што вылечылі мяне.

А в я р' я н. І такая жанчына прайшла паблізу мяне... Калі б я сустрэў вас тады...

З'яўляецца І г а р. Яго бачыць толькі Анастасія. Прыклаўшы палец да вуснаў, яна просіць яго схавацца і не перашкаджаць.

К л а ў д з і я. Маска не здымаецца? Прырасла?

А в я р' я н. Клаўдзія, мне прапануюць такую работу... У вас будзе ўсё! Што патрэбна жанчыне сёння? Каб яе кахалі. Каб у яе не было ніякіх праблем.

К л а ў д з і я. Пра што вы?

А в я р' я н. Боты, каўбасу, бюстгальтар, тушонку, памаду, туалетную паперу... Я вам адкрыю доступ у любыя магазінчыкі! Лепшыя гастраномы горада расчыняць перад вамі, прабачце, заднія дзверы!

К л а ў д з і я. А вось гэта цікава!

А в я р' я н. Я разумею, смешна — закаханы гіпапатам! Але паверце, для яго вы заўсёды будзеце на другім месцы — пасля манаграфіі, сімпозіумаў... Прылажэнне да дысертацыі!

К л а ў д з і я *(памаўчаўшы)*. Прэтэндаваць у наша стагоддзе на большае...

А в я р' я н. Няпраўда! Дзяўчынка мая! Як дрэнна

ты ведаеш жыццё! *(Страсна абняў Клаўдзію.)* Ідзём да мяне. Неадкладна!

Клаўдзія. Калі ласка, не чапайце мяне...

Авяр'ян. Гэта важней для цябе! Калі ты адчуеш, колькі радасці можаш даць другому, колькі шчасця атрымаць сама, у цябе знікнуць праблемы!

Клаўдзія. Вы заседзеліся. Хадземце на вуліцу. *(Выбягае.)*

Авяр'ян *(нягучна)*. Хлапчук! Дайграўся! *(Выходзіць за Клаўдзіяй.)*

Ігар. Які жах! Калі прымусіў яе...

Анастасія *(збіралася пабегчы за імі, але ўспомніла пра Ігара)*. Ну?! Як вам гэта падабаецца? Значыць, я — мяшчанка? Мне патрэбны толькі анучы? Джаст ю вэйт, Генры Хігінс, джаст ю вэйт!

Ігар. Прабачце, вы хто?

Анастасія. Жонка Авяр'яна — Анастасія.

Ігар. Яго жонка — Пенелопа!

Анастасія. Пенелопа — першая жонка.

Ігар. Значыць, за гэтыя дні завёў яшчэ адну?! Або... *(Радасна пляснуў сабе па лбе.)* Дурань! Які ж ты, Ігар, дурань!..

Анастасія. Вы так спакойна на гэта глядзіце?!

Ігар *(пацiснуў плячыма)*. А што? У парадку рэчаў.

Анастасія. Гэта — у парадку рэчаў?

Ігар. Я тут такое бачыў!.. *(Пакачаўшы галавой.)* Гэта яшчэ самае нявіннае.

Анастасія. Як вы маглі дапусціць — на вашых вачах укралі жонку?!

Ігар. Чары аратарскага мастацтва.

Анастасія. Вы мужчына ці не?

Ігар. Розныя вагавыя катэгорыі. Ён — клас бегемотаў. А вы чаго хвалюецеся? Жонку ж маю ўкралі!

Анастасія. Божачкі! А хто ўкраў?! Мой муж!

Ігар. Савет ім ды каханне.

Анастасія. Не чакала, што ўсё так абернецца! Ну, Антоныч, пашкадуеш! Айл шоў ю! Як вы збіраецеся вярнуць жонку?

Ігар. Што значыць — «вярнуць»? Сцягнулі аўтамабіль? Вынеслі мэблю? Наш шлюб не быў застрахаваны.

Анастасія. Ён увёў вашу жонку!

Ігар. І правільна зрабіў. Ад добрых мужоў, Анастасія, жонак не ўводзяць. Я доўга думаў і прыйшоў

да вываду: шлюбнае жыццё — не для мяне. Займуся сур'ёзна навукай пра сям'ю. Пісьмовы стол — вось поле маёй дзейнасці.

Анастасія. Вы жартуеце?

Ігар *(пакруціў галавой)*. Спачатку баяўся, а потым вырашыў — калі ён так пяшчотна яе кахае, калі яна растае ў яго абдымках, няхай будуць шчаслівыя! А што я магу ёй даць, вучоны сухар? Усё жыццё займаўся шлюбнымі праблемамі, а побач, у сваёй сям'і, не ўбачыў... Ушчаміў інтарэсы дарагога чалавека. Гіпапатам — гэта я. Бяздумны, таўстаскуры... А гэты бульдозер — кароль увагі, пяшчоты, цяпла... Дзе мне з ім змагацца? І вам раю — адыдзіце з іх дарогі!

Анастасія. Ну, не! Мой муж мяне задавальняе. Вам хочацца вярнуць жонку?

Ігар. Не аддасць. Феадал!

Анастасія. Ваш абавязак — дапамагчы мне. Распранайцеся!

Ігар. Навошта?!

Анастасія. Не будзеце ж вы фарсіць перада мною ў гэтых анучах! Лепшы касцюм апраніце, модную кашулю, сціплы гальштук... У мяне ёсць план.

Ігар. Спадзяюся, вы не будзеце іх забіваць?

Анастасія. У вас ёсць палюбоўніца?

Ігар. На жаль...

Анастасія. І вы пішаце пра сям'ю? Ну-ну! Я буду вашай другою, незаконнай жонкай.

Ігар. Я... Прынясу вады, супакойцеся.

Анастасія. Гэта вы супакойцеся! Працвярэзіць яго можа толькі шок. Авяр'ян раўнівы, як важак дзікага статка. Калі ён убачыць мяне ў вашых абдымках, ён апомніцца.

Ігар. Ці паверыць? Я не герой рамана.

Анастасія *(уздыхнула)*. Ол райт... Дакажыце немагчымае! Захлісніце мяне сваім каханнем! Версія такая: я і вы даўно сустракаемся. Тайна. Няхай яны будуць сведкамі нашага кахання! *(Паглядзела ў акно.)*

Ігар. Але я — не ўмею.

Анастасія. Што — не ўмееце?

Ігар. Я ніколі не іграў на сцэне.

Анастасія. Прывет! А я, па-вашаму, толькі гэтым і займаюся? Аварыйная сітуацыя! СОС! Трэба сем'і выратоўваць! Апранайцеся, я прынясу кветкі, а вы ў спальні раскідайце пасцель на падлогу.

Ігар. Навошта?!

Анастасія. О!

Анастасія выходзіць. Ігар спяшаецца ў спальню, чуецца грукат мэблі. Вяртаецца, змяняе адзежу. Уваходзіць Анастасія з букетам кветак.

Ігар. Можа, я лепш пайду ў навуку?

Анастасія. Толькі паспрабуйце! *(Прыглядаецца.)* А вы — нічога!

Ігар. Дзякую!

Анастасія. Успомніце замежныя фільмы, байкі прыяцеляў... Гэта ваш апошні шанц! трынкніце для храбрасці!

Ігар бярэ бутэльку, напаўняе бакалы.

Ігар. За ваша шчасце!

Анастасія. Чыез. *(П'е.)* Здаецца, ідуць! Моцна мяне абдыміце... Ну? Уявіце, што лашчыце жонку.

Ігар. Якое святататцтва! Паспрабую...

Анастасія. Пачалі! Кадр першы, дубль першы...

Ігар абдымае Анастасію. Уваходзіць Пенелопа з цыгарэтай.

Пенелопа. Можаце працягваць. Толькі адно пытанне — мышы прыйшлі?

Ігар. Чаму вы не звоніце?!

Пенелопа. Ведаеце, чаму эпідэміі спусташалі Еўропу? «О высокашаноўны сеньёр дон Мігель дэ Сервантэс Сааведра Санта Марыя Ортэгі Гасета Францыска Кеведа! Ці не зробіце ласку, дасцё ўказанне апусціць мост, каб мы маглі ўвайсці ў замак і правесці дэзінфекцыю?..» *(Пільна вывучае Анастасію.)* Тыя ж тэрміты, скарпіёны, тарантулы ёсць?

Ігар. Вы былі зусім нядаўна!

Пенелопа. Але тады я бачыла вас з жонкай. За гэты час мышы з кватэры сцюардэсы, маючы важкія падставы...

Анастасія. Мышы? У мяне няма мышэй!

Пенелопа *(сядае да стала, дзелавіта раскладвае паперы)*. Вы якраз, мілая, мне і патрэбны. Мы атрымалі сігнал — лётаеце ў цёплыя месцы, разам з садавінаю завезлі маскітаў... У суседа наверсе — інфекцыя нявысветленай этыялогіі.

Анастасія. Лухта!

Пенелопа. Паколькі ёсць падазрэнне на жоўтую ліхаманку *(параўноўвае колер рукі Анастасіі і*

*сваёй далоні)*, вам неабходна прайсці абследаванне. Зараз выпішу накіраванне ў ізалятар.

А н а с т а с і я. У нас свае ўрачы!

П е н е л о п а. Прыйдзецца ізаляваць і вашага сябра. *(Паглядзела на Ігара.)* Не радуйцеся — будзеце ў розных камерах. Даўно замужам?

А н а с т а с і я. Тры гады.

П е н е л о п а. Дзіця не чакаеце?

А н а с т а с і я. Пакуль не.

П е н е л о п а. Добра! Дзеці жоўтую ліхаманку не пераносяць. Адносіны з мужам?

А н а с т а с і я. Нармальныя.

П е н е л о п а. Шкада. Назавіце іншых мужчын, да каго лёталі.

І г а р. Што вы сабе дазваляеце?!

П е н е л о п а. Не жадаеце добраахвотна. Выклічам з міліцыяй. Усю кампанію — вашага мужа, вашую жонку... Усіх «сяброў»... На работу паведамім, домакіраўніцтва праінфармуем. Вось так. Але магу ўладкаваць — застанецца паміж намі. Ні ваша жонка, ні ваш муж... Пяцьсот рублёў.

А н а с т а с і я. Мілы, жыццё даражэе... Дадзім тысячу?

І г а р *(Пенелопе)*. Ідзіце прэч!

П е н е л о п а *(збірае паперы)*. Жадаю добра правесці час. Чакайце павесткі. *(Пайшла.)*

І г а р. Не надавайце значэння — перастрахоўшчыкі!

А н а с т а с і я. Дзіўная асоба — так і пракручвае вачыма, так і пракручвае...

І г а р. Нашы!

А н а с т а с і я. Дубль другі...

Ігар абдымае Анастасію, пяшчотна лашчыць, мурлыча словы кахання. Уваходзяць К л а ў д з і я і А в я р ' я н, убачылі, аслупянелі.

І г а р *(млява)*. Не адыходзь так хутка!

А н а с т а с і я. Не магу, мілы! Нашыя старыя вось-вось вернуцца.

К л а ў д з і я *(Авяр'яну)*. Што-небудзь разумееце? Па-мойму, гэта не па сцэнарыю.

А в я р ' я н. Магчыма, у іх уласны сцэнарый...

І г а р. Я так больш не магу! Паўгода тоімся, хаваемся... Давай скажам праўду. Нарэшце, ты даўно мая жонка.

А н а с т а с і я. Патрывай, май дые. Як толькі здам экзамены на міжнародныя лініі. Буду лётаць у Бамбей, Сінгапур, а табе купляць джынсы і прывозіць часопісы з пікантнымі жанчынамі.

К л а ў д з і я *(Авяр'яну)*. А можа, гэта гульня?

А в я р' я н *(іранічна)*. Так! Гульня двух палюбоўнікаў!

К л а ў д з і я. Цішэй!

І г а р *(Анастасіі, нягучна)*. Рукі куды?

А н а с т а с і я *(ціха)*. На талію.

І г а р *(гучна)*. Ты шмат лётала. Ці бачыла жанчын лепшых за цябе?

А н а с т а с і я. На карцінках! Ты прывёў у парадак пасцель?

І г а р *(весела)*. Ім і ў галаву не прыйдзе! Так захапіліся адзін адным!

Анастасія і Ігар смяюцца.

А в я р' я н *(нягучна)*. Які хлюст, га?!

К л а ў д з і я. Вось яна, «доктарская»!.. Не, немагчыма!..

А в я р' я н. Цяпер зразумела, чаму яна кінула мяне ў абдымкі чужой жанчыны!

К л а ў д з і я. Чужой?! А цяпер?

А в я р' я н. Ах, пакіньце!

К л а ў д з і я. Вось як! Вы ж збіраліся...

А в я р' я н. Адна справа — калі ты пакідаеш, і зусім іншае — калі кідаюць цябе! Таму, што ты — многа старэйшы... Вось чаго я даўно чакаў, баяўся!..

А н а с т а с і я. Такі ўскудлачаны... Май бой... Дай прычашу.

І г а р. Згубіўшы галаву, любая, па валасах не плачуць!

А в я р' я н. А маладзец, нягоднік!..

К л а ў д з і я *(Авяр'яну)*. Яшчэ крышачку — і я б вам паверыла...

А н а с т а с і я. Гавары, гавары! *(Заплюшчвае вочы. У абдымках пакачваюцца.)* Вэры вэл...

І г а р. З табою так лёгка! Болдзінская восень! Яшчэ ніколі мне так не працавалася!

А н а с т а с і я. А Басурманаў?

І г а р. Валодзя? Ты ж ведаеш — мой лепшы сябар! Калі б не ён, ці маглі б мы сустракацца ў рабочы час на яго кватэры? *(Рассмяяўся.)* Дарэчы, заходзіў, табе прывітанне.

Анастасія. Сэнк ю фо насін!

Авяр'ян. І гэтаму донжуану я яшчэ збіраўся даваць урокі пяшчоты!..

Ігар. Я адкрыю другую бутэльку. Такая смага!

Анастасія. Як хочаш, мілы. Я п'яная без віна. Б'ютыфул.

Авяр'ян *(Клаўдзіі)*. Нічога сабе ваш цвярознік! *(Выходзіць з укрыцця.)* Давайце ўжо разам піць. Налівайце!

Анастасія *(прыкідваецца разгубленай, збянтэжанай)*. А, татачка! Паляцела, а ключы забылася. Такі дождж... Зайшла да суседзяў.

Авяр'ян *(паглядзеў у акно, Клаўдзіі)*. Ні воблачка!

Анастасія. А! Гэта ў Ташкенце жудасны лівень. Мячэць, мінарэты — па пояс у вадзе! *(У люстэрка разглядвае, ці не засталося следу на шыі.)* Рэйнін кэтс энд догс.

Авяр'ян. Лівень? У Ташкенце?

Ігар *(рашуча)*. Анастасія, самы час...

Анастасія. Прашу цябе — экзамены!..

Ігар *(падлашчваючыся)*. Сядайце, Авяр'ян Антоныч!

Клаўдзія. Што ж гэта ты вырадзіўся, мой мілы? Як водаправодчык!

Ігар. Выбягаў цыгарэтку стрэльнуць.

Клаўдзія накіроўваецца ў спальню, тут жа вяртаецца, вочы шырока раскрытыя.

Клаўдзія. Што з пасцеллю? Ці было землетрасенне?

Ігар апусціў вочы.

Авяр'ян *(разглядае этыкетку на бутэльцы)*. Лакаеце?

Ігар *(не ўздымаючы вачэй)*. Ваша жонка змерзла, прыйшлося саграваць. Ах, гэты дождж!

Авяр'ян *(выходзячы з сябе)*. Спыніце балбатаць пра дождж! У Ташкенце — засуха! Спёка!

Анастасія. Праўда? Як хутка змяняецца надвор'е! Праўда, Ігарок?

Авяр'ян. Ігарок?! Адкуль гэтая фамільярнасць?

Зазірнуў у спальню.

Анастасія. Суседзі. Лав энд фрэндшып.

Авяр'ян *(гнеўна)*. Гэта — сяброўства?!

К л а ў д з і я. Спакойна, Авяр'ян Антоныч! Давайце стрымана ўзважым і вырашым, хто застанецца ў гэтай кватэры, хто адыходзіць у суседнюю.

А н а с т а с і я. А калі прабіць дзверы? Будзем шастаць у госці!

К л а ў д з і я. Шастаць?! Авяр'ян Антоныч, я лічу, мы з вамі старэйшыя і маем права выбару і таму застанёмся тут.

І г а р. Чур. Мы з Насценькай адыходзім у суседнюю!

А в я р' я н. Усё так заблыталася!.. Без паўлітры або без Сакрата... *(Глядзіць то на адну жанчыну, то на другую, налівае, п'е.)* А! Няхай вырашыць жэрабя!.. *(Лічыць.)* На залатым ганку сядзелі: цар, царэвіч... шклянка, лімон — адыдзі прэч! *(Тыцнуў пальцам у Ігара.)* Адыдзіцеся! З жанчынамі я сам.

І г а р *(цвёрда і рашуча)*. Не, Авяр'ян Антоныч! Адыдзіце вы!

А в я р' я н. Бачыш ты, нахабнік! Паспрабуйце! *(Не спяшаючыся адыходзіць.)*

І г а р *(шырока ўсміхаючыся, абдымае Клаўдзію)*. Гульні скончаны?!

К л а ў д з і я *(прытуліўшыся да яго)*. Прабач мяне!

І г а р. Ты прабач!

А н а с т а с і я. Чао! *(Весела памахаўшы ім рукою, выходзіць.)*

К л а ў д з і я. Так! Ведаеш, каго мы бачылі ў рэстаране? Ніколі не здагадаешся — Басурманава!

І г а р. Нябога — у шлёпанцах, у піжаме... *(Цалуе.)* Ты цудоўная!

К л а ў д з і я. У шлёпанцах? Не! З жонкай у кампаніі. Так ліха пілі каньяк!..

І г а р. Бягу за кветкамі... З чыёй жонкай?

К л а ў д з і я. Са сваёй, вядома.

І г а р. Мілая, ты памылілася.

К л а ў д з і я. Што я — Валю не ведаю?

І г а р. Яна пайшла! Ён толькі што...

К л а ў д з і я. Ад каго пайшла? Ты пераблытаў!

І г а р *(кідаецца да тэлефона, спехам набірае нумар)*. Валянціну Пятроўну... Мама і тата пайшлі ў рэстаран?.. *(Кладзе трубку.)*

К л а ў д з і я. Басурманаў нешта расказваў жонцы і кампаніі, апусціўшы галаву ў смутку і расшпіліўшы пінжак, а тыя пакатваліся са смеху. Болей за ўсіх рагатаў прафесар Філонаў, ты нас калісьці знаёміў.

І г а р. Разышоўся з жонкай?!

К л а ў д з і я. А калі ён узняў над галавой ножку кураняці...

І г а р *(узяўся за галаву, дзіўна танцуе)*. Ай-ай-ай!!!

Вяртаецца А н а с т а с і я.

К л а ў д з і я. Што з табой?

І г а р. Як ён яшчэ не пахаваў? Такі ўсё можа!

К л а ў д з і я. Ігар, растлумач.

І г а р. Ён ведаў, што заўтра я рыхтуюся выступіць. Адзіны, хто мог яму здарава насаліць!... І вырашыў мяне нейтралізаваць. Дурня!

К л а ў д з і я. Якім чынам?

І г а р. Ну, Басурманаў! *(Кідаецца да кошыка, дастае лісты, праглядвае.)* Я табе пакажу!..

Уваходзіць Пенелопа — у вячэрняй сукенцы, жаноцкая, абаяльная. Безумоўна, без цыгарэты.

Зноў?! Ні мышэй, ні каракаціц, ні васьміногаў у нас няма!

Уваходзіць А в я р' я н.

П е н е л о п а. Мышы? Пры чым тут мышы? Мяне цікавіць мой муж.

А в я р' я н. Пенелопа? Незразумела!

П е н е л о п а *(пакрыўджана-ласкава)*. Авяр'ян, я табе прабачаю.

А в я р' я н. Мне?! А ці я збег з палюбоўнікам?

П е н е л о п а. Але ты нічога не зрабіў, каб мяне ўтрымаць. Я нават думаю — ты знарок падстроіў, каб я ўцякла!

А в я р' я н. Апамятайся, Пенелопа! Тры гады назад вяртаюся, галодны, з лекцыі, палез у каструлю за катлетамі, а там запіска: «Прабач, пакахала іншага».

П е н е л о п а. Гэта было выпрабаванне твайго кахання. Берасцянка, падарожжы скончаны. Верная Пенелопа вяртаецца да Адысея.

А в я р' я н. Верная Пенелопа?! Колькі памятаю, ты заўсёды любіла жыццё. Тры гады з нейкім тыпам!

П е н е л о п а. Не гавары так! Гэта народны артыст! Таленавіты рэжысёр!

А в я р' я н. Запіска, пакінутая ў кастрюльцы, будзе прад'яўлена суду...

П е н е л о п а. Ты яе захаваў? Ты верыў, што мы зноў будзем разам? Добры мой!..

Авяр'ян. У запісцы недвухсэнсоўна сказана, што паміж намі ўсё скончана, што ты ад'язджаеш назаўсёды...

Пенелопа. А ці я так пісала? Не памятаю. Ён закруціў мне галаву. Я з цябе, кажа, ББ зраблю!

Авяр'ян. Каго?!

Пенелопа. ББ, ну, Брыджыт Бардо. Зорку. Паспрабаваў мяне, паспрабаваў — не, кажа, не фотагенічны ў цябе падбародак. *(Хныча.)* Я яго не кахала, але так хацелася здымацца на вялікім экране!..

Авяр'ян. На малым цесна стала... Для чаго гэта артыстцы філармоніі?

Пенелопа. Вось! Ты ніколі мяне не разумеў! У душы кожнай жанчыны жыве Ярмолава, Камісаржэўская...

Авяр'ян. Вяртайся да народнага...

Пенелопа. Ён мяне кінуў. Стаў здымаць студэнтку з тэатральнага. Калі на студыі я разнесла павільён, ён збег на Памір, у экспедыцыю. Знайшла яго на заснежанай вяршыні! Не паспела сагрэць, шугануў у шахту — здымаць шахцёраў. Але актрысы — народ, які лёгка параніць... Я за ім, у забоі знайшла. Адпусці, просіцца, бачыш, задавіла яго талент сваім каханнем... Аднойчы, калі я пайшла ў парыльню, ён хуценька ўладкаваўся на сейнер простым матросам — народны артыст! — і паплыў на паўгода! Чаго ён палюбіў мора? Яго ж укачвае... Кінулася за ім на матрацы, што надзімаюць, але вартавыя катэры вярнулі. *(Разраўлася, дастала хустку.)*

Авяр'ян. Пенелопа, усё скончана. Не я знішчыў наш шлюб.

Пенелопа. Ты мяне ўспамінаў?

Авяр'ян. Навошта?

Пенелопа *(плаксіва).* Што ж — знікаць?

Авяр'ян. Безумоўна.

Ігар *(Пенелопе).* Прабачце, што ўмешваюся — не магу бачыць жаночыя слёзы. Калі вас не было, Авяр'ян Антоныч кідаўся, як паранены тур, пакутаваў, забіваўся...

Пенелопа. Гэта праўда?

Ігар. З пятлі яго дастаў! Жонка пацвердзіць.

Пенелопа. Родны мой, добры!

Ігар. Калі я разразаў вяроўку, ён шаптаў: «О, Пенелопа!..»

Авяр'ян стаіць з выразам скрухі на твары.

П е н е л о п а. Тады я застаюся! Дарагі, здаецца, у нас будзе дзіця.

А в я р' я н. У каго гэта — у нас?!

П е н е л о п а. У маім пашпарце захаваўся штамп. Па дакументах — дзіця тваё!

А в я р' я н. Гэта ўжо і сапраўды зачатак нявінны. За тысячу кіламетраў?!

П е н е л о п а. Авяр'ян, дзіцяці патрэбен бацька. Мая маці казала: «Лепш саламяны муж, чым залатыя дзеці».

А в я р' я н. Прэтэнзіі — да рэжысёра!

А н а с т а с і я. Але, Авяр'ян! Ты так марыў пра бэйбі!

А в я р' я н. Гэта не мой! Гэта «народны» бэйбі! Пенелопа, я кахаю іншую. *(Паглядзеў на Клаўдзію, перавёў позірк на Анастасію, зноў на Клаўдзію.)*

П е н е л о п а. Гэта якую ж?

А н а с т а с і я. Я — жонка Авяр'яна.

К л а ў д з і я *(паглядзела на ўзрадаванага Ігара)*. Прабачце! З нейкага часу, Авяр'ян Антоныч, у вас з'явіліся перада мной абавязкі. Ці я ўжо не ваша?

П е н е л о п а. Вось што, дзяўчаткі. Вы тут разбірайцеся, каго ён ахмурыў болей, але Авяр'яна ўвяду я. Стары друг лепш за новых двух!

К л а ў д з і я. Гэта грабеж!

А н а с т а с і я. Авяр'ян! Чаму ты не абараняешся?

П е н е л о п а *(разводзячы плечы, наблізілася да кволай Анастасіі)*. Выйдзем? Пагаворым? Я цябе так пакарабаю — ні адзін экіпаж не прыме!

А в я р' я н. Пенелопа! Дыпламант конкурсу чытальнікаў!

П е н е л о п а *(напеўна)*. Авяр'ян, я хачу гатаваць табе любімыя стравы — кумпяк маладога парсюка, нашпігаваны долькамі часнаку і кавалкамі морквы, абсмажаны да румянай корачкі... Памятаеш «гнёзды ластаўкі», з яек, прыгатаваных у духовай шафе? Хто з іх *(нядбайны жэст у бок жанчын)* рыхтаваў табе адбіўныя з цяляці, тушаныя па-балканску? Або бараніну, прыгатаваную, як дзічыну? Ці ведаюць яны, як выглядае вугар у таматах або кролік у белым соусе?

А в я р' я н. Пенелопа, не хлебам адзіным.

П е н е л о п а *(нягучна)*. Навошта табе — маладая, неразумная? Ты не ведаеш сённяшняй моладзі? Рана ці позна яна ад цябе пойдзе. Я ж — ніколі!

А в я р' я н. Я ў гэтым ужо пераканаўся.

П е н е л о п а. Аўяр'ян, іншая пабегла б у райком, у гарком. «Як ён можа чытаць лекцыі пра мараль, калі зарэгістраваны з адной, жыве з іншай...» І шмат такога магла б паведаміць!.. Думаю, бюро райкома дало б прынцыповую ацэнку тваім учынкам і твайму вобліку, успомніла б пра грамадзянскую адказнасць за сям'ю! Пасля гэтага цябе не толькі лекцыі... Дворнікам не ўзялі б!

А в я р' я н *(Ігару, ажыўлена).* Які тэмперамент! Га?! Пенелопа, не палохай мяне інстанцыямі. Але што за радасць жыць з такім мужам?

П е н е л о п а. Камсамол, прафсаюзы так мяне выхавалі, што я магу любога ўзяць на парукі! Што можа быць больш ганаровым, чым выправіць мацёрага, закаранелага... Ды і навошта, каб нехта пакутаваў? Я адна панясу свой крыж! Грудзямі абараню жаночую палову грамадства ад падлюгі і нягодніка!

А в я р' я н *(Ігару, захоплена).* Якая жанчына! Колькі страсці!.. Пайшла яна, а я вінаваты!

П е н е л о п а *(не адразу, шчыра і смутна).* Чаму я пайшла? Чаму ён так лёгка мяне схіліў? Таму, што жыццё ў нашай сям'і стала невыносным! На лекцыях ты прыгожа спяваў пра ўзаемаразуменне, пра гармонію, пра каханне... Дзяўчаткі са слязьмі на вачах успрымалі кожнае тваё слова!.. А дома — таўстаскуры, абыякавы... Колькі слёз я выплакала ў падушку! Але мой адыход шмат чаму цябе навучыў! Вярнулася і даведалася, што да новай жонкі ты ўжо ўважлівы і пяшчотны... Што ж, калі ты стаў іншым. Я гатова паспрабаваць яшчэ раз.

А в я р' я н. Таварышы, дэмагогія! Усё не так! Гэта я плакаў у падушку! Калі пасля канцэртаў вярталася раніцою...

П е н е л о п а. Я не думаю, каб іншым была цікавай інфармацыя пра нерытмічную работу нашага транспарту... Мы, бабы, дурныя. Пры такім дэфіцыце пяшчоты, цяпла нас лёгка пераманіць. Але з народным я пазнала сапраўдную цану і паказной увагі, і галантнага абыходжання... Тая ж халодная абыякавасць. Пойдзем, мілы.

А в я р' я н *(падкідвае манету, злавіў, раскрыў далонь, паглядзеў).* Дык кажаш, будзе дзіця?

П е н е л о п а. Здаецца, я памылілася.

А в я р' я н. Няважна! Клопат пра дзяцей, таварышы, пра іх будучае — у першую чаргу. Тут ужо не да

асабістых інтарэсаў. Прыходзіцца ахвяраваць, Клаўдзія, дзякуй за ўсё, што вы для мяне зрабілі. Але вы пакінулі Ігара, цудоўнага чалавека, таленавітага вучонага! А раз жанчына здрадзіла аднойчы, дзе гарантыя, што яна не паўторыць гэта ў будучым? Да выбару сябра жыцця ох як сур'ёзна трэба ставіцца! Гэта ж датычыцца і вас, Анастасія!

Анастасія. Авяр'ян! І гэта ўсё?!

Авяр'ян. На сёння — так. Парадак дня вычарпаны. Пенелопа — мая адплата...

Пенелопа *(моцна трымае Авяр'яна пад руку).* Вяртанне блуднага сына. Калісьці Адысей прыплыў і знішчыў маладых. Сёння Пенелопа пазбаўляецца ад маладых...

Авяр'ян. Дзіця прыдумала... Навошта?

Пенелопа. Але табе прыемна, што яно наша. Ці не так?

Авяр'ян *(буркліва).* І татарскі палон... Адна надзея — сейнер паплыў не назаўсёды!

Пенелопа. Не, не! Я ніколі да яго не вярнуся! Калі толькі на каленях будзе маліць!

Анастасія. Авяр'ян! Яна цябе не кахае!

Пенелопа. Кахае — не кахае... Нам не дваццаць!

Авяр'ян. Адпусціце мяне, добрыя людзі. Кахаць я больш не здольны. Усё перамяшалася. Душа пустая. Патраціў па дробязях...

Анастасія. Мілы, гэта пройдзе. Ты проста зайграўся, змарыўся. Але чаму ты ўвесь час думаеш пра гэтую праклятую розніцу ва ўзросце? Я ж яе не адчуваю! Каб не згубіць маё каханне, ты, як Шэхеразада, выдумляў усё новыя і новыя казкі... А тут яшчэ я ўцягнула цябе... Хопіць! Так можна ўсё згубіць!

Пенелопа. Мілачка, будзеш матляцца, адпраўлю гэты допіс твайму кіраўніцтву. *(Перадае паперу.)* Я сабрала на цябе такі матэрыял — кофтачкі, садавіну...

Анастасія *(павярхоўна азнаёміўшыся.)* Можаце яе дапоўніць, што я кахаю свайго мужа. Іграючы, ён захапляецца, ёсць у яго слабасці...

Пенелопа. Слабасці?! Дачка, аддай яго мне, дабром прашу! Мы з ім аднаго поля ягады. Ты ў ім не разабралася. Не ігрок — шулер!

Анастасія. Я кахаю Авяр'яна. Са мною ён не будзе дрэнным. І я буду за яго змагацца.

Пенелопа. Змагацца? Ха-ха! *(Развяла плечы, замахнулася на Анастасію. Тая лёгкім прыёмам «абясшкодзіла» Пенелопу, скруціўшы ёй рукі за спіною.)* Ой! Зламаеш! Людзі! Авяр'ян! Дапамажыце!

Авяр'ян *(непарушна, скрыжаваўшы рукі на грудзях).* Няхай пераможа мацнейшы.

Анастасія. Калі іншыя довады не дзейнічаюць... Так мы абыходзімся з тэрарыстамі.

Пенелопа. Больна. Адпусці!

Анастасія. Каб у гэтым доме я вас не бачыла!

Пенелопа. Капітулірую.

Анастасія *(адпускае Пенелопу).* Авяр'ян, пойдзем дахаты.

Авяр'ян. І зноў адзінока чакаць цябе з рэйсаў, сумаваць?

Анастасія *(мякка ўсміхаючыся).* Не. Я вырашыла... завесці дзіця.

Авяр'ян. Праўда?! *(Цалуе абедзве рукі Анастасіі.)*

Анастасія. Ты не знаходзіш, што нам трэба зарэгістравацца?

Авяр'ян. Ты згодна?! Прабач за ўсё.

Клаўдзія *(падыходзіць да шафы).* Авяр'ян Антоныч, дублёнку купляеце?

Авяр'ян *(з дакорам).* Спекулянты!

Анастасія *(Клаўдзіі і Ігару).* Мы ўсе трошкі таўстаскурыя, няўважлівыя адзін да аднаго. У доўгім рэйсе, які называецца жыццём, кожны пасажыр павінен знаходзіцца ў стане душэўнага камфорту і ў бяспецы... У стагоддзе стрэсаў хочацца быць упэўненым у тым, хто побач... Чао!

Анастасія і Авяр'ян адыходзяць.

Пенелопа *(размінае плячо.)* Чао!.. Нахабніца, ледзі каратэ! З-за мужыка гатовая... Покуль закажу білет на самалёт,— не, лепш на цягнік,— можна, пабуду ў вас?

Клаўдзія. Калі ласка.

Пенелопа адыходзіць да тэлефона, звоніць.

Ігар *(закахана глядзіць на Клаўдзію).* Доктарскую трэба перапісваць — я зусім не ведаю жыцця!

Клаўдзія. З чаго пачнём?

Ігар. З самага пачатку — з прызнання ў каханні!.. Там, дзе пачуцці не праяўляем, з'яўляюцца

лектары з хлява... Цяпер — усё па-іншаму! *(Абдымае яе.)* Засумаваў — дзіка!

Клаўдзія. Пажывём — убачым!

Уваходзіць Басурманаў з пацёртым чамаданам.

Басурманаў. Неймаверна! Яна сапраўды пайшла — да прафесара Філонава. Напярэдадні прысваення мне звання членкора! Кажа, падманшчык, кар'ерыст... Інфармацыя для роздуму. Вось чаму ў рэстаране ён так рагатаў. Самазабойца: пакрыўдзіць Басурманава — гэта перакрэсліць сваё будучае. *(Зазірае ў куты.)* Гіпапатамчык мяне не ўкусіць?

Ігар. Не ўкусіць — утаймавалі.

Пенелопа *(цёпла глядзіць на Басурманава)*. Пайшла? Ад такога перспектыўнага чалавека? Пра што толькі бабы думаюць! Любіце смачна паесці?

Басурманаў. Безумоўна. Чаму вы пытаецеся?

Пенелопа. Хоць я і не звязана з самалётамі, але лічу — у кожнага рэйса павінен быць запасны аэрадром...

Ігар *(глядзіць на чамадан)*. А гэта што?

Басурманаў. Пайсці пайшла, але засталася з ім у маёй кватэры. Чорт ведае што творыцца! Пазваніў аднаму, другому... Не ісці ж на вакзал! Дазволь, я пакуль пажыву ў цябе?

Ігар *(гарэзліва)*. Жывіце! Нам не прывыкаць *(абняў жонку за плечы)*. Толькі ведайце: гэта — нічога не зменіць! Маё выступленне — «нешта аб гіпапатамах!».

*Заслона.*






АНАТОЛИЙ АНДРЕЕВИЧ ДЕЛЕНДИК

**ПЬЕСЫ**

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *С. Р. Прыгодзіч.* Мастак *В. А. Губараў.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Я. Ф. Харко.*

**ІБ № 2088**

**Здадзена ў набор 28.01.84. Падп. да друку 19.11.84. АТ 00747. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,06. Ум. фарб.-адб. 18,27. Ул.-выд. арк. 18,17. Тыраж 1700 экз. Зак. 127. Цана 1 р. 60 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.**